# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕВЯТЫ



## ЖНІВЕНЬ
## 1930




БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

# КРОКІ Ў ВЯКОХ

*(Поэма бяз гэрояў)*

**Міхась Багун**

## І. НАШ МАРШ

Слухай,
вялікая
армія,
песьню
сонечнай лявы:
на ветразях
буры
і славы
я, першы
поэта-ударнік
на моры
змаганьня
плаваю.
Слухай,
радасьці гул
горды
раджае
грукат —
крок
за крокам
нагу
цьвёрда
друкуй
па бруку!
Крок
за крокам
ідзі

шлях
непаўторны
высеч,
помні —
мы не адны,
ведай —
з намі
тысячы!
Гоман буры
ня сьціх,
морам
равуць прасторы...
Эры
такой
не знайсьці
ў чорнай
кнізе
гісторыі!
Крок
за крокам
друкуй
шлях
у вякі
пралажым!
Дай,
таварыш,
руку —
будзем не пераможнымі!..

* * *

Я выкінуў
з сэрца
трывогі
труп,
на крыты,
як коўдрай,
лірычнай карою,
і зараз
ня песьню,
а лёзунг
вастру,
як самую моцную
і верную
зброю.

...Маршам
прайду
па гісторыі трактах,
водбліскам тысяч
ў вякох
запалаю,
даб'юся,
каб кожны
варштат і трактар
мяне ўслаўляў
і са мною
лаяўся.
Мне
з песьні вырваць
далікатныя крозы,
дрэва традыцый
пад корань
зрубіць,
крычэць,
каб кожны
вытворчы лёзунг
па тысячах сэрцаў
молатам
біў!..
Каб сэрца клала,
як здатнасьці штэмпэль,
на кожны верш мой
знак барацьбы,
я ў прагнай палкасьці
творчых тэмпаў
поэтам
мільёнаў
хачу
быць.

## 2. І БУДУ

Дні праімчаліся
і дні
зьніклі,
але дні
пакінулі
свае сьляды:
пад самым сонцам,
як выклік,

дзе людзі
сіняе
бачыць прывыклі
— дым...
Дым і дым —
словы старыя.
Дым і дым,
а пад дымам
— пыл,
а пад пылам
людзі
ўпарта рыюць
векапомнай прошласьці
сотні магіл...
Людзі ўпарта
рукі мазоляць,
выводзяць сьцены,
кладуць столі.
...Жыцьцё
віхраслупіць
аэроплянамі,
жыцьцё
абганяе
вялікія пляны,
жыцьцё
нам рыхтуе
сурова
і шчыра:
— „Ня пяць
за пяць,
а пяць
за чатыры!“

* * *

Узмах за ўзмахам...
Дружней ударым!
Напружым сілы,
каб пот
пацёк!
— Сьмялей, таварыш!
— Дружней, таварыш
— Збудуем самі
сваё жыцьцё!

### 3. СЬЛІЎНІ ВАРУШАЦЦА

У гэты
нястрымны
і радасны
вір,
у агонь
непарушнай веры
я —
кожную кроплю
сваёй
крыві
і кожны
атом
матэрыі!..
— Хто
наш
ня з намі?
— І хто прыстаў?
— Хто ўздыхае
аб даўнім? —
Глядзеце:
у белых
руках
хрыста
чорнаю сьмерцю
— браўнінг.
Рукі хрыстовыя
пахнуць крывёй,
вусны —
газаў
атрутным кашалем.
Нехта
знаёмы
хрыста прывёў
і прагне
паставіць
над краем
нашым.
Нехта
да болю
знаёмы
мне,
крывёй
па самае

горла
напоены,
спрадвечны
злавесна
стаіўшы гнеў,
чорныя
склікае
войны...
...Ён цяжка ўстае
і пад бруднай нагой
тысячы сэрцаў
навек
застылі
і душаць,
ду-ушаць
заветны агонь
маўклівыя сьцены
сучасных Бастылій...
Там
ноч выплывае
ў апошнія
рэйсы,
насьмерць прабітая
чырваньню год
і ў змрок
прыпаўзаюць
за крэйсарам
крэйсар,
сьмяротныя глоткі
навёўшы
на ўсход...
А нехта
да болю
знаёмы мне,
крывёю роднай
па горла
напоены,
спрадвечны
злавесна
стаіўшы гнеў,
склікае
самыя
чорныя
войны...

### 4. АРМІЯ ПРАЦЫ, ЖЫЦЬ—І ЗМАГАЦЦА!

З гневам
ускінь
шматпудовы молат!
З радасьцю
звонкі
цьвек убі! —
Кожная
новая
савецкая школа
будзе
з тылу
па ворагу
біць!..
Кожны
чорны
кавалак вугалю
ў домны
ротам
разяўленыя дзьверы,
— гэта
новыя
моцныя
цуглі
на морду
крывавых
Эўроп
і Амэрык!
Кіпеньнем мэталяў
і энэргій
выпалім
і краты турмаў
і краты
лучыны
і дзецям
нашым
Перакопы
і Трыпалі
суровымі казкамі
ўстануць
за плячыма.

* * *

Узмах за ўзмахам...
Сьмялей ударым!
Напружым сілы,
каб пот
пацёк!
Мацней, таварыш!
Дружней, таварыш!
Збудуем
самі
сваё
жыцьцё!..

## 5. КРОКІ ЖЫЦЬЦЯ

І ветры сьпяваюць
песьні
нам
і сонца ліе
жыватворны водар.
Устаюць,
як жывыя,
за сьцяной
сьцяна
— сьцены заводаў.
— „Пяць
гэта
ня пяць,
а пяць
— гэта чатыры!“
— Магутны голас
магутнай арміі.
І вось —
над краінай
шматтысячны
вырас,
як сымбаль
будучынь,
строгі ўдарнік.
На жоўтых
пясках,
на балотах
чорных,

дзе вякі
запівалі
пакуту
квасам, —
грудзьмі
мэталёвых коняй
завораныя,
рунеюць нівы
нашых
колгасаў.
І ў звоне
мэталяў
і ў морах
зялёных
грыміць
і мацнее
і коцінца
ш-шырай
партыйны кліч
беспартыйных мільёнаў:
— „Поўных пяць
дамо
за чатыры!“

Полацк—Менск,
Ліпень, 1930 г.

# ЛЯГЕР У СТРАЛКОВЕ

*(У белапольскім палоне)*

**С. Бройдэ**

Душны летні дзень. Блакітнае неба і далёка, далёка лёгкія хмаркі. Гразь перасохла і ўзялася ў цьвёрдыя, засохлыя камы.

Нас пераводзяць з штрафнога бараку ў агульны. Мы ідзем засохлай гразёю. Камы рассыпаюцца пад нагамі, і ногі ўвесь час уходзяць у правалы ямінак.

Нас вядуць міма шэрагу баракаў, мэтодычна расстаўленых немцамі па аднэй лініі.

На сьценах дзе-ні-дзе готычным нямецкім шрыфтом выведзены надпісы. У кожнай літары нямецкая акуратнасьць. Каля дзьвярэй аднаго бараку мы заўважваем жанчын з дзецьмі. Бледныя, ня гледзячы на сьпякотнае лета, твары і ня дзіцячая панурасьць—у дзяцей.

— Якая брыда,— абураюся я,— дзяцей ня мілуюць.

Пятроўскі перапыняе мяне: „Не мялі, не паможа,“—а сам не глядзіць у той бок.

Каля аднаго з шматлікіх баракаў мы спыняемся.

Дзьверы „гасьцінна“ адчыняюцца і мы ўваходзім.

Цёмны хлеў шчыльна набіты людзьмі. Пах чалавечага выпарэньня і бруднай бялізны.

Мы целяпаемся міма груды расплытаных цел, стараючыся знайсьці месьцейка, дзе-б можна было ўладзіцца, і натыкаемся на Шаліму, Грознава і Сарокіна.

Радасьці нашай, канешне, няма мяжы — таварышы засталіся, чорт вазьмі. Доўга глядзім на сяброў, потым пытаньне мімаволі прарываецца:

— Як-жа гэта так, гэта-ж ужо 25 дзён прайшло з таго моманту як мы ўсе пакінулі Каліш. Мы-ж думалі, што вы ўжо дома.

— Гэта праўда,— нявесела растлумачыў Шаліма,— але з гэтых 25 дзён мы 14 прасядзелі, як і вы, у карцары Стралкоўскага лягеру і толькі перад самым вашым прыходам сюды палякі нас „з кутузкі“ выпусьцілі.

— Вось як,—сказаў Пятроўскі,— сядзелі адначасова ў адным памяшканьні і адзін аб адным ня ведалі. Ды і білі вас штодня, напэўна,

таксама, як і нас, альбо вам лепшая доля дасталася? Крыку вашага пры катаваньнях ня было чуваць, а то-б вас па голасу пазналі.

Грознаў, Шаліма і Сарокін былі захоплены ў дарозе на другі-ж дзень пасьля таго, як мы ўсе ўцяклі з Калішу. Яны выпадкова трапілі ў дарозе на польскую заставу—іх узялі, што называецца, голымі рукамі. Вядома, яны ня пробавалі супраціўіцца—гэта было-б вар'яцтвам.

Палякі адразу ўстанавілі, што маюць справу са зьбеглымі палоннымі. Доўга біліся над пытаньнем, куды адправіць захопленых: ізноў у Каліш, ці ў які-небудзь з бліжэйшых, што па дарозе, лягераў. Да Калішу ім, агіднікам, бліжэй было. Ды і самі яны былі з гэтых месц. Нечакана чамусьці вырашылі адправіць нас у Стралкова.

— Шкода, што так усё няскладна вышла,—сказаў Пятроўскі:—але ліхая бяда пачала. Добра, што ўсё-ж пасьля пакут, што ў дарозе зазналі, мы зноў разам. Прыгледзімся да людзей і рэчаў у лягеры і зноў пакажам пяткі. Трэба будзе толькі пра кірунак да мяжы даведацца.

— А пакуль, хлопцы, раскажэце падрабязьней, як дні ідуць у бараках. Вы-ж „старыкі"—раней за нас на некалькі дзён з карцару пераляліся,—сказаў Пятроўскі.

— Тут значна горш жывецца, чым у Калішу,—„пачаў" Шаліма.— Хлеба даюць паўфунта на дзень. Ды гэта-б нічога, калі-б як трэба быў выпечаны. Ды ён-жа, як гліна, хоць сабачак з яго ляпі. Добра, што ў нас здароўе моцнае. Акрамя таго, яшчэ адна страва—бізун. Гэтага не шкадуюць.

— Нечага сказаць, добры прыём,—падумалі мы.

Неўзаметку мы сышлі з тэмы пра яду на тэму пра катаваньне. У сутнасьці і вялікі недахоп у харчаваньні і лютае катаваньне ня былі для нас зьяваю новага парадку.

Важна было іншае — важна было вызначыць „дух" Стралкоўскага лягеру.

Рэжым быў надзвычайна суровы ва ўсіх польскіх лягерах, але былі ў кожным лягеры свае асаблівасьці,—іх то мы і адчулі нюхам яшчэ ў карцары. Таварышы дапоўнілі малюнак, які складаўся пакуль толькі нашым уяўленьнем.

Стыль Стралкоўскага лягеру прадракаў невясёлыя дні.

Чым горай абстаноўка, тым мацней трэба імкнуцца прарвацца праз кардон да сябе.

Пачаліся пакутныя дні. Знаёмая абыякавасьць, перапыняемая катаваньнем. Галоднае існаваньне, пастаяннае адчуваньне слабасьці і ліхаманкавы бляск у вачох, які бывае ў даўно някормленых зьвяроў.

У бараку пераважна былі цывільныя палонныя. Мы трымаліся ў баку ад іх, бо ня надта давяралі ім і баяліся, што пры ўцяканьні знаёмства з імі можа нам перашкодзіць. Я сумаваў па людзях—быў маладзей другіх, таму, ня гледзячы на папрокі Пятроўскага, шлындаў па ўсім бараку.

Недалёка ад нас разьмясьцілася група ў некалькі чалавек, профэсію якіх цяжка было распазнаць. Яны аднекуль даставалі хлеб і мянялі керанкі палонным.

Яны частавалі канвойных папяросамі, якія нейкім шляхам траплялі да іх. Ад палонных я даведаўся, што гэта людзі—родам з Галіцыі.

Яны даўно жывуць у Польшчы і дасканала ўладалі польскаю мовай.

У маёнтку, дзе яны працавалі, разьмясьціўся ў час пераходу якісьці полк. Аднэй раніцаю адзін з афіцэраў палка быў знойдзены з раздробленай галавою каля аднаго з хлявоў, сумежных з дамком, дзе жылі галічане.

Апошніх зараз-жа схапілі і судзілі. Аднаго, які ў тую ноч вярнуўся, зараз-жа расстралялі, а іншых арыштавалі і трымаюць у лягерах.

Галічане сьцьвярджаюць, што афіцэра забілі яго-ж салдаты за пабоі і зьдзекі і для таго, каб ня быць западазронымі, наўмысьля забілі ня куляю, а патрушчылі чэрап нечым важкім.

Аднак, палякі гэту вэрсію адхіляюць і трымаюць іх у лягеры.

У горадзе за іх нехта клапоціцца. Канвойныя, ды і афіцэры ня бачылі ў іх бальшавікоў і адносіны да іх ня былі гэтак бяссэнсна лютымі, як да нас.

Напалоханыя абываталі—яны вытанцоўвалі перад кожным канвойным, а начальству вышэй аказвалі царскую пашану.

Нам здаваліся дзікімі іхныя паклоны кожнаму халую з бліскучымі гузікамі. Яны нагадвалі сялян нашага глухога сяла, калі ў царскія часы бывала наяжджаў вураднік, і прымаў, як павіннае, і паклоны, і лес узлахмочаных галоў, на які ў непагоду падаў без перашкоды дождж.

А гэтыя, нават не сяляне, а нешта накшталт арцельных стараст, з любой прычыны гатовы стаць на калені.

Палонныя іх ня любілі і не заўсёды ставіліся да іх спагадна. Я ціханька штодня рабіў падарожжа ўглыб бараку—знаёміўся з палоннымі. Пятроўскі панура маўчаў. Так прашло некалькі дзён.

Аднойчы раніцою чуецца добра знаёмы выгук:

— Уставаць, халеры!

Гэта крычыць канвойны, адчыніўшы дзьверы нашага бараку. Грознаў, Сарокін і Шаліма шпарка саскочылі з нараў і выпрасталіся, а мы з Пятроўскім крыху замекшыліся.

Можа быць, на сэкунды.

Пастарунак энэргічна аблаяў нас, але ўбачыўшы, што мы апранаемся і пасьля яго лаянкі недаволі, як яму здавалася, хутка, паклікаў свайго таварыша.

Абодвы яны блізка падышлі да нас.

— Цо, халеры,—ня чуеце загаду ўставаць?

Мы засьпяшаліся, як маглі,—час лічыўся сэкундамі,—але салдатам трэба было, напэўна, нас падцягнуць, таму, хаця мы былі ўжо гатовы і маглі ісьці за імі, салдаты крыкнулі:

— Кладзіся, халера!

Прышлося легчы—усім нам усыпалі па 10 бізуноў.

Пасьля катаваньня нас павялі на работы. Нам дадалі яшчэ чатырох кітайцаў. Думаю, што яны трапілі ў лапы палякаў толькі таму, што на польскім фронце афіцэры дужа распаўсюджвалі чуткі пра папаўненьне нашых часьцей кітайцамі, спэцыяльна падабранымі на ролю катаў. Наша работа была нескладаная. Уборная была вялікая, цэмэнтаваная яма, прыкладам, сажні на тры, і гэткай-жа шырыні. У бараках, у імпэрыялістычную вайну немцы, захапіўшы Польшчу, памясьцілі рускіх палонных. Гэтыя будынкі і засталіся ў спадчыну палякам разам з занядбанымі ўборнымі.

Яны былі да берагоў поўныя брудам.

Уборныя трэба было нам пачысьціць.

Мы дасягнулі пад канец першага-ж дню высокай „продукцыі"—умудрыліся вывезьці 30 бочак з раніцы да абеду, а пасьля абеду яшчэ 20. Палякі пасьля бліскучых вынікаў першага дню павялічылі норму да 70 бочак у дзень.

Пасьля сканчэньня рабочага дню, прыходзілі змучаныя ў барак, кідаліся на нары і засыпалі, як забітыя.

Так было лепей.

Удзень на цяжкой, бруднай рабоце, уночы цяжкі сон.

Але калі-б толькі гэтым абмяжоўваліся нашы пакуты. У нашым лягерным жыцьці ўзьнікалі інады сваясаблівыя спэктаклі.

Яны стыхійна ўносіліся ў наш дзень, значна павялічваючы нэрвовую напружанасьць. Справа ў тым, што палонныя, у выніку катаржнага рэжыму, установуленага ў бараках, штодня кідаліся ў самых вар'яцкіх, рызыкоўных спосабах, каб уцячы.

Псыхолёгічнае тлумачэньне для сьмелых авантур—зьбегаў знайсьці ня цяжка было. Новаму чалавеку даволі было дзень пражыць у лягернай абстаноўцы, каб ім моцна апанавала адна толькі думка,—як уцячы.

Ня дзіва, што кожны дзень мы даведваліся аб спробах бегчы з боку палонных, прычым спробы гэтыя заўсёды зрываліся з-за свайго саматужніцтва. Начальнік лягера капітан Вагнэр і яго бліжэйшы памочнік паручнік Маліноўскі, парашылі раз назаўсёды пакласьці гэтаму канец (гэта ім перашкаджала), устанавіўшы за ўцёкі для палонных, як кару, расстрэл.

Капітан Вагнер гардзіўся сваёй асобай. Ружовы, з ледзь парадзелымі, гладка прычэсанымі валасамі, ад чаго твар нагадваў хутчэй жанчыну, чым бравага ваяку, якім пнуўся выглядаць капітан Вагнер.

Тоўсты зад, туга абцягнуты рэйтузамі надаваў яму яшчэ больш жаночы выгляд. Капітан у лягеры адчуваў сябе насьледным уладарным прынцам і выходзіў заўсёды ў суправаджэньні пышнай дружыны.

Уваходзячы ў барак, ён мэлянхолічным гэстам падзываў да сябе унцера і браў з яго рук бізун.

Барак заціхаў.

Прынц спакойным зіркам ахопліваў усю глыбіню бараку і вышукваў ахвяру. Потым спакойна зьбіваў яе.

Кожнае наведваньне бараку праходзіла заўсёды гэткім парадкам.

Канвойныя баяліся яго, як агню. Бліжэйшым нашым начальнікам быў паручнік Маліноўскі.

Палонныя гаварылі пра яго, што ў мінулым ён быў аб'ежчыкам у маёнтку нейкага польскага пана.

Твар у яго быў увесь парыты воспай. Валавяныя цьмяныя вочы. Даўгія вусы і даўгія нязграбныя рукі. Ад яго заўсёды тхло дрэнным пахам і яго блізкасьць выклікала фізычную гідкасьць. Салдаты стараліся яго абыходзіць, ён заўважаў гэта і ставіўся да іх амаль таксама, як да нас.

За галічанамі, на нарах ляжаў, амаль не ўстаючы, хворы. Ён быў у апошняй стадыі сухотаў і палонныя стараліся дагадзіць яму наколькі гэта было магчыма.

Быў ён раней настаўнікам у нейкім павятовым горадку. Калі апошні быў заняты палякамі, на настаўніка данесьлі, што ён хаўрусаваў з немцамі. Дарэчы і прозьвішча ў яго было падобнае да нямецкага. Ня то Фіхтэр, ня то Рыхтэр.

Яго арыштавалі і некалькі месяцаў трымалі ў бараку, у стане блізкім да сьмерці.

Вось да гэтага хворага ўнадзіўся хадзіць Маліноўскі. Прыдзе, загадае падаць сабе табурэтку, сядзе і пачынае весьці гутарку.

Хворы стаіць перад ім, а Маліноўскі дапытваецца. Хворы дрыжыць і кідаецца. Маліноўскі загадвае акаціць яго вадой. Вада ўжо не дапамагае— хворы доўга ляжыць няпрытомным, тады Маліноўскі адыходзіць.

У бараку заціша... Калі павялічыліся гэтыя саматужныя спробы ўцячы, высокае начальства—капітан і паручнік—узмацнілі сваё назіраньне за намі.

Яны дадумаліся да наступнага:

За зьбег аднаго з палонных з якога-небудзь бараку адказваюць усе, што засталіся ў бараку.

У гэтым выпадку будуць адбірацца два чалавекі для расстрэлу з бараку і яшчэ трэці—дзяжурны па бараку, на абавязку якога ляжала сачыць за палоннымі, перашкаджаючы ім уцякаць.

Гэта рашучая пагроза кругавой парукі зрабіла адмысловы эфэкт. Зьбегі на некалькі дзён спыніліся. У адзін з вечароў па сканчэньні работы па чыстцы ўборных, я вярнуўся ў барак. Да мяне падышоў усхваляваны Сарокін і сказаў:

— Сягоньня ўцякло два чалавекі. Аднаго з іх злавілі, другому ўдалося вынесьці ногі. На доўга гэта—ня ведаю. Пастарунак пашоў дакладваць паручніку.

Я зразумеў прычыну роспачы Сарокіна. За зьбег-жа адказвалі ўсе. Самым чорным нашым меркаваньням суджана было спраўдзіцца. Не прайшло і некалькі хвілін, як некалькі салдат загналі ў барак усіх палонных, якія былі ў той дзень у нарадзе; увайшоўшы ў барак, запрапанавалі усім зьняць штаны і легчы на лаўкі; шэсьць чалавек, узброеныя драцянымі бізунамі, зараз-жа пачалі чарговае катаваньне. Начальнікі нашы далі волі лютасьці і расьпіразаліся, як мага.

50 палонных, якія жылі ў 37 бараку, атрымалі па 30 бізуноў кожны. Колькасьць бізуноў выпадала на долю кожнага з палонных па прызначэньні Маліноўскага, які выходзіў з наступнага арытмэтычнага мэтоду.

— Колькі ва ўсім бараку чалавек?—Ласкава даведваўся Маліноўскі ў уньцер-афіцэра.

— 50,—быў адказ.

— Дайце кожнаму па трэцяй частцы,—што значыла колькасьць, роўную трэцяй частцы насельніцтва бараку.

Мы зналі, што ўсьлед за гэтым звычайна ідзе дадатковая порцыя бізуноў для палонных па „нацыянальнай азнацы“.

Маліноўскі дадаваў яўрэем пяток альбо дзесятак удараў—лік „дадатковых“ знаходзіўся яшчэ ў сувязі з яго настроем.

Далей „прэміяльна“ ўдары дадаваліся па тэрыторыяльнай азнацы.

Мне—алонецкаму селяніну—усыпалася „нормальная“ порцыя ўдараў пры катаваньні, бо Алонецкая губэрня была далёка ад цэнтраў чырвонай небясьпекі—Ленінграду і Масквы.

Затое для палонных, якія лічыліся па апытальных лістках масквічамі і ленінградцамі, дадатковая колькасьць удараў пры катаваньні лічылася абавязковаю.

Як на зло, Маліноўскі меў добрую памяць, вельмі хутка пачаў нас усіх пазнаваць у твар і дасканала ведаў хто з якіх краёў адправіўся на фронт, каб ваяваць з палякамі.

Таму ён быў дакладным і рэдка памыляўся.

Кожны з палонных сумленна атрымаў тое, што належыла „па закону“ Маліноўскага.

Усё ішло, як трэба, як раптам адзін з пакараных—казак, даведзены, напэўна, да крайняй роспачы, зьвярнуўшыся да паручніка Маліноўскага, плачучы сказаў: „Ваша дабродзьдзе, за што б'юць мяне? Я-ж стары нямецкі палонны. Служыў у царскай арміі. Трапіў у палон да немцаў, дзе прабыў больш чатырох год. Вяртаючыся дамоў, быў затрыманы ў Вільні і зноў адпраўлены сюды. Я бальшавікоў у вочы ня бачыў. Зьлітуйцеся, адпусьцеце дамоў“.

Гаворка яго перапынялася, голас зрываўся, сьлёзы ліліся з вачэй...

— Кламіш (хлусіш)!—зароў на казака Маліноўскі, выхапіў з кабуры рэвольвэр. Раздаўся стрэл і казак, як сноп, скошаны куляю, упаў на зямлю.

Маліноўскі азьвярэў, просьба казака яшчэ больш распалілі яго лютасьць...

Але гэта быў яшчэ не канец. Усьлед за гэтым пайшло другое здарэньне такога-ж парадку. Пасьля таго, як Маліноўскі расстраляў на вачох ува ўсіх палонных казака, да яго падсунуўся уньцер-афіцэр Бродзкі, старэйшы нашага блоку (10 баракаў) і даклаў, што ёсьць яшчэ адзін палонны, які ўпарта сьцьвярджае, што ён не бальшавік.

Палякі ўстанавілі ў лягеры сваяасаблівы рэглямант, па якому ўсе чыста палонныя, што знаходзяцца ў бараках, лічыліся бальшавікамі, пры чым да катэгорыі бальшавікоў палякі далучалі нават дзяцей.

— Дзе гэты „не бальшавік“?—закрычаў Маліноўскі.

— Латыш, гандляр,—паведамляў яму Бродзкі,—кажа, што быў затрыманы нашымі ў Вільні выпадкова.

— Выпадкова,—перапыніў яго Маліноўскі.—Ведаем мы гэтыя выпадковасьці. Ну-ка, давай яго сюды.

Бродзкі паказаў Маліноўскаму на тоўстага, з скрываўленым тварам латыша, які ляжаў недалёка на зямлі, і моцна стагнаў ад болю. З ран на целе, атрыманых у выніку катаваньняў тэлефонным дротам, цякла кроў.

— Дык ты не бальшавік?—спытаўся ласкава ў яго Маліноўскі.

— Не, я не бальшавік,—рыдаючы, адказаў латыш.—Зьлітуйцеся, за што вы мяне мучыце? Дамоў, дамоў, адпусьцеце, к дзецям.

Зноў прарэзьлівы выкрык: „Кламіш“—і куля з рэвольвэру Маліноўскага прастрэліла галаву латышу, паклаўшы яго на месцы.

Калі экзэкуцыя над палоннымі скончылася, Маліноўскі загадаў начальніку блоку (10 баракаў), выгнаць на вуліцу ўсіх палонных з астатніх 9 баракаў.

Канваіры пабеглі ў баракі, і, зьбіваючы на хаду бізуном палонных, загадалі ўсім выйсьці з памяшканьня і выстраіцца ва фронт.

Да мяне падышоў незнаёмы уньцер-афіцэр.

— Ходзь за мной,—загадаў ён.

Я пакорліва пайшоў за ім.

Мною апанавала нейкая вялікая абыякасьць. Што значыла маё жыцьцё альбо сьмерць у волатаўскім стыку двух сьветаў, старога і новага. Я не баяўся сьмерці, я імкнуўся перамагчы ў сабе страх перад прыходам гэтай госьці.

Уньцер паклікаў яшчэ аднаго з палонных і мы ўдвох падышлі да кучы насілак, якія ляжалі недалёка.

Мы ўзялі насілкі і пашлі за уньцерам. Падышлі к бараку, паклалі на насілкі цела забітага Маліноўскім казака і панесьлі ў мярцьвецкую. Гэткім-жа парадкам увалаклі цела забітага латыша. Абодвы трупы пакінулі ў мярцьвецкай.

— Можаце заставацца ў мярцьвецкай пакуль „там сьціхне“,—лагодна сказаў мне уньцер.

Ужо пазьней даведаўся, што ён выконваў абавязкі фэльчара, запомніў яго прозьвішча—Войдыло. У сутнасьці, гэта быў адзін з нямногіх, хто за час палону праявіў у адносінах да нас намёк на гуманнасьць.

Мы засталіся ў мярцьвецкай у суседзтве з трупамі.

— Гэта-ж былі зусім нядаўна жывыя людзі,—падумаў я.

К чорту сантымэнтальнасьць, мацней сьцяць зубы.

Чакаў пакуль скончыцца расправа ў лягеры.

Некалькі гадзін прайшло яшчэ пакуль ня ўлёгся каля баракаў шум. Напэўна, экзэкуцыя скончылася.

— Хадзем,—сказаў таварыш з 13 бараку,—а то сюды яшчэ зьявяцца.

Мы ўзялі насілкі і паволі накіраваліся да свайго блоку.

Там убачылі жудасную карціну. Таварышы ляжалі на нарах і стагналі. Уся іх адзежка, і без таго ўбогая, вісела на іх клакамі. Праз дзіркі былі відаць на целе крывавыя і чырвоныя рубцы і раны.

— Пецька, гэта ты?—узрадаваўся Пятроўскі, а мы думалі, калі цябе павялі, што вядуць расстрэльваць.

Прысеў да яго; пачалі шалёна лаяцца. Гнеў, ярасьць супроць праклятых катаў душылі нас.

Ізноў крыкі і стогны. Яны чуваць з жаночага бараку, дзе між іншым жывуць і дзеці. Нам захацелася абавязкова даведацца, што там адбываецца. Адзін з таварышоў папрасіў канваіра праводзіць яго ў уборную. Ён хутка вярнуўся і хвалюючыся паведаміў:

— Таварышы, там жанчын да гала разьдзяваюць, катуюць бізунамі.

У стралкоўскім лягеры знаходзіліся захопленыя ў савецкіх шпіталях міласэрныя сёстры. Палякі ненавідзелі іх асабліва.

Маліноўскі неяк публічна, злосна лаючыся, прабраў сястру, зусім нялічачыся з тым, што перад ім стаялі безабаронныя спужаныя жанчыны. На яго думку, рускія жанчыны павінны былі абавязкова забіваць сваіх мужоў і сыноў у тым выпадку, калі яны бальшавікі. А раз яны гэтага не зрабілі, дык з жанчынамі, у даным выпадку міласэрнымі сёстрамі, трэба было абыходзіцца, як з бальшавікамі.

Так прапаведваў Маліноўскі—уладар Стралкоўскага лягеру, якому мы—некалькі сот палонных—былі аддадзены на „зьдзекі і рабаваньне“.

Енкі ўсё ўзмацняюцца.

Сарокін, нечакана для ўсіх нас, рынуўся да дзьвярэй. Ён махае рукамі і нешта мармыча. Мы ледзь яго супакойваем.

— Заб‘ю, не хачу жыць, ня стрываю. Няхай расстраляюць. Не дазволю. Не магу. Трусы вы мізэрныя, прахвосты. Сабакі, псы.

Мы перапужаліся. Ня было ніякага сумненьня ў тым, што Сарокін, калі мы не адвядзем яго ад дзьвярэй, кінецца на канваіра. Па абодвух бакох Сарокіна ўселіся Пятроўскі і Шаліма, гатовыя пры першым яго руху накінуцца на яго і трымаць датуль, пакуль ня сьціхне. Мы прабавалі загаварыць у мірным тоне, але Сарокін ня слухаў нас а прогся да выхадных дзьвярэй.

Пасьля гэтай незабытнай расправы лягер зрабіўся пеклам.

Вагнер і Маліноўскі зьвярэлі. Збойствы адбываліся раніцою, вечарам, днём і ўзьнікалі з самае мізэрнае прычыны.

У распараджэньні Вагнера і Маліноўскага мелася шмат повадаў для таго, каб у любы момант прыдрацца і пачаць катаваньне і праводзілі яго з агіднай лютасьцю.

Ішлі дні, тыдні і ня было ніякіх зьмен. Стралкоўскі лягер горшы з польскіх лягераў, думалі мы. На справе-ж ува ўсіх лягерах Польшчы, як мы даведаліся потым, была ўстаноўлена адзіная сыстэма адносінаў з палоннымі, прычым у яе ўносіліся тыя ці іншыя „падрабязнасьці“, у залежнасьці ад асобы начальнікаў лягеру.

Асабліва пакутавалі ў апошні час пасьля генэральнага катаваньня група „валынцаў“.

Гэта былі рослыя хлопцы, якія займалі кут у самым канцы бараку.

З імі разам жыў казак, якога забіў Маліноўскі ў час апошняга катаваньня.

Валынцамі іх называлі таму, што былі яны родам з Валыні.

Жыў сярод нас адзін вар'ят. Калі пачыналася катаваньне, ён спачатку ціха трсьсья, бяз гуку сьмяючыся сам з сабою. Потым сьмех узмацняўся і адрывісты гістэрычны сьмех напаўняў увесь барак.

Маліноўскі колькі разоў зьбіваў яго да паўсьмерці, але пакуль вар'ят ня губляў прытомнасьці, сьмех у бараку ня сьціхаў.

У часе паміж катаваньнямі хворы блукаў сярод палонных і жаласна падвываў.

Стане блізка і падвывае...

У бараку сьвята. Прыехалі члены якойсьці міжнароднай камісіі па назіраньні за лягерамі ў Польшчы.

Маліноўскі пагаліўся на гэты выпадак, абыйшоў сам усе баракі і папярэдзіў, што пры невялічкай скарзе закатуе да сьмерці.

Гэта было лішнім. Мы і так не паверылі-б у літасьць нейкай камісіі ў адносінах да чырвонаармейцаў.

Удзень нам выдалі дадатковую порцыю хлеба.

Што-ж, і гэта добра.

Хутка прышла камісія. Два вайсковых і адзін у цывільным. Форма на вайсковых незразумелая. Вагнер перад імі ходзіць, вужом уецца. Цывільны выняў пляшачку на парфуму з кішэні і вадкасьцяй папырскаў.

Спачатку сябе, а потым вайсковых. Падумаў і пырснуў на Вагнера таксама.

У барак убег сабачка. Як ён трапіў—невядома.

Падвярнуўся пад ногі Вагнеру Ён яго загрэў хлыстом. Сабака заскавытаў.

Вар'ят зараз-жа абазваўся. Зьлёгку завыў і пачаў сьмяяцца.

Старычок зрабіў колькі крокаў у глыб бараку. Скандал набліжаўся

Вагнер прыклаў два пальцы к брылю і з усьмешкай нешта зашаптаў старыку.

Той таксама ўсьміхнуўся і павярнуў да дзьвярэй. Усьлед за ім пашлі вайсковыя. Вагнер ішоў апошнім.

Камісія адыходзіла. Яе праводзіў рогат вар'ята.

У той дзень мы ня вывозілі бруду—і на гэтым дзякуй.

---

Надыходзіць восень.

Восень дае сябе адчуваць. Уночы ў бараку робіцца халаднавата. Працу мы спыняем гадзін да пяці і потым цэлыя вечары, лежачы на нарах, абмяркоўваем пэрспэктывы.

Гаворым асьцярожна. Па лягеру гуляе навіна: будуць набіраць палонных для работы ў лесе. Нас апаноўвае ліхаманка.

У нас засталося 100 рублёў з Шалімаўскіх грошай. Парадзіўшыся між сабой, парашылі іх аддаць уньцер-афіцэру, якому было даручана комплектаваньне каманды. Сталі абдумваць процэдуру перадачы хабара, спыніліся урэшце, на тым, што самым мэтазгодным будзе напісаць ад нашага імя заяву, улажыць у яе 100 рублёў і перадаць хадайніцтва уньцер-афіцэру.

Сказана—зроблена.

Напісалі на дрэннай польскай мове адмысловую паперку, акуратна паклалі ў яе наша апошняе багацьце—100 рублёў керанкамі. Сарокін прасіў на яго ўскласьці даручэньне па перамове з уньцер-афіцэрам. Але мы ўхіліліся ад яго паслуг. Даўно ўжо лічылі ненадзейным, нэрваваўся ён з кожнае прычыны і лёгка мог па неасьцярожнасьці падвесьці ўсіх нас.

Урэшце выбар паў на мяне. Рушыў да уньцер-афіцэра сьмела, прырыхтаваны да любых нечаканасьцяй. Дабраўся да бараку, каля якога сядзеў на крэсьле уньцер-афіцэр, чытаючы кніжку. Аддаў яму чэсьць і падаю заяву.

Робячы выгляд, што не заўважвае мяне, уньцер-афіцэр ня кідаў чытаць.

У такой прыніжанай і бязглуздай позе, з працягнутай рукой, прастаяў я хвіліны дзьве. Урэшце уньцер-афіцэр спагадна ўзьняў руку, з паважным выглядам узяў у мяне заяву, разгарнуў яе і адразу-ж убачыў грошы. Спачатку зьбянтэжыўся, але потым, скамечыўшы керанку, прачытаў наша хадайніцтва і прабурчэў: „добра“. Я чакаў дадатковых тлумачэньняў, але ён махнуў рукой, каб я ішоў. Бегам, не адчуваючы пад сабой зямлі з радасьці, прыбег да бараку.

— Ну як?—зьвярнуліся да мяне таварышы.

— Сказаў—добра,—адказаў я.

— І больш нічога?—спытаўся Пятроўскі.

— А чаго табе яшчэ? Дзівак ты, раз грошы ўзяў, дык усё будзе зроблена.

— А раптам на работу не пашле,—прамармытаў Пятроўскі.

Усе маўчалі. Мы і сапраўды пра гэта і не падумалі.

На трэці дзень загад—трыццаць чалавек адправіць у лес на работы, у тым ліку Пятроўскага, Шаліму, Сарокіна, Грознава і мяне.

Раніца.

Мы рухаемся шпарка, на жаль, пад пільным наглядам канвою, але і гэтыя варункі не засмучаюць нашага настрою.

Пасьля некалькіх гадзін хады падышлі да вузкакалейкі. Уселіся на адкрытую пляцформу і дабраліся да мястэчка Слупцы. Гэта быў той пункт, у раёне якога мы і павінны былі весьці работы па высечцы лесу. Нас разьмясьцілі ў баку ад мястэчка ў аборы нейкага шляхціца. У гэтай аборы, якая была воддаль ад усіх будынкаў і агароджаная плотам, у адным канцы былі авечкі, а ў другім мы. Памяшканьне наша здалося нам сапраўдным раем. Спалі мы на гнаі.

— Добра, мякка, цёпла,—захоплена крычаў Грознаў.—А галоўнае—спакойна.

Мы ўставалі разам з сонцам. Нас выганялі на работы праз тыя вароты, праз якія гналі скаціну.

Пакуль зьбіраюць партыю, мы дрыжым ад ранішняга холаду.

Уньцер-афіцэр стаіць перад шэрагамі і лічыць палонных. Падаецца каманда і мы рухаемся.

Мы праходзім з вярсту. Нас падзяляюць на групы. Да кожнай групы прымацавана некалькі канвойных. Адны наглядаюць за высечкай, другія ідуць за намі, калі мы на сабе цягнем дровы.

У некалькі дзён ува ўсіх у нас ад цяжкой працы аблезла скура на плечах, тым ня менш нам гэта работа лепей за гультайства ў лягеры.

У лесе ціха. Канвойны задрамаў. Мы ня можам і ня хочам яго турбаваць. Кладземся побач у лагчыне і глядзім у неба. Грознаў складае ўголас вершы.

Стаў адыходзіць Сарокін. Як відаць, перамена абстаноўкі ўзьдзейнічала на яго добра. У нашым „памяшканьні“ хутка завялося шмат казюлек, але гэта не палохала.

„З дармаедамі жыць можна, а з катамі нельга“. Хто мог сказаць што супроць гэтага простага палажэньня, сформуляванага Шалімам.

Мы абернуты ў „цяглавую сілу“. Але, канешне, гэта куды больш пачэсная праца, чым вывазка бруду з уборных у лягерах.

Ужо ў першы дзень нашага зьяўленьня мы пачалі падрыхтоўку, каб уцячы зноў. На вялікае наша няшчасьце, праз месяц пасьля нашай працы ў лесе, захварэў Шаліма.

Трое сутак ён змагаўся з хваробаю і мы стараліся захаваць хваробу таварыша ад варты.

Потым дзяжурны агледзеў сярод нас хворага і сказаў уньцер-афіцэру.

Той загадаў адправіць Шаліма ў лягер. Яго павезьлі раніцою, калі мы ішлі на работу.

Мы падклалі пад галаву таварыша мяшок з мохам—усё, чым маглі дагадзіць Шаліму.

Колькі часу мы ішлі побач з калёсамі, потым зьвярнулі ў бок і разышліся.

Болей мы Шалімава ня бачылі.

Надвор'е сапсавалася. Імжыць дожджык. Канвой злуе на надвор'е і спаганяе злосьць на палонных.

Пачынае рана цямнець і канвой завідна сьпяшаецца прыгнаць нас у хлеў, не давяраючы нам.

Канвой мае рацыю. Варта каму з нас у змроку стаць за дрэва і канвой ня зможа яго знайсьці.

У неахайна, насьпех зьбітай з дошак загародцы для авечак холадна і дождж падмочваў нас таксама, як і ў лесе.

Канвойныя, баючыся цемры, цясьней абкружалі нас і, каб не драмаць, заводзілі з намі гутарку.

Звычайная хвальба сваімі перамогамі над чырвонымі і запэўніваньні, што Масква будзе ўзята ў бліжэйшыя дні.

Хто з нас мог думаць, што прыдзе час і што ён недалёка—і коньніца Будзённага будзе гнаць да сьцен Варшавы бліскучую шляхту?

Мы не маглі гэтага прадбачыць, і каб дабіцца якіх-небудзь вестак, мы намагаліся сыйсьціся з інтэрніраванымі ў лягеры бежанцамі, спадзяючыся ў іх праверыць хвальбу канвойных, але абывателі былі заняты сабой, былі запужаны і як маглі ўхіляліся ад адказаў.

Пятроўскі пануры з таго часу, як павезьлі Шаліма, ён амаль не гаворыць. І ня дзіва—ён вельмі да яго прывык. Я не хачу турбаваць Пятроўскага і шукаю ў цемры хлява другога сябра, якога мы напаткалі на работах у лесе. Гэта Ісачонак, строгі камандзір, які ўводзіў дысцыпліну ў нашых першых вайсковых фармаваньнях. Таксама адна з тых, якіх мала выжыла, ахвяр польскага палону.

Я з трывогаю дзялюся з ім сваімі думкамі пра вынікі далейшага баваньня ў зьбегу.

Работа канчаецца. Сьнежань хутка, у адну прыгожую раніцу нас пагоняць ізноў у баракі і тады бывай думка пра волю.

Мая трывога перадаецца Ісачонку.

Ён згаджаецца са мною, што марудзіць нельга і мы тут-жа вырашаем за ўсю нашу групу бегчы з палону ў бліжэйшыя дні.

# СТРЭЛ[1])

*Вершаваная комэдыя*

**А. Бязыменскі**

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### МАЛЮНАК ЧАЦЬВЕРТЫ

Проста перад глядачамі сцэна, на якой вісяць: 1) нарад для кондуктараў і важатых, 2) насьценгазэта, чвэртку якой займае портрэт Прышляцова ў героічнай позе, і 3) аб'-вестка пра конкурс на лепшага выканаўцу вальсу і тустэпу. Направа буфэт. Налева рад лавак, які, відаць, ідзе далей. Перад нарадам і буфэтам стаяць трамвайшчыкі, ходзяць, запісваюць, ядуць. Направа перад глядачамі дзьверы, у якія ўваходзяць трамвайшчыкі ці ў рабочых гарнітурах, ці прыапранутыя. (Два піонэры бягуць да буфэту).

1-ы піонэр.
Сёньня выступленьне Гары Піля!
2-і піонэр.
А можа, паход генэрала Нобіле?
(Ідуць двое).
Адзін.
Галька два разьдзелы...
„Слухалі“
„Пастанавілі“.
А дзе-ж трэці разьдзел?
„Угробілі“.
(Піонэры бягуць назад).
1-ы піонэр.
Ну, вось, я ня думаў, што ставіцца „Маці“.
2-і піонэр.
Буфэтчык казаў мне, што будзе „Скарамуш“...
(Два комсамольцы).
Адзін.
Дзеўку вось,
дзеўку вось навошта вылучаць—

[1]) Працяг. Гл. „Полымя“ № 5—6 за 1930 г.

Як ні круці,
а выйдзе замуж.

(Ідуць Граеўскі і рабочы).

Граеўскі.

У электратормаз трэба лазіць
У крайнім выпадку, браток.
Сыстэму тормазную мазаць—
І будзеш мець вагон і ток.

Рабочы.

І штодзень мазаць? Гэта толькі?
Дык гэта-ж кожны дурань мог..

Граеўскі.

Зрабіць-бы кожны дурань здолеў,
А дурня вось...
і ня было!

(Выходзяць).

Дзяўчына (каля насьценгазэты).

Ах, комсамол. Ды гэта-ж цуда.
Вось паступлю—
Партыйнаю паненкай буду.

(Ідуць Брэст і Лена).

Брэст.

Не, я кажу вам ад душы:
Я не хацеў-бы на грашы
Разьменьваць капітал сардэчны,—
Шчасьлівым быў-бы я, каб мог
Яго злажыць ля вашых ног...

Лена.

І хоць-бы нават першай стрэчнай.

Брэст.

Прашу вас верыць абяцанкам,
Усё гэта шчырасьць—не мана.
(Усіх семярых была каханкай
Няўжо-ж фасоніцца яна?)
О, вы душа. Ваш твар мне сьніцца.
О, вы душа. Вас бачу ў сьне.
О, вы душа. Вы трэба мне.

Лена.

Вам трэба душы,
ды ў спадніцы.

(Ідуць Озоль і старая).

Озоль.

Памёр ад сьмерці? Набрахалі.

Старая.

Так, так, ад сьмерці, бачыць бог.

Озоль.

Мы ад стыпэндыі не паміралі,
А ён, дзівак, ад сьмерці здох.

(Двое каля нараду).

Першы.

Пра МОПР учора размаўлялі...
Бастуюць сэрбы—трэба ім дапамагаць.

Другі.

Інтэрнацыянальны пятачок спагналі...

Першы.

Спагналі.

Другі.

Ну, значыцца і ўсё—пра што казаць.

(Трое каля буфэту).

Першы.

Партыец, ня п'еш ніколі?
Гарэлка ж моцная вада, дзівак.

Другі.

Я прынцыпова—
супроць алкоголю.

Трэці.

Фактычна-ж? П'еш?

Другі.

Час-самі... так...

Першы.

Чаго-ж ты прынцыпаў тут прагнеш?
Хадзем... Хоць раз-бы пагуляў...

(Выходзяць).

Трэці адыходзіць у бок, вынімае, аглядаючыся, сотку, адбівае корак, п'е.

Трэці.

Партыец п'е.
Ком-молец цягне
Дык нам
І бог сам наказаў.

(З залі ідуць Озоль і Зьвягінцаў)

Зьвягінцаў.

Я працу з радасьцю аддам сваю,
Ды толькі—аб здаровым недавер'е,
Як часам нас іначай мераць
І ў нашым сэрцы вокны б'юць,
А ў сэрцы нашым ёсьць і дзьверы

Так, праўда ваша другакраць—
Гадуе сьмецьця шмат зямля нам,—
Найлепшых трэба адабраць,
Каб працаваць агульным плянам.
Нам з вамі ў шлях адзін ісьці,
Вытворчасьць любім, як ня можна лепей
І трэба
    ў кожным
        вам знайсьці
Сваю асобную прычэпку.
А што я ўгледзеў? Прышлявоў
Усім дае на слова веры,
І кожны ўсьцяж хлусіць гатоў,
І кожны на другога верне.
Ён хоча, каб ягоны грым
Для падхаліма быў абразам,—
Таму пасябраваў адразу
З беспартыйным ворагам сваім.
Ён сум наводзіць на мяне,
Ў пакоях сам сябе губляе—
Хоць прозьвішчы ён знае ўсе
Ды чалавека...
        не згадае.
Нас трэба ведаць...
        Той сакоча,
А ўрэшце дарма траціць дні
Ён вельмі можа—
        Ды ня хоча.
Знайсьці прычэпку. Падцягні.
Другі—усім вам дапаможа,
Ды заціраюць трапачы.
Ён вельмі хоча—
        Ды ня можа.
Знайдзі прычэпку. Навучы.
А гэтага дык страх ганяе,
Загад ён бачыць і ўва сьне,
Датуль ён справы не пачне,
Пакуль
    папер
        не атрымае.
А ёсьць яшчэ у нас, такі,
Што час капэйкамі расцэніць
І вечна выпрашае прэмій

За тое,
што знайшоў другі.
Прытулак для мазгоў бэтонных.
Ён пэнсію ўвесь год дзярэ—
За *недадуманасьць* бярэ,
Таму і думае
Падзённа.
(Азірнуўшыся).
Я захапіўся. Вось дык лоўка.
Даруйце... Думаў доўгі час...

Озоль.
Руку дай, дружа, на сяброўства,
Як гаварыў поэта ў нас.
Нам трэба вашы меркаваньні
Вы, значыцца, бяз лішніх слоў
Хлапцоў вучэце рысаваньню
На тыдзень двойчы.

Зьвягінцаў.
Я гатоў.

Увальваецца натоўп дзяўчат. Пасярэдзіне Дуньдзя з гітараю. Усе змаўкаюць.

Дуньдзя. (Цыганіста сьпявае на мотыў „Стаканчыкі гранёныя“).
*„Ідэолёгічна-звышпроцантны романс“.*

Ёны быў комсамо-бо-лец адпа-бэ-ты,
Яна беспарце-ейна была ба-ба,
І вось прычы-бі-не вось гэ-бэ-тай
Іхы дарога жыцьця разьвяла.
Тары-рам, та-ры-ра-ры-ра, напэўна,
Тары-рам, та-ры-ра-ры, падыйшоў.
Тары-рам, тарыірай, Комінтэрна,
Тары-рам, тадзі-там, Комсамол.
Але вось адыбы-бы-лася спра-ба-ва,
Кы-алі пыхкі екстазы падыйшла бо-баў,
І ча-ырывоная дзяўчынка жвавыва
Паступіла за ім-ы ў Комсамол.
(Усе пляскаюць).

Дзяўчына.
Ты хват наконт прыгожых слоў.
Сам улажыў?

Дуньдзя.
Пардон, дзяўчаты.
Даруйце-с. Покуль не дайшоў.
(Выцягвае ноты, чытае).
Романс
Музсэктар Дзяржвыдату

Дзяўчаты.

— Поэта.

— Хват.

— Фарсун.

Буфэтчык.

Дубіна.

Дзяўчына.

Ну, ёсьць-жа ў сьвеце малайчыны.

Дуньдзя (важна).

Адсэк[1]) дыктуе мне бяз меры,
А я пішу яму паперы,—
Пішу бяз думак і разваг,
У закаручках гожых—словы.
І ўсё-ж тут почырк.
Галава
Пры гэтым неабавязкова.
Адсэк ня любіць дараваць,
Не прычапляецца дарэмна...
За зьмест—ня будзе дакараць,
За закаручку—
вымаўленьне.

(Адыходзіць з аднэй дзяўчынаю ў бок. Жартуе).

Дзяўчына.

На сход мы пойдзем, Маш, ці не?

Маша.

Пашто-ж нудзіцца нам, Лізуха—
Усе мухі мруць
і сон лунае,
Ваду прамоўца вымаўляе,
А ў роце ўсё да чорта суха.

2-я дзяўчына.

Лепш пачакаць ужо кіно...
Падыйдзе Янка, можа стацца...

3-я дзяўчына.

Люблю кіношку за адно,
Што могуць, чэрці, апранацца,
Вось хутры—смушак, коцік, лісы,
А што датычыцца манэр...
Вось як у нас, у СССР,
Жывуць савецкія актрысы.

---

[1]) „Адсэк“ („отсек“)—адказны сакратар. Скарачэньне Бязыменскага.

4-я дзяўчына.
За межамі ў каханьні і ўва ўсім
Тут падабенства ў іх прыкметна.
2-я дзяўчына.
Так... Пазайздросьціць ёсьць у чым
Забойствы... Бойкі...
О, Шляхетнасьць...
5-я дзяўчына.
Глядзела фільму „Крык душы“
І што-ж? Да раніцы ня спала!
1-я дзяўчына.
Але кватэры—проста шык.
Маша.
Каб так сабе абсталявала?
2-я дзяўчына.
Учора мне купіў жаніх
Ком-лямпу з відам сакавітым:
(Апісвае).
Дзьве голых дзеўкі...
Маркс пры іх...
А з боку надпіс:
„З новым бытам“...
(Падыходзяць яшчэ дзьве дзяўчыны).
Першая.
Прапанаваў Озоль, дзяўчаты,
Каб для дзяцей наладзіць сьвяты.
Вы прыдзеце дапамагчы?
Дзяўчаты.
— Вядома.
— Прыдзем.
— І мяне лічы.
(Убягае цётка Мотка)
Парт-цётка Мотка.
Гэй!
Цішэй!

Убягае Гладкіх з портфэлем. За ім гужам тры чалавекі з портфэлямі. На хвіліну на сцэне цёмна. На экране... чалавек бяжыць з вялікім портфэлем. З портфэлю сыплюцца чалавечыны з портфэлямі-ж, якія вялізнаю зграяю гуртуюцца вакол галоўнага. Экран гасьне. Гладкіх з спадарожнікамі спыняецца ля лавы. Цётка Мотка адціскае публіку да дзьвярэй.

Парт-цётка Мотка.
За дзьвярыма, паводдаль, чакайце кіна.
Цацкайся тут з рознаю дрэньню.

Ну ты. Беспартыйная шпана.
Тут будзе
Экстрэннае пасяджэньне.

Голас з натоўпу.

Грамадзянка. Прашу зьвяртацца на „вы“.
Ня біцца, ня лаяцца гэтак абразна.

Парт-цётка Мотка.

Маўчы, брат. Ня зьнесьці табе галавы.
Ня ведаеш, шэльма, што „вы“
буржуазна.

Частка публікі выходзіць, частка цісьнецца каля сьцяны. Група выходзіць на авансцэну.

Гладкіх.

Увага. Гэтае пытаньне
Загад дакладна асьвятліў,
Даць тэрміновае заданьне
І правы адшукаць ухіл.
Актыўнасьць трэба зрушыць з месца,
Але далёка каб ня йшла...
А ты, Аўдотка—каб абвестку
Пра самакрытыку дала.
Ну-с, непарадкі ў Комсамоле:
Мяне там лаяць пачалі...
Чаму? Хлапцам за многа волі
Ім непатрэбнае далі.
Мне перадаў Васіль сягоньня,
Што і Граеўскі паў бадай.
Прыдумаць трэ рознагалосьсі,
Да іх пляцформу трэба даць.

Васіль.

Озоль з буржуямі вядзецца,
Яму-б я ў вочы напляваў.
Сягоньня з беспартыйным спэцам
Ён двойчы прашпацыраваў.

Парт-цётка Аўдотка.

А Лена робіць бунт заўсёды,—
Ніякай дысцыпліны ў нас.
Яна зьмяніць програму сходу
Нам прапаноўвала ня раз.
Програма сходу гэтак сама
Бюром разгледжана была,
Дык, ідучы супроць програмы.
Яна на партыю пайшла.

Гладкіх.

Пасяджэньне закрыта.

Выходзяць. Сцэна зноў напаўняецца. Але цяпер больш мужчын. Група партыйцаў.

1-ы партыец.

Яны цяпер хітруюць, гады...
Не паддавайся. Трэ сьцяшаць...
Ня варт чакаць яго дакладу,
А час бюро... пераабраць.

Дзямідаў.

Дзе хвост—прычыны,
Там галава—мякіна.

2-і партыец.

Так, так, даводзіцца нам кепска,
Пераабраць усіх падлюг,
Яны кіруюць дзеля месца
І спачуваюць другу друг.

Дзямідаў.

Блыха блыху
Ня есьць.

3-і партыец.

Мы самі ў гэтым вінаваты,
Чаго валэндацца дарма.
Пасыўныя,
А тла багата,
І горш сакратара няма.

Дзямідаў.

На што ня зірне—
Усё схне...

1-ы партыец.

Ня ў гэтым рэч. Ня ў гэтым, дружа.
Жывое сьцісьне мёртвых гніль.
Як-быццам іншы не падлюга,
А можа подласьць учыніць.

2-і партыец.

Ды да таго-ж такая хэўра,
Што чалавека ў нас забылі
Зарыўся сакратар ў паперы,
Загадчык—проста гаварыльня.

Дзямідаў.

Будзь хоць з аслоў аслом
Ды боўтай языком,

1-ы партыец.

„Няма“—хоць слова ў іх няма
Але ёсьць слова—
„няма рады“.

3-і партыец.

А старшыня Заўкому як?

Дзямідаў.

Ня чалавек,—
пасада.

Уваходзяць Прышляцоў, Duньдзя, Брэст, за імі натоўп, сярод усіх Озоль, Сарокін, Астапенка, Карчагін, Лена і Ўласюк. Агульны радасны гул.

Галасы.

Прышоў дакладчык.
— Час.
—Хутчэй там.
— Час.
— Час.
— Давай сакратара.

Прышляцоў.

Прашу, вядома, прабачэньня—
Не адрываўся ад пяра.

Дуньдзя.

Уладзь... Вы так прысталі...
Вы так працуеце... Наўзьдзіў.

Прышляцоў (гучна).

Учора ліст даслаў мне... Сталін.
Пытаецца-ж... не пазабыў.
Мне працу прапануе ў трэсьце,
А я адмовіўся—туга...

Брэст.

Дарэмна.
Я-б на вашым месцы
Даўно ўжо-б вёў ВСНГ.

Прышляцоў.

О, словы, ты дапамажы мне,
Ты сілу асьвяці маю.
Я самакрытыцы ўсе гімны
Сягоньня сьмела прапяю.
Даўно ўжо час усе заганы
На мушку нам, рабочым, браць,
І будуць намі зваяваны
Ўсе недахопы нашых спраў.

Выходзяць у залю. Усе за ім. Трохі цямнее. Застаецца адзін Озоль.

Озоль (Глядзіць усьлед Прышляцову).
Адменныя ў нас людзі ўсё-ж.
Хада найноўшая,
Старыя справы.
Слаўцом—рублі,
Нутром—дык грош.
Але за тое ў футаралях
З найлепшых тэзысаў Цэка.
У гэтай кавэрзнай задрыпы
Позыцыя ўмацавана так,
Як дуб.
Гэткіх...
З найлепшай самай ліпы—
Ня лёгка будзе іх злавіць...
Яны набылі здольнасьць, гады,
Ў сваіх дакладах бараніць
Праштампаваныя пагляды.
На справе—
ўсе яны сьмяцьцё.
Працуюць ўсе нібы-та...
За літараю
бачаць іншае жыцьцё,
А ім усё жыцьцё—
строй літар,
Ім вельмі лёгка балбатаць...
Яны гатовы працаваць,—
Галоўнае—каб недалёка.
Галоўнае—
каб няглыбока.
Ня хутка зразумееш іх.
Лбы простыя—
а душы ў іх крывыя.
Яны з усіх перадавых
Звыш-перавыш перадавыя.
Падыме палец член Цэка,
Глядзіш—яны ля аналою
Ўжо ўзьнімаюць кулакі,
А хвост...
узьняўся сам сабою.
Ды неўзабаве ціхне спрыт.
А можа...
ня туды...
Круціцца?..

Падзеі
        біць на два франты
Загадваюць усім партыйцам.
Што-ж? Прышляцоўскія хвасты
Запляскаюць і... ненарокам
Праз дзень,
Падцісну́ўшы хвасты,
Павернуцца інакшым бокам,
Баіцца кожны, каб ня здох...
Даўно сумленьне зьвёў да скону—
Партыец
        б'е на двух франтох
І гэты б'е,
        але паклоны...

МАЛЮНАК ПЯТЫ.

Пакой Озоля. Сарокін, Озоль, Лена, Астапенка, Карчагін, Уласюк. Збоку на крэсьле трымае контролёрны валец. Зелянкоў трымае газэту.

Зелянкоў (чытае):

„У новай паласе працы трамвайны парк: 1) павінен узьняць вытворчасьць працы, 2) павінен разьвіваць самакрытыку, 3) павінен дапамагаць комсамолу, 4) павінен разьвіваць масавую работу, 5) павінен быць прыкладам, 6) павінен... павінен... павінен...

Ул. Прышляцоў".

Усе.
    Правільна. А ў чым тут дзіва
        Не зразумею ані як,
    Ўсё гэта праўда. Няхлусьліва.
    Але-ж карысьці на пятак.

Сарокін.
    Але чаму?

Лена.
        Няўжо-ж ты, Янка,
    Тухляцьця ў гэтым не пабачыў?

Карчагін.
    Падручнік прэснае жаванкі,
    А не артыкул справаздачны.

Сарокін.
    Але чаму?

Зелянкоў.
    Эх ты, разіня.

Озоль.
    Я ў гэтым сутнасьць зразумеў
(Бярэ газэту).

Ўсё пачынаецца з „павінен“
А трэба-б пачынаў—
„здалеў“.

Сарокін.

Вось гэта так.
(Раптам абурыўшыся).
Хлапцы! Хлапцы,—
Пашто выказвалі свой...
Мне растлумачыць вам-бы трэба,
А вы хоць што—
адразу крыць.
(Супакойваюцца)
Вось наш вагон—
бяруся сьмела,
Што там другому-б дапамог,
Ўся зграя ўчора наляцела,
А ў габінэце Гладкіх пёк.
На сэрцы горб цяпер нясу
І ў думках—
жах, мятусяніны..

Карчагін.

Бяруся выгнаць
хоць які сусьветны сум
Адменнай пайкаю рыцыны.

Уласюк (ускоквае).

Урра. Урра.
Браткі, я ўздумаў.
Ура. Дадумаў. Хлопцы, факт.
Пашырыць хадавы контакт—
І зьнікнуць выбухі і дугі;
На дзесяць мілімэтраў—так.
Ўсяго на дзесяць.
(Скача).
Сып, не шкада.

Лена.

Ўсё гэта так.
Ды ў тым бяда,
Што рэдка ходзіш ты на сходы.

Уласюк.

Маштаб сусьветны нудным стаў,
Цяпер мне трэба факт халодны,
Звычайны сэнс звычайных спраў—
І тое, што раблю сягоньня.

Озоль (грозна).

Чакай. Чакай. Дасі мне рады—
Пачуў я гэта мо' ўва сьне.
Ты што? Ці толькі вы брыгаду...
А комсамольцы вы ці не?

Уласюк.

Так, комсамольцы.

Озоль

Значыць?

Сарокін.

Значыць—
Ня мог наш Тодзік успрыняць,
Што Комсамол калі заплача—
На ўсе трамваі напляваць.

Уласюк.

Я зразумеў.
Пакінь-жа сум свой
Ты Комсамол, і ты трамвай.

Лена.

Пра справу штодзенную думай,
А рэволюцыю
не забывай.

Уласюк.

Вось я, магчыма, не дарослы,
Затое хоць малы, ды хват.
А вось Астапенка наш Сьцёпа
Вялізны хват наконт дзяўчат.
Ў кіно сядзіць з дзяўчынкай Поляй,
Глядзіш—і ў грудзі лезе тут.

Астапенка.

Які-ж на ліха комсамолец,
Як нельга дзеўку мацануць.

Лена (жартаўліва ганяючыся за Сьцёпай па пакоі).

Ага! Ты лапаць? Чорт гугнявы!
Глядзі, глядзі-ж ты, абармот.

(Спыняючыся).

Хлапцы, я пачынаю! Жвава!
Глядзі, хлапцы. Раз... два... тры...
От.

Пачынае распранацца. Усе з рогатам адварочваюцца, апрача Астапенкі і Уласюка. Лена застаецца ў мужчынскім гарнітуры.

Лена.

Задача у мяне такая.
Сягоньня ўвечара пайду
І дужа шмат чаго спазнаю...
(Астапенку).
Вам, сучым дзецям, на бяду!

(Лена бярэ гітару. Усе падпяваюць).

## МАЛАДЗІКОВАЯ ПАРТ-СЭРЭНАДА

Там за млосным садам
Недзе ля куста
Льлецца сэрэнада
Палкага ката.
Выйдзі, дружа дзіўны,
Шчыра пакахаць —
Вельмі парт-актыўна
Буду цалаваць.
Выйдзі, мая зорка,
А ня тое ўраз
Буйным агіт-коркам
Ляпне ком-экстаз.
Выльлюцца сав-сьлёзы,
Лыне комса-кроў,
Разьлятуцца крозы
Пра кахальны проф (саюз).
У цішы паволі
Месяц месіць мрок.
Толькі чуеш кволы
Ком-сав-проф-парт-чмок.

Апранаецца. Убягае Рэйдбрук, за ім ідуць Граеўскі, Дзямідаў і Кудрын. Усе здароўкаюцца. Рэйдбрук мые рукі, расказваючы.

Рэйдбрук.

Сход скончыўся. Пайшлі ўсе мы
Тут да Шапталава дамоў,
Тады вось розум свой і веды
Выказваць стаў Шапталаў мой —
Што, вось, загадчык—наша гора,
Што сакратар ў паперы ўрос
І ўсё паводле партнадвор'я
Ці так, ці гэтак круціць нос...
У працы вынікаў—нямнога,
Бюро ня можа працаваць!
Яго, „харошага такога“,

Ніхто ня мысьліць вылучаць.
Дазналіся, што стан наш востры,
Што мы трымаемся ледзь-ледзь,
Што ён сказаў-бы гэта проста,
Калі-б хто здолеў зразумець.
Ён гаварыў з вялікім жарам,
Так спрытна думкі ён лавіў
І нязвычайна сьмелым быў
За... звыш звычайным самаварам.

Кудрын.
Маўчанка—золата, —
Вядомы ўсім закон.

Дзямідаў.
Як многа золата, напэўна, мае ён!

Карчагін.
Злуе шляхотна ён: ад жару
Хістаецца туды-сюды
І, не зважаючы на твары,
Зважае толькі на зады.

Граеўскі.
Ну, язычок!

Дзямідаў.
Ух, злосьці колькі!
А правільна.

Кудрын.
Ён—спэц сказаць.

Лена.
Мог Маркс-бы гэта скарыстаць —
Яго няма
І гне Міколка.

(Озоль выцягвае харчы. Усе ядуць).

Граеўскі.
Відаць, хлапцы, што быць бядзе,
Як самі мы бяды ня зломім.
Сягоньня ня былі мы дзе!
Пагутарылі і ў райкоме...

Сарокін.
Ну, што?

Граеўскі.
Ды тое-ж, як ні ўзяць.
Уважлівасьці там бяз меры,
Але карысьці ня відаць.
Даць абяцалі нам паперы.

Дзямідаў.
Абежнік—той да нас прыхільны,
А сакратар —
Ня чэпіць рук.
Озоль.
...Магістры тэзысных навук!
Карчагін.
Ў плянтацыях нікчэмных думак
Каўчук разводзяць там ізноў,
Каб мець затым пакунак гумы
Для вырабу адменных пастаноў.
Сарокін.
Я ўчора йшоў...
за мною—вой.
Ўсе зьдзекуюцца, ганяць, лаюць.
Рэйдбрук.
За мной таксама.
Карчагін.
І за мной!
Кудрын.
За тое ёсьць—дапамагаюць.
Озоль.
І гэта праўда.
Лена.
От якраз
Я чула навіну такую,
Што я...
— О гады! —
Сярод вас...
Ну, словам, што з трыма жыву я.
Дзямідаў.
Эх вы прамоўцы—дзівакі!
Ня ў словах сэнс, хоць самых палкіх.
Захочуць як бальшавікі —
Чакай вялікай перапалкі.
Карчагін (лашчыцца да яго).
Мой добры, любы!..
Мы гракі,
А ты арол рабочай долі.
Мы вельмі просім:
Раскажы
Хоць трохі
Пра часы падпольля.

Усе.

— Просім!
— Просім!
— Просім!

Дзямідаў.

Ну, добра (устае).

Сьвятло на сцэне памяншаецца Направа апускаецца экран. Апавяданьне ідзе пад музыку. Экран ілюструе асобныя месцы апавяданьня.

Тое лета на Украіне
Разьлілася кроў ракой.
Сэрца точыць сум па сыне
І па тых,
Хто зараз гіне
Пад варожаю рукой.

У вастрозе—сын Уладзік.
У падпольлі я...
І брат.
Я з тугой сваёй ня зладзіў
І з адным вастрожным дзядзем
Я...
Атруты пераслаў.

Зразумейце вы магутнасьць
Нашай праўды маладой.
І сказаў мне брат пакутны,
Што назад прышла атрута
І запіска разам з ёй.

Сын пісаў:
„Калі жадаеш
Чалавека, змагара
Зразумець—цябе вітаю...
Як змаганца, бласлаўляю,
Праклінаю
Як айца.

Быў мой век са мною ветны
Паслужыў я Ільлічу.
Ці ратунак буду мець я,
Ці памру ў варожых петлях,
А баяцца —
Не хачу“.

Для мяне й цяпер пакутай
Гэты сказ яшчэ гучыць...
Хай, браты, наш век магутны
Вас павучыць і навучыць,
Каб нянавісьць берагчы.

І яшчэ я помню брата...
Чорнавусы афіцэр
Горла рваў яму, пракляты.
І забіў рукамі ката,
Разрадзіўшы рэвальвэр.

Будзьце з ім, браты, знаёмы.
Ён салдатаў катаваў,
Біў рабочых ў сьпіну ломам,
Учыняў наўкол пагромы,
Нашых ворагаў яднаў.

Не забыць яго мне ў сьвеце!
Ў полі, ў хаце ці ў баёх —
Як спаткаеце—
Забеце,
Прах па полі растрасеце
З гордай помстай перамог.

І сягоньня, ў палкіх буднях
Хай пагрозу шлюць мячы!
Хай, браты, наш век магутны
Вас навучыць і ў пакутах
Нашу ярасьць берагчы.

Сарокін.
Рукамі задушу ў хвіліну!
Скажы,
Хто быў той сукін сын?

Усе.
— Скажы імя!
— Імя скажы нам!

Дзямідаў ідзе на авансцэну. Вялікі бубен пачынае біць ціха, усё галасьней, галасьней..

Дзямідаў.
Палкоўнік...
Аляксей...
Турбін.

Усе.

Палкоўнік...
Аляксей...
Турбін...

Сьвятло загараецца. Хвіліна маўчаньня. Усе сядаюць. За сцэнаю тупат ног. Уваходзіць Чакмазаў. Скрыпкі вымаўляюць прарэзьлівыя словы.

Чакмазаў.

Здаровы! Чорт мяне прынёс.
Усім вам—нізкія паклоны.
(Ставіць на стол дзьве пляшкі гарэлкі).
Зайшоў, браткі, на аганёк
Сваёй компаніі ўлюбёнай.

Сарокін.

Выходзь!

Чакмазаў.

Ну, гэта як сказаць!
(Выпівае).

Сарокін (кідаецца на яго).

Прэч ногі, свалачная сіла!
Забудзеш матку ўспамінаць,
Што дрэнь такую нарадзіла.
(Выціскае Чакмазава).

Дзямідаў.

Ня лёгкі быў нам цяжар гэты
На плечах злоснай галыцьбы.
Учора
Барацьбой сагрэты,
Чакаем
Заўтра
Барацьбы!
Але...

Уваходзіць Гладкіх, Васіль, цётка Мотка і цётка Аўдотка. Моўчкі групамі стаяць адзін супраць аднаго.

Парт-цётка Мотка (паказваючы на пляшкі).

А, п'янствуеце?
Гэта лоўка!
Брыгадны, значыць, комсамол!

Гладкіх.

Што за таемная групоўка?
Вы атрымалі мой дазвол?

Агульнае маўчаньне. Дзямідаў ідзе да стала, бярэ ў рукі пляшку і б'е яе аб стол.

*Гонг.*

# ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

## МАЛЮНАК ШОСТЫ

Можна без дэкорацыі

З левага боку выходзяць двое. Зрокі. Твараў ня відаць.

Першы.

Пароль умоўлены—„Харчы“.

Другі.

Праходзь і маўчы.

Выходзяць направа. З левага боку выходзіць Лена. Мырмоча ўпаўголас. Жуе булку. Здымае сукенку. Энэргічна ідзе направа. Паласа сцэны, на якой яна стаіць, рушыцца ёй насустрач, так што яна фактычна стаіць на месцы, але атрымоўваецца поўнае ўражаньне шпаркага руху. Другая паласа таксама сунецца ёй насустрач. На ёй дэкорацыі з ілюстрацыямі месцаў, якія праходзяць міма. Можна, паводле меркаваньняў рэжысэра, рух дэкорацыі зьмяніць на кіно, якое паказвае месцы, што ідуць міма. Пад канец ёй насустрач цягнецца шэраг трамвайных вагонаў. З правага боку выходзіць постаць.

Постаць.

Гэта што ў цябе?

Лена (паказваючы булку).

Гэта?

Постаць.

Але.

Лена (зьдзіўлена).

Харчы!

Постаць.

Праходзь і маўчы.

## МАЛЮНАК 7.

Уключана конструкцыя тэмпу.

Першая мініятура

Уласюк.

Таварышы! Нам заданьня ня выканаць,  
Калі ўсе замест справы жартамі займаюцца.  
Зьвяртаю ўвагу лятучага мітынгу,  
Што якасьць гісарнай вытворчасьці пагаршаецца.  
Пісалі мы ім пазалеташнім годам,  
А было-б прасьцей самім пайсьці.  
Для таго, каб наладзіць контакт з заводам,  
Выслаць-бы дэлегацыю чалавек з пяці.

Галасы

Правільна-а-а!

Васіль.

Чаго крычыш ты так фасонна?
Куды ты прэшся, халуёк?
Сход абвяшчаю незаконным,—
Дзе старшыня і дзе... званок?

Кудрын.

Мазгі у хлопца мышы згрызьлі!

Горын.

Катай, валяй усім нутром!

Васіль.

А ці ты ўзгодніў свае мысьлі
Ну хоць-бы з тэхсакратаром?

Граеўскі.

Ты, праўда, узгадняць умееш,
Але-ж умееш і брахаць.

Васіль.

Пры беспартыйных
як ты сьмееш
Пыртыйца дыскрэдытаваць?

Адзін з рабочых.

Вось як ставяцца да нас, рабочых...
Да іх мякчэй,
яны—грубей.

Граеўскі (наступае на Васіля).

Цябе яшчэ ніхто ня хоча
Так зганіць,
як ты сам сябе.

(Васіль хаваецца за Панава).

Панаў.

Хлапцы!
Цяпер, відаць, брыгада
У трампарку ў нас і бог і ўлада.
Ня трэба вашай нам парады!

Сьцяпанаў.

У чужыя справы ўлезьлі, гады!

2-гі рабочы.

Не, любы, стой!
Ты хлусіш жвава.
Тут трэба добрае ліцьцё.
Заводзкая благая справа,
Як хворае сваё дзіцё.

Сьцяпанаў.

З-за бруднай кучкі
злых дэбошаў
Ў жыцьці парадак
б'еццца ўшчэнт.

Граеўскі.

Ну, ты!

Уласюк.

Маўчы, герой за грошы!

Кудрын.

Яму гародзік даражэй.

Васіль (да Граеўскага).

Да беспартыйнае брыды?
Ідзеш цяпер з ёй роўнай сьцежкаю?

Граеўскі.

Сам вось ты
малады,
А душа ў цябе
з плешкаю.

Другая мініятура.

Прышляцоў.

Ўсё гэта вельмі, вельмі люба,
Аднак трэ' ворагаў скарыць.
Ёсьць сіла. Выстаўлена рубам
І на маім шляху стаіць.
Бяру ўсе захады цяпер я.
На процілегласьці, між тым,
Націсну:
Гладкіх, інжынэры,
Васіль, брыгада...
Так, па ўсім
Згуляць тут ёсьць на чым—
І варта.
Люблю людзкіх пачуцьцяў бой!
Я падначалю ўсіх іх жартам!
Ніхто дарозе з іх маёй
Не перашкодзіў аж дагэтуль,
Не перашкодзіць так і ў век—
І я ўжо бачу, бачу мэту:
Назаўтра сяду я ў Маскве!
Я повен мар і лятуценьняў.
Цяпер я дасягну ўсяго.

Хоць я, магчыма, і ня гэні,
Ды нешта ўсё-ж каля таго.
Я жыць хачу ў цэкісцкім сьвеце.
І палячу я ў далячынь!
Я, каб дамчаць хутчэй да мэты,
Бюст Маркса стаўлю ў габінэце,
Каб Маркса
Хлопаць па плячы.

Трэцяя мініятура.

Брэст.
О, я кахаю вас глыбока!
Лена.
На першы раз дазволю... ў шчокі.
(Брэст цалуе Лену ў шчокі).

Чацьвертая мініятура

Озоль сярод комсамольцаў.

Озоль.
Дык, значыць, хлопцы, ў барацьбе
Падтрымліваць брыгаду сьмела.
Першы комсамолец.
Васіль злуецца на цябе.
Бач, з варты галава зьляцела.
Озоль.
Прычым тут галава, Антось?
Другі комсамолец.
І без яе ён ашалее.
Першы комсамолец.
Перастаноўка частак.
Вось:
Сядзеў-жа, бач, на галаве ён.

Пятая мініятура

Чакмазаў і група асоб.

Чакмазаў (паўшэптам).
Брыгада зноў у новай ролі.
Проэкт Сарокін мае: ён
Для зборак падвядзе контролер,
Калёсы ўкоціць пад вагон.
Пішчалаў.
Ды гэта-ж добра нам якраз.

Чакмазаў.
А я чытаў вось, калі хочаш,
Троцкісцкага ліста наказ,
Што забастоўка—друг рабочым.
Пішчалаў.
Ты што? Вучыць нас?
Трамвайшчык.
Зноў ты там?
Горын.
Дыскусіі яны баяцца!
Чакмазаў.
Даводзіцца прыгадваць вам,
Як пачалі вы забывацца.
Горын.
Лупі! Гані! А там—капут!
Кпі, зьдзекуйся і насьміхайся!
Рац-налізацыю ўвядуць,
А там і з працай разьвітайся.

Шостая мініятура

Прышляцоў (у тэлефон).
У райком? А восьмай прыбываю.
Як сакратар? Ды неяк... от.
Яшчэ пакуль яго трываем.
Адзін із тысячы ўдалы ідыёт.

Сёмая мініятура.

Кандуктары (штурхаючы Рэйтбрука).
— Гэй, Янкель!
— Рыжая лапата!
— Вось прыгажун!
— Улада ў вас!
Адзін.
Але працуе ён заўзята.
Усе.
— О-го-го-го!
— Адна напасьць!

Восьмая мініятура

Прышляцоў (каля ўнутранага тэлефону).
А? Зьвягінцаў? Вас Брэст ганьбуе!
(Перасоўвае ручку).
Брэст! Зьвягінцаў аблаяў вас...
(Перасоўвае ручку).

Граеўскі? Сакратар хітруе,
Каб ты ў бюро ня быў...
Наказ?
Амаль адпраўлены...
Брыгада?
О, я ж заўсёды вам казаў,
Што я брыгадзе вельмі рады
І падтрымаць яе жадаў.
(Кладзе трубку. Тэлефон звоніць).
Вадзім? Граеўскі нявыносіць...
О, я-ж заўсёды гаварыў,
Што іх брыгада кашы просіць,
Што трэба біць—
І я іх біў.
Пытаньне ставіць? Неадкладна.
Іх палюбілі? Можа стаць.
Так. Скасаваць усю брыгаду,
Каб аблягчыць сучасны стан.
Ды трэба працаваць на славу.
Ты ліквіднуць дапамажы...

Дзевятая мініятура

Карчагін.
А я-б узяўся тут за справу—
Каб цела аблягчыць ім,
жвава
Ліквідаваў-бы ім мазгі.

Дзесятая мініятура

Лен , Сарокін, Зелянкоў, Астапенка, Уласюк.

Сарокін.
Так... З інжынэрам, значыць, ходзіш?
Лена.
Хлапцы!
Сарокін.
Тут дрэннага няма.
Зелянкоў.
Была нам прыкладам заўсёды,
А зараз... Адыйшла сама?
Астапенка.
Ну, мы ёй што! Мы рэшкай станем,
А інжынэр—дык ён з арлоў.
Лена (горда).
Што-ж гэта, хлопцы? Сьцігаваньне?

Зелянкоў.
Не, гэта боль.
Лена (да Астапенкі).
Усё ты наплёў?
Астапенка.
Не, не наплёў.
Мы самі чуем.
Лена.
А ты паверыў?
Астапенка.
Можа стаць.
Сарокін.
Кахаць—наўрад забараню я...
Ды ворага? Табе?! Кахаць?!
Лена (палка).
Ня мне кахаць яго, буржуя,
Не закахалася я, не!
Час прыдзе—ўсё вам раскажу я,
Але цяпер—няможна мне.
Бо справа тут ня ў інжэнэры...
Ці верыце вы мне ўва ўсім?
Астапенка (гіранічна).
Я в-веру.
Сарокін (цьвёрда).
Веру.
Зелянкоў (праз зубы).
Веру.
Уласюк (проста).
Веру.
Лена.
Ну, вось і ўсё.
Астапенка (у бок).
Ды ня зусім.

Адзінаццатая мініятура

Гладкіх і вагонаважаты.

Гладкіх.
Дай протакол, прашу даўно.
Вагонаважаты.
Навошта? Я прымацаваны
Быў на бюро да комсамолу
І пры табе-ж я быў абраны.

Гладкіх.

Так, быў і чуў.
Усё адно.
Я веру толькі протаколу.

Дванаццатая мініятура

Лена, Сарокін, Зелянкоў, Рэйдбрук, Уласюк, Карчагін. За сцэнаю раптам рогат. Карчагін абцірае твар.

Карчагін.

Занадта ўжо жывуць культурна!
Да вурны сорам кінуць тло.
Таму, як апануе злосьць,—
Плююць у твары,
А ня ў урны.

Зелянкоў.

Даволі! Хопіць! Сіл няма!
Нашто працуеш дні і ночы?
Па што пакутуеш? Дарма.
Раздольле ворагу... Сябры балбочуць...
Заціснулі—і мы ніштo...
Уся шпана сягоньні рада.
А калі скажаш толькі што,
Дык не далічышся разраду.
Мне блізкім стаў чужы вагон,
А іншаму—
Чырвонцы вочы сьлепяць,
Пакрыўджаным бывае ён,
Калі другі працуе лепей.

Сарокін.

Маўчы, ты маніш!

Зелянкоў.

Не маню.
Але, відаць, мана ня горай
За праўду... Стравы з той ня створыш.
Маніць—лягчэй дзень ада дню.
Даволі! Заплываюць жырам!
І ганьбяць,
Ганьбяць цэлы век...
Абраны ты за брыгадзіра,
А ты хіба не чалавек?

(Сарокін кідаецца на яго. Лена стрымоўвае).

Лена.
А ты, чым лепей за такіх?
Прадаць сусьвет за крыўду рады!
Зьмітрок! Ты гэтае пакінь,
А калі не—
Прэч ад брыгады!

Зелянкоў.
Ну, і пайду!

(Скідае шапку, кідае яе на падлогу і выбягае, сьціснуўшы рукамі галаву).

Карчагін.
З ім трэба зладзіць!
Ня пойдзе ён далёка, не!
Ён наш. Ён наш. Ён нам ня здрадзіў.
Яму нялёгка, як і мне.
Зьмітрок! Зьмітро-о-ок!

(Выбягае за Зелянковым).

(Сэкунда маўчаньня. Вакно гасьне. На авансцэну выбягае Граеўскі).

Граеўскі.
Нам зразумець патрэбна, браткі,
Дзе наша моц, хто чым слабы.
Брыгада зроблена выпадкам
Апорным пунктам барацьбы.
Але ў змаганьня—гучны голас.
Яно заве! Ў нас сілы ёсьць!
Жыцьцё расколата сягоньня.
Глядзеце пільна! Вось вам! Вось!

Усе наступныя мініятуры—паскораным тэмпам.

Трынаццатая мініятура

Зьвягінцаў і Куклінскі.

Куклінскі.
Вы пра брыгаду? Кожны дзень?
Дык нават Брэст іх вельмі лае.

Зьвягінцаў.
Ды кожны дзень вось гэта дрэнь
Былую будучнасьць чакае.

Куклінскі.
Ёсьць у Кастрычніку бізун і гнеў.
Магу я не хацець іх славіць, мусіць?

Зьвягінцаў.
Мы дазваляем, каб ты не хацеў,
Але мы можам і прымусіць!

Куклінскі.

Лёяльны я! А прымушаць
Ня могуць! Не! Што ў гэтым крыецца?

Зьвягінцаў.

Друг!
Рэволюцыю прыняць—
Ня значыць, што яе ты прыяцель.

Чатырнаццатая мініятура

1-шы вагонаважаты.

Брыгаду ў лаянцы са сьвету зводзіш,
А як твая прамова? Пазабыта?

2-гі вагонаважаты.

Ну, тое-ж дык было на сходзе.
А дома можна гаварыць адкрыта.

Пятнаццатая мініятура.

Озоль.

І так бывае у людзей
Падвойнай—
Бухгальтэрыя ідэй.

Шаснаццатая мініятура.

Першы хлопец.

Брыгада, значыць, комсамоліць!

Другі хлопец.

Не. Пішуць на мяне данос.
Мяне з пасады
Здымуць вось,
А там і з партыі
Мо' зволяць.

Семнаццатая мініятура.

Першы рабочы.

Я супраць брыгады!

Другі рабочы.

Ня трэба-ж так тупа
Глядзець, каб пасьля не адлынуць назад.

Шапталаў.

Ды што тут нам!
Адміністрацыя за,
Дык значыць завком наш павінен быць супраць.

Восемнаццатая мініятура

Васіль.
Няхай-жа буду балваном,
Разумнікаў брыгадных—к маме!
Комсамолец.
Хай б'е партыйным пяруном
Аматараў быць балванамі.

Дзевятнаццатая мініятура

Цётка Мотка.
Ён супраць іх! Усё не да рэчы!
Ён сакратар! Ён вартаўнік комун!
Комсамолка.
З тварыка—яечка,
А ўнутры—
Балбатун.

Дваццатая мініятура

1-шы рабочы.
Але-ж яны ўвесь час за працай!
2-гі рабочы.
І добра.
3-ці рабочы.
Адыйдзі з хлусьнёй.
Дзе фабзавучніку спрачацца
З кваліфікацыяй маёй?

Дваццаць першая мініятура

1-я кандуктарша.
Ў брыгадзе. Так. З усімі,—сем іх,—
Жыве адразу. Вось дык кур...
2-я кандуктарша.
Як на зямлі ня хопіць дур,
Цябе ўжо забяруць на племя.

Дваццаць другая мініятура

Шмат рабочых і вагонаважатых (наперабой).

Ня трэба!
Трэба!
Трэба!
Не!
Ура брыгадзе!

Чэрці! Гады!
Брыгадзе так!
Брыгадзе — не!
Далоў!
Няхай жыве брыгада!

Дваццаць трэцяя мініятура

Другая група.
Брыгада—што! Адна буза.
Ня праўда. Там працуюць рупна.

Дваццаць чацьвертая мініятура

Трэцяя група.

Мы галасуем за!
Мы галасуем супраць!

Дваццаць пятая мініятура

Мы галасуем за!
Мы галасуем супраць!

Дваццаць шостая мініятура

Мы галасуем за!
Мы галасуем супраць!

Паступова загараюцца ўсе сцэнічныя вокны. У кожным з іх пачынаюць вымаўляць толькі „за“ ці толькі „супраць“. Шалёны тэмп. У канцы асьвятляюцца ўсе сцэнічныя вокны адразу. Слоў ужо ня чуваць, відаць толькі людзей, якія палка спрачаюцца, рэзкія рухі, грозныя гэсты. Але перабежка экранаў. Ці на адным, ці на другім зьяўляюцца тыя-ж словы: „за“ „супраць“. Блізка авансцэны праходзіць і крэкча Бывалаў.

Бывалаў.
Няма змаганьня. Нудна ў нас.
Запеніліся трохі—годзе...
А быў калісьці гэткі час.
У дзевятнаццатым хоць годзе.
Няма ў жыцьці больш пекнаты...

(На экранах: „за“—і „супраць“, „за“—„супраць“).

Гадзюка—час цяпер. Ды што там—
Дзе барацьба? І дзе франты?
Адна нуда... нуда...
Самота!

У канцы рэплікі Бывалава з левага боку чуваць гукі гармоні. Уваходзіць група хуліганаў. Калі яны ўваходзяць, канструкцыя тэмпу выключаецца.

Петрык—Гаўрык (сьпявае).
Вечар быў, зіхцелі зоркі,
Сьнег схаваў і лес, і дол.
Ішло па вуліцы дзіцятка,
Распранала ўсіх наўкол.
(Сьмяюцца, сядаюць, вынімаюць соткі, п'юць).
Марылька.
Корж, ты ня п'еш?
Коржык—Жоржык.
Хлусьня і толькі.
Грак.
А Петрык—спэц на той прадмет!
Петрык—Гаўрык.
Наркамасьветы я
ў галіне бойкі
І алкогольны унівэрсытэт.
Я доўга цацкацца ня стану—
Прыдзеш ў піўную „Піонэрскі ўсход“—
Дайце, кажу,
Што-небудзь кшталтам нарзану:
Расійскай горкай, прыкладам от.
(Усе сьмяюцца).
Ікун.
В-в-ось гэт-т-та так!
Марылька.
З табой бяды!
Пачнеш рыпець...
Ікун.
П-п-пайдзі т-ты к маме!
Грак.
Ён заікаецца заўжды.
Галоўным чынам,
Дык нагамі.
(Марылька заляцаецца да Жоржыка).
Петрык—Гаўрык.
Марго! Ісі!
Магу, здаецца,
Усю дакальту тваю падраць!
(З любасьцю яе аглядае).
Марылька будзе галадаць,
Але як трэба апранецца!
(Ляпае яе па плечы).
Птушка невялічка,
Ды—алкагалічка.
(Грае „Яблычка“).

Ахвіцэрыка
Галубчыка
Расстралялі
Ўчора ў губчэка,
(Кідае сьпяваць, працягваючы грацьь).

Адзін з хуліганаў.
Брыгадзе трэба надаваць.
Другі.
Што гаварыць!
Трэці.
Адно мучэньне!
Грак.
Мы выканаем, брат, на яць.
Чакмазаўскае даручэньне!
Марылька.
А я ня ўцямлю ўсё ніяк:
Нашто заданьне—невядома.
Петрык—Гаўрык.
Я ўжо ведаю, што й як...
(Выцягвае кулак).

Біцьцё
Вызначае сьвядомасьць!
(Пачынае граць прыпеўкі, іншыя скачуць).

Грак.
Была цяжкая работа,
Мужыкі пайшлі касіць,
Цалавацца мне ахвота,
Толькі сорамна прасіць.
Усе.
Эх, гарбату піла,
Самаварнічала,
Усю пасуду перабіла,
Накухарнічала.
Петрык—Гаўрык.
Калі дзеўка возьме шлюб,
Дзеўка будзе дамаю,
Як ня возьме дзеўка шлюбу—
Будзе тое самае.
Усе.
Эх, гарбату піла,
Самаварнічала,
Усю пасуду перабіла,
Накухарнічала.

Марылька.

Стаіць мосьцік сымпатычны,
А пад мосьцікам вада,
Абнімі мяне д'прыцісьні,
Дарагая сымпата.

Усе.

Эх, гарбату піла,
Самаварнічала,
Ўсю пасу...

Коржык—Жоржык.

Ідз-е-е!

Усе хаваюцца акрамя Петрыка, які працягвае ціхутка граць. Шпарка ўваходзіць Карчагін. Петрык раптоўным рухам хоча зьбіць яго з ног, але няўдала.

Карчагін (дабрадушна ляпаючы Петрыка).

Біцца, знаць-ца?
І непачуць.

Петрык.

Братцы-ы-ы!
Братцы-ы-ы!
Нашых б'юць!

(Усе накідваюцца на Карчагіна, звальваюць яго. Бойка. Крыкі).

— Свола-а-ач!
— У шчокі!
— Жорж!
— Нажа!

(Усе падымаюцца ў грозных позах. Карчагін нярухомы. Нямы малюнак).

Петрык.

Чатыры з боку—
Вашых няма.

(Група хуліганаў ня рушыцца. У другім канцы сцэны загараецца сьвятло. Гладкіх стаіць, канапову заплюшчыўшы вочы. Каля яго стукае машыністка. Перад ім Граеўскі, які падняў кулак).

Граеўскі

Дык што-ж?
Брыгадзе быць ці ня быць?

Гладкіх (спакойна пад стук машынкі).

Паглыбіць...
Скантактаваць...
Наладзіць...
Узгадніць...

*Гонг.*

(Працяг будзе).

З расійскае пераклаў **Юлі Таўбін.**

## ЧУЖЫ*)

*(Роман)*

**Дзьмітры Сьверчкоў**

Разьдзел чацьверты

1

— Добры дзень, колега,—спыніў Уладзіка ў калідоры унівэрсытэту Фролаў.—Дзе вы правялі лета?

— На поўдні. „Патушыў папяросу ў Дняпры". Быў сьведкай вельмі цікавай ко:ікурэнцыі паміж двума буйнымі параходзтвамі. Абудвы зьніжалі ў змаганьні за пасажыраў цану білетаў трэцяе клясы і нарэшце дайшлі да таго, што адно з іх абвясьціла цану білета ад Екацярынаслава да Кіева ў пяць капеек з дармовай выдачай кожнаму пасажыру па шклянцы гарбаты з францускай булкай.

— Ха-ха-ха!—разрагатаўся Фролаў, узяў Уладзіка пад руку і адвёў пад акно.—А як настрой?

— Добры. У вагоне ўвесь час ішлі спрэчкі на палітычныя тэмы. Зачэпліваць цара, вядома, небясьпечна, але паліцыю і чыноўнікаў лаюць зусім адкрыта. Я заўсёды ежджу ў трэцяй клясе, там больш цікава. Шмат гавораць пра Талстога і пра адлучэньне яго ад царквы. Гэта тэма яшчэ вельмі сьвежая. Шчапіўся і я з якімсьці вясковым попікам, увязаўся ў спрэчку і пачаў зьнішчаць яго цытатамі з Евангельля, ну, а ён прабаваў спрачацца, а пасьля запрасіў мяне на падмостак пакурыць, а там зьвяртаецца да мяне і кажа: „Малады чалавек, вы—вучоны, а я забыўся ўжо, што праходзілі ў сэмінарыі. Навошта вы кпіце нада мной і спакушаеце просты народ? Спрачацца я з вамі не магу, дойдзе як-небудзь да благачыннага, месца згублю, а ў мяне дзеці"... Прызнаюся, мне шкада яго зрабілася, і я паабяцаў спыніць спрэчкі.

— Дарэмна. Нельга быць такім... мяккацелым,—сказаў, запнуўшыся, Фролаў.—Наш абавязак выкарыстаць кожную магчымасьць для прапаганды. Пра апошнія падзеі чулі?

— Не.

---

*) Працяг. Гл. „Полымя" № 4, 5—6 за 1930 г.

— На другім зьезьдзе нашай партыі адбыўся раскол.

— Раскол? З-за чаго?

— Заходзьце сягоньня на кватэру адваката Бярэзіна, там адзін таварыш, які прыехаў з-за граніцы будзе рабіць даклад.

— Абавязкова прыду. У колькі гадзін?

— У восем. Вы-ж з ім знаёмы?

— Спатыкаўся.

— Скажы для большай пэўнасьці, што ты ад Івана Сьцяпанавіча наконт лекцыі. Там зьбіраецца толькі наша студэнцкая публіка.

Уладзік паціснуў Фролаву руку і накіраваўся ў канцылярыю. Там давялося прарабіць нудную, але няўхільна патрэбную процэдуру запісу на лекцыі і заплаціць за іх. Замільгалі прозьвішчы знаёмых профэсароў: Георгіеўскі, Петражыцкі, протоіерэй Гарчакоў. Давялося заплаціць 49 руб. з капейкамі за паўгодзьдзе. Атрымаў студэнцкі білет, на якім было напісана: Студэнт другога курсу Пецярбурскага Юрыдычнага Факультэту. Што-ж прынёс з сабою новы навучальны год?

З унівэрстыэту пайшоў у сталовую. Там гуў усё той-жа шэры рой студэнцкіх тужурак, выгіналіся хвасты каля кас і каля прылаўка кухні,— быццам жыцьцё на летнія месяцы зусім не перапынялася.

Загадчыца сталовай насьпех прывіталася з Уладзікам, папрасіла прабачэньня, што так шмат клапот. Муж яе яшчэ ня прыехаў з Уралу, куды паехаў па якіхсьці справах.

Уладзік узяў на дзьве капейкі талерку капусты і за адзінаццаць з паловай капеек паўпорцыі адбіўных катлет. Еў, аглядаючы студэнтаў, якія праходзілі, але нікога з тых, з кім хацеў-бы спаткацца, не пабачыў.

Успомніў, што вечарам хацеў ісьці да Ржэўскага. Давядзецца адкласьці. Што там такое вышла на зьезьдзе? Мабыць, што-небудзь вельмі сур'ёзнае, калі справа дайшла да расколу.

2

Каля васьмі гадзін вечара Ўладзік падышоў да вялікага дому на Кірачнай, азірнуўся няпрыкметна навакол, але нічога падазронага не пабачыў. За адчыненымі цяжкімі дзьвярыма яго спаткаў швэйцар.

— Вы да каго?

— Да адваката Бярэзіна,—неахвотна адказаў Уладзік.—Ліха-б іх забрала, гэтых спачуваючых,—мільганула ў галаве,—з іх пранырлівымі швэйцарамі.

— Калі ласка, яны дома,—сказаў швэйцар і націснуў адзін з белых гузічкаў электрычнага званка, памечаны лічбай дванаццаць.—Трэці паверх.

Калі Ўладзік узьняўся да кватэры Бярэзіна, каля адчыненых дзьвярэй ужо стаяла пакаёўка, якая запрасіла яго зайсьці. Яна дапамагла яму скінуць паліто і паказала на асьветленую гасьцінную.

— Зараз далажу. Як пра вас сказаць?

— Сабураў.

— Вось ідыётка!—вылаяўся пра сябе Ўладзік, сядаючы на мяккую скураную канапу.—Зрабіў усё як мае быць, каб парушыць усе правілы консьпірацыі. Швэйцар, вядома, працуе ў ахранцы і зараз-жа данясе пра збор студэнтаў... Ні за вошта ў гэту кватэру не пайду.

— Добры дзень, колега!—вышаў высокі чалавек у сурдуце, з бародкай клінам і акуратна расчэсанымі вусамі.

— Я ад Івана Сьцяпанавіча наконт лекцыі, — пачаў Уладзік, але Бярэзін перабіў яго.

— Пакінем умоўнасьці. Гэта для незнаёмых, а вас я памятаю, мы спатыкаліся ў Шырынава.

— Яшчэ не сабраліся?—запытаўся Ўладзік.

— Вы—першы, казалі, што будзе чалавек дзесяць.

— Вашы кватэрныя ўмовы такія, што паліцыя, мабыць, ведае па прозьвішчах усіх вашых наведвальнікаў.

— Гэта вы пра швэйцара і іншае? Не клапацецеся. У мяне бывае гэтулькі народу, што ніякай паперы не хапіла-б запісаць... Ці ня хочаце гарбаты?

Уладзік не пасьпеў адмовіцца, як у гасьцінную ўвайшла пакаёўка, якая адчыніла яму дзьверы, з падносікам, на якім стаялі дзьве шклянкі гарбаты, цукерніца з шчыпцамі, сподачак з цытрынай і кошычак з пячэньнем.

— Пастаўце сюды на столік,—сказаў Бярэзін.

Пачуўся званок. Пакаёўка хутка вышла ў прадпакой.

— Ну вось, пачалі зьбірацца. Пярэйдзем у сталовую,—сказаў Бярэзін, устаючы.

Праз некалькі мінут сталовая напоўнілася студэнцкай моладзьдзю і ахуталася слупамі дыму ад папярос, вялікую пачку якіх гаспадар паставіў на стол для агульнага карыстаньня. Увага ўсіх спынілася на адным, апрача Бярэзіна, штацкім, у якім угадвалі дакладчыка, што прыехаў з-заграніцы. Рэшта была ў студэнцкіх тужурках.

— Здаецца, усе?—зьвярнуўся Бярэзін з запытаньнем да Фролава.— Можна пачынаць?

Фролаў адказаў—можна. Бярэзін пазваніў у грушу, што вісела, ды загадаў пакаёўцы, якая ўвайшла, прыбраць са стала. Праз мінуту абрус быў зьняты, і перад кожным з прысутных зьявіўся клапатліва паложаны гаспадаром ліст чыстай паперы і завостраны алавок. Уладзіку стала няёмка ад гэтакай услужлівасьці, у якой адчувалася ненатуральнасьць.

— Зусім як у Акадэміі Навук!—да яго зьдзіўленьня заўважыў дакладчык.

Бярэзін усьміхнуўся.

— Пытаньні, якія падлягаюць нашаму абмеркаваньню, вельмі сур'ёзныя і прабачаюць абставіны афіцыйнага паседжаньня. Слова даецца

тавар ышу?—нахіліўся ён з пытаньнем да прыехаўшага і, атрымаўшы адказ, голасна сказаў:—таварышу Грыгорыю.

Уладзік узьняў вочы на Фролава і спаткаўся з яго кеплівым па адрасу Бярэзіна поглядам: адвакат так упэўнена ўзяў на сябе ролю старшыні, быццам-бы гэта так і трэба было. Хіба ён член партыі?

Прыехаўшы паправіў пэнснэ і ціхім, але выразным голасам пачаў гаварыць пра другі зьезд партыі, які толькі што скончыўся.

Уладзік з нецярплівасьцю слухаў доўгае паведамленьне аб тым, што зьезд быў скліканы організацыйным камітэтам, што былі на ім чатырнаццаць камітэтаў партыі, тры саюзы камітэтаў, адзін рабочы саюз, група вызваленьня працы, саюз і ліга соцыял-дэмократаў, організацыя „Искры“ і замежны камітэт „Бунду“,—жадаючы, каб дакладчык хутчэй паведаміў прычыны расколу. Аднак, гутарка хутка захапіла яго.

Прыехаўшы паведаміў, што „Искра“ зацьверджана цэнтральным органам партыі. У організацыі партыі праведзен цэнтралісцкі прынцып, на чале партыі пастаўлены цэнтральны орган для забесьпячэньня ідэёвага кіраўніцтва і цэнтральны камітэт для аб‘яднаньня і кіраваньня ўсёй практычнай работай партыі. Над абедзьвюма гэтымі організацыямі ў якасьці вышэйшага органу партыі створан Савет. Забясьпечана аўтономія мясцовых камітэтаў і наогул усіх установаў партыі—ва ўсіх падначаленых ім галінах работы. „Бунд“ прапанаваў зьезду прыняць пастанову, па якой ён зьяўляецца адзіным прадстаўніком яўрэйскага пролетарыяту і ніякімі раённымі рамкамі не абмяжован. Зьезд большасьцю галасоў адхіліў гэту прапанову, і тады дэлегаты „Бунда“ пакінулі зьезд і заявілі, што іх організацыя выходзіць з расійскай соцыял-дэмократычнай партыі. Прыняты рэзолюцыі аб профэсыянальным змаганьні, аб дэмонстрацыях, аб руху сярод студэнтаў, аб адносінах да лібэралаў, аб рабоце сярод сэктантаў, аб паводзінах на допытах і да т. п. У рэдакцыю „Искры“ выбраны Плеханаў, Мартаў і Ленін. Мартаў адмовіўся прыняць месца ў рэдакцыі. Пасьля зьезду Ленін таксама вышаў з рэдакцыі, заявіўшы, што застаецца супрацоўнікам „Искры“. Член рэдакцыі Плеханаў на падставе §12 статуту партыі коопатаваў у рэдакцыю чатырох былых яе членаў: Засуліч, Аксэльрода, Стараверава і Мартава, які ўступіў у рэдакцыю, паказаўшы гэтым, што прычынай яго адмаўленьня быў удзел у рэдакцыі таварыша Леніна. Вострым пытаньнем зьезду—нечакана для яго ня толькі ўдзельнікаў, але і організатараў—стала пытаньне аб статуце партыі, і нават ня так аб статуце, колькі аб яго першым артыкуле, які вызначаў, хто зьяўляецца членам партыі. Былі запрапанаваны дзьве формулёўкі. Першая—у рэдакцыі Мартава—гаварыла: „Членам РС-ДРП лічыцца кожны, хто прымае яе праграму, хто падтрымоўвае партыю матэрыяльнымі сродкамі і робіць ёй рэгулярную асабістую дапамогу пад кіраўніцтвам аднэй з яе організацый“. Другую формулёўку запрапанаваў Ленін: „Членам партыі лічыцца кожны, хто прымае яе праграму і падтрымоўвае партыю як матэрыяльнымі сродкамі, так і аса-

бістым удзелам у аднэй з партыйных арганізацый". Вакол гэтых дзьвюх формулёвак разгарнуліся шырокія спрэчкі. Выбары цэнтральнага камітэту партыі прайшлі пад знакам жорсткага змаганьня гэтых двух плыняй, пры чым перамаглі ленінцы. „Искра" абвешчана цэнтральным органам партыі, але ў асяродку яе рэдакцыі пачалося змаганьне, якое скончылася выхадам з рэдакцыі таварыша Леніна. Плеханаў, які спачатку падтрымліваў Леніна, хутка перайшоў ад яго на бок Мартава і пачаў граміць прыхільнікаў Леніна. Рэдакцыя цэнтральнага органу апынулася ў руках мартаўцаў. Падставы для расколу, наколькі я іх разумею, можна формуляваць так: Ленін патрабуе ад кожнага члена партыі дысцыплінаванасьці і поўнага падначаленьня дырэктывам кіраўнічых органаў партыі ва ўсіх пытаньнях палітыкі і тактыкі, а апрача таго, што зьяўляецца самым істотным, патрабуе, каб кожны з членаў партыі выконваў работу ў асяродку партыйнай арганізацыі. Мартаў і яго прыхільнікі задавальняюцца простай дэкларацыяй аб прыняцьці праграмы партыі і пры гэтай умове згодны лічыць членам партыі кожнага, хто акуратна плаціць членскія ўзносы.

— Хто гэты Ленін?—запытаўся Уладзік шэптам Фролава.

— Адзін з арганізатараў „Саюзу Змаганьня". Ён быў у ссылцы ў Сібіры, а цяпер, мабыць, уцёк адтуль заграніцу. Ён напісаў кнігу „Разьвіцьцё капіталізму ў Расіі" пад псэўдонімам „Уладзімер Ільін"—вы яе, мабыць, чыталі?

— Паны,—сказаў Бярэзін.—Даклад таварыша Грыгорыя надзвычай цікавы. Нас ня можа не хваляваць асабліва тая частка, якая тлумачыць дайшоўшыя да нас смутныя чуткі пра раскол, які адбыўся. Прапаную абмяняцца поглядамі з прычыны заслуханага паведамленьня. Хто просіць слова?

— Дазвольце мне,—сказаў Фролаў.

— Уладзіка зьдзівіў спакой, з якім ён асьмеліўся першым выступіць у прысутнасьці прыехаўшага з-заграніцы дакладчыка па пытаньнях зьезду партыі.

— Таварыш Ленін зусім праў,—пачуўся ўпэўнены голас Фролава.— Нашы партыйныя арганізацыі засьмечаны. Лік іх, які часта даходзіць да некалькіх дзесяткаў, а то і соцен чалавек, зусім не адпавядае іхняй працаздольнасьці і значэньню. Бывае так, што большасьць членаў арганізацыі складаюць зусім не рабочыя, на якіх мы абапіраемся, а інтэлігенцыя, якая лічыць, што яна выканала ўсе свае абавязкі ў дачыненьн да партыі і рэволюцыі, калі дае па поўрубля або па рублю на месяц. Пры такіх умовах партыя ня можа мець ніякай упэўненасьці ў тым што ёсьць якая хочаце, але не арганізацыя, што выконвае патайную работу і праводзіць дырэктывы партыйных цэнтраў. Гэтаму, зусім правільна, трэба пакласьці канец.

— А якое-ж становішча ў партыі будуць займаць людзі, якія ўсім сэрцам спачуваюць задачам і мэтам партыі, але якія ня маюць магчы-

масьці актыўна працаваць у гуртках, на фабрыках, заводах?—запытаўся ў Фролава, як здалося Ўладзіку, з адценьнем гневу Бярэзін.

— Яны застануцца ў ролі спачувальных, членаў-спаборнікаў, калі хочаце,—спакойна адказаў Фролаў.

— Але ці можна задаволіцца гэтай ня зусім пэўнай роляю?—казаў далей Бярэзін.—Ня трэба забывацца, што якраз ад гэтых людзей партыя патрабуе і атрымоўвае значную грашовую дапамогу. На вашы поўрублі або чацьвертакі наўрад ці можна пабудаваць хоць адну друкарню, або організаваць зьезд, які каштаваў, вядома, не адзін дзесятак тысяч рублёў. Мяне гэта цікавіць і асабіста. Ня будзеце-ж вы вымагаць ад мяне,—казаў ён далей, зьвяртаючыся да Фролава,—каб я выступаў на масаўках на заводзе, або прымаў удзел у дэмонстрацыі? Хто-ж вас тады будзе абараняць перад судом?—дадаў ён, сьмяючыся.

— Я поўнасьцю згодзен з таварышам Бярэзінам,—сказаў высокі студэнт з калматай чупрынай, які сядзеў, апёршы галаву на доўгія рукі з вострымі локцямі.—Ва ўмовах падпольнай работы нельга ставіць такія жорсткія патрабаваньні.

— Вы-ж добра разумееце,—абрадаваўся падтрыманьню Бярэзін,—што годнасьць члена партыі роўна нічога, напрыклад, мне, не дае, акрамя баязьлівасьці быць засуджаным па 126 артыкуле, які пагражае катаргай. І калі вы хочаце адняць у нас і гэту одыозную прывілею, дык што-ж нам застаецца? Які ўнутраны стымул іншага парадку вы запрапануеце нам узамен, каб падтрымаць нашу энэргію ў нашай моцы дапамагчы рэволюцыі? Вы пазбаўляеце нас нават годнасьці члена партыі, пазбаўляеце магчымасьці прымаць удзел у абгаварэньні важнейшых пытаньняў рэволюцыйнага жыцьця!

— Дазвольце сказаць мне,—вымавіў высокім тэнарам чарнявы студэнт, які сядзеў каля дубовага буфэту.—Я лічу раскол, які адбыўся, вялікай памылкай. Нашы рэволюцыйныя сілы і так страшэнна распылены. Я зразумеў-бы, калі-б зьезд вырашыў, захоўваючы змаганьне ў галіне тэорыі з народнікамі, поўнасьцю,—я гэта падкрэсьліваю—аб'яднаць нашу работу супроць самаўладзтва з соцыялістымі-рэволюцыянэрамі, рознагалосьсі з якімі застаюцца зусім незразумелымі для шырокіх рабочых мас. Мяне часта пыталіся пра гэта і поўнасьцю абвінавачвалі нашу соцыялдэмократычную партыю ў няпрымірэнчай позыцыі ў дачыненьні да соцыялістых-рэволюцыянэраў, якія робяць, нарэшце, адну з намі справу і якія зьяўляюцца нашымі сапраўднымі саюзьнікамі. А тут заместа такога аб'яднаньня, якое значна павялічыла-б нашы сілы,—мы маем раскол у самай соцыял-дэмократычнай партыі. Як мы цяпер пойдзем да рабочых з тлумачэньнямі прычын гэтага расколу? Тут дакладчык гаварыў пра пункты разыходжаньня на зьезьдзе. Прабачце, але спрэчкі з гэтых формулёвак—чыстая схолястыка! Ці ня ўсё роўна, ці будзем мы лічыць членам партыі якога-небудзь Івана Іванавіча, які дапамагае нам грашыма, дае сваю кватэру для сходаў, захоўвае літаратуру, адным словам, робіць

тысячы вялікіх паслуг? Галоўная работа партыі ляжыць, вядома, не на ім, і ад гэтага яна ані не пацерпіць. Але, нават пакідаючы ў баку гэтыя меркаваньні, раскалваць партыю па гэтаму пытаньню,—гэта праступак, якому няма назвы!

Студэнт хваляваўся, валасы яго раскудлачыліся і навісьлі доўгімі пасмамі на лоб, і ён у часе прамовы з крыўдай адмахваўся ад іх, закідваючы назад правай рукой.

Уладзік сядзеў, як на іголках, страшэнна жадаючы ўмяшацца ў гутарку і разам з тым адчуваючы, як сэрца спыняецца пры аднэй думцы аб тым, што раптам усе змоўкнуць і будуць пазіраць на яго, чакаючы яго прамовы. Нечакана для самога сабе, ён папрасіў слова і ўстаў, сьціскаючы дрыжачыя ад хваляваньня рукі.

— Мне здаецца... я думаю... ці бачыце...—пачаў ён, зьбіваючыся,—адна справа заграніца, а другая—Расія. Там сядзяць тэорэтыкі—я не хачу ані ўніжаць іх вялічэзнай творчай работы,—але шмат якія з іх, як Плеханаў, ужо другую чвэрць века адарваны ад Расіі. Ленін уцёк з ссылкі, а ўмовы работы мяняюцца ў нас ледзь ня кожны дзень, і яны, вядома, сачыць за яе зьменамі ня могуць... Я разумею глыбокія прынцыповыя рознагалосьсі нашы з народнікамі і соцыялістымі-рэволюцыянэрамі, якія перашкаджаюць нам зьліцца ў адну партыю,—хоць спадзяюся, што разьвіцьцё капіталізму ў Расіі (цьфу, ліха, прывёў проста назву кнігі Леніна!—мільганула, як маланка, у галаве) пераканае ў бліжэйшым будучым народнікаў у тым, што стаўка на сялянскую суполку нічога ня варта. Аднак, і цяпер, я думаю, ніхто не протэставаў-бы, калі-б мы зрабілі часовую згоду з тымі-ж соцыялістымі-рэволюцыянэрамі, для якога-небудзь аднаго рэволюцыйнага выступленьня. Напрыклад, ніхто-б не пачаў іх гнаць з дэмонстрацыі, арганізаванай намі, калі-б яны зьявіліся на яе і прынялі-б у ёй удзел... Аднак, я ўхіліўся. Дык вось, нашы замежныя таварышы захапіліся тэорыяй. Мабыць, яны зусім выпусьцілі з-пад увагі, што нам тут давядзецца ўгрунтоўваць на рабочых гурткох факт расколу, а калі для нас, інтэлігенцыі, прычыны яго ня зусім зразумелыя, дык як уцямяць іх рабочыя? Мне здаецца, што раскол выкліча скрозь нездавальненьне партыяй.

Уладзік сеў, адчуваючы, што сарочка яго пад тужуркай на сьпіне ўся мокрая ад поту. Раптам у галаву яго прышлі новыя грунтоўныя довады супроць расколу, і зрабілася крыўдна, што ён іх ня выказаў.

У заключным слове дакладчык далучыўся да Фролава і раіў не баяцца паведаміць шырокія рабочыя колы аб тым, што адбылося, бо пролетарыят добра разумее, якую вартасьць мае дысцыпліна і строгая цэнтралізацыя партыі, пры якой толькі і можа быць забясьпечана разгортваньне правільных рэволюцыйных лёзунгаў. „Адмятаючы ад партыі чужыя пролетарыяту элемэнты, мы толькі ўзмоцнім яго давер'е да партыі",—скончыў ён даклад.

Бярэзін палічыў патрэбным далікатна падзякаваць яго за паведамленьне, чым выклікаў грымасу ў Фролава, які прабурчэў: Ён не артысты, каб дзякаваць яго.

3

— Добры дзень, паніч,—скінуўшы шапку з шырокім галуном, вітаў Уладзіка швэйцар Ржэўскіх.—Калі ласка, Аляксей Міхайлавіч дома.

— Добры дзень,—адказаў Уладзік. Швэйцар гэты кожны раз напамінае Ўладзіку адзін няпрыемны выпадак. Неяк на новы год Уладзік быў у Ржэўскіх, і, вельмі задаволены, што швэйцар кудысьці адлучыўся і ня трэба даваць на гарбату на яго прывітаньні, хутка ўзьняўся па знаёмых усходах. Прабыўшы ў Ржэўскага з поўгадзіны, ён сыходзіў уніз і пабачыў швэйцара на звычайным месцы, каля парадных дзьвярэй. Заместа таго, каб хутка прайсьці, Уладзік замарудзіў і нечакана для сябе папрасіў у яго агню прыкурыць папяросу. Швэйцар адразу выканаў яго жаданьне і, працягваючы запалку, выказаў навагодняе павіншаваньне. Давялося дастаць портуманэт, у якім не знайшлося нічога, апрача аднэй трохрублёўкі, якая і перайшла ў кішаню швэйцара, усьцешанага такой шчодрасьцю... Не папросіш-жа рэшты! А Ўладзіку давялося пяшком валачыся за Неўскую заставу і пазычыць у аднаго з рабочых поўрубля, каб дабрацца адтуль дамоў.

— Уладзімер Мікалаевіч! А я вас зачакаўся,—ветліва спаткаў Уладзіка Ржэўскі, дапамог яму скінуць паліто і павёў у свой габінэт.

— Як добра, што вы прышлі. Я-ж толькі з вамі магу пагаварыць „па душы“, як кажуць. Уся наша публіка такая нудная: у лепшым выпадку паўтараюць нязьлічоны лік раз які-небудзь палітычны анэкдот. Што новага на небасхіле? У міністэрскіх колах цешацца з прычыны расколу ў соцыял-дэмакратаў. Спадзяюцца, што гэта зьнясіліць іх і будзе лягчэй паліцыі змагацца з рэволюцыянэрамі.

Уладзік расказаў пра раскол і яго прычыны. Ржэўскі слухаў з напружаньнем. Пасьля задумаўся.

— Я знаходжу, што Ленін праў. Ён баіцца, як-бы партыя не ператварылася ў той нямецкі парлямант, пра які Гэйнэ сказаў: Fünf und siebzig Professoren,—Vaterland, du bist verloren! *) Раней ці пазьней трэба было высунуць гэтыя пытаньні. Але я баюся, што ён пасьпяшыў. На цяперашнім этапе змаганьня найбольш патрэбна аб'яднаньне ўсіх рэволюцыйных сіл. Дамажэцеся конституцыі, а пасьля ўжо можна ісьці далей. А як ваш погляд?

— Сорамна сказаць, але я пэўнага погляду яшчэ ня маю. Мне здаецца, што нарэшце абедзьве часткі партыі дагаворацца. Рознагалосьсі-ж не такія вялікія, каб выключалі ўсялякую магчымасьць пагоджаньня на прамежнай, быць можа, формулёўцы. Будзем пакуль праца-

*) Семдзесят пяць профэсараў,—айчына, ты загінеш!

ваць, як і раней, а там пабачым. Вашым адрасам на пасылкі з-заграніцы і вашай шафай, каб захоўваць літаратуру, можна карыстацца, як і раней?

— Вядома, але з дазволам мне прачытваць тое, што вы дасьце схаваць з літаратуры. Асабліва па пытаньнях расколу.

— Калі ласка, нічога ня маем супроць.

— Хадзем у сталовую выпіць гарбаты. Дарэчы, вы пабачыце там кагосьці з вашых старых знаёмых.

Стол быў ужо накрыты. На нізенькім століку каля месца гаспадыні стаяў, выплёўваючы струменікі пары, срэбны самавар. Аднак за сталом яшчэ нікога ня было.

Ржэўскі запрасіў Уладзіка заняць месца побач з сваім.

Праз хвіліну ўвайшла матка Ржэўскага, за ёй Уладзік пабачыў зьдзіўленыя вялікія шэрыя вочы, з цікавасьцю накіраваныя на яго. Каця!

— Вы?—сказаў, вітаючыся з ёй, Уладзік,—прыехалі з Стажарава? Надоўга?—гаварыў ён, аглядаючы яе ўзмужалую постаць у доўгай сукенцы.

— Які вы сталі сур'ёзны!—замест адказу, на запытаньне сказала Каця.—Калі-б спаткала вас на вуліцы, ні за што не пазнала-б. Вусы... Ды і наогул вы сталі такім дарослым. Мабыць, ужо канчаеце унівэрсытэт?

— Што вы! Я яшчэ толькі на другім курсе.

— А я думала па тужурцы: яна ў вас даволі старая...—сказала Каця і сунуцілася. Уладзік пачырванеў да карэньняў валасоў. Ён ненавідзеў усё новае і шыкознае, а ў гэты момант хацеў-бы быць апранутым з іголачкі.

— Ну, і язычок у цябе!—усьміхаючыся сказала генэральша Ржэўская.—Трымай яго на прывязі ў дачыненьні хоць-бы да нашых сяброў.

— Прабачце, цёця, зноў згапіла... Прабачце, Уладзімер Мікалаевіч, я не хацела вас укалоць, а проста так вышла.

— Калі ласка, не прасеце прабачэньня,—адказаў Уладзік.—Дасьціпнасьць заўсёды добрая рэч сама па сабе і нічога, апрача задаваленьня, прынесьці ня можа.

— Калі яна ўдалая,—сказала Ржэўская.—Вазьмеце гарбату, прашу вас,—працягнула яна Уладзіку налітую шклянку.—Цытрына, варэньне, кекс, сьліўкі бярэце самі. Каця, даглядай Уладзімера Мікалаевіча.

— Чаго вам палажыць?—запыталася Каця.

— Хацеў-бы сьлівачнага сыру, але яго няма, на вялікі жаль...—адказаў з усьмешкаю Уладзік.

— А вы памятаеце, як яго робяць?

Абое засьмяяліся, успомніўшы толькі ім дваім вядомае здарэньне з такога далёкага мінулага.

— Памятаю. Усё хочацца як-небудзь самому папробаваць зрабіць. Але няма ні абсталяваньня для гэтага, ні матэрыялу. Вы надоўга ў Пецярбург?—паўтарыў сваё запытаньне Уладзік.

— На месяц-другі, калі ня выганяць адсюль раней,—запытальна ўсьміхнулася па адрасу Ржэўскай Каця.—Сорам сказаць,—за туалетамі. У нас-жа нічога добрага ня зробіш, а мне цяпер трэба адзявацца.

— Інстытут ужо кончылі?

— Яшчэ ў мінулым годзе. А цяпер займаюся гаспадаркай, дапамагаю бабцы, якая ўжо старэе і даглядзець за ўсім ня можа.

Уладзіку ўспомніліся прароцтвы Васіля Каштана. Ён дапытліва паглядзеў на Кацю. Няўжо цяпер яна штрафуе сялян за патравы, забірае іх жывёлу... „Ня можа быць!"—сказаў ён пра сябе, бачачы яе вялікія даверлівыя і праўдзівыя вочы.

— Вам, мабыць, сумна вазіцца з сялянамі, выслухваць іх жалабы і просьбы?—запытаўся ён.

— Так, нявесела. Яны такія зайздросныя: толькі і стараюцца ўварваць што-небудзь. Прытвараюцца сьмірнымі, а спадцішка робяць усялякія гадасьці,—прагаварыла Каця спакойна, але раптам змоўкла, узьняўшы погляд на Ўладзіка і заўважыўшы хваравітую складку на яго ілбе.

Ржэўскі пераняміў гутарку.

— Ты папрасіла-б Уладзімера Мікалаевіча парады, у якія тэатры пайсьці і што паглядзець. Ён у курсе найноўшай драматургіі і музыкі.

Каця ажывілася.

— Парадзьце, калі ласка, а то я тут, як у лесе. Я-ж ня толькі провінцыялка, але зрабілася проста дзеравеншчынай.

У Ўладзіка раптам прапала да яе ўсякая цікавасьць. Ён пазіраў наяе зусім спакойна і зьдзіўляўся ўнутры, што яму ў ёй магло падабацца? Правільныя рысы твару, прыгожыя вочы, у якіх цяпер ня было выразу дабраты і мяккасьці, маладасьць? Але, вядома, ніякага ўнутранога зьместу, у думках толькі сукенкі, балі, вечары і, як нудная неабходнасьць, запісы рахункаў па двары. Каштанава была праўда.

— Вы ня бачылі „На дне" Максіма Горкага? Раю схадзіць. Хутка якраз пачнуцца гастролі Маскоўскага мастацкага тэатру. Паглядзіце таксама „Преступление и наказание" з Далматавым у ролі Мармаладава і Орленевым у ролі Раскольнікава. З опэр, здаецца, нічога новага няма.

— Абавязкова пайду. „Преступление и наказание"—гэта па роману Дастаеўскага?

— Так, пераапрацоўка.

Уладзік разам спахваціўся, што ні слова не сказаў матцы Ржэўскага.

— Як вы правялі лета?—зьвярнуўся ён да яе.

— Як заўсёды. Была ў Біарыцы, адтуль праехала проста ў наш двор у Цьвярскую губэрню. Адчуваю там сябе вельмі добра. У нас-жа амаль няма зямлі: усяго пятнаццаць або дваццаць дзесяцін пад сядзібай і садам, так што клопатаў і няпрыемнасьцяй мы з сялянамі ня маем. Прыяжджайце як-небудзь да нас пагасьціць. У нас знойдзецца для вас што-небудзь цікавае: напрыклад, гістарычная хвоя, пад якой Бакунін разьвітаўся з сваякамі перад ад'ездам назаўсёды заграніцу. Гэта па вашай частцы.

— Чаму?—запыталася Каця.—Хіба вы зрабіліся рэволюцыянэрам?

— Мяне, як і раней, цікавяць пытаньні рэволюцыйнага руху.

— Спачатку кончыце унівэрсытэт, а там ужо займайцеся палітыкай,— гэта мой погляд, для вас, вядома, неабавязковы,—заўважыла Каця.

— Па календару жыць нельга,—хіба толькі ў сельскай гаспадарцы,— з адценьнем гідлівасьці адказаў Уладзік.

Каця паглядзела на яго зьдзіўлена.

— Яго сьветласьць, князь Беласельскі-Белазерскі!—далажыў камэрдынэр.

— Прасі,—сказала гаспадыня, устаючы на спатканьне новаму госьцю.

У дзьвярах паказаўся высокі пажылы чалавек з вострай белай барод-кай у абшытым золатам мундзіры, з камэргэрскім ключом на баку і сіняй ордэнскай істужкай цераз плячо.

— Добры дзень, дарагая,—схіліўся стары да рукі Ржэўскай.—Ня мог адмовіць сабе ў прыемнасьці правесьці ў вас з поўгадзіны.

— Вельмі рада, што не забываеце старых сяброў,—адказала гаспадыня.—Чаму гэта вы ў такім парадзе? З пасяджэньня?

— З камітэту па далёка-ўсходніх справах. Быў агульны сход пад старшынствам яго вялікасьці,—адказаў стары, вітаючыся з іншымі прысутнымі.

— Сядайце каля мяне і апавядайце,—запрасіла Ржэўская, наліваючы шклянку гарбаты.

— Хто гэты студэнт?—ціха запытаўся, сядаючы, стары і зрабіў рух галавой у бок Уладзіка.

— Сабураў, Уладзімер Мікалаевіч, унук адмірала Пятра Мікалаевіча, калі вы памятаеце.

— Як-жа, памятаю, памятаю,—адказаў князь і паглядзеў спагадліва на Ўладзіка.—А я, прабачце, падумаў, што хто-небудзь з чужых.

— Як сябе адчувае імпэратар?

— Відавочна, добра. Надзвычайна вёў сягоньня пасяджэньне і паказаў сябе надзвычайна цьвёрдым. Мабыць атрымаў суровыя інструкцыі.

Стары стрымана засьмяяўся, прыкрыўшы рот рукой і паказваючы гэтым, што сьмех у гэтым выпадку могуць дазволіць сабе ня ўсе.

— Ну, апавядайце пра пасяджэньне,—зьвярнулася да яго гаспадыня.

— Так і быць. Але пад вялікім сакрэтам,—абвёў стары вачыма ўсіх прысутных.—На парадку дня стаяла адно пытаньне: аб ускладненьнях на Далёкім Усходзе. Пастанавілі даць патайныя ўказаньні адміралу Аляксееву, каб ён рыхтаваўся да вайны. Аднак, мы ўсе аднадушна выказалі імпэратару нашы ўсепадданейшыя меркаваньні аб тым, што Расія ні ў якім выпадку пачынаць вайны не павінна. Увесь наш народ надзвычайна цэніць міралюбную палітыку імпэратара, якая выявілася перш за ўсё ў яго ініцыятыве па скліканьню Гаагскай конфэрэнцыі, і абвяшчэньне вайны з нашага боку зьявілася-б у вышэйшай ступені непажаданым ня толькі перад нашай краінай, але і перад усім сьветам. Трэба, каб пачалі японцы.

Ржэўская глыбока ўздыхнула.

— Будзем рыхтавацца да вайны. Значыцца, так хоча бог.

Уладзік з-пад ілба зірнуў на яе.

— Пярэйдзем у гасьцінную,—запрасіла, устаючы, гаспадыня.

Стары пацалаваў яе руку і выйшаў з сталовай. Уселіся на канапе і на крэслах.

— Прашу вас, курыце, панове,—запрасіла Ржэўская, ставячы на стол срэбны пудэлак з папяросамі.

Князь далей апавядаў падрабязнасьці пра пасяджэньне, перадаваў паасобныя прамовы, спыняўся на паасобных сказах і даваў комэнтарыі да іх, падрабязна апісваў кожны рух цара, падкрэсьліваў, пры якіх словах ён нахмурыў лоб і пры якіх ласкава ўсьміхнуўся, гаварыў доўга, перасыпаючы апавяданьне францускімі выразамі і зьвяртаючыся то да аднаго, то да другога з прысутных.

— Як вы думаеце, князь,—зьвярнулася да яго Ржэўская,—ці будзе мець вайна ўплыў на курс каштоўных папер?

— Вядома! Як добра, што вы пра гэта напомнілі! Проста з галавы вон. Я заўтра-ж зраблю распараджэньне кіраўнічаму, каб ён па крысе, не ствараючы панікі на біржы, пачаў прадаваць дзяржаўныя займы і акцыі і скупляць чужаземныя процантныя паперы. Яны, праўда, даюць менш прыбытку, але цяпер надыходзяць не такія часы, каб думаць пра прыбыткі.

— Алёша, трэба і нам пайсьці за разумным прыкладам князя,—сказала Ржэўская, зьвяртаючыся да сына.—Калі ласка, не забудзьцеся заўтра-ж аддаць належнае распараджэньне.

Уладзік нэрвова дакурваў папяросу, стараючыся задушыць нясьцерпнае жаданьне ўмяшацца ў гутарку, але ня вытрымаў.

— Мне здаецца, падзеі, якія надыходзяць, павінны прымусіць імкнуцца павялічыць грашовыя сродкі дзяржавы, а не зьмяншаць іх, прадаючы аблігацыі займаў і тым дапамагаць зьніжэньню іх курсу,—вельмі голасна і выразна сказаў ён і чагосьці ўстаў з крэсла.

— Князь паправіў пэнснэ і ўважліва акінуў яго з ног да галавы, як штосьці такое, чаго ня бачыў да гэтага часу. Генэральша прыкусіла вусны.

— Уладзімер Мікалаевіч не зьяўляецца ўладаром працэнтных папер, і таму яму лёгка гаварыць пра тое, што яго зусім не чапае,—сказала яна, зьвяртаючыся да князя з прабачлівай вымушанай усьмешкай па адрасу Ўладзіка.

— Я ня ведала, што вы такі патрыёт,—уставіла з свайго боку Каця, заслужыўшы гэтай заўвагай удзячлівы погляд Ржэўскай.

— Я зусім не патрыёт у тым сэнсе, як вы гэта разумееце. Я пераканаы прыхільнік міру і вораг вайны, а асабліва гэтай, для якой няма ніякіх падстаў. Але я выказаў сваю думку, стараючыся стаць на ваш пункт гледжаньня.

— Імпэратар пасьля пасяджэньня выехаў у Царскае Сяло?—запыталася Ржэўская ў князя, робячы выгляд, што зусім ня чула слоў Уладзіка і перапыняючы гэтым няпрыемную гутарку.

Князь павесялеў, успомніўшы штосьці надзвычай цікавае і важнае, што ня трымалася на языку. Аднак, ён не адказваў, абводзячы бездапаможным поглядам гаспадыню і Кацю.

— Каця, калі ласка паклапаціся пра вячэру,—сказала Ржэўская.

Каця вышла.

Кінуўшы яшчэ раз няпрыхільны погляд па адрасу Ўладзіка, князь падсунуўся бліжэй да Ржэўскай.

— Імпэратар пасьля паседжаньня паехаў проста да Кшэсінскай,—у голас вымавіў князь, азірнуўшыся чагосьці назад і захапляючыся зробленым уражаньнем.

— Значыцца, зварот прыязнасьці?—запыталася Ржэўская.

— Поўны. Я ўпэўнен, што на скромнасьць гэтага маладога чалавека можна спадзявацца поўнасьцю, не зважаючы на яго... самаўпэўненасьць?—сказаў князь па адрасу Ўладзіка і, не чакаючы адказу, гаварыў далей.

— Танцы, асабліва іх таленавітыя выканальніцы, пачынаюць граць усё большую ролю пры двары. Вялікі князь Аляксей днюе і начуе ў Балетта, пра Ўладзімера і Ўладзімеравічаў і казаць няма чаго. Я ўжо думаю, ці не зрабіцца і мне балетаманам!—голасна расьсьмяяўся князь, скідаючы пэнснэ і робячы запытальную міну.—Надзеннасьць інтарэсаў цяпер, апрача балета,—яшчэ і тое, што не хапае сродкаў на сканчэньне пабудовы храму на месцы забітага цара Аляксандра II. Ужо два разы каштарыс усіх выдаткаў па пабудове гэтага храму быў пакрыты адпаведнымі асыгнаваньнямі і паступленьнямі ад ахвяраваньняў поўнасьцю. Але зноў каса пустая...

— Старшынёю камітэту па гэтай пабудове зьяўляецца, здаецца, вялікі князь Уладзімер Аляксандравіч?—запытаўся Ржэўскі.

— Зусім правільна. Увекавечаньне памяці яго бацькі перададзена ў цьвёрдыя і... дастойныя рукі сына.

— Не хацела-б я папасьці калі-небудзь да вас на язычок, дарагі князь,—засьмяялася Ржэўская.

— Есьці пададзена!—вырас у дзьвярах камэрдынэр.

Усе перайшлі зноў у сталовую.

4

Атрыман 53 нумар „Искры“. Першы раз на загалоўку стаіць буйнымі літарамі: Цэнтральны орган Расійскай Соцыял-Дэмократычнай Рабочай Партыі. Нумар запоўнен паведамленьнямі пра зьезд. Да нумару прыложан спэцыяльны дадатак програмы і статуту партыі. Уладзік перш за ўсё прачытаў першы пункт статуту. Ён быў надрукаваны ў тэй самай рэдакцыі, як гаварыў дакладчык з-заграніцы. Пункт дванаццаты, які цікавіў Уладзіка, на падставе якога Плеханаў кооптаваў у склад рэдакцыі „Искры“, заместа выбраных на зьезьдзе,—членаў старой рэдакцыі, якія не атрымалі зьездаўскіх поўнамоцтваў, чытаўся так: „...для кооптацыі новых членаў і выключэньня іх патрабуецца дзьве трэці гала-

соў, калі няма мотывіванага протэсту... Кооптацыя новых членаў у Цэнтральны камітэт або ў рэдакцыю цэнтральнага органу праводзіцца аднагалосна. Калі... не дасягнута аднагалоснасьць, пытаньне можа быць абжалавана ў Савет..." Прычым тут дзьве трэці галасоў і аднагалоснасьць, калі Плеханаў застаўся ў рэдакцыі толькі адзін? Чаму вышаў з рэдакцыі Ленін? Паведамленьне аб гэтым было на першай балоне, але без усялякага мотываваньня. Быў доўгі артыкул бяз подпісу пад загалоўкам „Наш с'езд". Аб рознагалосьсях на зьезьдзе ў ім гаварылася надзвычай глуха. І ў артыкуле прасочваўся намер не надаваць ім сур'ёзнага значэньня. Ліквідаваны пэрыод саматужніцтва. Але што рабіць далей—засталося,—як сьцьвярджаў аўтар артыкулу,—нявыразна і няпэўна. „Як пабудаваць цэнтралізаваную організацыю, якая сыстэма ўстаноўкі і дачыненьняў паміж імі зьявіцца найбольш падыходнай формай для разьвіцьця такой організацыі,—пра гэта думалі мала і яшчэ менш гаварылі",—з зьдзіўленьнем чытаў Уладзік.—„Можна пайсьці далей і з упэўненасьцю сьцьвярджаць, што для большасьці таварышоў організацыйны цэнтралізм быў перш усяго пэўным настроем, а ня цьвёрда і дакладна прадуманай ідэяй"—было напісана далей, прычым слова „настроем" і „ідэяй" былі набраны курсівам. Усьлед за гэтым гаварылася, што прыняты зьездам статут партыі зьяўляецца куды менш дасканалым творам, як програма. Цэлых чатыры слупкі дробнага друку, але з іх ня было ніякай выразнасьці: уся справа быццам-бы зводзілася толькі да таго, што „не прадумалі", завастрылі спрэчкі на тым, ці зьяўляецца ці не зьяўляецца статут партыі творчым пачаткам, што меншасьць не надала дастатковага значэньня „літары закону" і, на вялікі жаль для аўтара, абмежавалася адстайваньнем сваіх тэндэнцый, галоўным чынам, у дзядзіне ўзаемадачыненьняў партыйных цэнтраў, адкідаючы ўсе тыя патрабаваньні, якія пагражалі разьвіць чыста вонкавы формальна-бюрократычны цэнтралізм у партыйнай організацыі з усімі яго вынікамі: сэктанцкай гуртоўшчынай, заўсёднымі расколамі і фактычным бясьсільлем партыйных цэнтраў пры фактычным панаваньні ўроджанай нашай партыйнай анархіі і г. д. Вось тут і адказ на трывожныя пытаньні! Давядзецца чакаць далейшых нумароў. Можа быць, яны ўнясуць выразнасьць? Нельга-ж пакідаць усю Расію ў невядомасьці аб сэнсе і прычынах расколу, які адбыўся і які зьявіўся такім нечаканым. Можа быць, проста пасварыліся партыйныя генэралы? Ці ня ўсё роўна, будзе або ня будзе які-небудзь Іван Іванавіч, што не належыць да пролетарыяту, але дае організацыі грошы, называцца членам партыі? Ня ён будуе партыйную тактыку, і ўласна той факт, што ён не працуе ў партыйнай організацыі, гарантуе партыю ад прасочваньня ў яе асяродак якіх-небудзь буржуазных або гэрэтычных уплываў.

(Працяг будзе).

З расійскае. З рукапісу пераклаў **Я. Плашчынскі.**

## МАЯ ДРУГАЯ КНІГА

**Юлі Таўбін**

Наборшчыку гэтых радкоў прысьвячаю.

Чытач, мой сьпеў прымай,—
Бадзягу-маталыгу...
Наборшчык, набірай
Маю другую кнігу.

У розныя часы,
Пад розных зор лядкамі—
Вузорныя пасы
Радкоў сплятаў з радкамі.

А здаўшы БДзВ
Сварыўся цераз таксы,
Пранёс на галаве
Праз гвалт і крык рэдакцый...

Але прайшла даўно
Турбот бязьлікіх крыга—
І ты перада мной,
Мая другая кніга.

Так, вокладкаю ты
Ня можаш пахваліцца,—
Вялікай пекнаты
У ёй ня знойдзеш быццам...

Ня лепшы і формат,
І шрыфт ня лепш формату...
І ўся ты акурат
Здаешся слабаватай.

Але... супынім крок,
Куды я дзеў свой розум?
Чытач, я завалок
Цябе ў глухую прозу.

Пакінем сьвежы сьлед
Развагі рыторычнай.
Пасябраваць нам сьлед
З размоваю лірычнай.

Бярозавая даль...
Ты нагадуеш нешта...
Я песьні ўсё аддаў,
Не папрасіўшы рэшты.

Я толькі ёй адной
Стрыечны брат адроду,
Аддаўся ўсёй душой
На цяжкія прыгоды.

Бярозавая даль,
Ты нагадала нешта:
Я песьні ўсё аддаў,
Не папрасіўшы рэшты.

Яна ідзе за мной—
І зброя, і ратунак,
Яна—адзіны мой
Краіне пачастунак.

Я без яе—гультай,
Апошні маталыга...
Наборшчык! Набірай
Хутчэй другую кнігу.

12—13-V 1930.
Менск.

# БЕЛАРУСЬ ІНДУСТРЫЯЛЬНАЯ

*(Эскізы)*

**Аркадзь Лясны**

Край лягэнд,
адвечных песень-казак,
Край поэм —
бальзам жывых крыніц...
Край балот,
тугі азёраў нескіх,
Край цішы
і громаў навальніц...
Край лясоў,
мінулых дзён паўстаньня,
Край нізін,
простараў дальных шыр...
Край палёў...
О, край,
Калі-ж ты станеш
Краем фабрык дымных і машын?
*Паўлюк Трус.*

*Beautiful Worla of new, superber
Birth, that rises to my eyes.*
*Walt Whitman.*

(Вялікае нараджэньне прыгожага новага сьвету паўстае прад маімі вачыма.
Уот Уітмэн).

## Ворша

Калі зірнуць на карту пяцігодкі ў БССР, адразу кінецца ў вочы ў цэнтры яе густа ўсеяная стракатымі значкамі прамая паласа з поўначы на поўдзень. Праз Аршаншчыну і Магілеўшчыну яна злучае цяперашнія самыя буйныя прамысловыя асяродкі Беларусі—Віцебск і Гомель.

Купкамі рознастайных кружочкаў і квадрацікаў на карце адзначана іх новая будучыня і слаўная будычыня Наддняпроўя, якое ажывіцца і акрыяе магутнай сілай чароўнага волата—Асінбуду.

Ворша ў мінулым—невялічкі павятовы, пасьля акруговы гарадок. Дзякуючы ўзгоркам, садам і Дняпру—досыць маляўнічы. Жыхароў каля 20 тысяч. Буйная вузлавая станцыя. Чыгункі адсюль разыходзяцца і на ўсход, і на захад, і на поўнач у Ленінград, і на поўдзень на Украіну, і на паўднёвы ўсход, а ў апошні час, пасьля пабудовы новай пуці Ворша—Лепель, і на паўночны захад,—адным словам, ува ўсе бакі сьвету, у шасьці напрамках.

Сталёвымі косамі яны з двох бакоў абхапілі доўгі будынак станцыі. Тут скрыжаваліся галоўныя чыгункі Беларусі і, мабыць, не аднаму падарожніку ўелася Ворша ў косьці, часам доўгім і нудным чаканьнем пры перасадках.

Гады два-тры таму, калі тут яшчэ толькі што пачыналася вялікае будаўніцтва, помню, я назіраў, праяжджаючы ў Ленінград, які страшэнны тут быў сьціск людзей. Пэўна тысячы ўзлахмачаных сыноў старой гаротнай лапцюжнай вёскі праходзілі тут, шукаючы працы. Чакаючы сваіх цягнікоў, яны запаўнялі ўсю станцыю, усе лаўкі, праходы, даўжэзны калідор, валяліся проста на падлозе. Гэты малюнак добра ўрэзаўся ў памяць мне, але не пакінуў вясёлага ўражаньня. Я ведаў адно, што іх пазганяла сюды ліхая спадчына старых часоў—беднота, перанасялёнасьць вёскі.

Ад станцыі да гораду некалькі кілёмэтраў. Каля станцыі толькі некалькі зялёных вуліц—калёнія чыгуначнікаў. Тут рамонтныя майстэрні, школа дзевяцігодка і ў двухпавярховым будынку чырвонацаглянага колеру—клюб.

Дарога ў горад скрозь з прысадамі. Пераважна бярозы, як на старым гасьцінцы. Павольна і мерна шлюпае па гулкаму бруку конь, а яны новаму падарожніку шэпчуць песьні і казкі гаваркой беларускай прыроды. Яны ўпарта навяваюць яму ціхі, лагодны настрой, быццам просяць прабачыць старую Воршу за яе незадачлівы выгляд.

Як і ўсе невялікія гарады, яна мае шмат элемэнтаў мястэчка. Хаотычна раскіданыя домікі. Вузкія вуліцы без тротуараў. Гэта „роскаш" дазваляецца толькі ў цэнтры. Хаця цяжка сказаць, дзе тут цэнтр. Пэўна там, дзе супыняюцца аўтобусы і стаяць рамізьнікі. Бо там-жа і сталоўкі, і гасьцініцы, і кіно і сады. Тут растуць новыя і стройныя белыя дамы. Вуліцы чысьцейшыя і больш упрыгожаны садамі.

За высокім драўляным мостам, па той бок Дняпра ўжо ня горад, а вёска. У зяляніне садоў і дрэў стромкага ўзгорыстага берагу выглядаюць шэрыя хаткі. Вясковая Ворша арганізавана ў гародні колгас.

Дняпро зьёжыўся ў глыбокай лагчыне, але сам ён мелкі, зарос багавіньнем. Праўда, у вялізную ваду яшчэ гады два назад тут хадзілі параходы.

Езьдзіць са станцыі ў горад можна і на аўто і коньмі. Аўтобусаў, відаць, мала, то рамізьнікаў шмат. Нават мабыць больш, чым трэба, бо калі прыходзіць цягнік, яны старанна „ловяць" пасажыраў. Плату яны

бяруць у залежнасьці ад соцыяльнага становішча пасажыра, якое вызначаюць, вядома, на вока. Больш за ўсё бяруць з тых, каторыя прыяжджаюць бяз ніякіх рэчаў, з адным портфэлем.

За станцыяй зямля перарэзана новымі пуцявінамі чыгункі. Яна тут аплецена імі, як стары гаршок дротам. А самі яны, гарэзьліва ўсьміхаючыся, як малыя дзеці, навыперадкі пабеглі ў лес—дзе вышэй старадаўніх хвояў, вырасьлі новыя фабрыкі—супыніліся там, зьдзіўленыя іхняю веліччу.

Тут яшчэ далёка да гораду вырасьлі новыя вялікія дамы рабочага пасёлку, бялеюць новыя склады, і паміж іх, як маяк, высока ўрэзалася ў неба будаўнічая вежа элеватару. Тут пачынаецца новая Ворша,—Ворша, народжаная пяцігодкай.

---

Нізкія саламяныя хаткі, як астраўкі, дзе-ні-дзе ўздымаюцца па-над хвалямі пабялеўшага ўжо каласістага жыта.

За плячыма застаўся горад,—з пыльным брукам і вуліцамі, усюды перарэзанымі канавамі (пракладаюць вадаправод).

Уперадзе вялікі пустыр, адмежаваны высокаю пуцёю чыгункі. На жоўтым насыпу быццам вытканы зялёныя вузоры дзёрану. Брукаваная дарога адыходзіць у бок ад шашы. Яна ідзе на пабудовы Аршанскага ільнапрадзільнага комбінату.

На голым полі белыя дашчаныя баракі будаўнікоў. Рабочком. Сталоўка. І тут пачынаецца ўжо новы, зусім іншы сьвет.

Углядаешся ў многалікі твар арміі вялікага будаўніцтва, хочацца разглядзець яе патаемныя рысы, пільна глядзіш у яе новыя глыбокія вочы, каб прачытаць яе настроі і думы. Тут ёсьць пажылыя, барадатыя людзі. Ёсьць твары, даўно пакрытыя глыбокімі зморшчкамі. Але ў большасьці моладзь. Вясковыя хлопцы. Побач з спэцоўкамі барвовыя, крамныя кашулі і віславухія картовыя галіфэ. Белыя сьвіткі і вялізныя аршанскія лапці з высокімі, да самых кален абмоткамі. Здаецца, на іх яшчэ і яшчэ цяпер зямля сьвежай ральлі і балотная вільгаць сенажаці. З-за заплямленых цэмэнтам і вапнай шэраватых парусінавых спэцовак глядзяць вочы з блакітным сумам пахілых хат і вузкіх дзедаўскіх загонаў.

Зе белым дашчаным плотам, глухім і высокім, уздымаецца шэраг трохпавярховых жыльлёвых дамоў для рабочых і тэхнічнага пэрсоналу.

У кожным доме па 36 кватэр. Тры пакоі і кухня. Цэнтральны апал, вадаправод, каналізацыя. Адным словам, усё зроблена, як трэба. Пакоі вялікія і сьветлыя. У кожнай кватэры абавязкова балькон.

Гэтыя дамы яшчэ толькі-толькі вызваляюцца з рыштаваньняў. Вокны зьзяюць парожнімі шчылінамі, і ім вольна здалёку ўсьміхаюцца белыя хмаркі, а вецер, які любіць усюды ўсадзіць свой нос, зьдзівіўшыся, пужліва ўцякае з гэтых прасторных пакояў і доўга блукае, не знаходзячы выхаду з гэтых вялікіх дамоў.

Іх будзе восем. Пакуль што будуюць чатыры. Апрача таго, будзе клюб, сталоўка, коопэратыў, лазьня і пральня і вялікі дом-комуна на 500 чалавек. Пляц паміж будынкамі будзе засаджан садам.

Таварыш, які паказваў мне гэтыя дамы, казаў: — мы імкнемся, каб жыльлёвае будаўніцтва ішло побач з будаўніцтвам усяго комбінату і ні ў якім разе не адставала.

І гэта мае вялікае значэньне. Гэта дасьць магчымасьць адразу наладзіць поўным ходам культурную працу і зрабіць комбінат вогнішчам новага быту і пролетарскай культуры. І ў тых вялікіх прыгожых і сьветлых кватэрах будуць жыць тыя выгнаньнікі пахілых вясковых хат, якім горад стане новаю бацькаўшчынай, якую яны зараз будуюць.

За дамамі працягнуўся даўжэзны часальны корпус. Адразу каля ўваходу шафы для вопраткі і кабінкі, у якіх будуць зроблены душы для рабочых.

У высокім і сьветлым памяшканьні стаяцьмуць у два рады 32 часальных аўтоматы.

За часальным корпусам шэраг складаў. Цяпер у іх складваюць абсталяваньне і часова Саюзхлеб ссыпае збожжа. Драўляныя слупы і кроквы падтрымліваюць высокі дах. Для лепшай забясьпекі ад агню, яны абсталяваны аўтоматычнымі спрінкернымі агнягасіцелямі. Сутнасьць іх заключаецца ў тым, што праводзяцца трубы, заўсёды напоўненыя вадою, і ў іх на пэўнай адлегласьці адзін ад аднаго ёсьць кляпаны, якія плавяцца пры тэмпэратуры ў 70°.

Комбінат пачне працаваць з новага гаспадарчага году. У наступным годзе працавацьме таксама прадзільная фабрыка і частка ткацкае. Гэта будзе адзін з новых волатаў беларускае тэкстыльнае прамысловасьці. Ён будзе працаваць выключна на мясцовай сыравіне.

Тут-жа побач, на адлегласьці ня болей кілёмэтру, ужо на самым ускраі лесу вырас другі волат—Аршанская „фабрыка сьмерці"—мясны комбінат.

Ён і з надворнага выгляду свайго не падобны на іншыя фабрыкі. Няма тут доўгіх корпусаў з вялікімі вокнамі і, часам для большай сьветласьці памяшканьня, з шкляным дахам.

Тут проста нявысокі, усяго двохпавярховы, але вельмі доўгі і шырокі простакутны будынак. З аднаго боку да яго шчыльна падыйшла чыгунка, а з другога—на вялікай плошчы, быццам нейкі дзіўны пасёлак—мініятурныя хаткі, загародкі, паветкі, за імі таксама чыгунка (з акон другога паверху відны вагоны) і склады. Драўляная галерэя злучае фабрыку з гэтым пасёлкам. Па гэтай эстакадзе жывую сыравіну будуць заганяць з сьвінарнікаў і стойлаў на другі паверх, у шэрыя атынкаваныя цэмэнтам камэры пад нож. На другім паверсе вялікія сьветлыя залі, кахляная падлога блiскучая і сьлізкая, як шкло. Столь аплецена сеткаю рэек. На іх па крукох лёгка пасоўваюцца вялізныя тушы ў іншыя залі, дзе яны стынуць, соляцца, копцяцца... Тут-жа каўбасная фабрыка.

Цяпер пакуль што ў гэтых залях ціха і досыць бязьлюдна, неяк пуставата. Пуск комбінату быў прызначаны на 1 кастрычніка гэтага году, але ўжо з 15 красавіка ён патрохі пачаў працаваць датэрмінова. А калі ён пачне працаваць поўным ходам, праз гэтыя залі штодня будзе праходзіць па 600 сьвіней і па 200 штук буйнай рагатай жывёлы. Унізе на першым паверсе для іх падрыхтаваны цэлыя горы бліскуча-белай, як сьнег, солі, вялізныя бакі з расолам і ў машынным аддзяленьні фабрыка штучнага холаду. Ён бяжыць па асьнежаных, пакрытых шэранем трубах у змрочных залях халадзільніка, таемна і шчыльна замкненых жалезнымі прэнтамі цяжкіх дзьвярэй. Каля 60% продукцыі комбінату будзе складаць экспортны бэкон.

Такім чынам утварэньне гэтых буйных двух комбінатаў—мяснога і ільнапрадзільнага адчыняе неасяжны далягляд разьвіцьцю буйнай спэцыялізаванай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі Аршаншчыны і навакольных акруг. Яны забясьпечваюць ёй тут-жа, на месцы, перапрацоўку яе продукцыі ў гатовы фабрыкат і пазбаўляюць яе сумнай пэрспэктывы збыту і вываву за межы сваей продукцыі ў выглядзе сыравіны, як гэта рабілася даўней, і робіцца зараз.

Паміж імі, на ўзгорку ўзьнялося яшчэ адно стварэньне пяцігодкі, поўнае хараства моладасьці—падстанцыя Асінбуду. Яна здалёк вабіць вока белымі верхавінамі конструкцыі адчыненай падстанцыі. Яны вызначаюцца тэю асаблівасьцю, што зроблены не з жалеза, а з дрэва. Драўляныя конструкцыі—вынаходка савецкай тэхнікі. Аршанская падстанцыя зьяўляецца другой у сьвеце, на якой яны зроблены. Першая—у Маскоўскай вобласьці, у Філях, падстанцыя МОГЭС‘а. Ток сілаю ў 38.000 вольт яны вытрымаюць вельмі добра, а разам з тым пабудова іх дае значную экономію і жалеза і сродкаў.

На станцыі канчаюцца зараз монтажныя працы. На другім паверсе ў разьмеркавальных кабінах яны ўжо скончаны. Чакаюць два вялікія замежныя трансформатары вагою ў 20 тон. Дзеля іх трэба пракладаць спэцыяльную лінію чыгункі. На разьмеркавальным шчыце, або, якназываў яго кіраўнік прац,—вачох і сэрцы пад станцыі застыглі ў нэрвовым неспакоі—рубільнікі, барвовыя лямпачкі, стрэлкі вольтмэтраў. Здаецца, быццам яны нецярпліва трымцяць і просяцца—хутчэй! хутчэй! хутчэй! і, пэўна, пакуль гэтыя радкі мае дойдуць да чытачоў, яны пасылаць-муць ува ўсе куткі Аршаншчыны жыватворчы ток Сталінстану.

---

Зямлячарпалка грызе жоўтую глíністую зямлю. Як мітычны дракон з Нібэлунгаў, яна цяжка паварачвае сваю няўклюжую тоўстую шыю, плюецца і, быццам злуючыся на некага, фыркае. Яна выкапала ўжо глыбокі роў. На краю яго жоўтай сьцяны стаяць двое хлапцоў у белых сьвітках і высокіх па калені аршанскіх лапцёх. Ня гледзячы на дождж, яны доўга стаяць і дзівяцца на гэтае чорнае дзіва.

На комбінаце праразьліва і гулка азваўся гудок. І дзесьці там на краю небасхілу, на ўзгорках падскочыла на цыпкі старая Ворша. Разам з хлопцамі яна ўтаропілася і глядзяць, што гэта тут робіцца.

А падзівіцца ёсьць чаму. Шматвекавая, старая Ворша мае ўсяго каля 20 тысяч жыхароў. А ў новай—той, што будуецца зараз—ужо ў наступным годзе будзе адных рабочых звыш 3000. Значыцца, усяго насельніцтва можна лічыць каля дзесяці.

Вось чаму непакоіцца старая Ворша і, нэрвова калоцячыся ў старэнькіх аўтобусах па старым бруку, яна імпэтна будуецца, разварачваючы вуліцы свае, пракладае вадаправод і вучыцца, вучыцца...

У акруговым інспэктарыяце народнай асьветы я сустрэў зусім дарослага хлопца ў такіх самых высокіх лапцёх. Ён ціхім, нейкім нясьмелым голасам прасіў прыняць яго ў сямігодку на дзяржаўны кошт, бо бацька ня мае сродкаў вучыць яго. Пры разглядзе дакумантаў аказалася, што яму 17 год і што ён даўно перарос гады паступленьня ў сямігодку.

Яго паслалі вучыцца на рабфак.

Праўда, у гэтым няма нічога дзіўнага, бо ўвесь неабдымны Савецкі Саюз зараз будуецца і вучыцца... Але якая гэта прыгожая і моцная жывая ілюстрацыя да творчасьці аднаго з нямногіх пісьменьнікаў, якіх дала Аршаншчына беларускай культуры, Васіля Каваля, які з такім неадступным уражаньнем адлюстраваў у сваіх творах праўду, якая крыецца ў жыватворчым росквіце маладых творчых сіл на прадвесьні вялікага нараджэньня прыгожага новага сьвету.

## Магілеўская прэлюдыя

Вялікі доўгі вакзал прыгожа бялее на сьвета-чорным фоне летняй ночы. Вакол яго за паўкруглай плошчай павісьлі раскідзістыя дрэвы. Неба яскравіцца глыбокаю сіньню, час ад часу як засьцілае рухавая цьмяная заслона. Тады нікнуць зоркі і абрысы дамоў і прысадаў у лёгкім трымцячым змроку здаюцца тэатральнымі дэкарацыямі для рамантычнай опэры накшталт „На купальле“ або „Русалка“.

Рамізьнік доўга вандруе па гораду. Адбываецца зьезд дваццаціпяцітысячнікаў і гасьцініцы ўсе перапоўнены.

Мне ўспамінаецца малюнак з вандраваньняў Васіля Сташэўскага „Па сонечным шляху“, які ў яго гэтак і назван:

„Дзе-ж мы будзем ды начаваці?“,

але ласкавыя колеры летняй прыроды адганяюць усялякія клапатлівыя думкі і нават робяць гэтае блуканьне досыць прыемным. Галоўнае, што ўвесь час цікавішся—а чым-жа яно скончыцца?

Шматпавярховыя дамы ствараюць уражаньне вялікага гораду. Прамільгнуў заліты агнямі нейкі завод. Нарэшце маленькая лямпачка пад брамай асьвятліла вялічэзную шыльду, на якой у зьлінялых жоўта-ру-

жовых фарбах трымаліся за руку рабочы і селянін у вянку ссохлых і даўно ацярушаных ветрэм яловых галінак.

„Магілеўскі Дом Селяніна“.

Я пакрочыў у цёмны двор, спадзяючыся знайсьці тут прытулак. У глыбіні двара я з радасьцю сустрэў ветлівыя блікі асьветленых вокнаў. У цьмяным водсьвеце на ганку мільгалі постаці людзей. Але раптам аказалася, што радасьць мая была прадчасная і зусім не да рэчы. У калітку, прывязаную на ланцуг прасунуліся па чарзе перада мною трое вясковых хлапцоў. І як толькі іх гулкія крокі пачуліся ля засьветленых вокнаў, іх суняў грозны голас аднекуль з цемры:

— Вы куды, хлопцы? Коек няма!

— Нам вады папіць...

Пачынаўся пакуль яшчэ дробны дожджык, але ў яго тэмпе адчуваліся выразныя тэндэнцыі ўдарніцтва і таму я, скарыстаўшы той момант пакуль хлопцы размаўлялі з нябачаным грозным чалавекам прайшоў у будынак.

З ганку відаць было, што ў памяшканьні, якое падманіла мяне сваімі асьветленымі вокнамі, жаночы пакой. Побач заля. І тут... толькі вялікі мастак можа апісаць, той малюнак, які быў у залі. На ўсіх лаўках, на сцэне, на стале, на падлозе—людзі. Адны сьпяць, другія ўзьляглíся на локці і кураць. Малады хлопец студэнцкага выгляду ў задуменьні сядзіць на раялі і гойдае нагамі.

З немым запытваньнем мы зірнулі адзін аднаму ў вочы і я побач з ім прысланіўся да роялю. Успомніць, што мы ў тую хвіліну думалі вельмі цяжка. Толькі я запытаўся:

— Што, гэта зьезд які, што такі сьціск людзей?

— Не, мабыць звычайна—і каб разьвеяць безнадзейнасьць свайго становішча, хлопец мацней гайдануў нагамі.

Справа вырашылася зусім нечаканым чынам. Уласьнік грознага голасу аказаўся прыветлівым чалавекам, да таго-ж пазбаўленым бюрократычнае хваробы на начальства.

Хвілін праз дзесяць наша раздум'е было парушана зьяўленьнем яшчэ аднаго бяспрытульнага падарожніка.

Дождж ліў цяпер, што называецца і мабыць таму ён прасіўся на начлег даволі адчайным голасам.

— Ну, што-ж я магу зрабіць? хіба пусьціць вас ў чайную?

„Грозны чалавек пайшоў за ключамі і ўпусьціў нас у сутарэньне другога будынку, у якім зьмяшчаўся агорнуты сном мужчынскі пакой.

— Я замкну вас і можаце паспаць да сёмай гадзіны“.

Трое таварышоў па няшчасьці энэргічна пассоўвалі лаўкі і леглі спаць. Яны сьнілі напэўна, што едуць далей у цягніку ў жосткім вагоне. А шостай гадзіне іх разбудзіў ядкі, густы дым. У „чайной“ гатавалі гарбату. Для мяне асабіста ўсе прыемнасьці начлегу ў „чайной“ магілеўскага Дому Селяніна на гэтым яшчэ далёка ня скончыліся.

На другі дзень я прыехаўшы ў горад з заводаў, памкнуўся пашукаць шчасьця ў Доме Асьветы. Але яно толькі зводліва ўсьміхнулася мне ў праменьнях вячэрняга сонца—адвярнулася задам, калі я прышоў лажыцца.

У Доме Селяніна я па прывычцы ўжо папрасіў пусьціць мяне ў „чайную“. Ось тут яно і пачалося. Малады і маленькі хлапчук, які ў гэты вечар загадваў начоўкай, учыніў мне цэлы допыт: хто мяне туды пусьціў? якія ў яго вусы, голас, барада і наогул, як ён выглядае? Колькі ён з мяне ўзяў і г. д. Я ледзьве ад яго адчапіўся.

Хлапчук пракурорскім тонам імкнуўся выклікаць у мяне прызнаньне віны і пашану да законаў магілеўскага Дому Селяніна, прадстаўніком адміністрацыі якога ён зьяўляўся.

— Я яго ведаю. Гэта стары, вусаты. Ён заўсёды пушчае ў чайную начаваць. А гэта—таварыш—непарадак.

Я адстойваў свой асобны пагляд.

— Таварыш, такі падыход пахне бюрократызмам. Па мойму калі ідзе дождж і чалавеку няма дзе дзецца, яго можна пусьціць начаваць усюды і ў гэтым ня трэба бачыць злачынства.

— Дык па-вашаму, грамадзянін так, а па маему не. Ён вас пусьціў таму, што вы з портфэлем і добра ему заплацілі. А гэта нічога ня значыць, што вы з портфэлем. Ага! Селяніна, дык ён ня пусьціць, бо той яму столькі не заплаціць. Калі пускаць, дык пускаць усіх.

— Вядома. Але, таварыш, я нічога яму не плаціў.

Хлапчук ніяк не даваў мне веры. Наша спрэчка доўга круцілася вакол прынцыповага пытаньня—ці можна пускаць на начлег у „чайную“, калі нідзе няма месца. Мы абодва ўпарта адстойвалі свой пункт гледжаньня, але да таго спакойна і мірна, што хлапчук нарэшце казаў мне зусім таварыскім тонам:

— Ён ведаеш, што робіць? Пускае ў чайную такіх, як ты, гарадзкіх і бярэ з іх грошы. Яму за гэта на агульным сходзе вымову далі, а ён ізноў... Ён аднойчы дваццаць чалавек пусьціў і ўзяў з іх па дваццаць капеек. Дык гэтак можна рабіць, га? Ну, прызнайся колькі ты яму даў.

Хлапчук, мабыць, так і не паверыў, што я не даваў таму нічога, далей шчырага дзякуй, за тое, што ён пазбавіў мяне крыху невясёлага начлегу на вуліцы на дажджы. Назаўтра ён зьбіраўся ўзьняць бучу і вясьці мяне на допыт да загадчыка, а сёньня павёў у мужчынскі пакой, дзе аказваецца было яшчэ некалькі запасных ложкаў для тых, што могуць прыехаць цягнікам.

Праўда, цяжка сказаць, ці выйграў я што ад гэтага, бо ня гледзячы на ўсе магчымыя „профіляктычныя“ меры, я атрымаў на ўспамінак некалькі жывёлін таго колеру, які зьяўляецца сымболем контррэволюцыі. Назаўтра яны ўсе загінулі ў часе майго купаньня ў хвалях Бярозы ў Бабруйску.

А сёмай гадзіне, калі сон яшчэ ня зусім пакінуў мужчынскую залю, той самы хлапчук прышоў „уздымаць“ нас. Грамадзяне рэагавалі на гэта

па-рознаму. Адны паслухмяна паўставалі, другія храплі, або маўчалі, трэція адказвалі яму ляконічнымі, але вострымі словамі, успаміналі франты і падбіралі найбольш адпаведныя эпітэты для яго невялікага росту. Хлапчук не зьвяртаў на гэта ніякай увагі і гэройскі, як той казаў, не за страх, а за сумленьне выконваў „ускладзеныя на яго абавязкі“. Праўда непараўнана большы за яго настойлівыя загады эфэкт зрабіла вестка, што ў аднаго начлежніка ў тым будынку, дзе сцэна, укралі трыццаць рублеў. Гэтае здарэньне з хуткасьцю радыё-хваляў перадавалася з вуснаў у вусны і адпаведна ўзрастала сума ўкрадзеных грошай. Пакуль я памыўся і атрымаў свае дакуманты, заплаціўшы за начлег устаноўленую „законам“ залатоўку, яна дайшла ўжо да двухсот рублёў.

— Вось бачыце,—казаў хлапчук,—грошы нанач трэба заўсёды здаваць мне, або другому дзяжурнаму.

Ось бачыце, даў мне чалавек на захаваньне грошы—і яны цэлыя. У мяне ніхто не ўкрадзе—і пры гэтым ён пералічваў грошы, аддаючы іх таму, хто даў іх яму на захаваньне.

А мне ён на разьвітаньне сказаў:

— У чайной, грамадзянін, усё-жткі начаваць ня можна.

Сваёй упартасьцю ён пакінуў прыемнае ўражаньне, але ўсё-ж другі раз мне хацелася-б бачыць і яго і Магілеўскі Дом Селяніна ў іншых абставінах. Быць можа, я вельмі доўга затрымліваю чытача на гэтым Доме, тым больш, што ён ня мае непасрэднага дачыненьня да маёй тэмы.

Але мне думаецца, хай чытач прабачае. А быць можа гэтыя староны як-небудзь трапяць на вока загадчыкам гэтага дому і гэтыя загадчыкі прачытаўшы іх, падумаюць, ці ня можна яго сапраўды зрабіць культурным асяродкам для сялянства. А можа, падумаўшы, яны што-небудзь і зробяць. Або калі не здагадаюцца, хто-небудзь другі за іх зробіць. Бо няўжо-ж мы ня можам на трынаццатым годзе рэволюцыі, і на дзесятым годзе соцыялістычнага будаўніцтва на Беларусі задаволіць у Доме Селяніна хоць мінімум запатрабаваньняў чыстаты і гігіены і даваць кожнаму новаму начлежніку новую бялізну? Я не эканомісты, але мне чамусьці здаецца, што гэтаму перашкаджаюць не непералажныя на даным этапе эканомічныя абставіны, а расейскія традыцыі чэхаўскіх гэрояў, „доброго старого времени“, якія яшчэ ня зусім выкарчаваны з галоў некаторых загадчыкаў.

## Магілеў

Сам па сабе вельмі прыгожы горад. Ён разьмясьціўся на ўзгорках і ўвесь патануў у зеляніне. Апрача таго Дняпро. Дняпро адмяжоўвае ад Магілева яго прадмесьце Лупалава. Людзі зьнішчылі гэта адмежаваньне з даўняй пары высокім і доўгім драўляным мастом і ў апошні час аўтобусамі.

У горадзе бераг Дняпра высокі, але ня вельмі стромкі. Уздымаецца паступова тэрасамі. Дзьве вуліцы ідуць паралельна адна па-над другою. Паміж сабою яны злучаны драўлянымі сходнямі: на сходнях зроблены лаўкі; мабыць спэцыяльна для таго, каб можна было сядзець і любавацца Дняпром і прыгожымі Магілеўскімі ваколіцамі.

Па-над прыбярэжнаю вуліцай сад. Даўней ён зваўся валам—і праўда, ён з трох бакоў абрываецца стромкімі спадамі. Цяпер ён завецца гарадзкі сад імя Максіма Горкага. У ім летні тэатр і сталоўка. Увечары было „гуляньне“ і грала музыка.

Даўней Магілеў быў губэрскі горад. Гісторыя яго заснаваньня авеяна паданьнямі пра легендарнага асілка—разбойніка Машэку. Вы-ж пэўна помніце Купалаву поэму „Магіла Льва“. У часе імпэрыялістычнай вайны тут быў бярлог не легендарных ужо разбойнікаў—царская стаўка.

Дух губэрні паклаў свой адбітак на знадворным абліччы гораду. Па ліку жыхароў Бабруйск, напрыклад, мала ўступае Магілеву, але там нідзе ня знойдзеш такіх вялікіх будынкаў, як у Магілеве, за выключэньнем, вядома, новых. Праўда, у ім захаваліся ад старасьвецкай губэрні і такія прыгожасьці, як вялізная лужына на плошчы, каля самай аўтобуснай станцыі, безьліч анархічна раскіданых будынкаў, пачарнелых ад часу касьцёлаў і цэркваў.

Але ў Магілеве ад старых часоў застаўся досыць прыгожы тэатр. Будынак, праўда, ня вельмі вялікі, але арыгінальны. Нешта накшталт мешаніны бізантыйскага і маўрытанскага стыляў. Толькі ня надта прыемнае ўражаньне робіць яго цагляны колер. Таксама і музэй, пабываць у якім я ня меў часу. У маляўнічным месцы на ўзгорку зацянёны зялянінай высокі будынак Пэдтэхнікуму. А з гэтай восені прыгожы Магілеў упрыгожваецца—і вышэйшай навучальнай установай — Пэдагогічным Інстытутам.

Таксама ў горадзе значна разьвіта і прамысловасьць. Калі сядзеш, вунь там па-над Дняпром на тых лаўках, пра якія я казаў кагадзе, дык адусюль уздымаюцца з-за зяляніны цагляныя коміны старых саматужніцкіх заводаў. Мне дык, праўда сказаўшы, яны страшэнна нагадваюць вастрог. Нізкія, цесныя, змрочныя... У Бабруйску на лесакомбінаце адзін рабочы вельмі трапна і вобразна сказаў пра іх: „— А помніце, таварышы, як першыя гады пасьля рэволюцыі мы працавалі ў тых маленькіх няшчасных *мышалловачках*, якія мы атрымалі ад капіталістых“.

Драпежніцкія тэндэнцыі рахітычнага беларускага капіталізму вельмі выразна выявіліся ў самой конструкцыі гэтых напоўсаматужніцкіх заводаў. Абы выціснуць дадатковую вартасьць э рабочых. Аб нормальных умовах працы тут не магло быць і гутаркі. Вядома, цяпер яны спачатку і да канца рэорганізованы, пераабсталяваны, рацыяналізаваны, але ўсё-ж не дагнаць ім ніколі і самай слабай копіі тых новых соцыялістычных заводаў—вялікіх, прасторных, сьветлых, абсталяваных паводле апошняга слова нашай замежнай тэхнікі, якія будуюцца зараз.

Ну, вось, напрыклад, хіба-ж можна параўнаць стары Магілеўскі машынабудаўнічы завод „Чырвонае Адраджэньне“—нізенькі, змрочны і драўляны, не раўнуючы, як хлеў—з новым пабудованым у мінулым годзе кузьнечным цэхам, або з вялікімі высокімі мурамі кацельнага і ліцейнага цэхаў, якія будуюцца зараз. Гэта-ж волаты ў параўнаньні з ім, калі тут наогул можна заводзіць гутарку аб якім-небудзь параўнаньні. Лік рабочых на новым заводзе павялічыцца, больш як у два разы. Заместа 200 будзе 417. Але гэтыя лічбы ня могуць яшчэ зьяўляцца паказальнікам памераў заводу. Трэба прыняць пад увагу, што новыя заводы, дзякуючы сваёй высокай і дасканалай тэхніцы патрабуюць значна менш рабочых.

Апрача розных рэмонтных прац, завод вырабляе сілосарэзкі, лябёдкі і катлы. Апошнія на фабрыку штучнага шоўку, якая будуецца зараз у Магілеве. Новы завод будзе дапасован да рэмонту трактараў і аўтомобіляў. Так у самы бліжэйшы час тут пачне працаваць „амбуляторыя“ новых рухавікоў нашай гаспадаркі. Сярод агульнай ранішняй цішыні яе высокія сьветла-чырвоныя муры моўчкі пацепвалі белымі плячыма кроктаў, дзівячыся з хаосу лязгатаньня ў цёмных, падобных на баракі, цэхах старага заводу і на яго вузкім, скрозь заваленым жалезам і застаўленым сілосарэзкамі, двары.

Або паспрабуйце параўнаць старую гарбарню імя Лекерта, утвораную ў першыя годы пасьля рэволюцыі ў памяшканьні, дзе была лазьня з новым, толькі што адчыненым, скураным заводам. Ды гэта ўсё адно, што параўнаць саху з трактарам. Наогул, ставіць старыя і новыя заводы побач можна толькі дзеля контрасту і ні ў якім разе ні параўнаньня.

Апрача прамысловасьці заводзкай, у Магілеве таксама значна разьвіта і саматужніцкая прамысловасьць. На кожным кроку лезуць у вочы шыльды рознастайных арцеляў: ад цукерачнікаў і рымароў да арцелі фотографаў з арыгінальнай назвай „Чырвоны сьветапіс“. У свой час гэтыя арцелі і працколектывы адыгралі пэўную ролю ў ліквідацыі беспрацоўя, народжанага экономічным разбурэньнем эпохі вайны і окупацыі. Апрача таго, гарадзкі і местачковы люмпэн-пролетарыят вучыўся ў іх пачаткам соцыялістычнай вытворчасьці. Гэтую ролю яны будуць выконваць яшчэ на працягу бліжэйшых год. Але жыцьцё бяжыць угрунь і вось у Савецкай Беларусі, якая была некалі краем толькі лясоў і балот, патануўшых у гразі саламяных панурых вёсак, шэрых дашчаных мястэчкаў і мяшчанскіх гарадоў, гудкі агалашаюць пераможны поступ мільёнаў сталёвых мускулаў.

Вы бачылі калі-небудзь местачковага краўца? Вы ўяўляеце сабе яго худы сагнуты ад вечнага сядзеньня за машынай стан, заклапочаныя вочы? На плячох, як той нявольніцкі ланцуг, вечная стужка сантымэтру. Ён рэдка працуе адзін. Звычайна вакол яго цэлая арцель. Свая арцель—сыны, дачкі, нявесткі, бо дзе яны знойдуць іншую працу. Дзяўчаты распорваюць старое, або прышываюць гузікі, гаплікі, гафтачкі. Сын

пырскае з роту вадою ды ўсё грукоча цяжкім і чадным прасам, зусім хаваючыся ў клубох едкае пары і гэтак яны, як тыя мурашкі над непамернаю для іх няжывой вусеньню, возяцца цэлымі днямі над якім-небудзь незадачлівым гарнітурам. Такі, за прабачэньнем, „вытворчы працэс“ ужо адышоў у нябыт. Яго замянілі даўжэзны конвэйерны стол, электраматоры, электрычныя прасы, розныя пецельныя, гузіка-прышывальныя і іншыя машыны. І, бязумоўна, заместа халупы саматужніка—швэйная фабрыка, або па меншай меры працколектыўная майстэрня.

Магілеўская швэйная фабрыка імя Валадарскага ўтварылася ў ліпені мінулага году, як казалі мне жартуючы ў фабкоме „без бацькі і маткі“—гэта значыць яна ня была прадугледжана пяцігодкай, а арганізавалася стыхійна з працколектываў Магілеўшчыны і Аршаншчыны.

Спачатку ў ёй было 212 чалавек рабочых. За адзін першы год фабрыка, перамагаючы цяжкасьці з абсталяваньнем, адсутнасьць спэцыяльна пабудованага для фабрыкі памяшканьня, здолела ўсё-ж павялічыць іх лік амаль што ў тры разы. Заробак рабочых на фабрыцы ў параўнаньні з працколектывамі значна павялічыўся. Калі там кваліфікаваны рабочы зарабляў у месяц максымальна 60—65 руб., дык на фабрыцы гэта зьяўляецца мінімальным заробкам некваліфікаваных рабочых. Мала таго. Тут кузьня новага чалавека. І гэта самае галоўнае. У апошні час 150 рабочых арганізаваліся ў ударныя брыгады імя XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду УсеКП. 2 чалавекі былі пасланы на працу ў колгасы ў лік дваццаціпяцітысячнікаў, 2—на курсы дзеля падрыхтоўкі ў ВНУ. Фабрыка ўзяла шэфства над Дзяржбанкам і Фінаддзелам і на працу туды пасланы 4 вылучэнцы.

Вось лічбы, якія выходзяць за межы промфінпляну, але тым ня менш, зьяўляюцца найкаштоўнейшым дасягненьнем і гэта за адзін толькі першы год.

З наступнага году фабрыка будзе пераведзена ў новае памяшканьне і на ёй працавацьме ўжо дзьве з палавінай тысячы рабочых. У цяперашняй будзе школа. А ў далейшым—у Магілеве намячаецца пабудова швэйнага волату на 10.000 рабочых.

Вось шлях, якім ідзе разьвіцьцё прамысловасьці ў Савецкай Беларусі. Ад пакінутых капіталістымі старых карыкатурных заводзікаў—„мышаловачак“ заводаў-астрогаў, ад саматужнага рамесьніцтва—да сьветлых і прасторных фабрык, пабудаваных і абсталяваных паводле апошняга слова тэхнікі.

## Вялікая маўклівасьць

Дарагі чытачу, дазвольце зрабіць кароткі перапынак. Хадзем на бераг Дняпра. Дняпро тут прыгожы, шырокі. А берагі высокія. Дзе-ні-дзе вербалозы і такія-ж поэтычныя хаткі, як на вёсцы. Каля хат на лавачках хлопцы. Босыя, кашулі без папружак. Адным словам, тут вее ідылічнай вясковай цішынёй. Лона прыроды і ня гэтае. У белых сукенках

дзяўчаты. Павыходзілі займацца „вячэрняй гімнастыкай“. І слухаюць пакуль што, як Дняпро ім сьпявае сэрэнады. Помніце: „чуден Днепр при тихой погоде?“. Нічога вы ня помніце. А дзяўчаты сядзяць на беразе і сьпяваюць. Каторыя сьвядомыя ідуць на рэчку купацца.

Дняпро пасівеў у апошні час. Стары, што вы думаеце. Галава унь зусім на лысіну парабілася. І блішчаць-жа гэтыя яго лысіны—мелі, асабліва калі прыгрэе сонца. А з левага, Лупалаўскага боку, якраз як ў лысага на скронях даўжэзныя валасы (багавіньне). А на шчоках рабаціньне (каменчыкі). Як будзеце купацца, плысьці туды ня раю. Няпрыемна там. Але я не зважаў, хоць там што, але скрозь Дняпро пераплыў. Ня верыце? Да-душы-ж. Вядома, у чаўне.

Раней, кажуць, гады два-тры назад, дык у Магілеў хадзілі параходы. Прыстань яшчэ і цяпер засталася. Але цяпер—дзе яны пойдуць. Кажу-ж аблысеў. Але гэта дарма. Пачакайце крыху, ось толькі возьмецца за яго энэргічная рука пяцігодкі.

Цяпер у ім вельмі добра купацца. У самым горадзе можна. Далёка хадзіць ня трэба. Плывеш, а там па вуліцах і праз мост аўтобусы бегаюць. Горад стаіць у гэтых адносінах вельмі выгадна. Крыху ў баку. Але гэта ня важна. На беразе вадаправодная станцыя. Старая. Як сказаў мне па сакрэту адзін магілеўскі „старажыл“ сярэдняга веку, ёй гадоў з паўсотні будзе, хоць яна і хацела-б можа яшчэ маладзіцца. Звычайны абывательскі дамок, ружовага колеру—і гэта... вадаправодная станцыя. Добра, што яшчэ хоць мураванка, а то-б зусім. Але і так яе шансы нізка апалі, бо побач будуюць новую. Пэўна загэтым, старая ўвесь час злуецца і чмыхае.

Выкупаўшыся, раю застацца ў адных трусах і загараць мераючы глыбіню Дняпра на чоўне. Гэта-ж вельмі проста. Калі вы элемэнт сьвядомы і зьяўляецеся сябрам якога-небудзь з перадавых магілеўскіх профсаюзаў, як, напрыклад, саўгандльслужачых або працасьветы, дык бяз нічога, ніякага, вылазьце на бераг, бярэце човен і гайда. У выпадку, калі вы да гэтых профсаюзаў ніякага дачыненьня ня маеце, або чалавек ня тутэйшы, дык пашукайце дзе ў іншым месцы, а знайшоўшы ганіце паўрубля за гадзіну—таксама нічога страшнага.

Чаўны на пракат дае перш за ўсё стары дзед—прыватнік. Нявэтлівы, пахмуры і чорны—пэўна Машэкаў патомак. У яго, між іншым, я браць ня раю. Можа ён да свайго вясельля спраўляў гэтыя чаўны. Вось у фізкультурнікаў—чаўны маладыя, рухавыя, дынамічныя. Усяго ганьбы, што на іх загару няма, але за тое 50% скідкі, а гэта ня кот наплакаў. Толькі што выдае іх малады фізкультурнік, хлопец таксама рухавы і дынамічны, у цельняжцы шэра-цаглянага колеру. Яго дачакацца—дык ні па што, а можна вясло абаранкаў зьесьці. Прызнацца, я з сваёй цярплівасьцю, дык пайшоў-бы ўжо да дзеда-прыватніка, але мне трапіўся такі таварыш. Малы хлапчук, а дачакаўся. Слаўна мы з ім тады пакаталіся. А лепш за ўсё узяць човен на прыстані: маленькі, але ўдаленькі. Тым-

часове, для аднаго чалавека якраз добра. Плыве ён хутка, асабліва на хвалях, калі абгоніць яго маторны човен. Толькі ня раю браць даросдых падсуседзяў, а то можна бяды набрацца. Я як узяў быў аднаго ў Лупалаве, дык ён спужаўшыся маторкі зрабіў мне такі загіб рулём, што ледзь не перакуліў чоўна, і ўзьбіў на нейкую каменную мялізну, ці то, бок, мол. Добра яшчэ, што я быў у трусіках, а то, дык спазьніўся-б на цягнік.

А пасьля яшчэ гэты падсусед сьціпла папрасіў у мяне залатоўку на разьвітаньні. Мусіць пайшоў да якой бабулькі перапалох выгаварваць. Так што раю ні з кім не заводзіць на рацэ знаёмства, далей хлапчукоў. Таксама лепш ехаць за вадою, а не ў Лупалава. Там бераг прыгажэй. Увесь у зяляніне. Ад'ехаўшы з кілёмэтр, рака выгінаецца і зьбірае плыты. Сярод узьбярэжнага лесу і садоў прытулілася пільня. Гудзе і грукоча круглыя суткі. А далей новыя фабрыкі. Яны яшчэ будуюцца. Але туды я ракою не даяжджаў. Трэ' было ў тэрмін здаць човен фізкультурнаму хлопцу.

Высока па-над Дняпром і прыбярэжнаю вуліцай—вал, а цяпер „гарадзкі сад імя Максіма Горкага“. У садзе было „гуляньне“; „духавы аркестр“. Адным словам музыкі. Прыблізна такія, як і на вёсцы, адно, што там ня трэба за ўваход плаціць.

У летнім тэатры ішоў спэктакль. У буфэце бурапеніла піва і іншае. А ў змрочных алеях на цяністых лаўках пад вальсы і маршы духавога аркестру пачыналіся трохтомныя романы і адбываліся апошнія акты драм.

На рагу сада стромкі абрыў. Невялічкая пляцоўка павісла на ім на драўляных слупох. На ёй ля балясаў стаўпілася публіка. „Сталічная дамачка“ ў модным паліце з шоўкавага сукна з коцікам і з размалёванымі, як вялікоднае яечка ў старазаветнай бабулькі, губкамі, піскпявым манерным голасам пытала сваіх двух кавалераў:

„А какие тут еще есть развлечения?“

Калі-б не хлапчукі, якія фасоніста пазапраўляўшы майкі ў нагавіцы і пазакасваўшы рукавы, весела дурэлі з дзяўчатамі; а пасьля стала гаманілі скланяючы ўва усіх відах шаўковую фабрыку, ды не паважныя пэдтэхнікумаўцы, якія ўпіўшыся поглядам у задняпроўскія далі, уздыхалі аб леташнім жніве і сёлетніх заліках, дык усё гэта гуляньне, моцна нагадвала-б горад старых часоў. А мне, як чалавеку староньняму і самотнаму, было сумна і нудна. Асабліва таму, што гэты сад называецца садам імя Максіма Горкага, які гэтак шчыра і палка ненавідзіць усялякае праяўленьне мяшчанства.

Я ўсьцяшаў сябе тым, што быць ня можа, каб у магілеўскім гарадзкім садзе ў нашыя дні ды ня было нічога далей гуляньняў з духавым аркестрам. Бязумоўна, у ім адбываюцца і ўсе сучасныя формы культмасавай працы. Гэта мне толькі гэтак не пашанцавала. Таму я рана мусіў ісьці спаць.

А цяпер пра самае галоўнае, што ёсьць у Магілеве. Праўду кажучы, яно не ў самым Магілеве, а крыху на водшыбе, за горадам. Вядома, яно маладое, яму патрэбен прастор і разгон. Вы ўжо ведаеце, што я казацьму пра новае будаўніцтва, пра індустрыю, пра новы твар зямлі і новага чалавека.

Самае буйнае з новых магілеўскіх прадпрыемстваў—гэта Магілеўвалакнабуд або фабрыка штучнага шаўковага валакна. Толькі ўвойдзеш на яго тэрыторыю, як цябе ахоплівае адчуваньне чагосьці грандыёзнага, вялікага, неасяжнага. Як блакіт веснавога неба, як неабдымныя блакітныя аркушы плянаў з белымі хмаркамі рысункаў, якімі завалены ўсе сталы вялізнага памяшканьня, у якім пасьля будзе цэх, а пакуль на аднэй палавіне ў ціхай напружанасьці схіліліся пад гэтымі плянамі ў пераважнай большасьці маладыя твары інжынэраў і тэхнікаў, а на другой зьвініць тэлефон, тарахцяць машынкі, ляскаюць лічэбнікі. Там і дырэктар і фабком і кантора, словам увесь апарат будаўніцтва.

Зямля ўсюды перакапана, ускудлачана, уздыблена. Будынкі праходзяць апошнюю стадыю пабудовы. Усюды гудзе будаўніцтва. Узьбярэшся па рыштаваньнях на трэці паверх—азірайся вакол колькі хочаш і ня ўбачыш нічога далей яснага неба над галавою і новых муроў на зямлі.

Кантора. Дом для інжынэрна-тэхнічнага пэрсоналу. Пажарнае дэпо. Вялічэзныя цэхі. Вакол склады. Пад'ездныя шляхі чыгункі. Вагоны. Выгружаюцца скрыні імпортнага абсталяваньня і ў маўклівых цэхах, дзе часам яшчэ ня зусім скончана аддзелка будынку, кіпіць ударная праца Ударніцтвам ахоплены ўсе цэхі. Шырока разгорнута таксама і соцыялістычнае спаборніцтва. І вось відавочныя вынікі гэтых соцыялістычных мэтадаў працы. У траўні плян монтажу перавыканан на 48%. Некаторыя брыгады маюць перавыкананьне на 100%. У чэрвені плян ня быў выканан з прычыны таго, што спазьнілася была дастаўка замежнага абсталяваньня. Да-рэчы гэтае абсталяваньне ня вельмі складанае. Спэцыялісты лічаць, што яно вельмі лёгка магло-б быць зроблена і на нашых машынабудаўнічых заводах. Так што трэба спадзявацца, што ў хуткім часе побач з цэлым шэрагам іншых новых галін прамысловасьці яно будзе наладжана і ў нас і ўжо іншым фабрыкам штучнага валакна, якія будуць будавацца ў Савецкім Саюзе імпортнае абсталяваньне будзе непатрэбна.

Магілеўская фабрыка павінна быць пушчана ў ход 1 кастрычніка бягучага году. І вось, каб скончыць яе ў тэрмін, перамагаючы ўсе цяжкасьці, напружана працуюць ударнікі. Дзеля гэтага імкнуцца хутчэй вызваліцца з апошніх рыштаваньняў будынкі і блiснуць яснаму дню прывітаньнем сваіх прыгожых сьветла-жоўтых сьцен, дзеля гэтага ўсё вакол маўклівых цэхаў бурліць ліхаманкай будаўніцтва.

— „Цяпер, як толькі прыбудзе якая машына, дык яе монтажнікі проста глытаюць,—кажа сакратар фабкому. А вось яшчэ адно цікавае прызнаньне ўжо ня нашага актывістага, а чужаземнага фабрыканта. Мне

расказваў пра гэта адзін вынаходца майстар. Монтаж машын робіцца пад кіраўніцтвам і пры ўдзеле замежных, нямецкіх спэцыялістых і рабочых. Абыйсьціся пры монтажы без чужаземнай дапамогі ніяк нельга, бо чужаземныя капіталістыя, прадаючы нам машыны, не даюць рысункаў да монтажу. Выраб штучнага валакна наогул яшчэ параўнальна маладая і новая галіна прамысловасьці. Тут шмат ёсьць і тэхнічных і вытворчых сакрэтаў, якія капіталістыя клапатліва захоўваюць. Нямецкі фабрыкант Когорн, фірма якога дастаўляе абсталяваньне для Магілеўвалакнабуду, прыяжджаў да нас ці паглядзець, як працуюць тут служачыя яго фірмы, ці можа з мэтай падарожжа „У новы сьвет". Ён дзівіўся, што ні ў Нямеччыне, ні ў Францыі, ні ў іншых краінах, куды толькі ён не дастаўляў абсталяваньне, нідзе монтаж не рабіўся гэтак хутка, як у нас. Нямецкі фабрыкант, мабыць, доўга круціў мазгамі над гэтым дзівам і нарэшце выказаў гэтаму майстру сваё дапушчэньне.

— Я думаю, што вашы рабочыя таму гэтак добра працуюць, што яны лічаць фабрыку да некаторай ступені сваёй уласнасьцю.

— Яны ня толькі так лічаць. Гэта ёсьць на самай справе—адказаў яму майстар.

---

Пакуль што на фабрыцы працуе ўжо дасьледчая ўстаноўка імя Комсамольскай Праўды. Яна ўяўляе сабою фабрыку ў мініятуры. Будынак ня вельмі вялікі. Кожнай машыне на фабрыцы будзе адпавядаць цэлы цэх. Апрача таго і самыя машыны тут значна паменшаны. На дасьледчай устаноўцы зараз рыхтуюцца кадры рабочых для фабрыкі і пасьля будзе школа фабрычна-заводзкага вучнёўства. Тонкая, далікатняя вытворчасьць штучнага валакна патрабуе добра абучаных кадраў рабочых. На другім паверсе зьмяшчаецца лябораторыя. Працэс вырабу штучнага шоўку вельмі складаны і доўгі. Плотная цьвёрдая цэлюлёза павінна падацца цэламу шэрагу фізычных і хэмічных апрацовак і зьмен, пакуль у выніку іх з яе ня будуць атрыманы мяккія белыя хлоп'я, падобныя з выгляду на бавоўну. І гэта яшчэ толькі першая стадыя працэсу. Далей гэтая мяккая маса пад узьдзейнічаньнем серкавага вугляроду і шчолакавага раствору зробіцца вадкасьцю бураватага колеру—віскозай. Ізноў цэлы шэраг падрыхтоўчых працэсаў—і з бураватай вадкасьці праз леечкі з малюсенькімі дзірачкамі на прадзільных машынах выцягнуцца тонкія валаконцы. Але і гэта яшчэ не канец. Гэтыя валаконцы яшчэ трэба сушыць, бяліць, пераматваць, сартаваць і, нарэшце, з тоўстых белых аркушоў цэлюлёзы мы атрымліваем танчэйшую далікатную пражу. Яна зіхаціць, пералівaецца самымі рознастайнымі срабрыста-сьнегавымі адценьнямі.

Усе гэтыя працэсы вырабу штучнага шоўку патрабуюць самае пільнае дакладнасьці і ў тэмпэратуры і ў зьмесьце хэмічных чыньнікаў вырабу. Апрача апісанага віскознага мэтаду здабываньня штучнага шоўку ёсьць яшчэ некалькі, але ў прамысловасьці віскозны мэтад пераважае.

Для рацыяналізацыі хэмічных процэсаў, для больш эфэктыўнай і экономічнай координацыі хэмічных чыньнікаў непачаты край працы. Гэтымі дасьледваньнямі і будзе займацца на магілеўскай фабрыцы дасьледчая ўстаноўка імя Комсамольскай Праўды.

Фабрыка будзе вырабляць 4000 кілёграмаў шоўку ў дзень. Каб ўявіць значэньне гэтай лічбы ўспамянеце, што да рэволюцыі ў Расіі была ўсяго адна фабрыка штучнага валакна ў Мыцішчах, пад Масквою, ды тая належала чужаземным капіталістым, і яе продукцыя не перавышала 150 тысяч кілёграмаў у год. Для адсталай царскай прамысловасьці гэтая вытворчасьць была занадта мудрай. Але прамысловасьць рабочае клясы спраўляецца і з ёю. Ужо працуе фабрыка штучнага валакна ў Ленінградзе, у канцы гэтага году, апрача Магілеўскай, пачне працаваць фабрыка ў гор. Кліне, Маскоўскай вобласьці. На працягу пяцігодкі распачнецца пабудова яшчэ звыш дзесяці новых.

Ну, ці сьнілі, калі змрочныя беларускія лясы, што з іхніх журлівых дрэў будуць вырабляць тут-жа, у іх занядбанай радзіме такі далікатны і дарагі матэрыял.

---

Побач з шаўковай фабрыкай, праз дарогу вырасла другое буйнае прадпрыемства—мастаўёвы завод. Такога самага сьветла-жоўтага колеру як і будынкі шаўковай фабрыкі, ён выцягнуўся сваім доўгім корпусам на дзіва ўсім старасьвецкім гарбарням. Адчыненьне яго адбылося ў дзень сьвята вызваленьня Беларусі ад белапалякаў, 11 ліпеня.

Абсталяваны ён, вядома, паводле навейшых запатрабаваньняў тэхнікі. Усе процэсы працы, якія толькі можна было мэханізаваць, робяцца машынамі. Дасканалая сыстэма вэнтыляцыі пазбаўляе яго непазбыўнага ліха ўсіх старых гарбарняў—скуранага смуроду. На жаль, я быў у ім яшчэ ў пачатку ліпеня і таму мог бачыць яго таксама, як і шаўковую фабрыку, толькі ў стане вялікай маўклівасьці, у чаканьні пуску і поўнага ходу. Праўда, тут на мастаўёвым заводзе, яна парушалася тым, што завод пачаў працаваць датэрмінова, але яшчэ далёка ня ўсе машыны былі пушчаны ў ход. Мне запомніліся горы пасоленых чорных і бурых скур. Вялікія кучы поўсьці, якую перабіралі жанчыны, узброіўшыся доўгімі гумавымі рукавіцамі. Пасьля гэтая поўсьць у выглядзе ўжо гатовага фабрыкату—бурыя посьцілкі лямцу. Барабаны, у якіх мыюцца скуры. Гарбары таксама ў гумавых рукавіцах, з крывымі нажамі ў руках. Вялікія, памерам сваім большыя за іншы студэнцкі пакой, дубільныя чаны ў падлозе другога паверху.

На заводзе ўжываюцца новыя мэтады дубленьня. Заместа кары—сок. Драбілка трушчыць кару, яна ідзе ў сакаварку і сок падаецца ў чаны. Гэты спосаб значна лепшы і таньнейшы. Пяць доўгіх шэрагаў чанаў (разьлічаныя на дубленьне пяці партый скур адначасова зьяюць суровай шэрызною сваіх ненасытных, заўжды адчыненых ртоў. Процэс дубленьня

будзе адбывацца ў іх шляхам двух стрэчных рухаў—скур і соку. Па меры таго, як скуры праз пэўны час будуць перасоўвацца з аднаго чана ў другі, сок будзе пераліваціа насустрач ім. Гэта дасьць магчымасьць максымальна выкарыстоўваць дубіцель.

Тут-жа ў будынку заводу зьмяшчаюцца ляборыторыя і розныя культурна-бытавыя ўстановы для рабочых: сталоўка, чырвоныя куткі, ёсьць нават памяшканьне для дзіцячага саду. Асобныя для кожнага рабочага шафы для хаваньня вопраткі, душы. Словам, усё неабходнае дзеля ўмоў працы, што зьяўляецца ўсюды ў Савецкім Саюзе неразлучнай часткай будаўніцтва кожнае новае фабрыкі.

На заводзе працавацьме 500 чалавек. Большасьць іх перашла з старой Магілеўскай гарбарні імя Лекерта, якая зьяўляецца ўдарным комуністычным заводам. На новым заводзе організаваны ўжо тры ўдарныя брыгады імя XVI зьезду.

Завод будзе вырабляць 100 тысяч штук ялавых скур, 110 тысяч конскіх і 115 тысяч сьвіных у год. Выключна на мастаўё—просты сорт скуры. Ён мае выконваць вялікую культурна-гістарычную задачу—усю Беларусь лапцюжную абуць у боты і апошнія лапці здаць у музэй.

(Працяг будзе).

Ліпень. 1930 г.

# КАНЦЫ ПОЭМЫ

**Зьмітрок Астапенка**

I

Ул. Хадыку

ПРОЛЁГ

Сядзіць нахмураны поэта,
Ў пакоі ціха. Вечар цёмны.
А сьцені туляцца ад сьвету
І па кутох стаяць сукромных.

Поэта быў сапраўдны лірык
І, калі ўзяўся за поэму,
Ён разгарнуў глыбінь і шыры
У знойдзенай нядаўна тэме.

Ў ёй адбівалася сучаснасьць,
Вясковых меж і гоняў крокі,
Жывыя людзі, дні колгасу
На поласах палёў шырокіх.

І, напісаўшы колькі словаў,
Пад шчырай лірыкі разводзьдзе,
Поэт хадзіў, кусаў аловак
І слоў далейшых не знаходзіў.

І вось тады, з прычынай гэтай
(Здарэньне дзіўнае такое),
Устаўшы з-за стала, поэта
Зьвярнуўся да сваіх герояў.

Раней поэты гаварылі
Ці з чытачамі, ці з дзяўчынай,
А наш—ён быў дзівак і лірык,
Мажліва ў гэтым і прычына,
Што так зрабіў...

Прышлі героі
Натоўпам шумным і вясёлым
З глыбінь поэтавых настрояў,
З поэм румянкавых вясёлак.

Героям рукі ціснуў лірык
З усьмешкай цёплаю вясновай...
І прывітаў іх ветла, шчыра
Лірычнай палкаю прамовай.

Поэта

Сядайце, героі! На песенным тракце
Спаткаліся сёньня мы ў радасьці ўцешнай...
Са мною дасюль ня былі вы ў кантакце,
Таму і хлусілі поэтавы вершы.

Я песьні шукаў у румянкавых далях,
На белых лагчынах, завеямі ўкрытых.
Натхненьне шумуе, як штормы на хвалях...
Рыхтуйце пяро, паважаны мой крытык!

У цернях сумненьняў, пакуце балеснай,
У доўгіх дарогах, няўтомны і ўпарты,
Служу я табе, мая родная песьня,
І цьвёрда стаю ганароваю вартай.

Я гожае, ўздымнае ў сэрцы хаваю
З дзіцячых гадоў недасяжна далёкіх.
Натхненьня гарачыя пенныя хвалі,
Шырокае песьні спакойныя крокі...

Жыцьцё сустракала ня раз мяне хмарай,
Сьмяялася, кпіла гадзінаю весьняй
За тое, што ў гонар табе і ў ахвяру
Прынёс я сябе, мая родная песьня!

І ты расьцьвітаеш у белым тумане,
На сьцежках да сонца, да слаўнае мэты.
Вясна, чараўніца і зброя ў змаганьні
Залітая палкай крывёю поэты.

Героі, прабачце мне сум беспадстаўны!
Прабачце мне ў адступленьні лірычным!
Я—лырык, як быў, так і ёсьць непапраўны,
Пакіньце-ж шаптацца, сьмяяцца скэптычна!

Ці знаеце ролі свае? Паўтарэце!—
Як будуць складаць яны нашую тэму.
І з роляў, завучаных цьвёрда, стварэце,
Як п'есу акторы—поэму.

Але пачакайце—сказаць я вам хочу
(Прабачце яшчэ раз маё адступленьне!),
Я хочу сказаць вам пра творчыя ночы,
Пра ваша зьяўленьне і нараджэньне.

Як вечар паўстане ў постаці строгай
І дум на поэта ўзложыць бярэма,
Таемным фэніксам з разьбітых настрояў
Раджаецца ў смутным абрысе поэма.

Што ў сэрцы кіпела і адгарэла,
І, адгарэўшы, зьвярнулася ў попел—
Прыймчыць да поэты, і ўладна, і сьмела
Ў палон непакойныя думкі захопіць.

Туманнай чаргою ў пакутах праходзяць
Бяссонныя ночы і творчыя раньні...
Поэта з героямі ладзіць паходы,
Вандруе ў песенным вохкім тумане.

Плятуцца настрояў хаўтурныя клячы
Па рыфмаў заходжаным зьбітым мурогу...
Ах, як-бы хацеў ён герояў пабачыць
І з імі шукаць самай лепшай дарогі!

Каб сталі героі ў контакце з поэтай
Ў свайго нараджэньня ліхую гадзіну
І ў творы праходзілі злучана гэтак,
Зьяднана, агульна, у фронце адзіным.

Але, пад туман непагодны і шэры,
Поэта бяз шляху ў песьнях блукае...
І дрэмлюць героі на белай паперы—
У жыцьці са сьвечкаю не адшукаеш.

Даволі-ж размовы! Пачнем-жа, героі!
Запомнілі ролі свае? Паўтарэце!
І з роляў раздадзеных, разам са мною,
Як п'есу акторы поэму стварэце.

Героі

Заслона ўзьнялася. Акторы гатовы.
У поўным парадку шырокая сцэна.
Таварыш поэт, вам першае слова!
Поэта! Давайце пачатак поэмы.

---

Слышим мы
Взрывы вражьего рева
Залп обрезов
И топот зверей..
*А. Безыменскі.*

Поэта

Адбываюцца падзеі
У пасёлку Забалотным...
Мчыць марозная завея
Сьнегу белыя палотны.

На загоны чорным трактам
Надышла нягод часіна—
Непаладкаў, непарадкаў,
Непакойнай бунтаніны.

Нехта сеяў чутак здраду,
Нехта муціць, агітуе,
Нехта новыя завады
Для колгасьнікаў рыхтуе.

Наліліся словы болем,
Думкі—чорным цяжкім жалем.
Сакратар ячэйкі Долін
На бюро казаў з запалам.

Долін

Косамолія пасёлку,
Цьвёрда станем мы на варту
Ставім гонар комсамольскі
І жыцьцё свае на карту!

Муціць вёску маладую
Патаемны шэпт кулацкі...
Нашу вёску агітуюць,
Каб ішла супроць колгасу.

Старш. колгасу Клім

Халімон ўсяму прычына!
З намі ён заўжды змагаўся.
За яго ўзяліся шчыльна,
Як за ворага колгасу.

А другі—твой бацька, Долін,
Падпявала несьвядомы,
Што жыцьцё пражыў бяздольным
Пад царкоўным чорным звонам.

Трэці—поп...
Вось тройца—вораг!
Муцяць вёску маладую,
А народ гарыць, як порах,
Як яго наагітуюць...

Поэта

Пад сьвіст завеі, ноччу цёмнай,
Як вецер грукае на ганку,
Ў папоўскіх вокнах сьвет таёмна
Гарыць за спушчанай фіранкай.

А за вакном, у бляску сьвечак,
За шклянкаю гарбаты—трое...
Сядзяць і гутараць аб нечым
Мае адмоўныя героі.

Долін стары

Праклён! Праклён такому сыну!
Цяпер ня бацька ўжо яму я...
Зьвязаўся ён з нячыстай сілай,
Калі царквы ён не шануе.

Мой моцны божа! Запалі ты
Нячысьцікаў маланкай яркай!
У аўтары ссыпаюць жыта?!
І ставяць поруч малатаркі?!

Поп

Антыхрысты на сьвет прыходзяць,
Рыхтуецца Содом з Гоморай.
І сее смуту ў народзе
Пракляты тройчы боскі вораг.

Халімон

Хай чэрці кроўю захлынуцца!
Канец—ці брату там, ці сыну!
Ня дам колгасу разгарнуцца—
Ці зьнішчу іх, ці сам загіну!

Поп

За гвалт страшэнны над царквою
Іх бог вялікі пакарае.
Ідзеце з чыстаю душою,
З малітвай на сьвятую справу!

Хай бога зной убачаць людзі—
Як ён карае,
Як ён судзіць!

Поэта

Разгарнуліся падзеі
У пасёлку Забалотным...
Круціць белая завея
Сьнегу хісткія палотны.

Як ішла ў завею Наста
З Клімам, з Доліным Андрэйкай;
Пад сьнягоў марозных шастань,
З пасяджэньня комячэйкі.

А насустрач, ля дарогі
Узьняліся
раптам
сьцені...
Стрэлам войкнулі аблогі
У сьмяротным дрыгаценьні...

Вецер гойдаўся з самотай
Над лагчынаю дрымотнай.
Паваліўся ў суметы
Клім у хрыпе прадсьмяротным...

І, пад чорную трывогу,
На завеянай лагчыне
Стаў адзін супроць другога
Цёмны бацька з родным сынам...

Долін

Тата! Ты?.. Заплямлен кроўю!
З кім прышоў ты?
З кім спазнаўся?
Што-ж, страляй!
Ня маю зброі...
Бі!

Долін стары

... Рука... не паднялася...

Долін

Хто? Кажы, хто быў з табою?
Хто цябе падвучваў, тата?
Хто табе даў гэту зброю?

Долін стары

Халімон і поп праклятыя...
. . . . . . . . . . . . .
Сын, даруй мне! Закруцілі
З судным днём, з папоўскай верай...
Тфу, нячыстая ты сіла! —
З кім ішоў? Каму я верыў!

Дзе яны? Уцяклі... Няма іх...
Быў у іх руках я цацкай!..
Дум ланцуг вялі ў тумане
Пад усьмешкай здрадна-брацкай...

Сам аддаўся цёмнай сіле.
Сам... Каго-ж хацеў забіць я?
Сын, даруй-жа! Закруцілі...
Замуцілі... Што рабіць мне?!

Долін

Не ўцякуць! Нясем-жа Кліма!
Наста, дзе ты? Памажы мне!

Поэта

А парою веснавою
Зелянелі шчасна гоні...
Выйшла дзьвесьце душ на поле,
І з плугамі дзьвесьце коняй.

З палынамі ўзьмежкаў сонных,
Пад напружаны хрып лямешны,
Роўна йшлі плугоў калёны
І разбурваліся межы.

Скарадзілі дружна, сьмела
На загонах з добрым часам...
Узрастала, зелянела
Радасьць сьветлая колгасу...

. . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . .

І так поэма скончыцца павінна,
Што на ўзьбярэжжы нашых дзён сасьніў я.
У барацьбе цяжкой, няспыннай
Перамагаюць маладыя...

Поэмы будучай макет гатовы
І дух у працы творчай не аслабне.
Хай прымітывам тут здаюцца словы,
Радкі кульгаюць рыфмаю нязграбнай.

Заслона спушчана. Шаноўныя героі,
Прымеце дзякуй шчыры ад поэты!
Стаіць жывой поэма прада мною
І верш натхнённым полымем сагрэты
Нітуйся, верш! Ты надта просты сёньня...
І простым быць сягоньня ты павінен,
Каб змог прайсьці, як добры госьць на гоні,
І да колгаснай хаты селяніна.

Цяпер за працу... У захапленьні творчым
Ляці па рэйках палкіх слоў, аловак!..
Зьлятайцеся чаргой бяссоннай ночы,
І лірыкі ўзнэрвованае слова.

Узьнімайся думка—сын жывога часу!
Нясі да сонца творчыя імкненьні!
Агонь крыві і гонар маёй клясы
У росквіт дзён, праз чорнай ночы цені!

Уздымайцеся агнём, радкі поэты,
Расьцеце ў рытмах, слоўныя крышталі!
Адно—ня йдзеце сьцежкай трафарэту
І ад насьледваньняў трымайцеся падалей!

---

II

ЭПІЛЁГ

I-ы герой

Нас дарма поэта турбаваў —
Склікаў нас і склаў сужэту шыры —
Ён поэмы той не напісаў, —
Наш гультайны непапраўны лірык.

Складзены героямі макет
Будучай сур'ёзнае поэмы
Прымітывам палічыў поэт
І таму расчараваўся ў тэме.

II-гі герой

Я яго шкадую ад душы.
Бачыў я—адкінуўшы поэму,
Сёньня ён разьвязваў у цішы
Блытанасьць фінансавай проблемы.

Сёньня ён зваліўся ў крэсла зноў
І спакою доўга не знаходзіў
Ад хлусьні варожае „сяброў“
І ад новых кпінаў і нягодаў.

І ад горкіх думак і журбы
Разьліваўся слоў халодны воцат...
Ён хацеў адным поэтам быць,
А яго закоўвалі службоўцам.

Злыдні загароджвалі ўвесь сьвет
З думкаю за йлбом таўшчэзнай сталі,
Тыя, хто і аркуша, як сьлед
За сваё жыцьцё не напісалі.

III-ці герой

Досыць, досыць...
Ведаем... Пакінь!
Вецер ломіць—пыл агорклы гоніць!
Разьбярэмся ў справах, радакі!
Ў чым поэта вінават сягоньня.

У лірычным песенным агні
Ён ня змог, праходзячы да мэты,
У радкі ўкласьці нашы дні,
Што мацней за самага поэты.

Мы—героі сонечных шляхоў
Праз вякі да блізкай перамогі!
Мы—мацней стакротна за яго
На жыцьцёвых сьцежках і дарогах.
Бо жыцьцё дало агонь адвагі,
Каб на хвалях сонца мы плылі...

II-гі герой

... Таварышы, увага!
Да нас поэта піша ліст.

Ліст поэты

Даволі! Хопіць! Што рабіць
З дзівоснай зьяваю такою!?
Мяне сабраліся судзіць
Мае ўласныя героі.

Навошта недарэчны суд
Пад вольнай песьняю поэты!
У жыцьцё і так я пранясу
Агонь агульнай нашай мэты.

Героі, прэч! Абрыдла мне...
Далоў з пяра, бо перайначу!
Рабіў я тут экспэрымэнт,
Ці ўдаўся ён—я сам пабачу.

Героі, прэч! Бяжэце ўгрунь!
Хоць верш выходзіць і кароткі,
Але, як ёсьць—здаю ў друк...
Поэма скончана!
Я стаўлю кропку.

Май 1930 г.
Менск.

# НА ГІСТАРЫЧНЫМ ПАВАРОЦЕ

*(Аб ітогах XVI зьезду ЎсеКП(б) і XIII зьезду КП(б)Б)*

**С. Беднарскі**

XIII зьезд КП(б)Б, як зьезды і конфэрэнцыі іншых рэспубліканскіх і краёвых атрадаў Усесаюзнай Комуністычнай Партыі (бальшавікоў), зьявіўся прадмовай да XVI зьезду Ленінскай партыі бальшавікоў.

Выйсьцёвым пунктам і заключным акордам усіх яго прац былі два асноўных моманты, якія чырвонаю істужкай праходзілі ва ўсёй працы XIII зьезду бальшавікоў Беларусі: глыбачэзнае пачуцьцё солідарнасьці і аднадумнасьці з працоўнымі ўсяго Савецкага Саюзу ў справе соцыялістычнага будаўніцтва, узмацненьне асноў пролетарскай дыктатуры і забесьпячэньне бясьпечнасьці Савецкай краіны з аднаго боку, і разуменьне таго факту, што ўся наша праца і барацьба зьяўляюцца складовай часткай барацьбы сусьветнага пролетарыяту за ніэрынуцьце капіталістычнай сыстэмы ўціску і эксплёатацыі—з другога боку. Таму аналіз сытуацыі задач і дасягненьняў БССР цяснейшым чынам пераплятаўся з аналізам сытуацый і задач і дасягненьняў братэрскіх рэспублік і ўсяго Савецкага Саюзу, дзейная дапамога якога зьяўляецца рашаючым і магутным стымулам магутнага экономічнага і культурнага ўздыму, які перажывае БССР. Пры чым, трэба падкрэсьліць, што ўсе ацэнкі даваліся зьездам на фоне сусьветнай сытуацыі і з улічэньнем міжнароднага становішча Савецкага Саюзу, а таксама тых зьмен, якія адбыліся ў суадносінах сіл сусьветнай рэволюцыі і контррэволюцыі, якія найбольш выразна і яскрава выявіліся за апошні час.

Ужо два з паловаю гады таму назад на XV зьезьдзе УсеКП(б) тав. Сталін, у адказ на панікёрскія разважаньні некаторых правых ці ўльтра-левых опортуністых на тэму аб капіталістычнай стабілізацыі, фіксаваў увагу ЎсеКП(б), як і ўсіх партый Комінтэрну, на няўхільнасьці нарастаньня новага ўздыму рэволюцыйнага руху.

„Мы жывем,—казаў тав. Сталін,—напярэдадні новага рэволюцыйнага ўздыму як у колёніях, так і ў мэтрополіях. З стабілізацыі вырастае новы рэволюцыйны ўздым... стабілізацыя капіталізму становіцца ўсё больш і больш гнілой і няўстойлівай. Узмацненьне інтэрвэнцыёнісцкіх

тэндэнцый у лягеры імпэрыялістых і пагроза вайны (у адносінах СССР) ёсьць адзін з фактараў цяперашняга становішча“... (Сталін. Політычная справаздача ЦК УсеКП(б) на XV зьезьдзе).

Ход падзей цалкам пацьвердзіў правільнасьць гэтага прогнозу, дадзенага тав. Сталіным. IX пленум ВККІ меў магчымасьць даць партыям Комінтэрну дакладную і ясную ўстаноўку ў лёзунгу „кляса супроць клясы“. VI конгрэс Комінтэрну ў сваіх працах даў ужо сынтэз рэволюцыйнай практыкі міжнароднага пролетарыяту, вызначаючы перажываемы момант, як трэці пэрыод разьвіцьця пасьляваеннага крызісу капіталізму, пэрыод расхістаньня капіталістычнай стабілізацыі і пераходу пролетарыяту ад абароны ў контр-наступленьне і ў наступленьне на клясавага ворага. X пленум ВККІ адзначыў, што пачатак сусьветнага экономічнага крызісу і абвастрэньне ў сувязі з ім ваеннай небясьпекі наогул і небясьпекі ваеннага нападу на СССР імпэрыялістычных драпежнікаў у прыватнасьці.

У сучасны момант нават найбольш заядлыя аполёгеты капіталістычнай сыстэмы прызнаюць наяўнасьць глыбокага экономічнага крызісу, які хістае ўстоі капіталізму. Гэтыя аполёгеты спрабуюць палегчыць сабе гэтае прызнаньне заявай, што гэты крызіс мае не структурны, але кон‘юнктурны характар. Правыя і ультра-левыя опортуністыя, якія ім у тон падпявалі аб трывалай капіталістычнай стабілізацыі, гіранізуючыя над сталінскім зазначэньнем капіталістычнай стабілізацыі, як гнілой, нятрывалай, часовай, якія аддавалі перавагу, таму, каб „мужна“ глядзець у вочы „праўдзе“ клясавага ворага аб „росквіце“, атрымалі ад сапраўднасьці такі ўдар, пасьля якога надзвычайна цяжка ўстаць на ногі і спрабаваць браць ролю правадыроў і настаўнікаў рэволюцыйнага пролетарыяту.

Разьвіцьцё сусьветнага крызісу капіталістычнай сыстэмы ўцягнула ў вір крызісу нават ПАЗШ—адзіную краіну, якая „выйграла“ вайну, якая ў выніку вайны стала сусьветным банкірам і захоўцам залатога запасу і прызнаным гегемонам капіталістычных краін. А між тым, яшчэ год таму назад гутаркі нават у комуністычным асяродзьдзі круціліся наўкола славутага амэрыканскага росквіту „prosperyty“. Правыя опортуністыя, шмат з якіх сталі сёньня рэнэгатамі, у адносінах да амэрыканскага росквіту займалі позыцыю, якая літаральна супадала з устаноўкай Гувэра.

„Па лініі экономічнай,—пісаў тады Гувэр,—перад намі бязьмежнае поле; існуюць новыя патрэбнасьці, якія па меры іх задаволеньня будуць уступаць месца яшчэ больш новым патрэбнасьцям і так без канца“.

Гувэр аказаўся сьляпым. Ён не прадбачыў, што ўдар па амэрыканскаму „росквіту“ ў першую чаргу закране іменна галіну збыту вялізарнай масы продукцыі, якая вытвараецца ў Злучаных Штатах. Ён спрабаваў знайсьці паратунак пасьля таго, як крызіс выбухнуў, у дэклямацыі аб неабходнасьці ўжываць сыстэму высокай заработнай платы, якая стымулюе рост спажываньня і была-б выйсьцем з крызісу. Усе крыклівыя

словы Гувэра да крызісу, роўна як і яго знахарскія парады пасьля крызісу знаходзілі спачувальны водгук і ў шэрагах правых опортуністых, шмат з якіх, як, напрыклад, Лоустон і Пэпер у Амэрыцы, Сэрра ў Італіі скаціліся пад уплывам веры ў непарушнасьць амэрыканскага працьвітаньня, якая харчавалася праваопортуністычнымі тэорыямі і ўстаноўкамі—да рэнэгацтва.

Устаноўка, якую даваў ленінскі ЦК УсеКП(б) пры ацэнцы сусьветнага становішча і ў сувязі з расхісткай капіталістычнай стабілізацыяй, была дыямэтральна процілеглай ацэнцы трубадураў капіталізму і іх падгалоскаў з шэрагаў права-опортуністычнай братвы. Год таму назад т. Сталін, даючы адказ амэрыканскім правым опортуністым, а цяперашнім рэнэгатам, Пэперу, Лоустону і іх кампаніі, даў наступную ацэнку амэрыканскаму „працьвітаньню“.

„Шмат каму здаецца, што агульны крызіс сусьветнага капіталізму не закране Амэрыку. Крызіс сусьветнага капіталізму разьвіваецца ўзмоцненым тэмпам і ён ня можа не закрануць амэрыканскага капіталізму. Тры мільёны беспрацоўных, якія ёсьць цяпер у Амэрыцы, гэта першая ластаўка, якая кажа аб тым, што крызіс насьпявае і ў Амэрыцы. Абвастрэньне антогонізму паміж Амэрыкай і Англіяй, барацьба за рынкі сыравіны, нарэшце, колёсальны рост узброеньняў—вось вам другі прызнак, які кажа пра надыходзячы крызіс“.

Гэтыя словы былі спатканы правымі опортуністымі гіранічным хіхіканьнем, як раней формулёўкі т. Сталіна аб гнілым, нятрывалым характары капіталістычнай стабілізацыі. Жыцьцё нанова падцьвердзіла правільнасьць марксыцка-ленінскага мэтоду, якім з дзіўным майстэрствам уладае т. Сталін, бо ўжо тады, калі Гувэр пагардліва выказваў свае прароцтвы аб бязьмежным працьвітаньні амэрыканскага капіталізму, у Амэрыцы колькасьць беспрацоўных ужо дасягала 3-х мільёнаў. Тав. Сталін быў праў, калі лічыў, што гэтыя 3 мільёны беспрацоўных зьяўляюцца сыгналам не палепшаньня амэрыканскай сытуацыі, але сыгналам пачатку крызіса. У сучасны момант у Злучаных Штатах беспрацоўных ня менш 7-мі мільёнаў чалавек. Ёсьць іншыя даныя, якія кажуць, нават, аб 9-ці мільёнах беспрацоўных. Сапраўды „амэрыканскія“ маштабы. Але не па аднэй колькасьці беспрацоўных можна меркаваць аб глыбіні, характары і вастрыні крызісу. Калі ў жніўні мінулага году індэкс біржавых курсаў рэзка ўзьняўся, то ўжо ў кастрычніку пачалося невялікае зьніжэньне, якое ў лістападзе разгарнулася ў катастрофічную лявіну заняпаду біржавых каштоўнасьцяй ад 310 пунктаў да 180' у сярэднім. Гэтых лічб было-б досыць, каб паказаць, наколькі вострым зьяўляецца крызіс, які ахапіў Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі.

Яшчэ больш выразныя лічбы, што характарызуюць заняпад вытворчасьці ў ПАЗШ. Лічбы, якія яскрава падкрэсьліваюць, што мы маем справу не з выпадковымі хістаньнямі кон'юнктуры, але з глыбокім структурным крызісам капіталістычнае гаспадаркі. Вытворчасьць сталі зьяў-

ляецца найбольш дакладнай праверкай гаспадарчага пульсу краіны. І вось: калі сярэдняя месячная ў 1929 годзе складала 4.586 тыс. тон, то ў студзені—сакавіку 1930 года яна зьнізілася да 3.826 тыс. тон—заняпад амаль на 800 тыс., што складае каля 18 проц. Продукцыя чыгуна складала ў сярэднім у 1929 годзе 3.580 тыс. тон, у студзені—сакавіку 1930 г. яна зьнізілася да 3.015 тыс. тон. Яшчэ больш яскравыя лічбы мы маем у галіне аўтомобільнай прамысловасьці. Гэтыя лічбы характарны для гаспадарчага становішча ПАЗШ таму, што Амэрыка ўладае каля 90 проц. усяе сусьветнае колькасьці аўтомобіляў і больш чымся 90 проц. магутнасьці ўсёй сусьветнай аўтомобільнай прамысловасьці. Такім чынам, у 1927 годзе сярэдняя месячная вытворчасьць аўтомобіляў складала 283 тысячы, у 1928 г.—363 тыс., у 1929 годзе—выпуск аўтомобіляў узьняўся нават да 469 тыс. аўтомобіляў, каб у 1930 годзе зьнізіцца на 298 тыс., значыць пайсьці назад да ўзроўню 1927 году.

Крызіс гаспадаркі ПАЗШ—складовая частка і вынік агульнасусьветнага крызісу. Ён у сваю чаргу абвострыць сусьветны экономічны крызіс да катастрофальных разьмераў.

Сучасны экономічны крызіс мае ўсе рысы ўсеагульнага крызісу, ён праявіўся спачатку ў найбольш слабых зьвеньнях капіталістычнай сыстэмы: у Польшчы, якая літаральна руйнуецца, у Румыніі, Паўднёвай Славіі, Гішпаніі. Перад ім не ўстаяла даўэсызаваная Нямеччына, крызіс паступова ўцягнуў у свой вір Чэха-Славаччыну і Італію. Ангельская імпэрыя стаіць на краю буйнейшых палітычных і экономічных патрасеньняў, бо крысіс ахапіў таксама сваім рэволюцыянізуючым уплывам і ўсходнія краіны. Рэшткамі сіл утрымлівае экономічную роўнавагу Францыя. Крызіс у Індыі, у Кітаі ў сучасны момант набыў ня менш востры, ня менш цяжкі характар, чымся ў іншых частках капіталістычнае сыстэмы.

Няма ніякіх падстаў спадзявацца на тое, што гэты крызіс будзе зжыты ў бліжэйшы ці хоць-бы ў кароткі час.

Вызначальнымі рысамі сучаснага сусьветнага крызісу капіталістычнай сыстэмы, паміма перавытворчасьці і сур'ёзных фінансавых патрасеньняў, зьяўляюцца ў першую чаргу: 1) адначасовасьць і спалучэньне крызісу прамысловага з крызісам аграрным; 2) надзвычайныя цяжкасьці збыту ў выніку рэзкага скарачэньня пакупальнай здольнасьці шырокіх мас, выклікаючыя скарачэньне вытворчасьці, заняпад цаны, у першую чаргу гуртовае затаварваньне і абвастрэньне конкурэнцыі за рынкі збыту. Адсюль гарачка капіталістычнай рацыяналізацыі вытворчасьці і як яе вынік—далейшае перавышэньне вытворчых магчымасьцяй, якія выраслі нябачна за апошнія гады, над выпускам продукцыі, якая абмяжоўваецца вузасьцю спажываньня. На грунце гэтага мы маем далейшы вялізарны рост беспрацоўя і далейшае пагаршэньне матэрыяльнага дабрабыту шырачэзных народных мас.

Біч беспрацоўя б'е рабочыя масы ўсё мацней і больш балюча ня толькі ў выніку скарачэньня вытворчасьці прамысловасьці; ня толькі таму,

што сельская гаспадарка перажывае востры крызіс, які руйнуе мільёны сялян і здымае іх з рынку, як спажыўцоў, але таксама выпіхвае іх з сельскае гаспадаркі ў горад, дзе яны ствараюць новыя кадры беспрацоўных. Беспрацоўе ў значнай ступені расьце яшчэ і таму, што, скарачаючы вытворчасьць, капіталісты ў той-жа час, як толькі можа ўзмацняе свае рацыяналізатарскія мерапрыемствы, на гэты шлях ён штырхаецца жорсткай конкурэнцыяй. Таму, сярод беспрацоўных у вялізарнай ступені расьце колькасьць беспрацоўных з ліку кваліфікаваных рабочых. Капіталістычная рацыяналізацыя і раней выкідвала за борт вялізарныя масы рабочае клясы і ў першую чаргу высока-кваліфікаваную рабочую сілу, але ў сучасны момант гэты процэс адбываецца з надзвычайнай інтэнсыўнасьцю. Гэтым надзвычайна шпарка павялічваецца вялізарная рэзэрвовая армія пролетарыяту, якая ўсё больш губляе характар рэзэрвовай арміі і становіцца пастаяннай арміяй безнадзейных беспрацоўных. Адначасна адбываецца процэс далейшага скарачэньня пакупальнай здольнасьці насельніцтва. Атрымоўваецца зачарованае кола капіталістычных супярэчнасьцяй, з якога для пролетарыяту іншага выйсьця, апрача нізьвяржэньня капіталістычнай сыстэмы, няма.

Буржуазія ўсё лепш усьведамляе гэты факт. Яна бачыць, што рост паўпэрызацыі мільённых мас працоўнага насельніцтва, у першую чаргу пролетарыяту і руйнуемых бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, становіцца новым стымулам далейшага абвастрэньня крызісу капіталістычнае гаспадаркі. Дрэздэнскі банк у сваёй справаздачы, прызначанай для „абраных“, з усёй адкравеннасьцю заяўляе:

„Прычыны адставаньня сусьветнага спажываньня ад продукцыі выкліканы *скарачэньнем пакупальнай здольнасьці насельніцтва ў параўнаньні з даваенным пэрыодам ва ўсіх прамысловых краінах*... хоць сусьветны збор пшаніцы ў 1928-29 годзе *быў у сярэднім на 5,8 проц. вышэй як да вайны,* у той час, як *насельніцтва сьвету ўзрасло на* 9 проц., частка лішковай продукцыі не знаходзіць пры гэтых акалічнасьцях спажыўцоў.

Справаздача Дрэздэнскага банку з пэўнай яснасьцю кажа пра рэакцыйны характар капіталістычнай сыстэмы вытворчасьці ў сучасны гістарычны пэрыод. Лепш усякага агітатара гэтая справаздача выкрывае бяссэнсіцу капіталістычнай сыстэмы і той факт, што яна замест таго каб разгортваць вытворчыя сілы чалавецтва, прыдушвае іх і тармозіць.

Характэрна, што зьмяншэньне гуртовых цэн (на шмат якія продукты да 20—50 проц. у тым ліку і на збожжа) не адбываецца паралельна зьніжэньню раздробных цэн. Наадварот, цэны, па якіх рабочая кляса купляе хлеб і сельскагаспадарчыя продукты, ня зьнізіліся, а павялічыліся ў шэрагу краін ад 15 да 20 проц. А дзеля таго, што аграрны крызіс не абмежаваўся аднэй толькі збожжавай продукцыяй, але захапіў вытворчасьць шмат іншых земляробчых культур (бавоўна, каучук, цукровы трасьнік, кава, какава і інш. часткова і продукты жывёлагадоўлі), то мы бачым, што селянін ці фэрмэр прадае збожжа танней, чымся раней, што

колёніяльны нявольнік, працуючы або на плянтацыях, або на сваім кавалку зямлі і эксплёатуемы скупшчыкам, атрымоўваюць менш, чымся раней, а рабочы спажывец плаціць за ўсе гэтыя продукты даражэй. Розьніца ідзе ў кішэні фінансавага капіталу. Вось тут знаходзіцца пачатак таго тупіка, у якім знаходзіцца капіталістычны сьвет. Гэта яскравейшыя прыклады загніваньня капіталізму, яго дэградацыі і тармажэньня ім росту вытворчых сіл.

Можна было-б прывесьці дзесяткі і сотні фактаў, якія ілюстравалі-б з нязвычайнай яскравасьцю гэтае становішча. У той час, калі 20 мільёнаў беспрацоўных—з сем'ямі яны складаюць мінімум 60 мільёнаў чалавек,—недаядаюць і галадаюць у капіталістычных краінах, калі звыш 80 мільёнаў чалавек у Кітаі недаядае, а 10 мільёнаў з іх прысуджаны да галоднай сьмерці, у той-жа самы час урад Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі заклікае фэрмэраў тармазіць вытворчасьць збожжа. Самі-ж фэрмэры абгаварваюць пытаньне аб тым, каб павялічыць цану на збожжа. Адны прапануюць паліць збожжа ў топках паравозаў, другія—тапіць яго ў акіяне. Плянтатары трасьніковага цукру шукаюць выйсьця з крызіснага становішча ў пераходзе ад удасканаленых мэтодаў атрыманьня цукру з трасьніка, да старых менш эфэктыўных, каб зьменшыць колькасьць вытворчасьці цукру. Плянтатары кавы топяць у моры каву цэлымі параходамі, каб утрымаць цэны на высокім узроўні. Калі адны шукаюць якар паратунку ў такіх мерапрыемствах, другія больш слабыя экономічна руйнуюцца, а яшчэ больш слабыя (фэрмэры) пролетарызуюцца і папаўняюць армію беспрацоўных у горадзе. Сярод мільёнаў беспрацоўных у ПАЗШ вельмі солідны процант складаюць былыя фэрмэры, зруйнаваныя сельскагаспадарчым крызісам і ігрой фінансавых акул.

* * *

На грунце далейшага разгортваньня сусьветнага экономічнага крызісу адбываецца надзвычайна шпаркі процэс нарастаньня сусьветнага рэволюцыйнага руху. Найбольш характарнай рысай сучаснага пэрыоду зьяўляецца радыкалізацыя, паляваньне мас, адыход іх ад соцыял-здраднікаў, ад народніцка-згодніцкіх партый. У шэрагу краін ідзе процэс нарастаньня, хоць няроўнамерна, элемэнтаў рэволюцыйнай сытуацыі. Сярод эўропэйскіх краін процэс нарастаньня элемэнтаў рэволюцыйнай сытуацыі найбольш шпаркімі крокамі адбываецца ў Польшчы, якая была, ёсьць і застаецца найбольш слабым зьвяном у сыстэме капіталістычнай стабілізацыі. Жорсткія сутычкі беспрацоўных з паліцыяй, выступленьне сялян супроць абшарнікаў і зборшчыкаў падаткаў, вынікі перавыбараў у мясцовыя самакіраўніцтвы і ў сойм і дзесяткі іншых фактаў, зьяўляюцца лепшым доказам таго, што фашысцкая Польшча вайшла ў пэрыод жорсткага экономічнага і палітычнага крызісу.

Рэволюцыйным бражэньнем ахапляюцца колёніяльныя і напоўколёніяльныя народы, прычым у Кітаі, пад кіраўніцтвам Кітайскай Компартыі, якой, на жаль, не хапае яшчэ сіл, каб поўнасьцю ахапіць рух сялянскіх рэволюцыйных мас, рух набывае надзвычайна напружаны і пагражаючы для кітайскай буржуазіі, роўна як і для чужаземных імпэрыялістых, характар. Кітайскія сяляне, пад кіраўніцтвам Кіткомпартыі, вядуць няпрымірымую барацьбу за зьнішчэньне абшарнікаў і імпэрыялістых, за землю для сялян, за організацыю савецкае ўлады. У процэсе барацьбы яны пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго партыі вылучылі сваіх сялянскіх правадыроў, якія здолелі стварыць рэгулярныя атрады барацьбітоў, якія з поўным правам найменаваліся слаўным імем Чырвонай арміі Кітая. Праўда, кіраўніцтва сялянскім рухам з боку Кіткомпартыі ня мае выстарчальна шырокага ахопу таму, што разьвіцьцё рэволюцыйнай барацьбы сярод кітайскага пролетарыяту адбываецца некалькі замаруджаным тэмпам у параўнаньні з разьвіцьцём рэволюцыйнага руху сялянскіх мас. Героічны пролетарыят Кітая, абяскроўлены гоміндanaўскім тэрорам, толькі пачынае зноў падымацца на барацьбу. Але ў падзеях, што разгортваюцца ў Кітаі, яго кіруючы ўдзел усё больш і больш адчуваецца, авангард яго—Кітайская комуністычная партыя, усё больш і больш падцягвае ўсе клясавыя рэзэрвы, усё энэргічней разгортвае рэволюцыйную барацьбу.

Бурліць Індыя, прычым усё яскравей выступае на паверхню палітычнага жыцьця факт здрадніцтва індыйскай нацыянальнай буржуазіі, якая са страху перад разгортваньнем індыйскай рэволюцыі кідаецца ў абдымкі ангельскага імпэрыялізму, ідзе на зьдзелку з ім. У сувязі з гэтым надзвычайна шпарка расьце значэньне і вядучая роля пролетарыяту Індыі, усё шырэй і актыўней становяцца яго выступленьні. Францускі імпэрыялізм таксама перажывае вельмі цяжкія хвіліны ў сувязі з рэволюцыйнымі хваляваньнямі ў Інда-Кітаі, які мяжуе з аднаго боку з ахопленымі сялянскім паўстаньнем провінцыямі паўднёвага Кітаю, з другога боку—з бурлячай і мяцежнай Індыяй.

Тэрор становіцца ўсё больш адзінай прыладай кіраваньня колёніямі. Самыя жорсткія спробы, масавыя прысуды сьмерці—вось тыя перашкоды, якімі спрабуе старэючы капіталістычны сьвет затрымаць ход сусьветнай пролетарскай рэволюцыі ня толькі ў колёніяльных краінах, але ў сябе дома—у мэтрополіях.

* * *

Жорсткі экономічны крызіс, рост рэволюцыйнай хвалі абвастраюць усё супярэчнасьці капіталістычнай сыстэмы і зьяўляюцца крыніцай растучай ваеннай небясьпекі. Барацьба ўнутры капіталістычнай сыстэмы за аўладаньне сусьветнымі рынкамі сыравіны і збыту адбываецца ў першую чаргу паміж двума гігантамі капіталістычнай сыстэмы — паміж Англіяй, якая даўно захапіла сусьветныя рынкі, і ПАЗШ, якія энэргічна

выціскаюць яе з занятых позыцый. Аб напружанасьці і зацятасьці гэтай конкурэнцыйнай барацьбы, якая зьяўляецца прэлюдыяй для сьмяртэльнай сутычкі двух імпэрыялістычных драпежнікаў, сьведчаць наступныя даныя. У Канадзе, якая зьяўляецца доміліонам, уваходзячым у склад Брытанскай сусьветнай імпэрыі, у 1913 годзе ПАЗШ мелі капіталаўкладаньні на суму 417 млн. доляраў, а Англія-ж—на суму 1.850 млн. У 1929 г.— праз 15 год Амэрыка мела ўжо ў Канадзе 3.313 млн. доляраў, значыць павялічыла свае капіталы на 800 проц. Англія-жа толькі 2.234 млн. г. зн. павялічэньне на 50 проц. Гэтыя лічбы характарызуюць тэмп экономічнай заваёвы Канады П. А. Злучанымі Штатамі. Калі мы да гэтага дадамо, што 68 проц. усяго Канадзкага імпорту ідзе з Злучаных Штатаў, то будзе ясна, што Канада, застаючыся формальна часткаю Брытанскай імпэрыі, на справе перастае быць Брытанскай і ўсё больш і больш падпарадкоўваецца амэрыкансаму капіталу. Пытаньне юрыдычнага афармленьня—гэта пытаньне часу і гармат. Падобныя факты мы маем у адносінах Аўстраліі, Паўднёвай Амэрыкі, прычым, краіны Паўднёвай Амэрыкі, якія былі юрыдычна незалежнымі, а экономічна зьяўляліся колёніямі ангельскага капіталу да вайны, цяпер перайшлі ў поўную экономічную залежнасьць ад ПАЗШ і роля Англіі стала друга,—а часам і трэцяразраднай у экономіцы гэтых краін.

Таму асаблівае значэньне набываюць ваяўнічыя прамовы паасобных амэрыканскіх адміралаў. Гэтыя прамовы знайшлі вельмі яскравае падтрыманьне ў кнізе амэрыканскага публіцыстага Дэюдвэля Дэні. Гэты публіцысты ўзяў на шчыт усе выказваньні амэрыканскіх мілітарысцкіх колаў і напісаў кнігу аб няўхільнасьці вайны паміж ПАЗШ і Англіяй. У сваёй кнізе „Амэрыка заваёўвае Брытанію“ ён прыходзіць да наступнага вываду:

„У сучасным сьвеце, які становіцца ўсё больш цесным, няма месца для двух такіх буйных, варожых імпэрый, як Вялікабрытанія і Амэрыка. Або Брытанія дабраахвотна прызнае гегемонію Амэрыкі, або гэта гегемонія будзе зацьверджана ў крывавых баёх“.

Кніга Дэні набыла шырачэзную вядомасьць і популярнасьць у Амэрыцы. Амэрыканскі друк з незахаваным спачуваньнем разьбіраў, рэцэнзаваў і „крытыкаваў“ гэтую кнігу. Няма дзіўнага, што ня гледзячы, ці лепш сказаць,—пры дапамозе пацыфісцкай балбатні, капіталістычныя драпежнікі ліхаманкава праводзяць узброеньне.

Было-б аднак глыбачэзнай памылкай думаць, што насьпяваючы ваенны конфлікт паміж Амэрыкай і Англіяй, які сваімі жахамі перавысіць усё тое, што чалавецтва адчула ў часе імпэрыялістычнай вайны ў 1914—1919 г. г., ня можа быць часова адтэрмінаваным, і што, зьяўляючыся галоўнай лініяй разьвіцьця конфліктаў унутры капіталістычнай сыстэмы, ён ня будзе адсунуты на другую чаргу перад тварам конфлікту, які расьце і абвастраецца па меры паглыбленьня экономічнага крызісу, росту рэволюцыйнага руху ва ўсім сьвеце і посьпехаў соцыялістычнага

будаўніцтва ў СССР,—конфлікту паміж капіталістычнай сыстэмай і соцыялістычнай сыстэмай, створанай у СССР пролетарскай рэволюцыяй.

X Пленум ВККІ зусім правільна паказаў, што ў агульнай сыстэме сусьветных супярэчнасьцяй ёсьць адна найбольш небясьпечная, найбольш сур'ёзная небясьпека,— гэта „супярэчнасьць паміж капіталістычным сьветам і СССР“, і што „напад імпэрыялістых на СССР зьяўляецца галоўнай небясьпекай“. Перад тварам небясьпекі, якая пагражае капіталістычнаму сьвету з боку соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР, капіталістыя імкнуцца адсунуць крыніцы, што выклікаюць узаемную варожасьць паміж імпэрыялістымі.

Капіталістычны сьвет пакладае вялічэзныя высілкі для таго, каб на час зьмякчыць варожасьць, якая разьдзірае яго і стварыць адзіны фронт для расправы з Савецкім Саюзам. Найбольш яскрава гэтую тэндэнцыю выкрыла Лёндонская морская конфэрэнцыя, хоць яна па сутнасьці справы была ў поўнай меры бойкай вялікіх дзяржаў. Амэрыканская газэта „Чыкаго дэйлі ньюс“ у студзені 1930 году пісала, што на морскай конфэрэнцыі пяці дзяржаў адчуваецца нябачаная прысутнасьць яшчэ аднэй дзяржвы, а іменна—СССР“. Дзеля таго, што прысутнасьць сама па сабе ня кажа, то пра яе і ня кажуць, ці прынамсі крыху і ніколі адкрыта. Але яна ёсьць у думках дэлегатаў у некаторых пэўна, а ў іншых няясна. Яго неадчувальнае набліжэньне адбываецца па двух кірунках—праз Эўропу з Усходу і праз Ціхі акіян—з Захаду“. Я кажу—піша корэспондэнт гэтай газэты,—аб найвялікшым палітычным фактары,—аб Савецкай Расіі. Трэба адразу сказаць,—канстатуе корэспондэнт,—што ўплыў Расіі на конфэрэнцыю ня ўносіць разброду і разладу, наадварот, яго дзеяньне найлепшае. Расія наўмысьля ці міжвольна, напэўна наўмысьля, імкнецца стварыць настрой супольнасьці ў пяці дзяржаў найвялікшага морскага значэньня“.

Гэтыя словы вельмі сымптоматычныя, яны верна характарызуюць і тыя сілы, якія вядуць да расколу імпэрыялістычнага лягеру на варожыя, што зьнішчаюць адна другую фракцыі, і тыя сілы, якія часова консолідуюць гэты лягер.

Увесь апошні пэрыод быў перапоўнены спробамі імпэрыялістычных блёкаў уцягнуць Савецкі Саюз у вайну. Найбольш яскравай праявай гэтай палітыкі быў конфлікт справакаваны кітайскімі імпэрыялістымі на К. У. чыг. Гэта была спроба ўцягнуць нас у сур'ёзную вайну. У гэтым конфлікце мы ня толькі разграмілі кітайскіх імпэрыялістых, але мы здолелі зруйнаваць спробы сусьветных імпэрыялістычных драпежнікаў навязаць нам вайну і прыпісаць віну і адказнасьць за вайну на нас. Мы перамаглі таму, што здолелі пераканаць працоўныя масы дробнай буржуазіі ў тым, што мы вайны не жадаем, што мы жадаем міру, хоць і ня любой цаной. Мы здолелі нашай трывалай і вытрыманай барацьбой за мір мобілізаваць на актыўную абарону Савецкага Саюзу верных і адданых прыхільнікаў пролетарскай рэволюцыі—сусьветную рабочую клясу.

Польскія мілітарыстыя, якія ў часе конфлікту на К. У. чыг. з нецярпеньнем чакалі таго, што наша слаўная Чырвоная армія затопне ў конфлікце на Ўсходзе ня двухсэнсоўна рыхтваліся да ўдзелу ў гэтым конфлікце, выступленьнем на нашай заходняй мяжы. Польскі буржуазны друк чуў гукі польскага нацыянальнага гімну ў стральбе гармат над Сунгары. Гэты прадажніцкі друк спрабаваў справакаваць народы нашай Рэспублікі на ваеннае выступленьне самай нявытрыманай лаянкай і паклёпам. Іх газэты, як і буржуазныя газэты ўсёй Эўропы, былі перапоўнены паведамленьнямі аб тым, што наша слаўная Чырвоная армія паказвае ўсю сваю небаяздольнасьць, што яе могуць гнаць куды хочуць і як хочуць, нават кітайскія генэральскія банды. Калі прышоў момант і Чырвоная армія маланкава закончыла конфлікт на К. У. чыг., які цягнуўся 9 месяцаў, падпалячы ваеннага нападу на СССР высунулі наступнага ваеннага Пятрушку. Пачалася сэрыя польскіх кунштукаў. Міністар унутраных спраў Юзэфскі, які праславіўся сваім удзелам у анты-савецкіх інтрыгах, пераходзіць зноў на пасаду Валынскага ваяводы, і заключае шэраг зьдзелак з украінскімі нацыянал-фашыстымі, накіраваных супроць УССР. Падобная палітыка праводзіцца Віленскім віцэваяводай Кіртыклісам у адносінах беларускіх нацыянал-фашыстых і сваім астрыём накіравана супроць БССР.

Усё часьцей на старонках урадавага друку смакуюцца ўспаміны аб першай частцы Кіеўскага паходу, калі маршал Пілсудзкі паўтараў гэст польскага караля Балеслава Храбрага і ўдараў сваім мячом у „залатыя вароты“ Кіева. Зразумела, польскі друк не ўспамінае пра другую частку кіеўскага паходу, калі праверка трываласьці шляхецкага мяча на кіеўскіх сьценах прывяла да новага няпосьпеху гэтага мяча. Падрыхтоўка да ваеннай авантуры набывае настолькі інтэнсыўны характар, што партыя нацыянал-дэмакратаў у асобе сваяго прызнанага правадыра Рамана Дмоўскага лічыць патрэбным папярэдзіць польскую буржуазію, што агалцелыя мілітарыстыя вельмі далёка заходзяць у гульні з агнём. Зразумела, выступленьне Рамана Дмоўскага нельга расцэньваць як саветафільскае ці пацыфісцкае хоць-бы і ў чужакосьсі выступленьне. Раман Дмоўскі ідэолёг і правадыр польскай прамысловай буржуазіі, разам з сваёй партыяй зьяўляецца незадачлівым прэтэндэнтам на носьбіта фашысцкай дыктатуры ў Польшчы. Яго опозыцыя харчуецца сокамі ўнутры-клясавай конкурэнцыі, але тым ня менш гэта позыцыя опозыцыянэра да сучаснага носьбіта фашысцкай дыктатуры ў Польшчы—Пілсудзкага, робіць яго значна больш цьвярозым у ацэнцы сусьветных сіл. Раман Дмоўскі не знаходзіцца ў даны момант пад такім непасрэдным і буйным уплывам чужаземнай дыплёматыі і ўнутраных затрудненьняў, як Мусоліні з Бэльвэдэру, ды і яго палітычная орыентацыя ідзе па іншай лініі. Ён баіцца, што ў фэдэрацыі Украіны, Беларусі і Польшчы, аб якой марыць Пілсудзкі, ня Польшча і польская буржуазія будуць гегемонам. Эндэкі ўвесь час чакаюць адраджэньня „нацыянальнай“ Расіі.

Яны баяцца, што фэдэралістычная фантазія Пілсудзкага выкліча незадавольеньне прыхільнікаў „адзінай непадзельнай“. Сваімі выступленьнямі супроць ваенных плянаў Пілсудзкага, польскія нацыянал-дэмократы ні ў якім выпадку не заяўляюць аб салідарнасьці з пацыфізмам. Яны толькі высуваюць сваю ўласную концэпцыю ваеннага нападу на СССР.

Падрыхтоўка да нападу на СССР у Польшчы—гэта зьвяно ў цяжкім ланцугу, які выкоўваецца ангельска-францускім капіталам, які за апошні час дабіўся ў гэтай справе пэўных посьпехаў. Каралеўска-фашысцкі пераварот у Паўднёвай Славіі, падрыхтоўка фашысцкага перавароту ў Фінляндыі, ваенныя манэўры авіяцыйных эскадрылій Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі ў часе апошніх манэўраў Эстонскай арміі і, нарэшце, новая ваенная програма Швэцыі, бяз усякіх нават эківокаў, накіраваных супроць Савецкага Саюзу,—усё гэта зьвеньні аднаго і таго-ж ланцугу.

Вайна расьце. Яе рост відаць з росту ваенных нарыхтаваньняў і ў росьце ваенных бюджэтаў. ПАЗШ, Англія, Францыя, Італія, Японія выдавалі ў 1913 годзе на ваенныя мэты 2.300 млн. доляраў; у 1926 г., пасьля імпэрыялістычнай вайны 1914—1919 г. г., якая па запэўненьнях соцыял-дэмократычных дурняў і прайдзісьветаў павінна была быць апошняй, гэтыя краіны выдаткоўваюць 3.900 млн. доляраў, а ў 1930 годзе, пасьля 600-га паседжаньня камісіі пры Лізе Нацый па разброеньні, нават 5.700 млн. доляраў. Такім-жа чынам растуць ваенныя выдаткі краін, якія зьяўляюцца непасрэднымі суседзямі Савецкага Саюзу. У 1923 годзе яны выдаткоўвалі 184 млн. доляраў на ваенныя мэты. У 1926—224 млн. доляраў і ў 1930 г.—ужо 358 млн. доляраў. Трэба зьвярнуць увагу на той факт, што буржуазія ня столькі ставіць стаўку на колькаснае павялічэньне сваіх армій, як гэта было да вайны, практыка вайны і рэволюцыі ўсяліла ў яе страх перад мільённымі масамі ўзброеных рабочых і сялян. У гэтай галіне мы маем амаль стабільнае становішча і гарачыя пошукі выйсьця з становішча, такім чынам, каб па магчымасьці ўхіліцца неабходнасьці павялічваць колькасны склад арміі, а, наадварот, звужваць яго, замяняць армію па мобілізацыі—профэсыянальнай арміяй забойцаў. Усюды буржуазныя ўрады імкнуцца ўзмацніць наяўны кадравы склад арміі шляхам прыдачы ёй мэханічных сродкаў барацьбы.

У вельмі вялікай меры ўзрасла сіла агню, якім уладаюць сучасныя арміі. У 1913 годзе кулямёты аднэй дывізіі выпускалі 12 тысяч куль, у 1923 г.—377 тыс., а ў 1930 г.—кулямёты аднэй дывізіі могуць выкідваць 473 тыс. куль у хвіліну. У вялізнай ступені павялічылася якасьць узброеньняў буржуазных армій. Раней палявая гармата паражала сваім агнём плошчу на адлегласьці да 11 кілёмэтраў, прычым, кут яе абстрэлу складаў 6°, цяпер гэтая-ж гармата страляе на 14 кілёмэтраў, а горызонтальная яе наводка дасягае 60°. Яшчэ больш узрасла дзейнасьць артылерыі буржуазных армій па трапнасьці, дакладнасьці, скарастрэльнасьці, па разрыўной сіле снарадаў. Вялізарную ролю грала ў мінулай вайне авіяцыя. За час перадышкі паміж імпэрыялістычнай вайной 1914—19 г. г.

і новай вайной, сіла авіяцыі колёсальна ўзрасла і па колькасьці самалётаў, якімі ўладаюць буржуазныя арміі, і па якасных паказальніках дзеяньня гэтай авіяцыі. Тое-ж самае і ў галіне танкаў. Гэта ўжо не браніраваныя чарапахі, гэта браніраваныя снарады, якія рухаюцца з хуткасьцю 110 кілёмэтраў на калёсах і 60 кілёмэтраў—на вусеніцы. Ня менш шпарка расла ўдасканаленасьць морскае флёты. Калі ў 1913 г. лінейны карабель страляў на 22 кілёмэтры, то цяпер ён б'е сваімі шматпудовымі снарадамі на 37 кілёмэтраў. Падводныя лодкі, прылады вайны, якія выклікалі найбольш вострае ганьбаваньне з боку імпэрыялістых антантаўскага лягеру, цяпер сталі найбольш любімай іх прыладай. У 1913 г. нямецкі імпэрыялізм мог пахвастацца як дасягненьнем водазьмяшчэньнем падводнай лодкі ў 837 тон, зараз французскія падводныя лодкі маюць водазьмяшчэньне ў 3257 тон. Раён дзеяньня падводных лодак без заходу ў базу ўзьняўся з 4.000 кілёмэтраў да 13.000 кілёмэтраў.

Вось тыя найбольш яскравыя паказальнікі, якія дазваляюць нам меркаваць аб тэй магутнасьці сродкаў зьнішчэньня, якія буржуазія рыхтуе, каб замацаваць сваё панаваньне, каб умацаваць рэжым уціску і капіталістычнай эксплёатацыі. Але мы ўсё-такі мелі-б няпоўны малюнак, каб не зьвярнулі ўвагі на падрыхтоўку буржуазіяй усёй сваёй прамысловасьці да вайны. Гэтую падрыхтоўку ілюструюць яскрава наступныя лічбы: на выпадак вайны вытворчая магутнасьць Францыі ўзрасьце наступным чынам: у Францыі выраблялася да 1000 гармат у месяц, цяпер прамысловасьць можа даваць 1.500; самалётаў прамысловасьць магла даць 2 тыс., цяпер—5 тыс. у месяц і танкаў замест 250—1.500 штук.

Вось адчувальныя вынікі „барацьбы за мір“, якая праводзіцца імпэрыялістымі ў саюзе і пры дапамозе соцыял-фашысцкай пацыфісцкай дэмагогіі пад крылом Лігі Нацый.

* * *

Усе гэтыя факты разьвіцьця сусьветнага экономічнага крызісу, нарастаньне рэволюцыйнага руху і ваеннай небясьпекі зьяўляюцца руйнуючым ударам па ўсіх тэорыях правых опортуністых, у першую чаргу па тэорыі „арганізаванага капіталізму“, якім захапляўся тав. Бухарын і разважаньні якога давалі натхненьне і даюць натхненьне па сёньнешні дзень для ўсіх рэнэгатаў Брандлераў, Лоўстонаў, Попэраў, Ілекаў і іншых з імі. Зруйнаваная ўшчэнт тэорыя ўсемагутнасьці капіталістычнай сыстэмы, якая, ня гледзячы на патрасеньні пэрыоду імпэрыялістычнай вайны і пролетарскай рэволюцыі, магла быццам трывала стабілізавацца, тэорыя, якая знайшла найбольш яскравы выраз у выступленьнях т. Кастшэвы, сьпяваючай пра залаты дождж амэрыканскіх пазык, які павінен стаць асновай польскага працьвітаньня, па нотах, напісаных тав. Лапінскім. Яе тэорыя амэрыканскага залатога дажджу, які павінен быў трывала стабілізаваць гаспадарку Польшчы, зруйнавана ўшчэнт. Яе памоцнікі Эмбэр Дро, Эбэрт і інш. могуць правяраць трываласьць капіталі-

стычнай стабілізацыі на прыкладах крызісу, які ліхаманкава б'е і Швайцарыю і Нямеччыну.

Ход разьвіцьця падзей выкрывае антырэволюцыйную сутнасьць усіх тэорый правых опортуністых аб неабмежаваных магчымасьцях капіталістычнага разьвіцьця, якія быццам яму дазваляюць абмежавацца ўнутраным рынкам і адцягнуць момант экспансіі па-за межы на больш ці менш даўгі час. Мы тут маем на ўвазе ў першую чаргу тэорыю лідэра польскіх правых т. Бранда, які сьцьвярджаў, што польскі імпэрыялізм на даным этапе мае так многа спраў унутры краіны, што пытаньне экспансіі на Ўсход (супроць СССР) пытаньне больш ці менш далёкага будучага. Гэтая тэорыя прыводзіла да недаацэнкі ваеннай небясьпекі і ў першую чаргу недаацэнкі небясьпекі ваеннага нападу на Савецкі Саюз.

Жыцьцё сурова пасьмяялася над практыкаваньнямі італьянскага рэнэгата Сэрра, які ўсьлед за Бухарыным пярэчыў супроць анты-кулацкай політыкі нашай партыі і цьвярдзіў аб урастаньні кулака ў соцыялізм. Правыя опортуністыя на справе атрымалі ўрок таго, як адбываецца перарастаньне соцыял-дэмократыі ў соцыял-фашызм. Частка з іх выкрыла сябе да канца, што іх протэсты супроць называньня кошкі кошкай, і соцыял-прайдзісьвета—соцыял-фашыстым грунтуецца на падрыхтоўцы імі здрады комуністычнаму руху, шляхам пераходу ў лягер гэтых самых соцыял-фашыстых. Гэтыя людзі знаходзілі падтрымку сваім дзеяньням у тэорыі опортуністых, якія, як, напрыклад, адзін з кіраўнікоў польскай правай т. Стэфанскі, сьцьвярджалі, што фашызм прымушаны зруйнаваць соцыял-дэмократыю, не пакідаючы каменя на камені ад яе ідэолёгіі. Жыцьцё пацьвердзіла правільнасьць устаноўкі Комінтэрну, што ідэолёгія соцыял-дэмократыі перарастае ў ідэолёгію фашысцкую і што соцыял-дэмократы не зьяўляюцца рымскімі глядыятарамі, якія, паміраючы, вітаюць фашызм (тэорыя Костшэвы), а зьяўляюцца складавай часткай фашысцкай сыстэмы тэрору і ашуканьня мас.

У даны момант мы назіраем павальнае бегства правых з сваіх позыцый і славеснае прызнаньне правільнасьці лініі Комінтэрну і нашай партыі. Значна ў горшым стане знаходзіцца справа, бо правыя надзвычайна ахвотна крытыкуюць выкрытыя партыйнай крытыкай і самім жыцьцём права-опортуністычныя концэпцыі, дасьціпна дадаючы да гэтага, як сяміградзкі цыган: „Я не я, і конь ня мой“. Гэты манэўр правых, разьлічаны на выйгрыш часу, павінен быў атрымаць самы жорсткі адпор на XIII зьезьдзе, які паставіў перад дэлегацыяй КП(б)Б на XVI зьезд задачай дабіцца простага і нядвухсэнсоўнага адказу ад лідэраў правай опозыцыі, адказу, які-б моцна ўдарыў па ўсякіх іх рупарох накшталт Мамаева і яму падобных.

XIII зьезд даў бальшавіцкі адказ на асноўныя пытаньні міжнароднай політыкі, на асноўныя пытаньні барацьбы за вытрыманую ленінскую лінію партыі ў барацьбе з трэд-юніёнізмам ва ўсім Комуністычным Інтэрнацыянале. Гэты адказ адыграе значную ролю ў справе бальша-

візацыі нашых братэрскіх комуністычных партый, якія змагаюцца за нізрынуцьцё дыктатуры буржуазіі. Ён узмацніць кіруючую ролю комуністычнай партыі ў справе барацьбы за дыктатуру пролетарыяту; ён памножыць тыя вялізарныя дасягненьні, якія маюць гэтыя партыі, дзякуючы няўступлівай барацьбе з правымі опортуністымі, дасягненьні, якія асабліва яскрава праявіліся ў дзень 1-га жніўня 1929 года, 6 сакавіка 1930 года, у першамайскіх выступленьнях, а таксама ў магутнай хвалі забастовачнага руху, які разгортваецца, перавыбараў фабрычна-заводзкіх камітэтаў, выбараў у мясцовыя самакіраўніцтвы і ў буржуазныя соймы і парляманты.

* * *

КП(б)Б прышла на свой XIII зьезд з шэрагам сур'ёзьнейшых дасягненьняў. Партыя здолела выкрыць контррэволюцыйную сутнасьць прышчэпаўшчыны, як найбольш яскравага праяўленьня ва ўмовах БССР галоўнай на даным этапе правай небясьпекі. Партыя здолела зруйнаваць прышчэпаўшчыну ў галоўных апорных пунктах яе і ўзброіць нізавыя партыйныя організацыі на барацьбу з праявамі прышчэпаўшчыны. Гэта ня значыць, зразумела, што прышчэпаўшчына, як сыстэма поглядаў, як адбітак інтарэсаў пэўных соцыяльных груп, ліквідавана. Такое благадушша надзвычайна небясьпечна, бо яно магло-бы садзейнічаць рэцэдывам прышчэпаўшчыны. Прышчэпаўшчына будзе ліквідавана разам з тымі соцыяльнымі групамі, клясавыя інтарэсы якіх яна прадстаўляе.

Супраціўленьне клясавага ворага соцыялістычнаму наступленьню ва ўмовах БССР праходзіць у першую чаргу пад маскай нацыяналізму, барацьбы за „нацыянальныя інтарэсы". Партыі ўдалося ў вачох шырокіх мас сялянства выкрыць да канца гэты манэўр клясавага ворага. Партыя здолела выявіць усю контррэволюцыйную сутнасьць беларускага нацыянал-дэмократызму, які асабліва на даным этапе наступленьня рабочае клясы на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і пераходу да ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі зьяўляецца сур'ёзнай небясьпекай. Беларускі нацыянал-дэмократызм зьяўляецца агентурай беларускага нацыянал-фашызму ў БССР. Гэты апошні выражае кондэнсаваную волю беларускіх заможных кляс, якія ў Заходняй Беларусі, пад абаронай штыхоў польскай окупацыйнай арміі ствараюць сабе П'емонт для барацьбы за адраджэньне і організацыю беларускае буржуазнае дзяржавы на руінах БССР. Беларускія нацыянал-фашыстыя, роўна як і украінскія нацыянал-фашыстыя, згубілі рэшткі ілюзіі аб пераражэньні Савецкіх Рэспублік. Гэтыя ілюзіі, якія імі падзяляліся разам з найбольш буйнымі політыкамі буржуазіі (Лёйд Джордж) былі асновай іх рэзка опозыцыйнай позыцыі ў адносінах да польскіх окупацыйных улад у гады 1918—1924.

Узмацненьне дыктатуры пролетарыяту ў Савецкім Саюзе, аднаўленьне гаспадаркі і пераход да соцыялістычнай рэконструкцыі, да ліквідацыі

кулацтва як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі зруйнавалі гэтыя ілюзіі. Людзі, якія, як Луцкевіч ці Астроўскі, у гэтыя часы заігрывалі з масамі, кокетнічалі з радыкальнай організацыяй беларускіх працоўных мас „Беларускай сялянска-работніцкай Грамадой“, організацыяй, якая ўваходзіла ў склад рабоча-сялянскага блёку, на чале якога была комуністычная партыя, гэтыя людзі сталі без забрала супроць працоўных мас Заходняй Беларусі, як і ворагі і саюзьнікі польскіх окупантаў. Мала таго, што яны ідуць пад кіраўніцтвам і ў цясьнейшым саюзе з польскай буржуазіяй і яе выканаўчым камітэтам,—фашысцкай дыктатурай Пілсудзкага, яны зьяўляюцца застрэльшчыкамі грамадзянскай вайны ўнутры беларускага грамадзтва ў Заходняй Беларусі. Яны зноў узьнялі сьцяг Булак-Балаховіча і слуцкіх бандытаў. Іх нацыянал-фашысцкія баявыя дружыны прымалі ўдзел у спробе разгрому памяшканьня беларускага рабоча-сялянскага клюбу „Змаганьня“, ляскі дружыньнікаў разам з кіямі пераўбраных поліцэйскіх і фашысцкіх польскіх баявікоў пакінулі незамінальныя сьляды на чарапох многіх байцоў анты-фашысцкага лягеру.

Зразумела, ва ўмовах пролетарскай дыктатуры беларускія нацыянал-фашыстыя ня могуць праяўляцца ва ўсёй сваёй няпрыглядансьці. Рабоча-сялянскія масы БССР здолелі-б бяз труда адрозьніць ворага і даць яму руйнавальны адпор, так як яго даюць рабоча-сялянскія масы Заходняй Беларусі. Таму, клясавы вораг выступае ў нас пад маскай нацыянал-дэмократызму, ён спрабуе атрымаць давер'е працоўных мас гутаркамі аб самабытнасьці беларускай культуры, ён спрабуе пад выглядам барацьбы за чыстату беларускае мовы вытравіць з яе ўсё тое, чым беларуская мова ўзбагацілася дзякуючы пролетарскай рэволюцыі. Яны ва ўмовах БССР дзейнічаюць ціхай сапой. Асноўнае дасягненьне нашай партыі—гэта той факт, што контррэволюцыйная сутнасьць нацыянал-дэмократызму, што органічная сувязь нацыянал-дэмократаў з беларускім нацыянал-фашызмам, што іх роля агентаў беларускага нацыянал-фашызму і саюзьнікаў польскага імпэрыялізму стала зразумела самым шырокім працоўным масам, і што дзякуючы гэтаму масы атрымалі добрую прыладу барацьбы з клясавым ворагам.

Але партыя ні на хвіліну ня спыняла і ня спыняе барацьбы супроць шовінізму ўсіх іншых нацыянальных афарбовак і ў першую чаргу супроць рускага, вялікадзяржаўнага шовінізму. Партыя мае буйнейшыя дасягненьні ў галіне беларусізацыі, стварэньня і замацаваньня за сабой кіраўніцтва беларускай пролетарскай культурай.

Партыя вядзе барацьбу на два фронты—накіроўваючы ўвесь агонь супроць нацыянал-дэмократызму, яна не забывае аб неабходнасьці паражаць і вялікадзяржаўны рускі шовінізм, які зьяўляецца асноўнай перашкодай на шляху ахопу пролетарскім кіраўніцтвам будаўніцтва беларускай культуры, значыцца зьяўляецца асноўнай перашкодай у справе ўзмацненьня пролетарскага кіраўніцтва шырокімі сялянскімі масамі БССР. Вялікадзяржаўны рускі шовінізм вядзе сваё наступленьне супроць про-

летарскай дыктатуры ў ядна́ньні з беларускім нацыянал-дэмократызмам, з яўрэйскім шовінізмам і з шовінізмамі ўсіх іншых нацыянальных афарбовак. Найбольш яскравай праявай гэтага яднаньня ў барацьбе супроць лініі партыі ў галіне нацыянальнага пытаньня была дыскусія аб мове ў Беларускай Акадэміі Навук. У той час, як беларускія нацыянал-дэмократы ішлі пад сьцягам пурызму, пад сьцягам барацьбы за чыстату беларускае мовы, жадаючы ўзяць у яго аснову гутаркі найбольш адсталай часткі сялянства Беларусі, калі яны вялі барацьбу за ачышчэньне беларускае мовы ад інтэрнацыянальных слоў і слоў створаных у сумеснай рэволюцыйнай барацьбе беларускіх працоўных мас з працоўнымі масамі ўсяго Савецкага Саюзу,—у той час, вялікадзяржаўны рускі шовінізм ішоў пад сьцягам ультра-лявізны. Воўк-Левановіч, вучань проф. Карскага, адзін з ідэолёгаў вялікадзяржаўнага рускага шовінізму, выступіў з вельмі „левай“ тэорыяй, што калі гегемонам у адносінах сялянскіх мас зьяўляецца пролетарыят, то прыорытэт у галіне мовы павінен належаць тэй гутарцы, на якой гаворыць большасьць гарадзкіх жыхароў, што значыць, па думцы Воўк-Левановіча—большасьць пролетараў Беларусі. Гэтай гутаркай зьяўляецца некалькі папсаваная беларусіцызмамі руская мова. Вось тут-та і сабака была закапана. Тут мы мелі змычку вялікадзяржаўнага рускага шовіністага з беларускімі нацыянал-дэмократамі; лінія была агульная: супроць нацыянальнай політыкі партыі, пролетарыяту, супроць беларусізацыі, супроць кіраўніцтва пролетарыяту ў галіне стварэньня беларускай пролетарскай культуры.

Як у галіне барацьбы з беларускім нацыянал-дэмократызмам і рускім вялікадзяржаўным шовінізмам, так і ў галіне барацьбы з шовінізмамі ўсіх іншых нацыянальных афарбовак, у першую чаргу з польскім, які ўсё больш губляе характар рэакцыі на нацыянальны ўціск палякаў расійскім царызмам і набывае яскравыя рысы польскага вялікадзяржаўнага шовінізму, які зьяўляецца прыладай польскага імпэрыялізму. Партыя мела шэраг сур'ёзных дасягненьняў. Гэтыя дасягненьні ў першую чаргу знаходзяць свой выраз у росьце савецкай культуры польскіх працоўных мас БССР, у росьце іх рэволюцыйнай актыўнасьці і ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве. Усё больш узмацняецца інтэрнацыянальная сувязь працоўных мас БССР бяз розьніцы нацыянальнасьцяй.

Нельга ня спыніцца і на такім яскравым дасягненьні партыі, якое партыя атрымала на фронце барацьбы з антысэмітызмам, гэтай найбольш нізкай, найбольш ганебнай праявай нацыянальнага шовінізму. У гэтай галіне мы маем бязумоўна ўзрух і рост сьвядомасьці сярод пролетарскіх мас, ня гледзячы на тое, што кадры фабрычна-заводзкага пролетарыяту, у сувязі з ростам нашай прамысловасьці, надзвычайна разрэджваюцца прылівам з вёскі новых рабочых, якія нясуць на сабе груз дробнабуржуазных забабон і перажыткаў.

На фоне барацьбы з праявамі нацыянальнага антогонізму і нацыянальнай абмежаванасьці, партыя выкрыла і зруйнавала нацыянал-опор-

тунізм у сваіх шэрагах, як асноўную форму праявы права-опортуністычнага ўхілу ва ўмовах БССР. Дэклярацыі т. т. Жылуновіча і Чарвякова, выступленьні да зьезду т. Чарвякова і на зьезьдзе т. т. Чарвякова і Бэйліна паказваюць, што партыя біла правільна і трапна па гэтай небясьпецы. Зразумела, гэта ня значыць, што партыя ліквідавала нацыянал-опортунізм. Трэба ў далейшым захоўваць найвялікшую ўважлівасьць у гэтай галіне, бо нацыянал-опортунізм ці прымірэнцтва да шовінізму ўсіх нацыянальных афарбовак зьяўляецца ва ўмовах БССР найбольш частай, найбольш удобнай формай праяўленьня правага ўхілу на практыцы.

XIII зьезд КП(б)Б канстатаваў, што і наперад галоўнай і асноўнай небясьпекай застаецца права-опортуністычная небясьпека. Што зьезд не памыліўся мы можам заключыць па шэрагу выступленьняў правых опортуністых напярэдадні XVI зьезду ЎсеКП(б). Найбольш яскравай формай вылазкі правых опортуністых зьяўляецца артыкул Мамаева, надрукаваны ў дыскусыйным лістку, які выдаваўся ў перадзьездаўскі пэрыод пры ЦО партыі „Праўде". Артыкул Мамаева аднаўляе ў концэнтраванай форме атаку правых на партыю ў выглядзе нічым не захаванай спробы дыскрэдытаваць ЦК і ўзьвесьці паклёп на ўсю партыю, што лініяй партыі зьяўляліся дапушчаныя паасобнымі таварышамі і паасобнымі організацыямі перагібы пры правядзеньні колектывізацыі. У сваім артыкуле Мамаеў паўтарае і паглыбляе пляцформу правай опозыцыі з іх бяссэнсавымі сьцьвярджэньнямі пра „насаджэньне" колгасаў, з іх тэорыяй „дэградацыі" сельскай гаспадаркі, з іх абвінавачваньнямі партыі ў трацкізьме, з іх соцыял-дэмократычнай тэорыяй аб немагчымасьці колектывізацыі ў сувязі з „адсталасьцю" нашай краіны, з іх адмаўленьнем дасягненьняў партыі ў галіне індустрыялізацыі і колектывізацыі, з іх паклёпам аб прымусовым загоне серадьнякоў у колгасы, з іх сьцьвярджэньнем аб „размычцы" з серадняком, з іх адмаўленьнем існаваньня правага ўхілу, з іх выступленьнем супроць лініі партыі на ліквідацыю кулацтва як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі.

Артыкул Мамаева зьявіўся разгорнутай формай таго наступленьня права-опортуністычных ухілістых, з якім яны выступілі напярэдадні XVI зьезду ў шэрагу месц. Характарна, што ні адзін з лідэраў правага ўхілу ня лічылі патрэбным зганьбіць артыкул Мамаева і адгарадзіцца ад яго самым рашучым чынам. Гэта зьяўляецца найлепшым прыкладам манэўраваньня былых лідэраў правай опозыцыі Бухарына, Томскага і Рыкава.

XIII зьезд нашай партыі зусім правільна заклікаў партыю да барацьбы з правай небясьпекай, як галоўнай небясьпекай на даным этапе і патрабаваў адначасна не паслабляць udaраў па леваму опортунізму, які лье ваду на млын правых.

Зьезд правільна патрабаваў барацьбы з прымірэнчымі адносінамі да ўсіх відаў опортунізму, пра што часам паасобныя таварышы забываюць.

* * *

Савецкая краіна зьяўляецца адзінай краінай у сьвеце, якая не ўцягнута ў вір экономічнага крызісу капіталістычнай сыстэмы, якая ў процівагу капіталістычным краінам перажывае процэс бурнага разьвіцьця ўсіх сваіх вытворчых сіл і росту матэрыяльнага дабрабыту і культурнага ўзроўню мас. У той час, як капіталістычны сьвет перажывае жорсткі крызіс, які выяўляецца ў форме перавытворчасьці, адсутнасьці рынку, зьніжэньні пакупальнай здольнасьці насельніцтва, наша краіна перажывае бурны рост спажываньня, які стымулюе і харчуе шалёныя тэмпы росту нашай прамысловасьці.

За тры апошніх гады (1927-28—1929-30) буйная соцыялістычная прамысловасьць зрабіла гіганцкі скок наперад, павялічваючы сваю вытворчасьць больш, чымся ў два разы, дабіўшыся перавышэньня ў два з паловай разы даваеннай вытворчасьці. Пры чым, узяты нашай прамысловасьцю разгон разьлічаны на тое, каб у наступным 1930-31 годзе даць такі гадавы прырост прамысловай продукцыі, які будзе амаль раўняцца гадавой продукцыі даваеннага часу.

Асабліва вялікія дасягненьні нашай прамысловасьці ў галіне машынабудаўніцтва ў цэлым і ў прыватнасьці ў галіне сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва. Ужо сёньня ў нас у наяўнасьці ёсьць нагэтулькі магутная прамысловасьць, што яна можа ўзяць на сябе вырашэньне буйнейшай задачы соцыялістычнай рэволюцыі—соцыялістычную організацыю земляробства. Сельскагаспадарчае машынабудаўніцтва ўжо ў бягучым годзе больш, як у шэсьць раз перавысіць разьмеры даваеннай вытворчасьці, у наступным годзе—1930-31, яна павінна давесьці сваю вытворчасьць да разьмераў у дзесяць, а то і дванаццаць раз перавышаючы даваенныя разьмеры вытворчасьці ў СССР і такім чынам дагнаць вытворчасьць сельскагаспадарчых машын у ПАЗШ.

Тэмпы нашага разьвіцьця ў параўнаньні з тэмпамі разьвіцьця перадавых капіталістычных краін у некалькі разоў вышэй. Калі рост прамысловай продукцыі ПАЗШ у сярэднім хістаўся каля 4,5 проц. у год, то ў нас сярэднягадавы рост продукцыі раўняецца 28 проц., пры чым, у нас ёсьць усе даныя для таго, каб спадзявацца на трэцім годзе пяцігодкі значна перавысіць і гэты тэмп. Калі мы прымем пад увагу, што савецкая прамысловасьць павялічыла сваю продукцыю на 30 проц., і што гэтае павялічэньне зьяўляецца стала растучай крывой, і калі мы прымем пад увагу, што за апошнія дзевяць месяцаў вытворчасьць ПАЗШ скарацілася на 18—20 проц., у Нямеччыне—на 13 проц., Польшчы—на 19 проц., у Канадзе—10—12 проц., то для нас будзе зразумелым яскрава прогрэсыўнае значэньне савецкай сыстэмы і рэакцыйнае—капіталістычнай сыстэмы.

Прогрэсыўны характар нашай сыстэмы і закладзеныя ў ёй унутраныя, рухаючыя наперад сілы асабліва падкрэсьлівае рост заработнай платы рабочых, які ўжо дасягае 139 проц. даваеннага ўзроўню, а разам з на-

лічэньнямі на зарплату нават 167 проц. Толькі ва ўмовах пролетарскай дыктатуры мог быць зьдзейсьнены лёзунг высокай і ўсё ўзрастаючай заработнай платы, якім Гувэр марыў лячыць капіталістычную гаспадарку Амэрыкі. У той час, калі лёзунг, высунуты Гувэрам, быў дэмагогічнай забаўкай, разьлічанай на заспакаеньне працоўных і пролетарскіх мас Амэрыкі, у той час наша палітыка заснавана на сыстэматычным падвышэньні матэрыяльнага і культурнага ўзроўню дабрабыту працоўных мас. Гэта палітыка зьяўляецца складовай часткай генэральнай лініі нашай партыі на паскарэньне гаспадарчага разьвіцьця нашай краіны, як базысу соцыялістычнага будаўніцтва.

У гэтым процэсе сыстэматычнага павялічэньня заработнай платы рабочых, скарачэньня рабочага дню, падвышэньня матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцьця рабочае клясы знаходзяць свой яскравы выраз перавагі краіны пролетарскай дыктатуры перад капіталістычнымі краінамі, дзе адбываецца процэс вялізарнага павялічэньня колькасьці беспрацоўных пры адначасным павялічэньні рабочага дню, зьніжэньні зарплаты і інтэнсыфікацыі і эксплёатацыі працы.

Пра дасягненьні савецкае гаспадаркі пад кіраўніцтвам партыі і пролетарыяту могуць сьведчыць наступныя даныя. Агуловая продукцыя народнае гаспадаркі: у 1925-26 г. доля аграмаджанага соцыялістычнага сэктару складала ледзь 35 проц., а ў 1929-30 годзе ўзьнялася да 51,2 проц. Значыцца, з усяго таго, што вытвараецца ў нашай краіне ў гэтым годзе больш чым палова вытвараецца ў соцыялістычным аграмаджаным сэктары нашае гаспадаркі.

Калі возьмем таварную частку продукцыі, то атрымаем яшчэ больш характарныя лічбы: агульная сума таварнай продукцыі вырасла з 1925-26 г. на 1929-30 г. з 15,5 млрд. да 28 млрд. р., г. зн. на 80 проц., у той час, доля аграмаджанага сэктару ўзрасла з 9 млрд руб. да 21 млрд. руб., значыцца на 133 проц. Такім чынам, нам удалося ўзьняць адносную вагу соцыялістычнага сэктару ў галіне таварнае продукцыі з 58 да 75 проц. Такія-ж яскравыя лічбы мы маем у галіне таваразвароту краіны, які ўзрос з 29,1 млрд. руб. у 1926-27 г. да 59,3 млрд. у 1929-30 г., пры чым доля прыватнага капіталу, які няўхільна выціскаецца намі, зьменшылася за гэты адцінак часу з 24,5 проц. да 3,3 проц.

Увесь гэты рост знаходзіць найбольш свой яскравы і концэнтраваны выраз у росьце нашага бюджэту. Такога росту бюджэту, ня ведае ніводная краіна. Наш бюджэт, які ахапляе вялізарную частку народна-гаспадарчага прыбытку, з году ў год павялічвае гэты ахоп, вырастае з 6,4 млрд. у 1926-27 г. да 13 млрд. у 1929-30 г.

* * *

Усе гэтыя дасягненьні сьведчаць, што пяцігадовы плян соцыялістычнага будаўніцтва няўхільна ажыцьцяўляецца пад кіраўніцтвам партыі і будзе выкананы значна хутчэй, чымся меркавалася. Здабычу каменна-

вугольнай прамысловасьці меркавалася павялічыць па пяцігадоваму пляну, зацьверджанаму зьездам саветаў на 212 проц. На самой справе, работы разгортваюцца такім тэмпам, што к канцу пяцігодкі павялічэньне здабычы ў параўнаньні з 1927-28 г. будзе на 340 проц. Характэрна, што паводле першапачатковых разьлікаў магутнасьць старога Данбасу прымалася роўнай 20 млн. тон. Між тым у 1929-30 г. Данбас дае ўжо 40 млн. тон. К канцу пяцігодкі чакаецца, што ён будзе даваць 73 млн. тон.

Зьезд саветаў зацьвердзіў рост здабычы жалезнай руды ў 3,4 разы за пяцігодку, па пракату — у 2,4 разы. Па машынабудаўніцтву — у 3,5 разы, па электрапрамысловасьці — 4,8 разы, па вырабу цэглы і будаўнічых матэрыялаў—5,2 разы. На самой справе мы будзем мець, мяркуючы па тэмпу разьвіцьця за першыя два гады пяцігодкі, супроць 1927-28 г. здабычу жалезнай руды павялічаную ў 5 з лішнім раз, пракат мэталю — у 4 разы, агульнае машынабудаўніцтва — у 8 раз, электрапрамысловасьць — у 16 раз, здабычу цэглы і будаўнічых матэрыялаў — у 10 раз. Усе гэтыя даныя паказваюць, што Савецкая краіна зьмяняе сваю пяцігодку на ходу ў бок павялічэньня: па чыгуну спачатку меркавалі к канцу пяцігодкі здабываць 6 млн. тон, затым вызначылі 10 млн. тон, ды і гэта была галодная норма ў параўнаньні з запатрабаваньнямі, якія прад'яўляе растучая савецкая індустрыя і сельская гаспадарка. Цяпер ясна, што ўдасца дасягнуць к канцу пяцігодкі, не гледзячы на дзеяньні шкоднікаў і ўласныя памылкі.

Зразумела, такі колёсальны рост програмы па вытворчасьці чыгуна патрабуе адпаведных зьмен у пляне прамысловага будаўніцтва. Сапраўды, Магнітагорскі завод проэктаваўся з разьлікам на вытворчасьць 800 тысяч тон чорнага мэталю ў год. Затым яго вытворчая програма была некалькі павялічана. У сучасны момант, згодна рашэньняў Політбюро ЦК УсеКП(б) разгортваецца будаўніцтва Магнітагорскага гіганту з разьлікам на вытворчасьць 2½-3 млн. тон чыгуна ў год. Гэта будзе другі на сьвеце чыгунна-ліцейны завод.

У галіне здабычы нафты Дзяржплян у сваёй пяцігодцы меркаваў дасягнуць здабычы 18 млн. тон. Гэты плян быў прызнаны Саветам Працы і Абароны невыстарчальным у сувязі з вялізарным ростам спажываньня нафты сельскай гаспадаркай, якая мэханізуецца. СПА ўстанавіў здабычу 26 млн. тон.

Гэтыя лічбы былі прызнаны ЦКК—РСІ невыстарчальнымі і ўрад Савецкага Саюзу па прапанове ЦКК—РСІ прыняў програму здабычы нафты ў 40 млн. тон к канцу пяцігодкі. Разьвіцьцё бурэньня і здабычы нафты першыя два гады пяцігодкі паказвае, што гэтае заданьне будзе выканана ў 3½, максымум 4 гады. У галіне распрацоўкі асноўнага багацьця Савецкага Саюзу—у лясной прамысловасьці мы маем шэраг дасягненьняў, якія трэба характарызаваць, як гіганцкія крокі наперад. Гэта датычыцца ня толькі здабычы сыравіны, але і апрацоўкі дравясіны. Такім чынам, програма па піламатэрыялах, якая амаль у 3 разы пера-

вышае лічбы 1927-28 году, павялічана супроць першапачатковых намётак *яшчэ ў два разы.*

Падважнікамі, пры дапамозе якіх народная гаспадарка СССР уздымаецца ўсё вышэй і вышэй, якія гарантуюць пасьпяховае выкананьне і перавыкананьне пяцігодкі, зьяўляецца грандыёзнае прамысловае будаўніцтва і рэконструкцыя старых заводаў. Магнітагорскі завод. Нядаўна закончаны Сталінградзкі трактарны завод, які выпусьціў да XVI зьезду партыі першыя трактары. Турксіб—адно з найбольш сур'ёзных чыгуначных будаўніцтваў ва ўсім сьвеце за апошні пэрыод часу. Рэконструкцыя Пуцілаўскага заводу. Рэконструкцыя і пабудова Харкаўскага трактарнага заводу. Днепрабуд. Усе гэтыя будаўніцтвы адбудоўваюцца ў дакладна ўстаноўленыя тэрміны, пры чым, тэрміны, прадугледжаныя ўсімі плянамі, на справе значна скарачаюцца, дзякуючы рэволюцыйнай актыўнасьці рабочых мас, уцягваючых сваім энтузіязмам у соцыялістычнае спаборніцтва і інжынэрна-адміністрацыйны пэрсонал, нават чужаземных спэцыялістых. Сталінградзкі трактарны завод і Днепрабуд сваімі дасягненьнямі ў галіне шпаркасьці будаўніцтва далёка пакінулі за сабой амэрыканскія тэмпы. Цяпер заклікаць працаваць амэрыканскім тэмпам азначае клікаць назад, а не наперад. Тэрмін—„бальшавіцкія тэмпы“ мае глыбачэзнае і выключна конкрэтнае значэньне. Дзякуючы рэволюцыйнаму энтузіязму мас, соцыялістычнаму спаборніцтву і жорсткаму правядзеньню плянавых асноў, пяцігодка па каменнаму вуглю, трактарабудаўніцтву, нафце, торфу, аўтомобілябудаўніцтву, вытворчасьці будаўнічай цэглы, абутку і солі— будзе выканана ў тры гады. Па вытворчасьці бэнзыну, цэманту—у $3^1/_2$ гады. Па жалезнай рудзе, па чыгуну, сталі, па паперы і картону—у 4 гады.

У сучасны момант буржуазны і соцыял-фашысцкі друк ужо перасталі гіронічна адносіцца да бальшавіцкай пяцігодкі соцыялістычнага будаўніцтва. Буржуазія, яе лідэры і агенты накшталт Альбэрта Тома „паверылі“ ў ажыцьцяўленьне пяцігодкі. Мала таго, ім уяўляецца грозная конкурэнцыя савецкай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Яны пачынаюць паклёпнічаць, што той жорсткі экономічны крызіс, які перажывае капіталістычны сьвет, мае сваёй прычынай савецкі дэмпінг—конкурэнцыю савецкай продукцыі, якая, быццам-бы, вырабляецца прымусовай працай і таму зьяўляецца найбольш таннай. Гэтыя ілжывыя выдумкі павінны затушоўваць той факт, што рабочыя Савецкага Саюзу працуюць ня звыш 8 гадзін у дзень, што ўжо звыш 40 проц. рабочых карыстаюцца 7 і 6 гадзінным рабочым днём, што ў сельскай гаспадарцы—найбольш адсталай частцы народнае гаспадаркі Савецкага Саюзу,—рабочы дзень не перавышае 10 гадзін у суткі. А між тым у краінах капіталізму мізэрная меншасьць рабочае клясы мае 8-гадзінны рабочы дзэнь, вялізарная-ж большасьць працуючых прымушана працаваць 10—12 гадзін на фабрыках, а ў сельскай гаспадарцы рабочы дзень парабкоў даходзіць да 18 гадзін у суткі. У францускіх, бэльгійскіх і ангельскіх колёніях існуе закон *аб прымусовай*, значыцца, *аб нявольніцкай працы.*

Калі мы да гэтага дадамо, што ў большасьці капіталістычных краёў няма соцыяльнага забесьпячэньня рабочых, ці гэтае соцыяльнае забесьпячэньне ахапляе нязначныя колы рабочых, якія, да слова, павінны аплачваць соцыяльнае забесьпячэньне з свае ўласнае кішэні, тады зусім стане ясным, дзе мае месца нявольніцкая прымусовая праца.

Савецкі Саюз перамагае польскіх лесагандляроў у першую чаргу тым, што ў выніку нацыяналізацыі лясоў ён вызвалены ад плацяжу рэнты абшарнікам і зямельным уласьнікам; па-другое, Савецкі Саюз б'е іх, дзякуючы плянавай організацыі лясной гаспадаркі і шырокаму ўжываньню мэханізацыі. Савецкі Саюз б'е ангельскіх вугольных магнатаў і ангельскіх нафтавых спэкулянтаў тэй-жа зброяй, што і польскіх лесапрамыслоўцаў. Ён ня плаціць рэнты сваім зямельным магнатам, як гэта прымушана рабіць ангельская вугольная прамысловасьць. Ён ня плаціць рэнты Нобэлям, Манташавым і іншым уласьнікам нафтавых палей; Савецкі Саюз рэорганізаваў, абнавіў і рэконструіраваў тэхнічна-вытворчую аснову і нафтавай і вугольнай прамысловасьці. Вось чаму савецкая прамысловасьць можа выступаць на сусьветныя рынкі і граміць ужо сёньня сваіх капіталістычных супраціўнікаў. Ня дэмпінг, не політыка бросавых цэн перамагае,—перамагаюць плянавыя асновы, закладзеныя ў савецкай соцыялістычнай гаспадарцы.

* * *

Пражжонныя буржуазныя журналістыя і біржавыя дзяльцы спрабуюць пераключыць разгаворы аб вялізарным катастрофічным росьце беспрацоўя ў краінах капіталізму на разгаворы аб выабражальным росьце беспрацоўя ў СССР. Гэта спроба адцягнуць увагу ад няшчасьцяў беспрацоўя ў капіталістычных краінах атрымоўвае моцны адпор у факце зьмяншэньня беспрацоўя ў СССР. Крыніцай беспрацоўя ў СССР зьяўляецца вялізарны прыток свабодных рабочых рук у гарады з вёскі. У 1928 годзе з вёсак у гарады СССР на заработкі прышло 3.900 тысяч чалавек, у 1929 годзе—4.200 тысяч чалавек. Апрача таго, у мінулым годзе на біржах працы зарэгістравалася вялізарная колькасьць людзей, якія ў пяршыню шукалі працы. Ня гледзячы на гэты вялізарны прыліў у гарады шукаючых заработку, беспрацоўе ня толькі не павялічылася, а, наадварот, паменшылася. У пачатку чэрвеня 1930 года на ўсіх біржах працы СССР налічвалася 900 тысяч беспрацоўных супроць 1.800 тысяч у маі мінулага году. У сувязі з вялізарнай патрэбнасьцю ў рабочай сіле трэба чакаць у бліжэйшым часе яшчэ большага зьніжэньня гэтай лічбы. Пры чым 900 тысяч беспрацоўных, якія засталіся ў чэрвені месяцы на біржах працы, асоб індустрыяльных профэсый налічваецца ледзь 100 т. чал.

*Савецкая народная гаспадарка ўжо цяпер адчувае значны недахоп у кваліфікаванай рабочай сіле.* Недахоп кваліфікаванай рабочай сілы становіцца ў шмат якіх галінах прамысловасьці вузкім месцам, які замаруджвае рост. Мы маем справу ня толькі з рэзкім зьмяншэньнем бес-

працоўя, але бязумоўна з пачаткам поўнай ліквідацыі беспрацоўя. Паводле папярэдніх разьлікаў у 1931 годзе народная гаспадарка запатрабуе звыш 2 мільёнаў новых кваліфікаваных рабочых. Зараз на біржах працы зарэгістравана 200 тысяч падлеткаў, а асеньні і веснавы наборы ў школы фабзавуча патрабуюць больш 400 тысяч чалавек. 350 тысяч беспрацоўных ахоплена вытворчым абучэньнем і пераабучэньнем, на што ў бягучым годзе затрачана 80 млн. рублёў супроць 15 млн., затрачаных у мінулым годзе. Вось чаму Народны Камісарыят Працы СССР распрацаваў проект закону, які значна пашырае кола асоб, рэгіструемых біржамі працы. Згодна проекту біржы працы будуць рэгістраваць батракоў і батрачак, жонак рабочых і служачых, якія апошнія гады нават не працавалі па найму, членаў прамысловых арцеляй, аб'яднаных і неаб'яднаных прамкоопэрацыяй, саматужнікаў—адзіночак дэфіцытных профэсый, удоў рабочых і служачых, а таксама падлеткаў дзяцей рабочых, служачых і саматужнікаў.

У той-жа час, як капіталістычны сьвет мае армію беспрацоўных, якая налічвае звыш 20 млн. чалавек, а з сем'ямі ня менш 60 млн. чалавек,— у той час, калі беспрацоўе ў выніку капіталістычнай рацыяналізацыі становіцца сталым зьявішчам значнай часткі кваліфікаваных рабочых і пераважаючае большасьці некваліфікаваных,—у той час соцыялістычная сыстэма савецкае гаспадаркі забясьпечыла поўнае паглыненьне ўсяго прытоку рабочае сілы з вёскі, поўнае паглыненьне наяўных кадраў кваліфікаванай рабочай сілы і на другім годзе пяцігодкі забясьпечыла дасягненьні пачатку поўнай ліквідацыі беспрацоўя.

* * *

Малюнак росту соцыялізму будзе ня поўным, калі мы ня спынімся на росьце соцыялістычнага сэктару ў сельскай гаспадарцы. Апошні год быў годам найвялікшага пералому ў сельскай гаспадарцы СССР. Партыя і савецкі ўрад прыняліся за вырашэньне збожжавай проблемы і проблемы сельскагаспадарчай сыравіны для прамысловасьці. У выніку напружаных высілкаў Савецкі Саюз мае вялізарную зямельную плошчу пад збожжавымі фабрыкамі. Трактары і машыны далучылі многія мільёны гектараў зямлі да культурнай зямельнай плошчы. Пад уплывам гэтае практыкі вялізныя масы серадняцтва павярнулі з капіталістычнага шляху разьвіцьця на соцыялістычны і разам з беднатой пад кіраўніцтвам партыі пачалі перабудоўваць свае адзіна-асабовыя гаспадаркі на асновах колектывізацыі. На 1 мая 1930 г. у асноўных збожжавых раёнах колектывізацыя ахапіла каля 40 проц. сялянскіх гаспадарак супроць 2-3 проц. якія былі вясной 1928 г. Засеўная-ж плошча колгасаў па ўсяму СССР, якая займала ў 1928 годзе 1,5 млн. *га,* узьнімаецца ў бягучым годзе амаль да 35 млн. гектараў. У выніку гэтага, колгасы разам з саўгасамі ўжо ў бягучым 1930 годзе дадуць асноўную частку таварнага збожжа ў адзнаку ад пэрыоду да XV зьезду, калі асноўная частка збожжавай продукцыі знаходзілася ў руках прыватных дробна-таварных вытворцаў.

* * *

На фоне гэтых грандыёзных дасягненьняў усяго Савецкага Саюзу асабліва яскравы дасягненьні БССР, якія адзначыў у сваіх рашэньнях XIII зьезд КП(б)Б. Зьезд правільна лічыць індустрыялізацыю БССР важнейшай задачай у галіне ўзьняцьця ўсяе народнае гаспадаркі. У гэтай установцы зьезду знаходзіць свой адбітак генэральная лінія ЎсеКП(б), а таксама асновы бальшавіцкай нацыянальнай палітыкі. Нацыянальная палітыка ЎсеКП(б) накіравана на гаспадарчае ўзьняцьце адсталых рэспублік і краін і культурнае разьвіцьцё шырокіх працоўных мас. Яна разьлічана на тое, каб забясьпечыць разьвіцьцё нацыянальнай культуры і стымуляваць адначасна рост пролетарыяту ў нацыянальных рэспубліках і краінах. Гэтымі шляхамі забясьпечваецца трываласьць і непарушнасьць Савецкага Саюзу. Няма дзіўнага, што XVI партконфэрэнцыя ЎсеКП(б) дала дырэктыву ў прысьпешаным тэмпе разьвіваць гаспадарку нацыянальных адсталых рэспублік і краін. У адпаведнасьці з гэтай дырэктывай мы бачым больш шпаркі рост усіх нацыянальных рэспублік і краін, у тым ліку і БССР, якая па тэмпах свайго разьвіцьця выпярэджвае разгортваньне прамысловасьці ўсяго Савецкага Саюзу. У той час, калі прамысловасьць Савецкага Саюзу за пэрыод з 1924-25 году па 1928-29 г. мела прырост 26 проц., а ў 1929-30 годзе—32 проц., БССР за той-жа пэрыод часу мае—34 проц., і ў 1929-30 годзе—76,5 проц.

У сувязі з гэтым, адносная вага прамысловасьці БССР у саюзным маштабе з 0,76 проц. у 1924-25 годзе ўзьнялася да 1,43 проц. у 1928-1929 г. і да 2,13 проц. у 1929-30 годзе. Адначасова павялічылася вядучая роля прамысловасьці ў народнай гаспадарцы БССР: сума продукцыі прамысловасьці павялічалася з 26,9 проц. у 1925-26 г. да 48,8 проц. у 1929-30 годзе. Пры чым цэнзавая прамысловасьць за гэты час узрасла з 9,9 проц. да 31,7 проц.

Праўда, да гэтага часу Савецкая Беларусь пакуль яшчэ знаходзіцца амаль на апошнім месцы ў шэрагу іншых рэспублік Савецкага Саюзу па колькасьці рабочых і па адноснай вазе рабочых да ўсяго насельніцтва. Але тэмпы росту рабочае клясы ў БССР зьяўляюцца найбольш высокімі з усіх савецкіх рэспублік. Па ўсяму Саюзу тэмп росту фабрычназавадзкіх рабочых дае наступныя лічбы: колькасьць рабочых у 1928-1929 г. у параўнаньні з 1927-28 годам павялічылася па РСФСР — на 9 проц., у тым ліку па Маскве—на 10,7 проц., па Ленінграду—на 9,4 проц., па Уралу—на 15,2 проц., па УССР—на 8,3 проц., па БССР-жа—на 20,8 проц. Калі рост рабочых у 1928-29 г. па ўсяму СССР раўнаўся 7,8 проц., то па БССР мы мелі рост на 15,2 проц., у 1929-30 годзе мы мелі па БССР рост на 31,3 проц. супроць росту на 5,7 проц. па ўсяму Савецкаму Саюзу.

Капітальныя ўкладаньні ў прамысловасьць БССР вызначаліся па пяцігадоваму пляну ў суме 280 млн. руб., у 1929-30 годзе мы ўкладваем 73 млн. руб., замест 63 млн., прадугледжаных пяцігодкай, значыцца, на

16 проц. больш. Тэмпы нарастаньня капітальных работ можна праілюстраваць наступнымі лічбамі: у 1926-27 годзе на капітальныя работы было выдадзена 10,8 млн. руб., у 1927-28 г.—16,4 млн. р., у 1928-29 г.—24,7 млн. руб., а ў 1929-30 г.—48 млн. руб. Да 1927-28 году было пачата і пабудавана 14 прадпрыемстваў, у 1928-29 г.—17, у 1929-30 г. пачынаецца пабудова каля 40 прадпрыемстваў. Вось тэмпы індустрыялізацыі БССР.

У параўнаньні з даваенным часам агуловая продукцыя ўсёй цэнзавай прамысловасьці ўзрастае ў 1928-29 г. у 2½ разы, пры чым за пэрыод з 1924-25 году па 1928-29 год мы маем рост продукцыі з 72 млн. руб. да 232 млн. рублёў. Гэты-ж год дасьць нам продукцыі па тых-жа цэнах на 400 млн. руб.

Агуловая продукцыя цэнзавай прамысловасьці, у тым ліку і мясцовая, за апошні год узрасла з 121.900 тысяч рублёў у 1926-27 годзе да 387.500 тыс. руб. у 1929-30 г. Расьце, хоць некалькі больш павольным тэмпам агуловая продукцыя саматужнай прамысловасьці. Вартасьць саматужнай продукцыі складала ў 1927-28 годзе—140 млн. р., у гэтым-жа годзе—155 млн. р.

Прамысловасьць БССР стала рашуча на шлях організацыі новых вытворчасьцяй і паступовай ліквідацыі залежнасьці ад імпорту. Такім чынам, на заводзе „Чырвоны Мэталісты“ ў Віцебску вызначана на будучы год выпусьціць продукцыі на 6.800 тыс. руб., з іх на 3½ млн. руб. продукцыі, якую БССР імпартавала з-за граніцы. Гэта былі: балотныя плугі, трактарныя плугі, бароны, жмыха-драбілкі, карнярэзкі. На Гомельскім сельмашы, які яшчэ недабудаваны цалкам, вызначана выпускаць абсталяваньне, якое мы да гэтага часу імпортавалі (на 24 млн. руб.). „Чырвоны Адраджэнец“ у Магілеве з продукцыяй у 900 тыс. рублёў будзе выпускаць абсталяваньне, якое мы раней імпартавалі на 740 тыс. р. Уся програма машынабудаўніцтва, уключаючы сельскагаспадарчыя, разьлічана на 31.700 тыс. рублёў, з чаго на абсталяваньне, якое раней прывозілася з-за граніцы падае, сума ў 29.140 тыс. рублёў.

Яшчэ больш грандыёзныя посьпехі БССР павінна адзначыць у галіне электравытворчасьці. Да рэволюцыі ў БССР была зусім мізэрная сетка гарадзкіх электрастанцый. У сучасны момант электразабесьпячэньне БССР расьце наступным чынам: у 1927-28 годзе мы мелі 37,3 млн кілёват-гадзін, у 1928-29 г.—50,2 млн. кілёват-гадзін і ў 1929-30 годзе мяркуецца выпрацаваць 85,1 млн. кілёват гадзін. Гэта азначае ў процантах рост на 134,6 і 169,5 проц. супроць продукцыі папярэдняга году. Магутнасьць-жа ўсіх электраўстановак складала на 1/X 1927 году—11,7 тыс. кілёват-гадзін; на 1/X-28 г.—14,4 тыс. кілёват-гадзін (павялічэньне на 123,1 проц.); на 1/X-29 г.—17,2 тыс. кілёват гадзін (плюс 119,4 проц.) і на 1/X-30 г.—33,6 тыс. кілёват-гадзін (плюс 195,4 проц.). Апошняя лічба зьвязана з пускам Сталінскай электрастанцыі на Асінаўскім балоце, якая пачне працаваць да 14-й гадавіны Кастрычніка.

Гэтыя грандыёзныя дасягненьні не азначаюць, аднак, што ўсё, заданае партыяй, выконваецца цалкам. Па агуловай продукцыі за 7 месяцаў програма выканана прамысловасьцю БССР толькі на 92,5 проц., г. зн. крыху больш, чымся на 43 проц. гадавога заданьня. У сувязі з недавыкананьнем програмы народная гаспадарка БССР не даатрымала за 7 месяцаў продукцыі на 8 млн. рублёў. Абутковая прамысловасьць недадала народнай гаспадарцы БССР і СССР—152 тысячы пар абутку. Запалкавая прамысловасьць за гэты-ж час недавыпрацавала 28 тыс. скрынь запалак, баваўняная—недавыпрацавала больш 800 тыс. мэтраў тканін. Гэта буйнейшыя недахопы, ня гледзячы на той факт, што ў параўнаньні з мінулым годам, гэтыя галіны прамысловасьці далі павялічэньне вытворчасьці на 72 проц. Таксама недавыканалі паказаньні і дырэктывы партыі аб зьніжэньні сабекошту. Замест зьніжэньня сабекошту на 11 проц., мы маем зьніжэньне ледзь на $6^1/_2$ проц. у сярэднім. У галіне якасьці продукцыі таксама далёка ня выкананы дырэктывы партыі. Гэтыя недалікі павінны быць рашуча ўхілены ў бягучым гаспадарчым годзе—вось задача, пастаўленая XIII зьездам КП(б)Б.

Па БССР, як і па ўсяму Савецкаму Саюзу, значна палепшылася матэрыяльнае становішча рабочае клясы. Сярэдні гадавы прырост заработнае платы за пэрыод 1929 30 году складае 11 проц. На мерапрыемствы па ахове працы і на рабочае жыльлёвае будаўніцтва, а таксама культурна-бытавое абслугоўваньне за апошнія два гады выдадзена 9 млн. рублёў. У БССР як і па ўсяму Савецкаму Саюзу адбываецца паступовы перавод прадпрыемстваў з 8-гадзіннага рабочага дню на сямігадзінны. Зьмяншаецца беспрацоўе — з 37.273 беспрацоўных на 1 мая 1929 году беспрацоўе зьменшылася да 19.836 беспрацоўных на 1 мая 1930 года. Гэтая апошняя лічба ўключае 6.540 чалавек, якія займаюцца на курсах па перакваліфікацыі і якіх беларуская прамысловасьць чакае з нецярпеньнем. Зьмяншэньне беспрацоўя, такім чынам, складае 46,8 проц. Характарна, што зараз біржы працы не здавальняюць усіх патрабаваньняў прадпрыемстваў і будаўніцтваў на рабочую сілу, і ня толькі на кваліфікаваную, але нават і некваліфікаваную.

За апошнія гады, у сувязі з разгортваньнем прамысловасьці, мы мелі значнае павялічэньне ліку рабочых. Вось характарныя лічбы:

| | | Тыс. чал. | У %% |
|---|---|---|---|
| 1 кастрычніка | 1925 г. | 21,5 | — |
| " | 1926 г. | 27,1 | 126.0 |
| " | 1927 г. | 28,8 | 106,3 |
| " | 1928 г. | 34,1 | 118,4 |
| " | 1929 г. | 43,8 | 128.4 |
| 1 красавіка | 1930 г. | 52,6 | 120.1 |

З гэтай табліцы мы бачым, што колькасьць прамысловага пролетарыяту ў БССР за $3^1/_2$ гады амаль падвоілася, пры чым, першае паў-

годзьдзе бяг. году выкрывае вялізарнае паскарэньне тэмпу прыросту рабочай сілы (у абсолютных лічбах на 8,8 тыс. чалавек супроць 2,9 тыс. чалавек за першае паўгодзьдзе 1928-29 году).

Таксама, як і па ўсяму Савецкаму Саюзу, пяцігодка соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР будзе выканана значна хутчэй. У паасобных галінах прамысловасьці—3—3½ і максымум 4 гады. Пры чым, уся энэргетычная база прамысловасьці БССР будзе за гэты час рашуча перабудавана. У бягучым 1929-30 годзе павінна быць пабудавана 18 электрастанцый. З іх, першая раённая электрастанцыя імя Сталіна (першая чарга), тры прамысловых, адна гарадзкая і 13 сельскіх. Трэба адзначыць, што сельскія электрастанцыі маюць значную магутнасьць—ад 3 да 6 тыс. кілёват. Усяго ў канцы 1930 году павінна працаваць у БССР 41 электрастанцыя магутнасьцю ў 53 тыс. кілёват. Да канца-ж пяцігодкі, г. зн. да 1933 г. плянуецца пабудова яшчэ 30 станцый, з іх—2 раённыя, трынаццаць сельскіх і дванаццаць гарадзкіх і прамысловых.

Вялізарную ўвагу XIII зьезд КП(б)Б прысьвяціў пытаньням разьвіцьця хэмічнай прамысловасьці ў БССР. Увага зьезду была прыкавана да пытаньняў разьвіцьця фосфарытнай і азотнай прамысловасьці ў Магілеўшчыне, лесахэмічнай прамысловасьці—у лясных акругах БССР, прамысловасьці фарбаў на Гомельшчыне. Зьезд вызначыў, як асноўную сыравінную базу для разьвіцьця прамысловасьці БССР мясцовую сельскагаспадарчую сыравіну: лес, лён, бульба, затым торф і інш. выкапні Беларусі. Адначасна зьезд паказаў на неабходнасьць разьвіваць нашу прамысловасьць і на ўвознай транспортабэльнай сыравіне і на поўфабрыкатах.

* * *

У галіне сельскае гаспадаркі БССР трэба адзначыць той-жа вялізарны ўзрух, які меў месца ў адносінах пераходу серадняцкіх і бядняцкіх гаспадарак на рэйкі соцыялістычнага разьвіцьця па ўсяму СССР.

Зразумела, гэты ўзрух у БССР, якая не зьяўляецца асноўным вытвараючым сельскагаспадарчым раёнам СССР, ня мог мець такіх грандыёзных разьмераў, як у асноўных збожжавых раёнах СССР. Гэтыя раёны мелі на сваіх палёх такога гіганцкага агітатара, якім зьяўляецца машынізаваная, буйна-фабрычная вытворчасьць збожжа ў выглядзе савецкіх гаспадарак, машынова-трактарных і конна-трактарных станцый.

Ня гледзячы на адсутнасьць выстарчальнае колькасьці трактароў, гэтых апошніх у БССР працавала ў мінулым годзе каля 200 штук, у гэтым-жа—іх колькасьць дасягае 600 штук, колектывізацыяй ахоплена 12 проц. усіх сялянскіх гаспадарак БССР, пры чым, колектывы занялі 15,7 проц. усёй ворнай плошчы. Гэты вялізарны скачок, калі прыняць пад увагу, што да XIII зьезду колькасьць гаспадарак, што ўваходзяць у колгасы, складала 1 проц. Вялізарны ўзрух бядняцкага і серадняцкага

сялянства, якое масава адмовілася ад старога капіталістычнага шляху разьвіцьця сялянскай гаспадаркі, шляху, які нясе зруйнаваньне, паўпэрызацыю, згаленьне мільёнаў і высоўваньне на іх сьпінах адзінак у заможныя,—у кулакі,—у вясковую буржуазію. Серадняк, пад кіраўніцтвам рабочае клясы і яе партыі масава пашоў на шлях соцыялістычнага разьвіцьця сельскай гаспадаркі, які гарантуе ўздым яго дабрабыту і выратоўвае перад зруйнаваньнем і кулацкай кабалой.

Зьезд падсумаваў вынікі тэй вялізарнай працы, якая была праároблена партыяй, рабочай клясай у справе колектывізацыі сельскае гаспадаркі. Зьезд адзначыў перагібы ў справе колектывізацыі, памылкі і канстатаваў, як факт—прызнаньне гэтых перагібаў і памылак усімі партыйнымі органамі ў пераважаючай большасьці партыйных організацый, так і рашучае выпраўленьне гэтых памылак у цэнтры і на мясцох. У выніку прызнаньня і выпраўленьня партыйнымі організацыямі перагібаў і памылак, дапушчаных у справе колектывізацыі, перагібаў і памылак, якія ў асноўным ішлі па лініі парушэньня ленінскага прынцыпу добраахвотнасьці ў колгасным будаўніцтве, партыя дабілася замацаваньня дасягнутых посьпехаў, спыненьня хвалі адліву, з насьпех організаваных колгасаў. XIII зьезд мог ужо констатаваць існаваньне вялізарнай трохтысячнай сеткі колгасных гаспадарак, якія з найвялікшым энтузіязмам прыступілі да працы і разгортваньня веснавой засеўнай кампаніі. Таму, дырэктыва, якую зьезд даў партыі ў галіне колгаснага руху, можа быць зьведзена да лёзунгу—замацоўваць дасягнутыя посьпехі, організоўваць працу і вытворчасьць у колгасах і рухацца далей для ажыцьцяўленьня дырэктыў ЦК УсеКП(б) у галіне колектывізацыі БССР.

На Маскоўскай акруговай конфэрэнцыі тав. Кагановіч правільна даў лёзунг—павялічыць у новую сельскагаспадарчую кампанію колькасьць колгасьнікаў у Маскоўскай вобласьці у два—тры разы. Гэты-ж лёзунг формуляваў на XIII зьезьдзе КП(б)Б т. Славінскі, заклікаючы партыйныя організацыі дапамагчы кожнаму колгасьніку ўцягнуць у колгас новага колгасьніка на працягу асеньняй засеўнай кампаніі. Гэтая ўстаноўка спаткала цёплы прыём з боку зьезду і бязумоўна будзе выканана, калі зараз існуючыя колгасы справяцца з вытворчымі задачамі, пастаўленымі перад імі нашай партыяй.

Усе дасягненьні ў галіне сельскай гаспадаркі і прамысловасьці дазволілі перайсьці нашай партыі ад лёзунгу абмежаваньня і выціскаськаньня капіталістычных элемэнтаў у вёсцы да лёзунгу ліквідацыі кулацтва, як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі. У нас, ва ўмовах БССР, гэты генэральны лёзунг партыі на даным этапе ажыцьцяўляецца ў тых раёнах, дзе праводзіцца суцэльная колектывізацыя. Там, дзе ў паасобнай вёсцы організуецца колгас, які ахапляе ўсе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, ліквідуюцца паасобныя кулацкія гаспадаркі. Але ў раёнах ня суцэльнай колектывізацыі, а такіх у БССР пераважаючая большасьць, дзейнічае падпарадкаваны галоўнаму лёзунг—выціскаськаньня і абмежаваньня

кулака, падрыхтоўваючы глебу для ажыцьцяўленьня лёзунгу ліквідацыі кулака як клясы.

І ў БССР „па новаму ставіцца цяпер пытаньне аб нэпе, аб клясах, аб колгасах“ (Сталін). Тыя грандыёзныя дасягненьні, якіх дабілася БССР пры дапамозе ўсяго Савецкага Саюзу, дазваляюць паставіць пытаньне аб тым, што БССР, разам з Савецкім Саюзам, вайшла ў апошні этап нэпу і рыхтуецца з нэпаўскай Беларусі, разам з усім Савецкім Саюзам, стаць соцыялістычнай Беларусьсю. Калі, „па новаму ставіцца цяпер пытаньне аб нэпе, аб клясах, аб колгасах“, то, зразумела, па новаму ставіцца пытаньне і аб апоры савецкай улады ў вёсцы. Мы—у БССР—ня можам, зразумела, мэханічна паўтарыць формулу XVI зьезду: „*З гэтага часу* ў важнейшых збожжавых раёнах СССР *вёска падзяляецца на дзьве асноўныя часткі: на колгасьнікаў, якія зьяўляюцца сапраўднай і трывалай апорай савецкай улады* і на не колгасьнікаў, з бедноты і серадзякоў, пакуль яшчэ не жадаючых увайсьці ў колгасы, але якіх масавая практыка колгасаў, бязумоўна, пераканае ў адносна кароткі тэрміны ў неабходнасьці ўступіць на шлях колектывізацыі“.

Але ў БССР мы абавязаны сказаць усьлед за гэтай формулай XVI партыйнага зьезду, што серадняк, трывала ўвайшоўшы ў колгас, зьяўляецца, побач з беднатой, апорай савецкай улады ў вёсцы. Серадняк, увайшоўшы ў колгас, аддаўшы яму свае прылады вытворчасьці, адмаўляецца ад іх скарыстаньня ў якасьці прыладаў эксплёатацыі і накапленьня, ён тым самым рашуча адмаўляецца ад капіталістычнага шляху разьвіцьця свае гаспадаркі, ён перастае штогадзінна, штохвілінна „ражаць“ капіталізм у сваёй гаспадарцы. Зразумела, матэрыяльная няроўнасьць застаецца на першыя часы ў колгасе. Матэрыяльнае становішча серадняка ў першыя часы лепшае, чымся становішча бедняка, але далейшае разьвіцьцё колгасу, бязумоўна, будзе падвышаць дабрабыт бедноты такім чынам, што гэтая няроўнасьць будзе ўсё больш зыходзіць на нішто.

Ставячы перад сабой задачу ў асноўным закончыць колектывізацыю к канцу пяцігодкі, зьезд рэзка выказаўся супроць тэорыі самацёку ў справе колектывізацыі і зганьбіў усякія гутаркі аб выабражальным адступленьні партыі ў гэтай справе. Самым рашучым чынам зьезд падкрэсьліў прынцып дабраахвотнасьці ў колгасным будаўніцтве, пры чым даў дырэктыву замацоўваць існуючыя колгасы і падрыхтоўваць энэргічна ўмовы для разгортваньня масавай колектывізацыі ў суцэльную колектывізацыю, апіраючыся ў гэтай працы на беднату і колгасьнікаў і ўмацоўваючы ў процэсе гэтай працы саюз з серадняком для таго, каб яшчэ больш цьвёрда і рашуча наступаць на кулака.

Сур'ёзную ўвагу XIII зьезд зьвярнуў саўгаснаму будаўніцтву. Саўгасы ў БССР займаюць ледзь 4 проц. засеўнай плошчы. Зьезд паказаў на неабходнасьць павялічыць адносную вагу саўгасаў, вылучаючы пад саўгасы новыя, прыведзеныя ў культурны выгляд землі.

* * *

XIII зьезд констатаваў здавальняючы ход засеўнай кампаніі і адзначыў, што па ільну справа знаходзіцца далёка не ў здавальняючым стане. Што датычыцца сілоснае справы, то тут мы маем поўны прарыў.

БССР па дырэктывах партыі павінна быць рэспублікай жывёлагадоўлі, ільну і бульбаводзтва. Пры чым сьвінагадоўля павінна займаць у нас першае месца. Па намётках, заслуханых XIII зьездам, мяркуецца прарабіць наступную працу ў галіне жывёлагадоўлі. У 1930-1931 годзе ў саўгасах павінна быць пастаўлена 50 тысяч сьвінаматак, у колгасах-жа—100 тысяч. У 1931-32 г. у саўгасах—75 тысяч і ў колгасах—150 тысяч. Разьлік вядзецца на тое, каб ад гэтых гаспадарак атрымаць таварную продукцыю ў разьмеры 250 тысяч штук у саўгасах і 500 тысяч штук у колгасах на 1930-31 год. У наступным-жа годзе ў саўгасах—375 тысяч штук і ў колгасах—750 тыс. штук. Такім чынам, у 1931-32 годзе звыш мільёну штук. У галіне малочнае гаспадаркі мяркуецца ў 1930-31 годзе ў саўгасах і колгасах паставіць 75 тысяч кароў, у 1931-31 годзе яшчэ 100 тысяч. Такім чынам будзе выкананы плян наданьня сельскай гаспадарцы ўхілу жывёлагадоўлі. Такія-ж энэргічныя мерапрыемствы ўжываюцца ў галіне разгортваньня тэхнічных культур (лён, каноплі, бульба).

Каб ссунуць сельскую гаспадарку БССР з сучаснага становішча, якое трэба характарызаваць, як зямельную цеснату, партыя лічыць патрэбным разгортваць у прысьпешаным парадку мэліорацыйныя работы. На гэтыя работы ў 1929-30 годзе затрачана 7 млн. руб. На 1930-31 год вырашана затраціць звыш 30 млн. руб. Пашыраючы зямельную плошчу, інтэнсіфікуючы сельскую гаспадарку, партыя зьвяртае вялізарную ўвагу на мэханізацыю сельскае гаспадаркі і яе індустрыялізацыю. Мэханізацыя, зьберагаючы чалавечую працу і робячы яе больш лёгкай, павінна ў вялікай ступені ўзьняць сельскагаспадарчую вытворчасьць. Індустрыялізацыя, уводзячы пераработку сельскагаспадарчай сыравіны на месцы ў гатовыя фабрыкаты і напоўфабрыкаты, колёсальна пашырыць патрэбнасьць сельскай гаспадаркі ў рабочай сіле. Такім шляхам першапачатковая пераработка сельскагаспадарчых продуктаў, стварэньне агроіндустрыяльных комбінатаў у прысьпешаным парадку, дапаможа вырашыць пытаньне зямельнай цеснаты ў БССР.

Концэнтраваным выразам дасягненьняў у БССР зьяўляецца рэспубліканскі бюджэт. Агульны разьмер дзяржаўнага і мясцовых бюджэтаў БССР складаў у 1928-29 годзе 113,3 млн. руб., а ў 1929-30 годзе разьмеры бюджэтаў узьняліся да ўзроўню 171 млн. руб. Такім чынам рост сродкаў, прайшоўшых праз бюджэт, за апошні год дасягнуў 51 проц. Гэты вялізарнейшы тэмп росту бюджэту знаходзіцца ў непасрэднай сувязі з ростам аграмаджанага сэктару народнае гаспадаркі. Непасрэдныя плацяжы насельніцтва складалі ў 1928-29 годзе—21,2 проц. усіх

бюджэтных паступленьняў, а ў 1929-30 годзе ўжо толькі 15 проц. Структура выдаткаў бюджэтнай сыстэмы за апошнія два гады можа быць ахарактарызавана наступнымі данымі:

| | Бюджэты 1928-29 г. | | Бюджэты 1929-30 г. | | % росту |
|---|---|---|---|---|---|
| | у тыс. руб. і процантах | | | | |
| | Сума | Проц. | Сума | Проц. | |
| Фінансаваньне народнае гаспадаркі | 50.379,8 | 44,5 | 79.877,9 | 46,7 | 58,6 |
| Соц.-культ. выдаткі | 45.914,4 | 40,5 | 70.181,9 | 41,0 | 52,9 |
| Дзяржаўнае кіраваньне | 10.092,0 | 8,9 | 12.308,9 | 7,2 | 22,0 |
| Іншыя | 6.865,5 | 6,1 | 8.627,3 | 5,1 | 25,7 |
| Усяго | 113.251,7 | 100 | 170.995,0 | 100 | 51,0 |

Усе гэтыя вялізарныя дасягненьні БССР, таксама, як і ўсяго Савецкага Саюзу, дасягненьні, якія ня маюць прэцэндэнтаў у разьвіцьці капіталістычных дзяржаў, зьяўляліся вынікам правільнай ленінскай генэральнай лініі комуністычнай партыі і бязьлітаснай самакрытыкі, якая ўзьнімала давер'е мас да партыі і правадзімай партыяй генэральнай лініі і ўзмацняла рэволюцыйную актыўнасьць мас. Гэтая рэволюцыйная актыўнасьць мас вылілася ў соцыялістычнае спаборніцтва, ва ўдарніцтва, якое ахапляе цэлыя цэхі і заводы. Рэволюцыйная актыўнасьць мас, яе рост можна прасачыць таксама на вялізарным масавым прыліве ў партыю рабочых ад варштату, уладаючых вялікім вытворчым стажам. У шэрагу прадпрыемстваў, дзякуючы гэтаму масаваму прыліву, стварыліся цэлыя комуністычныя цэхі.

Каб стымуляваць далейшае разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва і ўзмацніць тэмпы гэтага будаўніцтва, XIII зьезд партыі зьвярнуў сур'ёзную ўвагу пытаньню аб працы профсаюзаў, рашуча праводзячы ў сваіх рэзолюцыях лёзунг—профсаюзы тварам да вытворчасьці. У полі ўвагі XIII партыйнага зьезду стаяла таксама пытаньне аб кадрах для народнае гаспадаркі і аб выхаваньні новых партыйцаў. Гэтае апошняе пытаньне мае вялізарнае значэньне ў сувязі з тым, што разьвіцьцё народнае гаспадаркі БССР патрабуе ў бліжэйшыя гады тысячы тысяч высока кваліфікаваных спэцыялістых. Перабудаваньне-ж на соцыялістычных асновах сялянскае гаспадаркі ставіць перад савецкай уладай задачу падрыхтаваць дзесяткі тысяч організатараў і кіраўнікоў буйнае колгаснае сельскае гаспадаркі.

* * *

Цьвёрдае правядзеньне генэральнай лініі партыі Цэнтральным Камітэтам КП(б)Б пад кіраўніцтвам ЦК УсеКП(б) зьявілася асновай тых грандыёзных дасягненьняў, якія падсумоўваў XIII зьезд КП(б)Б. XIII зьезд

мог констатаваць, што ленінскае пытаньне аб тым,—„хто каго?“,—вырашана ва ўмовах Беларусі ў карысьць пролетарыяту. Такі-ж адказ на ленінскае пытаньне даў і XVI партыйны зьезд адносна ўсяго Савецкага Саюзу. Пытаньне „хто каго“ на другім годзе пяцігодкі вырашана канчаткова і беспаваротна на карысьць пролетарыяту супроць буржуазіі. Больш таго, пролетарыят узяўся непасрэдна за вырашэньне гэтага пытаньня ў сваю карысьць і ў галіне сельскае гаспадаркі. Бязумоўна, гарантыяй канчатковай перамогі прынцыпаў соцыялізму ў сельскай гаспадарцы зьяўляюцца тыя вялізарныя дасягненьні, якія мае партыя пролетарыяту ў галіне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскае гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва, як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі.

Абапіраючыся на дасягненьні ў гэтай галіне ўсяго Савецкага Саюзу, БССР здолее пад кіраўніцтвам сваёй комуністычнай партыі вырашыць пытаньне аб тым „хто каго“ і ў сельскай гаспадарцы. Правільная організацыя вытворчасьці ў колгасах, паляпшэньне матэрыяльнага і культурнага становішча колгасьнікаў будуць садзейнічаць хутчэйшаму ахопу колгасным рухам рэшты бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі, якія застаюцца па-за колгасным рухам і будуць садзейнічаць набліжэньню моманту, калі пытаньне аб тым, „хто каго“ ў сельскай гаспадарцы будзе вырашана канчаткова і беспаваротна ў карысьць пролетарыяту.

Соцыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты ў нашай краіне і ў першую чаргу найбольш магутную крыніцу сіл капіталістычных кляс—на кулацтва—выклікае жорсткае супраціўленьне варожых пролетарыяту і асноўным сялянскім масам кляс і абвастрае клясавую барацьбу ў краіне. Гэтая клясавая барацьба зьяўляецца непадзельнай часткай клясавай барацьбы, якая разгортваецца і абвастраецца паміж эксплёататарамі і эксплёатуемымі ва ўсім сьвеце. Прысуджаны ходам соцыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне да зьнікненьня, кулак і яго ідэолёгі з сумам глядзяць на Захад, чакаюць дапамогі ад імпэрыялістычных драпежнікаў. Тыя-ж у сваю чаргу падрываныя рэволюцыйнай барацьбой працоўных і эксплёатуемых мас і экономічным крызісам, які ўсё абвастраецца, у кулаку і рэштках капіталістычных кляс у нас бачаць саюзьніка на тылох арміі соцыялістычнай рэволюцыі ў нашай краіне.

Не зьмякчэньне, а далейшае абвастрэньне клясавай барацьбы,—вось няўхільная ўмова далейшага пераможнага соцыялістычнага наступленьня ўнутры СССР і росту рэволюцыйнага руху ва ўсім сьвеце. Таму барацьба супроць праваопортуністычнага капітулянцтва, супроць тэорыі аб мірным ўрастаньні кулака ў соцыялізм, балбатня аб організаваным капіталізьме і паслабленьні супярэчнасьцяй капіталістычнай сыстэмы ўнутры капіталістычных краін і ўзмацненьне іх толькі ў міжнародным маштабе застаецца галоўнай і асноўнай задачай партыі на даным этапе. Змагаючыся з праваопортуністычнымі тэорыямі, установкамі і практыкай, партыя будзе весьці няпрымірымую барацьбу і з левымі загібамі, якія зьяўляюцца вадой на млын правых ухілістых і часта зьяўляюцца абарончай формай,

пад захаваньнем якой вядуць свае наскокі на партыю правыя опортуністыя.

У гэтай барацьбе на два фронты супроць клясавага ворага і супроць опортунізму ўнутры партыі, барацьбы на два фронты і супроць „левага" опортунізму, а таксама супроць прымірэнчых адносін да ўсіх відаў опортунізма, партыя перамажа. Парукай гэтай перамогі зьяўляецца тая монолітнасьць і адзінства, з якімі працаваў XIII зьезд КП(б)Б. XIII зьезд сваёй працай, прасякнутай няпрымірымай барацьбой супроць правых і левых опортуністых і прымірэнчых да іх адносін, барацьбой супроць усякіх памылак і ўхілаў ад вытрыманай партыйнай лініі, няпрымірымай барацьбы за чыстату і ортодоксальнасьць установак, якія даваліся ў разьвіцьцё партыйнай лініі партыйнымі органамі і паасобнымі кіруючымі таварышамі,—яшчэ больш узмацніў сталёвае адзінства і ідэёвую монолітнасьць, з якімі КП(б)Б прышла на свой XIII зьезд. XIII зьезд увесь быў насычаны разгорнутай бальшавіцкай самакрытыкай і прайшоў пад знакам выкоўваньня і ўзмацненьня баяспасобнасьці КП(б)Б у палітычнай барацьбе з рэвізіёнізмам, з правымі і нацыянал-опортуністымі, з поўтрацкісцкімі і трацкісцкімі рэцэдывамі, з нацыянал-дэмократызмам і ўсімі іншымі яўнымі і замаскаванымі формамі ідэолёгіі клясавага ворага,—у барацьбе з усякімі недахопамі ў разгортваньні самакрытыкі, „ня глездзячы на асобы", даючы самы жорсткі адпор спробам абкарнаць самакрытыку, таксама, як і па асобным выпадкам перахлёстваньня.

XIII зьезд давёў з усёй відавочнасьцю, што партыя ўмее ня толькі адбіваць настроі мас, ня толькі ўзьнімаць і разгортваць іх актыўнасьць, ня толькі выяўляць задачы партыйнай, профсаюзнай, гаспадарчай працы, але змагацца з недахопамі. Зьезд паказаў, як трэба разгортваць самакрытыку, як трэба яскрава і выразна ставіць пытаньне генэральнай лініі партыі.

Тую працу, якую прарабіў XIII зьезд КП(б)Б і шэраг зьездаў іншых рэспубліканскіх і краёвых атрадаў УсеКП(б), XVI зьезд абагуліў і ўзьняў на ленінскую вышыню. Пасьля XVI партыйнага зьезду ўся УсеКП(б) і ў тым ліку КП(б)Б выходзіць яшчэ больш згуртаванай, яшчэ больш загартаванай для пераможнай барацьбы за ажыцьцяўленьне соцыялізму. XVI партыйны зьезд зьяўляецца фактам гістарычнага значэньня ня толькі для савецкіх працоўных мас, але і для пролетарыяту і эксплёатуемых мас усяго сьвету. Бо практыка Кастрычнікавай рэволюцыі, практыка 13 год барацьбы за ўзмацненьне і ўмацаваньне дыктатуры пролетарыяту, практыка будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне зьяўляецца магутным падважнікам пераможнага разьвіцьця пролетарскай рэволюцыі ва ўсім сьвеце.

20-VII-30 г.

# ЛАТЫСКАЯ ЛІТАРАТУРА

*(Гістарычна-літаратурны нарыс)*

**Я. Доўгі**

З XIII стагодзьдзя пачынаецца колёнізацыя Прыбалтыкі нямецкімі рыцарамі—крыжакамі, якія ў хуткім часе і зрабіліся гаспадарамі краю. Рыцарскі ордэн падпарадкаваў вольныя латыска-літоўскія пляменьні, прымусіў іх плаціць розныя падаткі на карысьць ордэна і царквы. У XVI ст. ордэн ня вытрымаў націску маскоўскага капіталу і ў выніку Лівонскай вайны царкоўна-рыцарская дзяржава распалася. Рэвель і Эстляндыя адыйшлі да Швэцыі, Ліфляндыя да Польшчы, частку Лівоніі захапіла Данія, а ў Курляндыі было заснована гэрцагства пад протэкторатам Польшчы. У час вайны 1600—1621 г. г. Швэцыя заваявала Ліфляндыю. Швэцкае панаваньне лічыцца самым лёгкім часам у гісторыі латыскага сялянства, бо швэцкі ўрад у барацьбе з ліфляндзкім дваранствам імкнуўся абаперціся на латыскае сялянства і таму даваў яму некаторыя палёгкі.

Але расійскі гандлёвы капітал настойліва імкнуўся да Бальтыцкага мора, што і прывяло да Паўночнай вайны (1700—1721 г. г.). Гэтая вайна вельмі дорага каштавала латыскаму сялянству. Увесь край быў разбураны, а ў выніку згоды латыскае сялянства на падставе так званых „Акордных пунктаў“ аддавалася ў неабмяжованую эксплёатацыю дваранам-фэодалам. Прыгоннае права дасягнула ў Бальтыцы кульмінацыйнага пункту.

Лепшым літаратурным помнікам паншчыны зьяўляюцца латыскія народныя песьні ці дайны, як іх завуць па-латыску. У гэтых песьнях, як у люстры, адбіваецца пакутнае жыцьцё латыскага селяніна ад нараджэньня і да самай сьмерці, той гістарычны шлях па якому йшоў гэты народ.

Наіўная прастата, вобразнасьць, рытмічнасьць, поэтычная прыгожасьць і інтымнасьць—галоўныя рысы латыскай народнай песьні.

Сталае зьбіраньне латыскага фальклёру пачынаецца ў другой палове XIX ст., у час нацыянальнага адраджэньня. Галоўным ініцыятарам у гэтай справе зьяўляецца Трэйланд-Брыўзэмнек. Лерхіс-Пушкайціс зьбіраў галоўным чынам латыскія байкі і казкі (сабраў каля 6000).

Вялікая заслуга зьбіраньня латыскіх народных песень належыць Хрысьціяну Барону. Трыццаць гадоў свайго жыцьця аддаў Х. Барон гэтай справе. У 1915 годзе расійская Акадэмія навук скончыла выдавецтва латыскіх народных песень. Вышла з друку 6 вялізных томаў. Усяго сабрана больш за 210000 песень (з якіх асноўных тэкстаў 35790, іншыя—варыянты).

* * *

Нямецкія крыжакі-рыцары, якія захапілі палітычную ўладу ў Прыбальтыцы і да XV ст. запрыгонілі тубыльнае сялянства, былі ў далейшым таксама і праваднікам новай рэлігіі—лютаранства.

Лютаранская мораль цалкам адпавядала эксплёататарскім тэндэнцыям фэодалаў, а таму распачалося нават прымусовае хрышчэньне латышоў. Пропаганда лютаранскай царквы павінна была адбывацца на зразумелай латышам латыскай мове, ды і сам прынцып лютаранскага веравызнаньня патрабаваў царкоўнай службы на роднай мове. Усё гэта выклікала патрэбнасьць адпаведнай духоўнай літаратуры на латыскай мове.

Першай кнігай на латыскай мове быў, так званы, малы катэхізіс Лютара. Перакладзены на латыскую мову ў 1586 годзе, хаця годам раней у Вільні быў надрукованы катэхізіс для латышоў-каталікоў. Годам-жа заснаваньня латыскай літаратуры лічыцца 1530 год, калі рыскі пастар Рам упяршыню надрукаваў і распаўсюдзіў па ўсім краі дзесяць запаведзяй. У другой палове XVIII ст. пастар Глюк пераклаў на латыскую мову біблію, на выданьне якой атрымаў грашовую дапамогу ад швэцкага караля Карла XI.

Так пачалося друкаваньне духоўнай літаратуры на латыскай мове.

Уся гэтая літаратура мае выразна акрэсьленную моральна-дыдактычную тэндэнцыю і асаблівымі мастацкімі вартасьцямі не вызначаецца. Мэта яе нібы-то ў тым, каб пазбавіць „бедных, цёмных нянемцаў“ (arme einfältige Undeutsche) ад паганскае веры, забабонаў, чараўніцтва і іншых грахоў“.

На самай-жа справе духоўная літаратура таго часу абараняла інтарэсы пануючай клясы. Яна вучыла латыскага селяніна нявольніцкай пакоры пану-фэодалу і абуралася супроць „грэшнікаў“, якія імкнуліся парушыць нормы фэодальнага права.

Прыгонная праца арганізаваная на неабмяжованай эксплёатацыі селяніна пры пэўным разьвіцьці вытворчых сіл—мала рацыянальна. Вытворчасьць працы чалавека, даведзенага да стану жывёлы куды ніжэй вытворчасьці таго працаўніка, які зацікаўлены працоўным процэсам, які ўсьведамляе гэты процэс. Гэтую простую ісьціну хутка зразумелі найбольш прогрэсыўныя з прыбальтыцкіх фэодалаў. Яны імкнуліся рацыяналізаваць прыгонную гаспадарку, палепшыць умовы жыцьця тэй жывой сілы, ад якой залежыць дабрабыт іхнага маёнтку. Імкненьне

рацыяналізаваць прыгонную гаспадарку стварыла рацыяналізм як пэўную ідэолёгічную плынь, якая знаходзіцца ў сувязі з палітычнай сытуацыяй таго часу, а таксама і пад уплывам рацыяналізму заходня-эўропэйскага. Адным з першых правадыроў гэтай плыні быў К. Фюрыкер. Творчасьць гэтага пісьменьніка мае компромісны характар. З аднаго боку ён імкнецца зблізіцца з народам, пазнаць яго жыцьцё і дапамагчы яму; з другога—Фюрыкер навучае памешчыкаў, каб яны больш уважліва, пачалавецку, з любоўю адносіліся да сваіх прыгонных.

У асобе Фюрыкера латыская духоўная літаратура мае выдатнейшага перакладчыка і поэту, які ўсю сваю творчасьць імкнуўся наблізіць да шырокіх сялянскіх мас. Яго духоўныя вершы, у параўнаньні з папярэдняй літаратурай, вызначаюцца сваім лёгкім рытмам, вобразнасьцю і прастатой мовы. Дзякуючы гэтым асаблівасьцям некаторыя духоўныя песьні Фюрыкера яшчэ і зараз уваходзяць у рэпэртуар лютаранскай царквы.

Найбольш буйным прадстаўніком тагачаснага рацыяналізму ў латыскай літаратуры зьяўляецца Готгард Стэндар (1714-1796 годы)—вучань нямецкага філёзофа-рацыяналістага Вольфа. Гандлёвы капіталізм у Нямеччыне разьвіваўся значна хутчэй, чым у Латвіі, а таму там больш выразна сформавалася рацыяналістычная концэпцыя. Вольф і іншыя рацыяналістыя імкнуліся толькі пры дапамозе розуму ўсьвядоміць жыцьцё. Яны праводзілі выразную мяжу паміж філёзофіяй і тэолёгіяй, бо філёзофія розуму часам ня хоча лічыцца з містычнымі меркаваньнямі апошняй. Замест розных рэлігій рацыяналістыя імкнуліся ўтварыць адзіную рэлігію розуму.

Рэлігійная рознасьць відаць ня спрыяла разьвіцьцю гандлёвых адносін. Адсюль вынікае і так званае прыроднае права. Пэўная аднолькавасьць у правох для пэўных соцыяльных груп таксама неабходна для разьвіцьця гандлю. Экономічнае разьвіцьцё прымушала зьвяртаць больш ую ўвагу і на навуковыя дысцыпліны, каб дасягненьні ў гэтых галінах прымяніць пасьля ў практычным жыцьці. Ідэі Вольфа праз Стэндара знайшлі свае адбіцьцё і на латыскай глебе.

Можна лічыць, што латыская сьвецкая літаратура бярэ свой пачатак ад Стэндара. Акрамя розных псальмаў і апавяданьняў на рэлігійныя тэмы Стэндар напісаў граматыку латыскае мовы, таксама ім быў укладзены і першы слоўнік латыскай мовы—нямецка-латыскі. Гэты протэстанскі рацыяналісты імкнуўся пазнаёміць прыгоннага латыша з географіяй і космографіяй, з рознымі зьявамі прыроды. Ён хацеў навучыць народ, дапамагчы яму, але так, каб гэта не парушала асноў царквы і фэодальнага ладу. Ён варожа адносіцца да народнае творчасьці і замест яе хоча стварыць спэцыяльную літаратуру для народу. Піша дыдактычныя вершы, оды, байкі і сантымэнтальныя пасторалі.

Вольнадумны для свайго часу пастор Стэндар часта спатыкаў нездавальненьне, а часам нават і варожыя адносіны з боку духавенства

і рэакцыйных фэодалаў, якія ме маглі яшчэ зразумець капіталістычных тэндэнцый сучаснага ім жыцьця.

Стэндар самы выдатны, самы таленавіты лютаранскі рацыяналісты. Ён стварыў цэлую літаратурную школу і меў вялікі ўплыў на сучасьнікаў. Пасьлядоўцы Стэндара, хто больш, хто менш таленавіта праз сваю творчасьць і асьветніцкую дзейнасьць імкнуліся „палепшыць“ долю прыгоннага латыша, але ня трэба забываць, што гэта былі імкненьні пануючай клясы.

Бязьмерная эксплёатацыя прыгоннага сялянства ў канцы XVIII ст. давяла яго да цэлага шэрагу паўстаньняў. Пад уплывам гэтых паўстаньняў, а таксама і ідэй Вялікай Француской рэволюцыі, урад у 1804 г. выдае аграрны закон, паводле якога адбываецца разьмежаваньне сялянскай і абшарніцкай зямлі, а таксама і акрэсьлена ўстанаўліваюцца абавязкі прыгоннага селяніна. Контынэнтальная блёкада, з якой некаторы час павінен быў лічыцца Аляксандр І-ы, некалькі панізіла цэны на хлеб і часова трымала прыбальтыцкіх фэодалаў у межах закону 1804 году. Пасьля парушэньня гэтай блёкады зноў ажывае гандлёвы капітал. Цэны на хлеб пачынаюць расьці. Фэодалы змушаны інтэсыфікаваць сваю гаспадарку і закон 1804 году ўжо зьяўляецца перашкодай для гэтай інтэнсыфікацыі. Патрэбна было самую гаспадарку перабудаваць на новы лад. Трэ‘ было звольніць сялян як ад прыгону, так і ад зямлі, каб яшчэ больш павысіць норму эксплёатацыі шляхам вольна-наёмнай працы. Ідэя скасаваньня паншчыны, якая была выклікана экономічнай неабходнасьцю, у вуснах лібэральных фэодалаў гучэла як кліч супроць прыгоннага нявольніцтва ва імя розуму і праў чалавека.

Найбольш выдатным гуманістым гэтага часу зьяўляецца Гарліб Мэркель (1769—1850 г. г.). Пад уплывам францускіх энцыклёпэдыстых ён рашуча выступае са сваімі памфлетамі супроць прыгоннага права. З усёй сілай свайго таленту і шчырасьцю пачуцьця малюе ён нявольніцкае становішча прыгоннага латыша і патрабуе адмены паншчыны. Мэркель даводзіць, што такое становішча доўга быць ня можа, што выбухне нарэшце народнае паўстаньне і тады ня будзе літасьці паном. Прароцтвам гучаць яго заключныя словы ў кнізе „Латышы“: „Я ня буду гадаць аб тым, кажа ён, з якой катастрофай спаткаецца лёс латышоў. Сваю працу я кладу перад вачыма чалавецтва, як матар‘ял абвінавачаньня таго судовага процэсу, які рана ці позна распачнецца супроць прыгнятацеляў маёй бацькаўшчыны. Хай судзіць будучыня, хай яна вынясе свой прысуд! Гэта будзе хуткі і страшны прысуд!“

У 1797 годзе ў Лейпцыгу на нямецкай мове зьяўляецца кніга Меркеля „Die Letten vorzüglich in Liefland am Ende desphilosophischen Jahrhunderst“ (Латышы, пераважна ў Ліфляндыі, пад канец філёзофскага стагодзьдзя). Гэты памфлет накіраваны супроць прыгоннага права зрабіў вялікі ўплыў на тагочасную грамаду. На творчасьці Мэркеля адчуваецца ўплыў Русо. Як і Русо Мэркель ідэялізуе далёкае прошлае, калі

людзі ня былі папсаваны культурай і жылі шчасьліва. У сваёй сантымэнтальнай фантазіі „Vannem Jmanta“ ён ідэялізуе гістарычнае прошлае латыскага народу, абураецца супроць нямецкіх заваявацеляў. Пісаў Мэркель на нямецкай мове, бо хацеў гутарыць з тымі, у чыіх руках знаходзіўся лёс латышоў, але, ня гледзячы на гэта, ён меў вялікі ўплыў на далейшае разьвіцьцё латыскай грамадзкай думкі. Для свайго часу творчасьць Мэркеля была зьявай, бязумоўна, прогрэсыўнай. Яго палкі протэст супроць прыгону, яго гуманныя ідэі зрабілі вялікі уплыў на сучаснікаў. Але Мэркель быў толькі прогрэсыўны мысьліцель і кепскі практык-рэформатар. Для яго больш важным было не конкрэтнае дасягненьне, а агульны чалавечы прынцып. Вось чаму ён быў зусім здаволены „вызваленьнем“ прыбальтыцкіх сялян у 1817—1719 г. г., пасьля якога латыскі селянін апынуўся ў больш цяжкіх умовах, чым раней.

Разьвіцьцё гандлёвага капіталу ў 60-х гадох XIX стагодзьдзя нараджае латыскую нацыянальную буржуазію, якая пад сьцягам нацыянальнага адраджэньня імкнецца замацаваць свае пазыцыі. Да 60 гадоў у абарону латыскага сялянства выступалі людзі, якія ня мелі нічога супольнага з сялянствам, а часам нават ня ведалі латыскае мовы. Зараз-жа зьяўляецца свая латыская інтэлігэнцыя, галоўным чынам выхадцы з сялян. Яна ствярае так званую групу „маладых латышоў“ (Хр. Вольдэмар, Хр. Барон, Юры Алунан і інш.). На роднай мове заклікаюць яны народ да адраджэньня, патрабуюць ад імя народа экономічных і політычных зьмен. На чале з Хрысьціянам Вольдэмарам яны групуюцца наўкол газэты „Peterburgas Avizes“ (Пецербургская газета). Гэты рух быў протэстам латыскага сялянства і гарадзкой дробнай буржуазіі супроць кіруючых клясаў—нямецкага баронства і бюргэрства. Сваіх мэт „маладыя латышы“ імкнуліся дасягнуць шляхам уздыму культурнага ўзроўню мас, яны прарабілі вялікую асьветніцкую працу. Латыская прэса і літаратура сталі на самастойны шлях. Зьявілася школа на латыскай мове, была зьвернута ўвага і на культуру самае мовы. „Маладыя латышы“ былі супроць рэволюцыйнай барацьбы. Яны мелі надзею на рэформу „зьверху“ і шукалі сабе спачуваньня ў некаторых расійскіх колах.

„Агульная варожасьць да нямецкага элемэнту парадзіла ідэйную сувязь паміж кіруючай латыскай інтэлігэнцыяй і расійскімі грамадзкімі коламі, на жаль, славянафільскімі і рэакцыйнымі. Латышы ведалі Расію Каткова і Лявоньцьева, але ім зусім была чужая Расія Гэрцана і Чарнышэўскага[1]).

Рэдактар „Пецярбургскай газэты“ Юры Алунан—выдатнейшы публіцысты і поэта таго часу. Алунан галоўным чынам перакладчык. Ён перакладаў Гётэ, Гэйнэ, Уланда. З расійскіх поэтаў—Пушкіна, Лермантава, Кальцова. З лацінскіх—Горацыя. Па багацьцю думак і глыбіні

[1]) Сборник латышской лит. под ред. В. Брюсова и М. Горького, изд. „Парус“. Петроград, бал. 14.

пачуцьця пераклады Алунана стаяць ня ніжэй за арыгіналы. Гэта паказвае, што латыская мова ў той час дасягнула такога разьвіцьця, што на ёй можна было перадаць творчасьць Заходня-эўропэйскіх і расійскіх клясыкаў. Сваімі перакладамі Алунан нагадвае расійскага поэту Жукоўскага. Алунан зьяўляецца рэформатарам як латыскае мовы, так і латыскага вершаскладу. Ён даў латыскай літаратуры лепшыя ўзоры клясычнага вершу. Акрамя Алунана вершы пісалі К. Вольдэмар, К. Барон і іншыя, якія былі напоўпоэтамі, напоўпубліцыстымі.

З ростам нацыянальнае сьвядомасьці зьяўляецца інтарэс да мінуўшчыны, зьвяртаецца ўвага на зьбіраньне латыскага фольклёру. Цэлы шэраг поэтаў як Пумпурс, Аўсэкліс, Брыўзэмнекс і інш. захапляюцца прошлым свайго народа, ідэялізуюць гэтае прошлае, а часам ствараюць фантастычных гэрояў, якіх ніколі не існавала ў латыскім фольклёры. На падставе народнага эпасу Пумпурс піша сваю гэроічную поэму „Лачплесіс“ (Пераможца мядзьведзяў). Мітолёгічны гэрой Лачплесіс сымболізуе лёс латыскага народу, яго цяжкае прошлае ў часы нямецкага панаваньня, вызваленьне і імкненьне да лепшай будучыні. „Лачплесіс“ лепшы твор Пумпурса і літаратурна-мастацкі помнік нацыянальна-романтычных імкненьняў латыскага адраджанізму. Акрамя гэтай поэмы Пумпурс напісаў шмат вершаў і песень настолькі блізкіх да народных, што некаторыя з іх яшчэ і зараз сьпяваюцца латышамі.

Аўсэкліс—найбольш таленавіты і глыбокі мастак-адраджэнец. Зьмест яго творчасьці той самы, што ў Пумпурса і іншых поэтаў-адраджэнцаў.

„Агульны зьмест творчасьці Аўсэкліса можа быць ахарактарызаваны наступным чынам: Некалі ў Латвіі быў залаты пэрыод падобны да антычнага, грэцкага. Народ жыў вольна і шчасьліва, сьпяваў свае песьні ды маліўся багам. Ні аб чым ня рупіўся і не сумаваў. Як бясьсьмяротныя богі Грэцыі зьніжаліся са свайго Алімпу да сьмяротных, так і ў вольнай Латвіі яны наведвалі людзей, давалі ім якую-небудзь працу, а то весяліліся разам з людзьмі“[1]). Гэты фантастычны зьмест Аўсэкліс вельмі ўдала апранае ў мастацкую форму.

Наіўна-фантастычная ідэялізацыя сівой мінуўшчыны ўласьціва як найбольш перадавым латыскім адраджэнцам, так і іх пасьлядоўцам. Але рэчавістасьць вымагала жорсткай барацьбы і разбурала мары поэтаў. Толькі найбольш таленавітыя глыбока захапляліся і маглі захапіць іншых З гэтай задачай не маглі справіцца менш буйныя поэты, а ў далейшым у гэтым ня было ўжо і патрэбы. Хваля „нацыянальных імкненьняў“ хутка пачала спадаць тады, як толькі сельская і гарадзкая дробная буржуазія дабілася некаторых паляпшэньняў. У 1868 годзе засноўваецца Рыскае Латыскае таварыства, наўкол якога пачынае групавацца маладая латыская буржуазія. У далейшым само таварыства ад „нацыянальных імкненьняў“ дакацілася ў лягер рэакцыі. Замест зачыненай „Пецярбург-

[1]) Pludona Latviu literaturas Vesture. I. Jelgava 1912, бал. 209.

скай газэты“ выдаецца „Бальтыцкі Весьнік“—орган рэакцыйнай буржуазіі.

Хваля „нацыянальных імкненьняў“ захапіла ня ўсё сялянства, а толькі найбольш заможную яго частку. Латыскі бядняк ня марыў аб казачным прошлым, не захапляўся гэроямі гэроічнага эпосу. Ён ледзь не паміраў ад голаду на сваім жабрацкім надзеле. Але гандлёвы капітал ужо стукаўся ў дзьверы незаможнай хаты і вымагаў перабудовы жыцьця на новы капіталістычны лад. А пакуль што старая вёска яшчэ жыла сваім патрыярхальна-консэрватыўным жыцьцём. Там яшчэ адбіваліся конфлікты з абшарнікамі баронамі, там яшчэ захоўваліся нормы прыгоннай моралі, галоўным чынам старым пакаленьнем. У абарону гэтай моралі і выступае пастар—пісьменьнік Юры Нэйкен. У сваіх дыдактычна-рэалістычных апавяданьнях з народнага жыцьця ён паўстае супроць парушэньняў царкоўна-фэодальнай моралі, супроць маладога пакаленьня, якое ўжо ня хоча жыць старымі традыцыямі бацькоў. Кара боская чакае кожнага за непаслушэнства! У гэтым сэнс моралі Нэйкена. Калі ў апавяданьнях пісьменьніка і ёсьць што-небудзь каштоўнае, дык гэта замалёўка сялянскіх тыпаў, якая вытрымліваецца ў рэалістычных танох.

У канцы 70 і пачатку 80 г. г. падымае галаву і дробнае латыскае сялянства, якое было звольнена як ад прыгону, так і ад зямлі. У гэты час павінна была адбыцца продаж сялянам пэўнай часткі абшарніцкае зямлі. Усіх цікавіла пытаньне ці прыме ўдзел урад у гэтай справе; а ці абшарнікі самі прыдуць да „згоды“ з сялянамі. Сялянства было варожа настроена супроць сваіх эксплёататараў остзэйскіх баронаў. Часам нават выбухалі паўстаньні. Патрыёты таго часу імкнуліся ўзгадніць гэтае пытаньне. Яны пісалі пэтыцыі, гаварылі прамовы і ўсялякамі спосабамі імкнуліся выказаць сваю „лояльнасьць“ перад урадам, ад якога і чакалі праўдзівага вырашэньня справы. Але, як і трэ‘ было чакаць, аграрнае пытаньне было вырашана на карысьць нямецкіх баронаў.

Вось гэты пэрыяд і знайшоў адбітак у вялікім романе братоў Коўдзыт „У час каморніцтва“, які зрабіў цэлую эпоху ў латыскай літаратуры. У гэтым творы малюецца жыцьцё латыскага сялянства напярэдадні выкупу зямлі. Аўтары даюць цэлую галерэю сялянскіх тыпаў, але гэта зазвычай духоўныя калекі, якія толькі і маглі зьявіцца ў умовах паншчыны. Тут спатыкаем і мястэчковых навамодных „інтэлігэнтаў“, якіх аўтар гіранічна высьмейвае як карыкатурных прадстаўнікоў тагочаснага нацыяналізму. На шырокім палатне свайго твору аўтары малююць жыцьцё латыскай вёскі, яе беднасьць, цемнату, духоўную ўбогасьць—усе адмоўныя бакі будучых сялян-уласьнікаў. Ня гледзячы на сельскагаспадарчы крызіс 80 гадоў і на пануючую ў той час рэакцыю, капіталізм пранікаў у самыя адсталыя куткі Бальтыкі, нясучы сьмерць старому патрыярхальнаму жыцьцю. Але капіталістычныя навіны найбольш балюча ўспрымаліся консэрватыўнымі элемэнтамі вёскі. З больлю ў сэрцы яны назіралі як новае жыцьцё руйнуе і тыя моральныя нормы, якія ім здаваліся

нязьменнымі, вечнымі. Ідэялізатарам патрыярхальнага сялянскага жыцьця у той час выступае Якуб Апсіт. У сваіх творах „Багатая радня“, „У валасным судзе“ і інш., ён з вялікім замілаваньнем малюе людзей старой прыгоннай формацыі з іх рэлігійнасьцю, хрысьціянскай пакорлівасьцю, працавітасьцю і іншымі дабрачыннасьцямі перажытай паншчыны. Ён адмоўна адносіцца да новых людзей, высунутых капіталізмам, бо яны руйнуюць увесь уклад старога жыцьця, ствараюць новы быт, новую мораль. Аўтар глыбока адчувае соцыяльную няроўнасьць пануючага ладу, але ён знаходзіць толькі адно выйсьце—гэта хрысьціянскі заклік да багатых: „будзьце братамі, любіце адзін другога!“

Найбольш буйным прадстаўніком консэрватыўнага зямляўласьніцтва ў латыскай літаратуры зьяўляецца Рудольф Блаўман (1862—1908 г.). На жыцьцё ён глядзіць пераважна вачыма мастака-псыхолёга, а не маралістага. Піша новэлі, драмы, комэдыі, лірычныя і сатырычныя вершы. Характэрныя рысы творчасьці Блаўмана: псыхолёгічная глыбіня, рознастайнасьць характараў, багацьцё мастацкіх сродкаў, дзякуючы чаму ён стаіць вышэй за Нэйкена, Каўдзыт, Апсіта. У яго творчасьці яшчэ захаваліся элемэнты папярэдняй романтыкі, але рэалізм пераважае. Да лепшых новэль пісьменьніка належаць: „Андрыксон“ і „Пад ценьню сьмерці“. У першай конфлікт паміж сялянскай хатай і панскім маёнткам, у другой трагэдыя рыбакоў на льдзіне занесеных у мора. У драме „Блудны сын“ у асобе галоўнага гэроя Крустыня паказаны шуканьні маладога пакаленьня, якое ўжо не здавальняецца патрыярхальным укладам жыцьця бацькоў. Дзякуючы сваей сцэнічнасьці і трагнай пабудове, у свой час гэтая драма абышла ўсе латыскія сцэны. Выдатнейшая драма Блаўмана „Індрані“ паказвае адвечны конфлікт паміж бацькамі і дзецьмі. Гэтая драма нагадвае „Кароля ліра“ Шэксьпіра, але толькі ў латыскай варыяцыі. Тут талент драматурга дасягнуў найбольшага разьвіцьця. Блаўман лепшы бытавы пісьменьнік латыскага сялянства (пераважна заможнага). Разлажэньне старога быту і шуканьні новых форм жыцьця яскрава адбіваюцца на ягонай творчасьці. Але гэта не колектыўная барацьба, а толькі індывідуальныя шуканьні, што і было ўласьціва тэй соцыяльнай групе, да якой належыў Блаўман.

„Блаўман стаіць на раздарожжы латыскай літаратуры. З ім канчаецца пэрыод замкнутага провінцыялізму і нацыяналізму, навучальнага сялянскаго апавяданьня і нацыяналістычнай псэўдоміфолёгіі, наіўнай сялянскай ідыліі і патрыярхальных традыцый прыгоннага часу. Пачынаецца новая эпоха „буры і націску“, сучасных шуканьняў і імкненьняў, клясавай барацьбы і ідэолёгічных уплываў заходня-эўропэйскай думкі, пераацэнка ўсіх каштоўнасьцяй і магутных рэволюцыйных выбухаў, нараджаецца літаратура з новым зьместам, з новай мастацкай формай“... [1]).

[1]) Сборник латышской литературы под ред. В. Брюсова, М. Горького, изд. „Парус“, Петроград, бал. 20.

* * *

Пасьля экономічнага застоя і рэакцыі 80 гадоў, у жыцьці Прыбальтыцкага краю адбыліся вялікія зьмены, хуткі тэмп разьвіцьця капіталізму вывеў на гістарычную арэну новую клясу—прамысловы пролетарыят. Абвастрэньне клясавае барацьбы, імкненьні пролетарыяту да экономічна-політычнага вызваленьня, падрыхтоўваюць рэволюцыйны выбух 1905 году, які быў найбольш гучным якраз у Прыбальтыцы, бо адвечная эксплёатацыя абшарнікаў-баронаў і капіталістых прамыслоўцаў тут набыла найбольш суровыя формы. Старыя лёзунгі „нацыянальных імкненьняў" страцілі ўжо ўсякую популярнасьць. Жыцьцё патрабавала новых лёзунгаў, лёзунгаў клясавае барацьбы.

Найбольш дэмократычна-настроенная моладзь таго часу ўтварыла так званую „Новую плынь" (jauna strava), якая і стала носьбітам лёзунгаў клясавага змаганьня, барацьбітом супроць нацыянальнага консэрватызму. Шмат чаго зрабіла літаратурная крытыка таго часу, якая ваяўніча паўстала супроць мяшчанскага сантымэнталізму, этнографічнага нацыяналізму і сялянскай романтыкі. Ідэолёгі „Новай плыні" пачалі знаёміць латыскую грамадзкасьць з ідэямі Заходняй Эўропы. Перакладаліся і популярызаваліся творы Маркса, Энгельса, Дарвіна, Тэна і інш. З мастацкай літаратуры—драмы Гаўптмана, Ібсэна, романы Золя і аповесьці Мапасана. З расійскай літаратуры латыскай грамадзкасьці сталі вядомы творы Чэхава, Горкага, Караленкі і інш. Перад латыскімі прогрэсыстымі адчыніліся новыя, дагэтуль нябачаныя, пэрспэктывы.

Дробна-буржуазныя ідэолёгі „Новай плыні" аб'ядналіся наўкол газэты „Dienas Lapa" (Штодзённы Лісток). Гэтая газэта стала ў опозыцыю як да імкненьняў консэрватыўнай часткі латыскай буржуазіі, так і да ідэолёгіі латыскага народніцтва. Замест наіўнай ідэялізацыі далёкага прошлага свайго народу, яна ўсе надзеі ўскладала на будучыню, якую часам і малявала ідэялістычна-утопічнымі фарбамі. Дробна-буржуазныя ідэолёг не маглі прайсьці міма рабочага пытаньня, якое ў той час набыло значную актуальнасьць. Яны па-свойму вырашалі гэтае пытаньне. Першы рэдактар „Дэнас Лапа" Фр. Бэргман выдае сваю брашуру „Фабрычны рабочы ў XIX ст.", у якой ён закранае цяжкае жыцьцё тагочаснага пролетарыяту і імкнецца яго палепшыць. Якім-жа чынам? А перш за ўсё Бэргман хоча пазнаёміць латыскага рабочага з ідэямі рабочага руху Зах. Эўропы і Паўночнай Амэрыкі, каб гэтыя ідэі прышчапіць і на латыскай глебе. Па-другое, бязьмежная эксплёатацыя пролетарыяту павінна абмяжоўвацца ўрадам шляхам выданьня адпаведных законаў. Урад, па яго думцы, зьяўляецца нейкай надклясавай катэгорыяй, які павінен дбаць аб агульным дабрабыце дзяржавы. „Урад як прадстаўнік усіх станаў насельніцтва павінен абараняць інтарэсы ўсёй грамады, а ня толькі тэй ці іншай яе часткі", піша Бэргман у „Дэнас Лапа". Стаючы на пункце гледжаньня буржуазных экономістых, ён імкнецца давесьці капіталістым,

што бязьмерная эксплёатацыя рабочых шкодна і для саміх прадпрыемцаў, а таму, каб павысіць норму вытворчасьці трэба павялічыць пэнсію рабочым і скараціць працоўны дзень. Гэтая апэляцыя да капіталістых відаць хутка расчаравала Бэргмана і ён у далейшым прапагандуе прынцыпы рабочай коопэрацыі і ўзаемнай дапамогі па ўзору Шульцэ-Дэліча і рочдэльскіх піонэраў. Тагочасныя прынцыпы Бэргмана і яго аднадумаў вельмі нагадвалі прынцыпы расійскіх „легальных марксыстых“, на чале якіх стаяў вядомы Струве. Адмаўлялася неабходнасьць мець пролетарыяту самастойную політычную партыю. Не рэвалюцыя, а змаганьне рабочых на грунце законнасьці за свае эканамічныя інтарэсы. Самадапамога праз рабочыя касы як сродак паляпшэньня ўмоў жыцьця рабочага і г. д. Аб гэтым ня толькі пісалася ў „Дэнас Лапа“, але гэта праводзілася і ў жыцьцё.

Ідэі ўзаемадапамогі відаць больш за ўсе прышчапляліся сярод кваліфікаваных рабочых. Аснаўная працоўная маса, якая заўсёды папаўнялася вёскай, ледзь не памірала ад голаду і зусім ня думала папаўняць рабочыя касы сваім жабрацкім заробкам.

Рабочае жыцьцё тагочаснага гораду знайшло сваё адбіцьцё ў творчасьці Аўстага Дэглава (1862—1923 г. г.). З раньніх дзён ён пайшоў у горад за працай. З пачатку працаваў рабочым дрэваапрацоўшчыкам у Рызе, дзе добра пазнаў умовы капіталістычнай эксплёатацыі, пасьля працаваў як журналісты, пісьменьнік і дзеяч розных таварystваў узаемадапамогі. Напісаў некалькі культурна-гістарычных раманаў. З яго твораў найбольш удалым зьяўляюцца апавяданьні з жыцьця тых рабочых, якіх хваля капіталізму выкінула з вёскі ў горад, дзе яны прыстасоўваюцца да новых умоў жыцьця. Ідэі тагочаснага „эканамізму“ кладуць свой адбітак на творчасьць пісьменьніка.

У сваім лепшым творы „Галубка“ ён малюе прыгоды рабочага Пумпурса, які ледзь ня гіне ад п'янства, але выпадкова выратоўваецца жанчынай. Яна прыводзіць Пумпурса да хаты, корміць, апранае, пасьля чаго ў рабочага пачынаецца новае жыцьцё. Дэгляў імкнецца паказаць, якія няшчасьці прыносіць гарэлка, распуснае жыцьцё і як добра жыць шчыраю працаю, якая арганізавана на прынцыпах узаемадапамогі.

А часам ён малюе як просты сялянскі сын, дзякуючы сваёй сумленнасьці і працавітасьці, робіцца нават дырэктарам фабрыкі. (?)

Элемэнты наіўнай романтыкі своеасабліва пераплятаюцца ў творчасьці Дэглава з элемэнтамі рэал-натуралізму рабочага жыцьця.

Беспрасьветна-цяжкае жыцьцё рабочага таго часу адрывала яго ад рэчаіснасьці і на крыльлях фантазіі на некаторы час уносіла ў нейкі новы сьвет, дзе людзі па-брацку дапамагаюць адзін аднаму, дзе зьнікаюць і самыя супярэчнасьці клясавай грамады. У сваёй творчасьці Дэглаў адбіў індывідуалістычныя імкненьні рабочых, нясьпеласьць рабочага руху.

90 годы ў латыскай літаратуры характарызуюцца як пэрыод „буры і націску“, пэрыод прогрэсыўных імкненьняў і протэсту дробнай буржуазіі супроць соцыяльнага ўціску. Першым дробна-буржуазным песьняром гэтага часу быў Эдвард Вэйдэнбаум. Поэта выступае ў той час, калі капітал канцэнтруецца толькі ў буйных цэнтрах, калі клясавая ідэолёгія пролетарыяту яшчэ не аформілася, а над усім краем павісла цёмная хмара рэакцыі. Творчасьць Вэйдэнбаума поўна супярэчнасьцей, якія і былі ўласьцівы тэй соцыяльнай групе, да якой належыў поэта. Беспрасьветны пэсымізм, адмаўленьне жыцьця і яго ідэялаў—і ў той жа час палкі протэст супроць мяшчанскага самаздавальненьня і пошлых імкненьняў буржуазіі; адсутнасьць веры ў будучыню, і бадзёры заклік да барацьбы—вось тыя супярэчныя элемэнты, з якіх складалася творчасьць поэты. За сваё кароткае жыцьцё ён напісаў толькі невялікі сшытак вершаў, ды пераклаў некалькі ад Горацыя, некалькі вершаў Шылера і Гэйнэ, але меў вялікі ўплыў на сучасьнікаў. Моладзь з вялікім захапленьнем чытала вершы гэтага протэстуючага пэсымісты. Творчасьць Вэйдэнбаума мае глыбока філёзофскі характар, але мы ня знойдзем у яго акрэсьленай філёзофскай сыстэмы. Спачатку ён стаіць на пункце гледжаньня агностыцызму—хістаецца паміж ідэялізмам і матар'ялізмам, але нарэшце прыходзіць да матар'ялізму.

У сувязі з іншымі лібэральна-прогрэсыўнымі імкненьнямі „Новаплынцаў“ знаходзіцца і жаночы рух, правадыр якога—папулярная ў свой час пісьменьніца Аспазія. Сюжэты для сваёй творчасьці Аспазія бярэ з далёкага прошлага свайго народу, але тут ужо няма тэй наіўнай ідэялізацыі мінуўшчыны, якая была ўласьціва творам Аўсэкліса ці Пумпурса.

Пэрсонажы Аспазіі гэта—палкія протэстуючыя романтыкі, барацьбіты за сваё індывідуальнае вызваленьне з-пад соцыяльнага ўціску. Пад уплывам драм „Гонар“ Зудэрмана і „Нора“ Ібсэна, Аспазія піша драму „Страчаныя правы“, дзе малюе як зьняслаўленая дзяўчына забівае свайго спакусьніка, каб адпомсьціць за няўдалае імкненьне пабудаваць сваё індывідуальнае шчасьце, за страчанае права кахаць і быць паважанай. У драме „Недасягнутая мэта“ малюецца цяжкае становішча жанчыны як у бацькавай хаце, так і ў замужнім жыцьці. Моцны заклік да вызваленьня жанчыны абурыў консэрватыўна-буржуазныя колы, якія ўгледзілі ў гэтым парушэньне норм старой моралі, заклік да распусты. Пачалася полеміка наўкол жаночага пытаньня. На бок пісьменьніцы стала найбольш прогрэсыўная частка грамады.

Драмы Аспазіі, ня гледзячы на іх некаторую шаблённасьць, рытарычнасьць, соцыяльныя і мастацкія недахопы, усё-ж такі зрабілі вялікі ўплыў на сучасьнікаў, бо протэст романтычнага індывідуалізму супроць старых традыцый і старой моралі, быў зусім сугучан з імкненьнямі прогрэсыўна настроенай часткі латыскай дробнай буржуазіі.

Найбольш глыбокага выяўленьня свайго таленту Аспазія дасягае ня ў драме, а ў лірыцы. Дзякуючы багацьцю фарб, вобразаў і глыбіні

інтуіцыі, лірычныя творы поэтэсы належаць да лепшых у латыскай літаратуры і могуцьісьці ў параўнаньне з выдатнейшымі творамі заходняэўропэйскіх лірыкаў. У вершах і драмах Аспазіі сваяасабліва пераплятаецца ціхая засмучонасьць з гучным протэстам супроць старога ўкладу жыцьця, з саманадзейным імкненьнем да нявыразных ідэялаў. Бурнаоптымістычны тон поэзіі поэтэсы, які быў уласьцівы раньняму пэрыоду яе творчасьці, пачынае спадаць у далейшым. Глыбокім пэсымізмам гучыць ліра Аспазіі пасьля разбурэньня „Новай плыні“ у 1897 годзе. Гэты пэсымізм мае ня толькі асабовыя прычыны (цяжкае матар'яльнае становішча, арышт і высылка блізкага чалавека Я. Райніса і г. д.), а галоўным чынам соцыяльную падставу.

Рабочае крыло „Новай плыні“ пасьля яе разгрому перайшло на падпольную працу і там падрыхтоўвала рэвалюцыйны выбух 1905 году. Дробна-буржуазная інтэлігэнцыя траціла сваю рэвалюцыйнасьць, пэрспэктыву на будучае і ўсё больш і больш кацілася ў лягер консэрватыўнай буржуазіі. Будучае належыла пролетарыяту.

Аспазія жыве яшчэ і зараз. Піша вершы. Але творчасьць яе ўжо ня мае такога ўплыву як у час барацьбы за жаночую эмансыпацыю Ёй не па дарозе з сучаснымі пралетарскімі пісьменьнікамі Латвіі, бо яна так і засталася абаронцам тае сацыяльнае групы імя якой дробная буржуазія. Пасьля 25-гадовага свайго літаратурнага юбілею яна зусім шчыра заявіла: „Я толькі дэмократка!“.

На перагібе XIX і XX ст. вызначаецца сваёй творчасьцю поэта Плудон, які зьяўляецца прадстаўніком вясковай інтэлігэнцыі. У сваёй творчасьці Плудон адбіў імкненьні паасобных выхадцаў вёскі да навукі, а таксама і поўную апалітычнасьць найбольш заможных слаёў латыскага сялянства да і пасьля рэвалюцыі 1905 году. Асаблівую ўвагу зьвяртае поэта на форму вершу, які дасягае ў яго надзвычайнай музычнасьці і віртуознасьці. Найбольш выдатныя творы—поэмы „Reguiem“ і „Сын удавы“. У першай вельмі глыбока падаюцца апошнія хвіліны чалавека, які змушан несваячасова загінуць. Беспрасьветным пэсымізмам, глыбокім лірызмам і надзвычайнай музычнасьцю вее ад гэтай поэмы. Па сваёй глыбіні і багацьцю выяўленчых сродкаў „Reguiem“ належыць да клясычных твораў латыскай поэзіі.

У поэме „Сын удавы“ сымбалізуюцца імкненьні сялянскай моладзі да навукі. Беднасьць і непамерная праца падрываюць сілы гэтай моладзі і яна гіне ў непасільнай барацьбе за існаваньне. Акрамя орыгінальнай творчасьці Плудон узбагаціў латыскую літаратуру ўдалымі перакладамі нямецкіх лірыкаў.

Побач з прогрэсыўнымі „новаплынцамі“ ў 90-х гадох існуе супроцьлеглы лягер пісьменьнікаў-консэрватараў, якія стаяць на варце старых традыцый нацыянальнай буржуазіі.

Найбольш буйным, таленавітым, а разам з тым і найбольш рэакцыйным пісьменьнікам гэтага лягеру зьяўляецца Андрэй Недра. У сваіх

творах А. Недра малюе, паміж іншым, тыпы інтэлігентаў з іх шуканьнямі сэнсу жыцьця, з іх хістаньнямі паміж ідэалізмам і кар'ерай практычнага буржуа. Тыпы інтэлігентаў зьяўляюцца першы раз у латыскай літаратуры і зусім невыпадкова. Імкненьні латыскай дробнай і сярэдняй буржуазіі да асьветы, у прыватнасьці да вышэйшай асьветы былі выкліканы ня толькі „любоўю“ да навукі, а мелі пад сабой сацыяльна-эканамічную падставу. З аднаго боку, разлажэньне дробнай і сярэдняй гаспадаркі пад уплывам прамысловага капіталізму штурхала сваіх уласьнікаў у горад, дзе яны павінны былі прыстасоўвацца да новых умоў жыцьця, вучыцца і выбівацца ў інтэлігенцыю. З другога боку, зрух вытворчых сіл у бок капіталізацыі патрабаваў усё новых і новых кадраў інтэлігенцыі: інжынэраў, аграномаў, дактароў, адвакатаў і нават тэолёгаў.

Кандыдат тэолёгіі, а ў далейшым пастар, Недра шмат увагі аддае сваім таварышом па прафэсіі. Але і лютаранскае духавенства, стаючы на варце консэрватыўнага латыскага земляўласьніцтва, не магло знаходзіцца пазакапіталістычным працэсам, а павінна было знаходзіць выйсьце з супярэчнасьцяй жыцьця. Частка духавенства адрываецца ад жыцьця ў бок містыкі і рэлігійных шуканьняў і заблытаўшыся гіне („Без прошлага“, 1898 г.). Значная-ж частка рэлігійных шукальнікаў хутка прыстасоўваецца да новых умоў жыцьця і зьяўляецца шчырымі праваднікамі рэлігійнага дурману (кандыдат тэолёгіі Струтмал у романе „Дым цаліны“). Побач са служнікамі культу Недра малюе і тэхнічную інтэлігенцыю, якая разумее, што праблема нямецкага абшарніка і латыскага земляўласьніка ня можа быць вырашана шляхам містыкі рэлігійных шуканьняў, а толькі шляхам капіталістычнага накапленьня і перабудовы ўсёй гаспадаркі на новай эканамічнай базе. Супроцьстаўляючы прыбальтыцка-нямецкім фэодалам латыскую буржуазію з яе драпежнымі імкненьнямі да нажывы, пісьменьнік яўна сымпатызуе апошняй.

Найбольш выдатным творам А. Недры зьяўляецца яго сучасная казка „Сын селяніна“. Аўтагенны вобраз гэтага твору сялянскі сын, сымбалізуе той шлях капіталізацыі, па якому пайшоў латыскі ўласьнік разам са сваёй інтэлігенцыяй.

Да пэўнага часу сялянскі сын жыў разам з бацькам. Але чамусьці жыцьцё земляроба яго не здаволіла і ён пайшоў у сьвет шукаць шчасьця і нейкую вышэйшую праўду. З вялікай мастацкасьцю малюе аўтар шуканьні свайго сымболічнага вандраўніка. Перад вачыма юнака адчыняецца чалавечае жыцьцё, пабудованае на контрастах і соцыяльных супярэчнасьцях. Нідзе ён не знаходзіць сабе здавальненьня, бо шчасьце адных будуецца на няшчасьці другіх. Кожная рэч мае два бакі: адзін прыгожы і прывабны, другі брыдкі і агідны. Праца, каханьне, бог, прырода і г. д.—усё не здавальняе нашага шукальніка—усюды ён бачыць дысгармонію, цэлае бяздоньне паміж ідэялам і жыцьцём. Вельмі характэрны канец казкі. Ідэялісты і шукальнік высокіх ідэялаў нарэшце за-

спакоіўся. Ён жаніўся на дачцы багатага нямецкага бюргэра і ад вялікіх імкненьняў перайшоў да спакойнага мяшчанскага жыцьця...

У 1905 годзе А. Недра апынуўся ў лягеры ворагаў рэволюцыі і ваяўніча выступаў са сваімі памфлетамі супроць соцыялістых. У далейшым ён ад вялікіх шуканьняў перайшоў да сельскай гаспадаркі і апрануў сутану лютаранскага пастара. У 1919 годзе А. Недра становіцца на чале ўраду абшарніцкае рэакцыі і ў сяброўстве з Бэрмантам вядзе барацьбу супроць латыскай нацыянальнай арміі. У сучасны момант нават і для „дэмократычнай“ Латвіі А. Недра—палітычны эмігрант.

Ідэолёгія дробна-буржуазнай інтэлігэнцыі, якая ўжо не здавальнялася старой культурай бальтыцкіх абшарнікаў, а таксама паўстала і супроць нікчэмных імкненьняў нацыянальнай буржуазіі, выявілася ў творчасьці романтыкаў, самым буйным з якіх у латыскай літаратуры ёсьць Ян Порук. Пісьменьнік вышаў з таго-ж самага сялянскага асяродзьдзя як і Апсіт і ў поўнай меры зьвязаны са старым жыцьцём, але эстэт Порук атрымаў замежную асьвету і ня хоча ўжо жыць старымі ідэяламі гэрнгутэрскага дому; у той-жа час капіталістычная нажыва ня можа быць яго ідэялам, бо ён непасрэдна ня ўцягнуты ў арбіту капіталістычнага процэсу. У шуканьнях свайго ідэялу Порук замыкаецца ў рамкі крайняга індывідуалізму, супроцістаўляе свае „я“ ўсяму наўкольнаму жыцьцю.

„Романтик ставит свой внутренний мир выше внешнего; этот последний, как нечто самостоятельное, не интересует романтика; свое представление о действительности романтик ценит больше, чем самую действительность. Взглянуть трезво на тот или другой реальный факт, оценить его с общественной точки зрения, с точки зрения его временного значения, романтик не может: он изучает только впечатление, которое этот факт произвел на него“ [1]).

Уцякаючы ад рэчаіснасьці Порук зьвяртаецца да свайго дзяцінства і, на падставе ўспамінаў, піша цэлы шэраг апавяданьняў з дзіцячага жыцьця. Але дзіцячыя тыпы Порука мала падобны на звычайных дзяцей; гэта гэроічныя романтыкі і сантымэнтальныя лятуценьнікі вельмі падобныя да самога аўтара.

Ад дзіцячых апавяданьняў пісьменьнік пераходзіць да ідэалізацыі сялян старой формацыі, якія вызначаюцца сваёй шчырасьцю, дабратой, імкненьнем дапамагаць сваім бліжнім, хаця самі жывуць у жабрацтве. Прымірэньне з рэчаіснасьцю і надзеі на лепшае жыцьцё „на тым сьвеце“—замыкаюць вузкае кола іх імкненьняў.

Найбольш характэрнымі для Порука зьяўляюцца тыя творы, у якіх ён малюе сваіх романтычных шукальнікаў зусім адарванымі ад жыцьця. Яскравы прыклад такіх твораў—„Шукальнік пэрлаў“. Гэрой гэтага апавяданьня Антон Вайраг—схэма ў якую аўтар укладае свае романтычныя

[1]) П. С. Коган. Очерки по истории западно-европейской литературы, т. I, изд. 9-е, Гиз, Москва, 1928, бал. 354.

лятуценьні. У Вайрага няма ніякіх грамадзкіх інтарэсаў. Больш таго, ён пазбаўлены разнастайных псыхафізыолёгічных асаблівасьцяй жывога чалавека. Плятонічнае каханьне і косьмічнае яднаньне з усёй прыродай— характэрныя рысы гэтага романтыка.

Некаторыя крытыкі набліжаюць Порука да Ніцшэ і бачаць шмат агульнага паміж латыскім романтыкам і нямецкім філёзафам. На наш погляд гэта ня зусім адпавядае рэчаіснасьці. Ніцшаў „зьверхчалавек" адчуваў сваю сацыяльна-эканамічную і духоўную моц, а таму і глядзеў зьверху ўніз на шырокую чалавечую масу. Порукаў-жа сантымэнтальны романтык заблытаўся ў сацыяльных супярэчнасьцях, адрокся ад рэчаіснасьці, захацеў жыць толькі сваімі марамі-лятуценьнямі, а таму і загінуў адарваным ад жыцьця.

Напярэдадні рэвалюцыі 1905 году, а таксама і пасьля яе, вызначаецца сваёй творчасьцю геніяльны поэта Латвіі Ян Райніс (1865—1929 г. г.). Творчасьць Я. Райніса найбольш глыбока адбіла як прогрэсыўныя імкненьні латыскай інтэлігэнцыі таго часу, так і адыход у далейшым гэтай інтэлігэнцыі ў бок нявыразнага, агульначалавечага і косьмічнага яднаньня.

Ян Райніс сын рандатара маёнтку. Пачаў сваю дзейнасьць як публіцысты. Знаходзіўся ў шэрагах тэй прогрэсыўнай латыскай інтэлігэнцыі, якая ядналася наўкол газэты „Дэнас Лапа". Пасьля сьмерці першага рэдактара Бэргмана, Райніс рэдагуе некаторы час „Дэнас Лапа". У 1897 годзе ён арыштоўваецца і праз некаторы час высылаецца на пасяленьне ў Вяцкую губ. на 5 год як палітычна ненадзейны.

Найбольш каштоўнай і ўплывовай зьяўляецца творчасьць поэты напярэдадні рэвалюцыі 1905 году і ў першыя гады рэакцыі. У гэты перыяд Райніс пясьняр працоўнага народу, пясьняр пролетарыяту, які ён называе „асноўнай клясай".

Ад адзінокіх дум Райніс пераходзіць да глыбокай веры ў высокія ідэялы чалавецтва. Часовыя незадачы ня парушаюць, а толькі ўзмацняюць гэтую веру. У ссылцы поэта скрышталізоўвае сваяасаблівы філёзофскі погляд на жыцьцё, які ў далейшым кладзе адбітак на ўсю яго творчасьць.

„У яго выпрацаваўся акрэсьлены погляд на жыцьцё, погляд глыбока філёзофскі, які разумее жыцьцё як злучэньне радасьці і гора, росквіту і заняпаду, замілаваньня і нянавісьці, хваробы і сьмерці. У адзіноцтве ён яскравей, чым калі-небудзь, адчуў усёй сваёй духоўнай істотай, косьмічнасьць чалавечага існаваньня, у якім кожны момант радасны і сумны ёсьць толькі пераходны этап у вялікім руху—працы [1]).

Там у ссылцы Райніс напісаў першы зборнік вершаў, які выдадзены пад назвай „Далёкія водгукі сіняга вечару". Гэта водгукі рэвалюцыйнага змаганьня пачатку дзевяцьсотых гадоў.

---

[1]) П. Дауге—„И. Райнис", бал. 56., Дзярж. Выд. РСФСР, 1920 г.

У гэтым зборніку мы ня знойдзем захапленьня калектыўным змаганьнем працоўных. Тут галоўным чынам выказаны індывідуальныя пачуцьці і перажываньні змагара за рэвалюцыю. Грозна набліжалася хваля рэвалюцыі 1905 году, якая зрабіла пералом як у соцыяльным жыцьці, так і ў душы поэты. Замоўклі сумныя водгукі райнісавых песень і пачуліся новыя. Гэта—водгукі магутных і бадзёрых песень пралетарыяту. На рэвалюцыю 1905 году поэта адгукнуўся зборнікам вершаў „Засевы буры".

„Самае характэрнае ў гэтым зборніку—яго настроі, рытм часу, сымболізм эпохі вызваленьня. „Засевы буры"—гэта працяг „Далёкіх водгукаў" з тэй толькі розьніцай, што ў першым зборніку цэнтр увагі зьвернуты на асобу, а ў другім ужо выступае грамада, там галоўны момант індывідуальна-псыхолёгічны; а тут соцыяльна-псыхолёгічны [1]).

У жорсткую рэакцыю пасьля рэволюцыі 1905 году Я. Райніс далёка ад бацькаўшчыны—у Швэйцарыі, але ён усёй сваёй істотай з тымі, для каго ён жыў і змагаўся, і з тымі, хто загінуў у змаганьні. Зьяўляецца выдатны зборнік райнісавых вершаў—„Ціхая кніга". Гэтыя вершы поўны сьлёз і смутку, нянавісьці і закліку да новага змаганьня, зьяўляюцца лепшым вянком на шматлікія магілы ахвяр рэакцыі. Калі гэтая кніга выйшла з друку, яе зараз-жа канфіскавала царская цэнзура. Засталіся толькі паасобныя экзэмпляры. Нідзе Райніс ня быў так зразумелы народным масам, як у гэтай кнізе. У гэтым прыгожым вянку з вялікім мастацтвам пераплятаюцца сум, пяшчоты, сьлёзы; уцеха, надзея і імкненьне да далейшага змаганьня.

Жыцьцё Райніса ў эміграцыі (1906—1920 г.г.), адарванае ад бацькаўшчыны і ад тых падзей, якія разгарнуліся за гэты час,—зрабіла пэўны ўплыў на далейшае разьвіцьцё творчасьці поэты. Поэзія Райніса імкнецца ўвысь, набывае філёзофска-косьмічны характар. Ён хоча зразумець чалавека як часьціну агульнага цэлага. Гэты новы кірунак у яго поэзіі асабліва яскрава выявіўся ў зборніку вершаў „Канец і пачатак" (1913). Хаця гэты зборнік прысьвечаны „асноўнай клясе", аднак, Райніс тут не зьвяртаецца да працоўных мас, як гэта было ў „Засевах буры". Тут няма закліку да колектыўнага клясавага змаганьня. Асоба зьяўляецца цяпер аб'ектам яго ўвагі. У інтымнай гутарцы з асобай ён хоча будзіць у ёй думкі і пачуцьці да новага, вышэйшага разуменьня жыцьця.

Імпэрыялістычную вайну з усімі яе вынікамі Райніс пражыў на чужыне. У рэволюцыі 1917 году і ўсіх далейшых падзеях Райніс ня браў непасрэднага ўдзелу. Магчымасьць утварэньня незалежнай Латвіі як дзяржавы стала відавочнай. У Райнісавай поэзіі з асаблівай сілай пачалі гучэць нацыянальныя мотывы. Я. Райніс ня толькі поэта, але і вядомы драматург. Выдатнейшым драматычным творам пісьменьніка ёсьць сымболічная драма „Агонь і ноч" (1905), гэта старая песьня на новы лад".

[1]) П. Даўге „И. Райніс", бал. 84. Дзярж. Выд. РСФСР. 1920 г.

Трэба сказаць, што драматычныя творы Райніс будуе на народных казках, або на гістарычных фактах і надае ім новае сучаснае разуменьне. Так ён зрабіў і ў сваёй драме „Агонь і ноч". Гэроі драмы гэта асобы з старой латыскай міталёгічнай сагі, але выяўляюць імкненьні і жаданьні сучасных людзей.

Латыскі волат Лачплесіс бязупынна змагаецца з царствам цемры. З дна возера ён падымае затоплены палац сьвятла. Галоўная яго мэта— вызваліць свой народ ад цемры. Змаганьне Лачплесіса спыняецца тым, што ён разам з Чорным рыцарам у час бойкі зрываецца, падае ў бяздоньне. Там, у бяздоньні ідзе яшчэ змаганьне паміж Лачплесісам і Чорным рыцарам.

„Агонь і ноч"—сымбалі вялікага змаганьня дзьвюх варожых сіл. Гэтыя сымбалі зьяўляюцца асноўнымі элемэнтамі драмы Райніса. Толькі вялікі талент пісьменьніка здолеў ажывіць старую легенду і ператварыць яе ў змаганьне клясавых супярэчнасьцяй.

Другім выдатным драматычным творам Райніса ёсьць пяціактовая „Казка сонцавароту"—„Залаты конь". Гэта вядомая народная казка пра бацьку і трох сыноў, з якіх два хітрыя, а трэці просты і наіўны. Ён абуджае ад вечнага сну прынцэсу і дасягае найвялікшага шчасьця. Народная казка зьяўляецца для драматурга толькі канвою для сымболізацыі альтруізму і гэроічнай самаахвярнасьці.

У 1912 годзе выйшла з друку гістарычная трагэдыя часоў латыскалітоўскіх войн „Індул і Арыя". Гэта—трагэдыя каханьня (сюжэт нагадвае Ромэо і Джульэту). Але і тут Райніс не абмежаваўся трагэдыяй каханьня ў пэўнай гістарычнай абстаноўцы, а зьвязаў гістарычнае мінулае з сучасным і вуснамі свайго гэроя выказаў погляды на лёс латыскага народу, на яго сучаснае і будучае.

„Агонь і ноч", „Залаты конь", „Індул і Арыя"—тры выдатнейшыя драматычныя творы пісьменьніка. Сымбалізм і філёзофская глыбіня характэрныя адзнакі гэтых твораў.

„У драмах Райніса—багацьце лірычнага пачуцьця, шмат тонкіх вобразаў, філёзофскіх сэнтэнцый і дасканалая мастацкая апрацоўка сюжэту; глыбокі сымболізм і шчырая лірычнасьць ня могуць замяніць нявыстарчальную плястычнасьць характараў і драматычнага напружаньня. Райніс—лірык, і ў драме ён застаецца пераважна лірыкам [1]).

Райніс ўзбагаціў латыскую літаратуру шматлікімі перакладамі клясычных твораў літаратуры розных эпох і народаў. Пераклады Райніса выдадзены паасобным выданьнем і складаюць 18 томаў. Асабліва каштоўны пераклад „Фауста" Гётэ. Перад перакладчыкам стаяла вялікая задача, бо ў латыскай мове тады амаль што адсутнічала філёзофская і псыхолёгічная тэрмінолёгія. Райніс першы стварыў гэтую тэрмінолёгію.

[1]) Сборник латышской литературы под ред. В. Брюсова и М. Горького, бал 27.

Ён быў ня толькі перакладчыкам вялікіх твораў заходня-эўрапэйскіх пісьменьнікаў, але і рэформатарам латыскай мовы. Райніс лепшы выказьнік дарэвалюцыйных надзей і імкненьняў прогрэсыўнай часткі латыскай дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, якая так шмат чакала ад рэвалюцыі 1905 году і была глыбока расчаравана яе няўдачай. Але Райніс, як найбольш чулы прадстаўнік гэтай інтэлігенцыі, адчуваў, што будучыня належыць пролетарыяту, а рэакцыя гэта толькі пераходны пэрыяд. Вось чаму ў поэзіі Райніса ў той час скрозь сьлёзы і смутак адчуваецца моцная надзея на новае лепшае жыцьцё.

Ня будучы органічна зьвязанай з пролетарыятам, прогрэсыўная інтэлігенцыя часта адыходзіць ад выразных задач пролетарыяту, і яе імкненьні набываюць ідэялістычны характар. Пасьля рэволюцыі 1905 году поэзія Райніса набывае косьмічны характар, моцную веру ў бесканечнае і бязупыннае разьвіцьцё „народнай працы“, якая нібы-то створыць новыя формы жыцьця.

* * *

Рэволюцыйны выбух 1905 году зрабіў вялікі сацыяльны зрух у жыцьці латыскага краю. Быў нанесены моцны ўдар нямецкаму фэодальнаму баронству і адчынены шлях для латыскай гарадзкой і сельскай буржуазіі. Але клясавае змаганьне яшчэ больш абвастраецца, бо новая кляса прамысловы пролетарыят ваяўніча паўстае супроць эксплёататарскіх тэндэнцый „першапачатковага накапленьня“. Клясавай дыфэрэнцыяцыяй азначаюцца як зьмены ў культурным жыцьці наогул, так і ў літаратуры ў прыватнасьці.

Бурныя надзеі рэвалюцыі 1905 году зьмяняюцца гадамі чорнай рэакцыі з іх карнымі экспэдыцыямі, арыштамі, ссылкамі, турмамі і г. д., мэта якіх—вытруціць усе рэволюцыйныя элемэнты краю. Зараз і латыскі прогрэсыўны інтэлігэнт змушан разьлічвацца за свае прогрэсыўныя імкненьні. Значная частка латыскіх пісьменьнікаў апынулася за межамі і там на чужыне паклала пачатак так званай эмігранцкай літаратуры. Усю гэтую літаратуру можна падзяліць па двум выразна акрэсьленым напрамкам. Да першага—належыць творчасьць тых пісьменьнікаў, якія яшчэ ня страцілі ідэёвай сувязі з рэволюцыйным прошлым сваёй бацькаўшчыны. У іх творчасьці скрозь сьлёзы і смутак прасьвечвае прамень надзеі на перамогу рэволюцыйных мас. Яны адчуваюць новы дзень, які прыдзе на зьмену чорнай рэакцыі. Тыповым насьбітом гэтых надзей зьяўляўся Ян Райніс. У ягоным зборніку вершаў „Ціхая кніга“, гэтыя надзеі знайшлі сваё глыбока-мастацкае выяўленьне.

Творчасьць другога напрамку эмігранцкай літаратуры належыць пісьменьнікам, якія страцілі ўсякую сувязь з рэволюцыяй і з тэй клясай, якая стала аб'ектам рэакцыі. Яны адмовіліся ад рэвалюцыйнага прошлага, ад колектыўнай клясавай барацьбы і ўсю сваю ўвагу зьвярнулі

толькі на ўласныя адчуваньні, у якіх ужо яскрава вызначаюцца сымптомы дэкадэнцтва.

Творчасьць эмігрантаў, узятая ў цэлым, уносіць некаторую навізну ў тагачасную нацыянальна-замкнутую латыскую літаратуру. Гэтае новае выяўляецца ў рознастайнасьці сюжэтаў і вобразаў. Зьяўляюцца мастацкія апісаньні чужых краін, чужых народаў.

У першыя гады рэакцыі на літаратурную авансцэну выступае цэлая пляяда пісьменьнікаў-дэкадэнтаў, якая пад уплывам расійскага дэкадэнства ўтварае свой літаратурны кірунак. Латыскія дэкадэнты гэта пераважна прадстаўнікі дробна-буржуазнай інтэлігенцыі. Напярэдадні рэволюцыі 1905 году гэтая інтэлігенцыя ў пэўнай меры была прогрэсыўнай і з уласьцівым ёй рэволюцыйна-романтычным захапленьнем сьпявала пра вялікія ідэі „агульнага“ вызваленьня. Але крывавая драма 1905 году расчаравала романтычна-настроенных лятуценьнікаў. Яна паказала, што змагацца трэба не романтычнымі заклікамі, а зброяй клясавай барацьбы. Сапраўдныя праваднікі ідэй клясавага вызваленьня пайшлі ў падпольле і ў кантакце з перадавымі слаямі пролетарыяту падрыхтоўвалі другі акт рэволюцыйнай драмы. Што-ж ўяўлялі сабой у гэты час нядаўна прогрэсыўныя прадстаўнікі дробна-буржуазнай інтэлігенцыі. Яны былі разбураны як організацыйна, так і ідэёва. Некаторыя з іх загінулі ў рэволюцыйным змаганьні, частка апынулася ў турмах, а іншыя сталі палітычнымі эмігрантамі. Большасьць з іх эміґравала ня толькі ў простым, але і ў псыхоідыолёгічным сэнсе, на сваю дробна-буржуазную і дэкадэнцкую выспу. І там на пэўнай адлегласьці ад крывавых месц сваёй бацькаўшчыны пачалі каяцца ў сваіх рэволюцыйных захапленьнях. Дэкадэнты выпрацоўваюць сваю літаратурна-мастацкую плятформу, якая ў асноўным можа быць зьведзена да наступнага: індывідуялізм зьяўляецца адзіным спосабам мастацкага выяўленьня. Літаратура павінна звольніцца ад дэмократычна-соцыялістычных імкненьняў і набыць выгляд „чыстага мастацтва“. Псыхолёгія мас (у тым ліку і пролетарыяту) ня мае маналітнасьці, а таму і ня можа быць аб'ектам мастацкага выяўленьня. Зварочваецца найвялікшая ўвага на форму літаратурнага выяўленьня і г. д.

Ад чыстага эстэтызму дэкадэнты перайшлі ў далейшым да цьмянай містыкі, да ўхваленьня грубага фізыёлёгізму, да сатанізму, садызму і іншых адзнак упадніцтва. Лідэрам дэкадэнцкай плыні ў латыскай літаратуры быў Віктар Эгліт. У пачатку сваёй літаратурнай дзейнасьці знаходзіўся пад уплывам і Блаўмана і Порука, а ў канцы 90 г.г. даў некалькі напоўдэкадэнцкіх, але яшчэ не пазбаўленых мастацкасьці, апавяданьняў. У часы рэакцыі ён малюе жыцьцё эмігрантаў. Яго апавяданьне „Давід“ (1906)—тыповы дэкадэнцкі твор, які ўскрывае гэнэзіс дадзенае групы. Гэрой—былы рэволюцыянэр-індывідуаліст, які пашоў на нелегальную працу толькі пад уплывам свайго імкненьня зрабіць нешта гэроічна-вялікае, ці загінуць. Напярэдадні рэволюцыі гэтая індывідуальная романтыка была ўласьціва дробна-буржуазнай інтэлігенцыі, якая ў час рэак-

цыі папаўняла шэрагі дэкадэнтаў. Ад ваяўніча-індывідуалістычных імкненьняў Эгліт пераходзіць да містэрый, сатаналій, дэманалій, да сымбалічных дзей і містычных шуканьняў. Прынцып індывідуялізму ўсё-ж такі не выключаў некаторага яднаньня жрацоў „чыстага мастацтва" і Эгліт лятуцее аб „сапраўдным салёне алімпійскага мастацтва, дзе ня будзе ўжо месца сьмяротным".

Да гэтай алімпійскай пляяды далучаецца і Гаралд Элдгаст, які па характару сваёй творчасьці вельмі нагадвае Пшэбышэўскага. Сэксуальны інстынкт займае цэнтральнае месца ў творах Элдгаста (асабліва ў рамане „Зорныя ночы"), у „Дэмонічным раі" (1907) спатыкаем паразытычную латыскую арыстакратыю, уся дзейнасьць якой зводзіцца да каханьня. Але гэтае каханьне набывае дэмонічны, ненармальны характар. Палавы інстынкт апранаецца ў нейкую сымболіку і ставіцца ў сувязь з містычнымі таямніцамі жыцьця. У часы рэакцыі ў шэрагах дэкадэнтаў апынуўся і поэта-эстэт Кароль Скалбэ. Сваю літаратурную кар'еру ён пачаў у часы „буры і націску". Тады ў ягонай творчасьці гучэлі ноты рэволюцыйнага протэсту, але ў часы рэакцыі ён замыкаецца ў кола ўпадніцкага індывідуялізму. У сваіх „Песьнях эмігранта" Скалбэ паказвае той псыхічны хаос, што ахоплівае бяздомнага эмігранта, адарванага ад грамадзкіх інтарэсаў, ад жыцьця сваёй клясы. У далейшым Скалбэ пераходзіць да сантымэнтальнай казачнасьці, да ідылічнай пасторалі. Ён не заўважае моцнага гуку фабрычных гудкоў і з ідылічнай наіўнасьцю грае на пастуховай жалейцы...

Акрамя памянёных пісьменьнікаў да дэкадэнцкае групы належылі: Антон Аўстрынь, Ян Акуротар, Кароль Якобсон і інш. Літаратурная прадукцыя дэкадэнтаў асаблівай каштоўнасьці ня мае. Нічога буйнага ні ў драме, ні ў рамане яны не стварылі. Іх галіна—лірыка, якая вызначаецца крайнім суб'ектывізмам, адарванасьцю ад жыцьця. Увесь іх эстэтызм далей слабога пераймaньня і запазычаньня ад расійскіх дэкадэнтаў—не пашоў.

Даючы ацэнку латыскаму дэкадэнству крытык Андрэй Упіт, паміж іншым кажа: „ ... дэкадэнцкае мастацкае „я" ня мае ні свайго самастойнага характару, ні свайго спэцыфічнага твару. Гэта ёсьць толькі няўдалая копія чужых напрамкаў, няжывы літаратурны рэфлекс.

Так званае латыскае дэкадэнцтва ёсьць толькі водгук дэкадэнцтва расійскага, але гэта вельмі слабы водгук...

І калі некаторы з латыскіх дэкадэнтаў, як, напрыклад, Гаралд Элдгаст, здаецца пазбаўленым уплыву расійскага дэкадэнцтва, дык гэта толькі таму, што ён быў дэкадэнцкім слугою іншых замежных краін.

Такім чынам усё латыскае дэкадэнцтва—вузка абмяжованая романтыка, расьліна,—якая закрасавала пярэстымі кветкамі фантазіі, але карэньні якой павісьлі ў паветры" [1]).

---

[1]) A. Upiša Latvijas jaunakas rakstuiecibas Vêsture I, Riga, 1921 g., бал. 203--204.

Мы ня можам цалкам згадзіцца з дадзенай ацэнкай крытыка, які латыскае дэкадэнцтва зводзіць да замежнага ўплыву, а карэньні гэтага кірунку зьмяшчае ў паветры. Бязумоўна, ня можна ня прызнаць уплыву на латыскіх дэкадэнтаў творчасьці такіх пісьменьнікаў і поэтаў як Брусаў, Бальмант, Белы, Салагуб, Пшэбышэўскі і інш. модэрністаў упаднікаў, але гэты ўплыў быў соцыяльна абумоўлены, карэньні яго былі не ў паветры, а ў соцыяльна-эканамічнай рэчаістнасьці таго часу.

Латыская гарадзкая буржуазія і больш незаможныя слаі сялянства напярэдадні рэвалюцыі 1905 году былі вельмі блізкімі да вызваленчых імкненьняў яшчэ маладога латыскага пролетарыяту. Дробна-буржуазныя ідэолёгі нават выступаюць з романтычнымі лёзунгамі „агульнага" вызваленьня. Але рэакцыя выяўляе сапраўдны соцыяльны твар гэтых романтыкаў, якія з пролетарыятам пашлі толькі як „папутнікі" і пакінулі яго ў час паглыбленьня клясавай дыфэрэнцыяцыі. Але, парваўшы сувязь з пролетарыятам, яны не здавальняюцца нікчэмнымі імкненьнямі сваёй клясавай групы і трацяць пэрспэктыву.

Вось гэтая страта сацыяльнай пэрспэктывы, адрыў ад потэнцыяльна магутнае клясы пролетарыяту, протэст супроць мяшчанскага асяродзьдзя і ў той-жа час адсутнасьць выхаду з гэтага асяродзьдзя—усё гэта ёсьць крыніцы ўпадніцкай романтыкі латыскага дэкадэнцтва.

Сацыяльна-эканамічны зрух пасьля рэвалюцыі 1905 г. ідзе пад знакам шпаркага разьвіцьця капіталізму, які напярэдадні імпэрыялістычнай вайны дасягае кульмінацыйнага пункту.

„У 1913 годзе агульны лік прамысловых рабочых перавышаў сто тысяч. Паводле статыстыкі 1910 году на першым месцы—мэталёвая прамысловасьць—115 фабрык, на якіх працуе 25385 рабочых (27,3 пр.), пасьля чаго ідзе хэмічная і тэкстыльная прамысловасьць, дрэва і мінэралаапрацоўчая. Кожная з гэтых галін прамысловасьці займае ад 10 да 12 тысяч рабочых. Значнага разьвіцьця ў той час дасягае і гандаль Латвіі.

Удзень і ўначы працуюць латыскія парты: Віндава, Лібава, Рыга, праз якія правозяцца вялікія багацьці. Разам з гэтым узрастае антаганізм паміж дзьвюма варожымі сіламі— буржуазіяй і пролетарыятам. Разьвіцьцё прамысловасьці і гандлю мае ўплыў і на сельскую гаспадарку, якая ўжо карыстаецца мэтадамі капіталістычнага гаспадараньня"[1]).

Характэрна, што ў час шпаркага росту прамысловасьці буржуазная літаратура ні дае нічога выдатнага. Гэта зусім невыпадкова. Латыская буржуазія яшчэ толькі замацоўвае свае пазыцыі. Яна яшчэ ня мае сваіх культурных традыцый прошлага, выразна акрэсьленай ідэолёгіі, сваіх гэніяльных песьняроў, якія з глыбокай мастацкасьцю выявілі-б тэндэнцыі сваей клясы.

---

[1]) Jaunais Laiks. Rediqejis V. Knorinš, Maskava, 1924 g., бал. 120.

Існуе цэлая пляяда пісьменьнікаў, якіх латыскія крытыкі азначаюць вельмі нявыразным тэрмінам „Новарамантыкі“. Гэта Фр. Барда, І. Акуратар, К. Скалбэ, Ганна Брыгадэр, Яўнсудрабінь і інш.

У час бурнага разьвіцьця капіталізму і ломкі патрыярхальных традыцый, гэтыя пісьменьнікі яшчэ не парвалі сувязь з заможнай вёскай. Уся іх творчасьць у цэлым ёсьць нішто іншае як сялянская романтычная сымболіка, якая супроцьстаўляецца капіталістычнаму гораду. Романтык імкнецца ўцячы ад дынамікі гарадзкога жыцьця, ад клясавага змаганьня, ад новай капіталістычнай культуры. Латынскі „новарамантызм“ гэта—рэфлекс сялянска-мяшчанскай стыхіі на замахі прамысловай буржуазіі. Але гэта ня рэфлекс змаганьня, а адыход ад кіпучага грамадзкага жыцьця ў крайні суб'ектывізм, у ціхую мяшчанскую ідылію.

З другога боку мацнеючы капіталізм параджае імкненьне стварыць сваю спэцыфічную літаратуру нацыянальнай буржуазіі. На літаратурную авансцэну зноў высоўваецца ўжо вядомы нам лідар дэкадэнцтва Віктар Эгліт, які імкнецца стаць на чале новай літаратурнай плыні—так званага „новаклясыцызму“. Да Эгліта далучаюцца: Фалі, Дамбэрг, Круза і іншыя. „Новаклясыцызм“ узьнік на падставе капіталістычнай рацыяналізацыі і патрабаваў ад літаратуры яснасьці, лёгічнасьці, глыбіні думкі і пэўнай композыцыйнай сымэтрыі.

Вось што пісаў у той час „новаклясык“ Дамбэрг: „нам раз назаўсёды трэба адмовіцца ад таго шкоднага пагляду, што нібы-то ў мастацтве могуць існаваць нявыразныя, і рацыянальныя, і хаотычныя напрамкі. Мы павінны нарэшце ўсьвядоміць, што жыцьцём і разьвіцьцём мастацтва кіруюць адны і тыя-ж самыя нязьменныя законы глыбока біолёгічнага характару, пэўныя ступені разьвіцьця“.

Тэорыя Дамбэрга адмаўляе існуючыя ў літаратуры нявыразныя напрамкі. Замест іх гэтая тэорыя ўстанаўлівае так званыя „ступені разьвіцьця“, па якім і разьвіваецца літаратура“. Па яго думцы існуюць тры „ступені“ літаратурнага разьвіцьця: ідэялізм, клясыцызм і александрызм і латыская літаратура яго часу знаходзіцца на пераходнай ступені паміж ідэялізмам і клясыцызмам.

Латыскі „новарамантызм“ знаходзіўся ў шчыльнай сувязі з узмацненьнем нацыянальнай буржуазіі, якая замест нявыразных імкненьняў романтыкаў высоўвала выразную концэпцыю літаратурных прынцыпаў. Але і прадстаўнікі гэтага кірунку таксама ня далі нічога выдатнага латыскай літаратуры, бо яны ў клясычныя формы штучна імкнуліся ўкласьць нікчэмны зьмест буржуазных імкненьняў і зусім зразумела, што гэта не магло нарадзіць глыбока-мастацкіх твораў. На глебе мяшчанскага матэрыялізму і грубага практыцызму цяжка было вырасьці і закрасаваць запраўды прыгожым кветкам літаратурнага мастацтва.

„Новаромантызму“ і „новаклясыцызму“ супроцьстаўляецца трэці літаратурны кірунак, які можна назваць прогрэсыўна-рэалістычным. Ён

яднаў найбольш прогрэсыўных, найбольш рэвалюцыйных прадстаўнікоў дэмократычнай інтэлігэнцыі, якія хацеліісьці пад рэвалюцыйным сьцягам пролетарыяту. Сюды належаць: Л. Карклінь, А. Швабэ, Брукленайс, Шылер, Курцы, Паэгле, Лайцан, Упіт і інш.

Зразумела, што творчасьць гэтых пісьменьнікаў напярэдадні імпэрыялістычнай вайны было далёка не пралетарскай. Гэта хутчэй былі рэвалюцыйныя заклікі дэмократычнай інтэлігэнцыі, якая сёньня з пролетарыятам, а заўтра можа апынуцца ў шэрагах ворага. І няма дзіва, што такі „пролетарскі“ пісьменьнік як Карклін у далейшым пайшоў на паліцэйскую службу, а некаторыя з іншых засьпявалі хвалебныя оды фашызму. Толькі Лайцан, Курцы, нябошчык Паэгле і нямногія іншыя да канца засталіся з пролетарыятам.

* * *

Імпэрыялістычная вайна. Разбурэньне краю. Даўгім гужам цягнуцца ўцекачы. Эвакуацыя фабрык і заводаў у цэнтральную Расію, куды едуць і цэлыя эшалёны пролетарыяту. Моцна гучыць патрыятычны кліч нацыянальнай буржуазіі.

Дэкадэнты-романтыкі, якія так нядаўна дэкляравалі „чыстае мастацтва“, зараз становяцца ў позу буржуазных агітатараў і заклікаюць да абароны бацькаўшчыны. К. Скалбэ сьпявае пра латыскія батальёны, пра ўцекачоў, пра разбурэньне краю. Але ён незаўважае вялікай трагэдыі часу.

Дзіцячай наіўнасьцю гучаць яго патрыятычныя вершы. Поэта Я. Акуратар заве да бязупыннага змаганьня з ворагам. Надае годнасьць сьвятога таму, хто гіне ў капіталістычнай бойцы і пасылае праклёны тым, якія ўхіляюцца ад вайны. Зразумела, што падобныя лёкаі буржуазіі не маглі стварыць чаго-небудзь мастацкі-каштоўнага. Хваля патрыятызму захапляе нават такога выдатнага поэту як Ян Райніс. Ён піша, то глыбока-сумныя вершы, у якіх адбіваецца трагэдыя часу, то абураецца супроць ворага і абуджае нацыянальны гэроізм.

Але Райніс ня мог браць непасрэднага ўдзелу ў падзеях сваёй бацькаўшчыны, бо знаходзіўся далёка на чужыне ў эміграцыі.

Лютаўская рэвалюцыя зрабіла новы зрух, як у грамадзка-політычным жыцьці, так і ў літаратуры. Да гэтага часу латыскі дробна-буржуазны пісьменьнік прайшоў даволі даўгі шлях прыстасаваньня. Напярэдадні рэвалюцыі 1905 году ён захапляецца ідэямі „агульнага“ вызваленьня. Расчараваны ў час рэакцыі адмаўляецца ад грамадзкага жыцьця і дэкляруе прынцыпы „чыстага мастацтва“. У імпэрыялістычную вайну ён буржуазны трыбун, які заклікае на барацьбу з ворагам. Зараз-жа ў час рэвалюцыі ён—„рэвалюцыянэр“ і імкнецца падкрэсьліць сваё нібы-то рэвалюцыйнае прошлае яшчэ ў часы рэвалюцыі 1905 году. Кароль Скалбэ выдае часопіс „Laiks“ (час), на старонках якога зьмя-

шчаецца літаратурная прадукцыя такіх „рэвалюцыянэраў“, як Акуратар, Скалбэ, Круза, Вірза і інш. Усе яны поўны рэвалюцыйнай романтыкі і сьпяваюць гімны рэвалюцыі. Але гэтая дробна-буржуазная пляяда ўспрыняла рэвалюцыю ў яе статыцы, зусім ня бачыла і не хацела бачыць далейшых вынікаў першае перамогі. Паглыбленьне клясавай барацьбы для буржуазіі было непажаданай зьявай. Яна імкнулася разьвязаць супярэчнасьці шляхам клясавае згоды.

Гэтаму дапамагаюць і дробна-буржуазныя песьняры сваёй псэўдарэволюцыйнай урачыстасьцю. Поэта Эд Вірза зьмяшчае ў часопісу „Час“ наступныя характэрныя радкі: „Зараз усе зразумелі—як тыя што працуюць на фабрыцы і тыя што на вёсцы: — трэба ўсім рабіць адну справу... Тое, што разбурыла вайна, зараз адродзіцца нанава ў магутных хвалях рэвалюцыі. Таемныя надзеі—акрыляюцца, падымаюцца і ляцяць да новага жыцьця. Залатыя словы вырываюцца з падзямельля, блішчаць на сонцы і знаходзяць свой адбітак у людзкім розуме. Магутны натоўп імкнецца з цемры пад чырвоныя штандары і хоча, каб рытм яго крокаў зьліўся з сусьветным рытмам жыцьця“ [1]).

Псэўдарэвалюцыйнасьць прасякала жыцьцё тагочаснай буржуазнай Латвіі. Сьпявалі рэволюцыйныя песьні, гаварылі гарачыя прамовы пра новае вольнае і прыгожае жыцьцё. А пад гэты рэвалюцыйны шум латыская буржуазія захапляла ўладу, замацоўвала свае позыцыі.

Латыскі пролетарыят у той час быў раскіданы па ўсёй Расіі. Правадыры былі яшчэ ў турмах ці ў далёкай эміграцыі.

Аснаўная рабочая маса знаходзілася або на вёсцы, або ў латыскіх стралковых палкох, якія ў далейшай барацьбе адыгралі вялікую ролю.

Эканамічнае жыцьцё Латвіі пасьля ваенна-рэвалюцыйнай катастрофы ўяўляе сабой ужо зусім іншы малюнак: „Напярэдадні вайны шпаркім тэмпам рос латыскі горад, а разам з тым разьвівалася прамысловасьць і гандаль. Зараз латыская прамысловасьць ня толькі ў заняпадзе—буйнай прамысловасьці ў Латвіі няма і няма пэрспэктыў для яе далейшага разьвіцьця ў будучыні. Капіталістычная конкурэнцыя вялікіх дзяржаў на міжнародным рынку і брак капіталу ўнутры краю перашкаджаюць разьвіцьцю прамысловасьці. Агульная колькасьць латыскіх рабочых, працуючых зараз на прадпрыемствах, складае толькі $^1/_5$ ліку рабочых даваеннага часу. У такіх галінах буйнай прамысловасьці як мэталюргія пануе катастрофічны крызіс. Перад вайной тут працавала больш рабочых, чым працуе зараз у буйнай і дробнай прамысловасьці разам узятых. Зараз лік рабочых мэталістых дасягае 5.500 чалавек, перад вайной—25.385. Такі самы малюнак і ў іншых галінах прамысловасьці. Выйсьце шукаецца ў сельскай гаспадарцы, але і тут вынікі нездавальняючыя“ [1]).

[1]) Laiks. literarisks Žurnals. Riga, 1917 g., Nr 2, 59 бал.
[2]) Jaunais Laiks, Maskava, 1924, г., бал. 136.

Гэты зрух у экономічным ня мог не адбіцца і на грамадзкім жыцьці краю. За кошт заняпаду буйнай прамысловасьці і зьмяншэньня пролетарыяту, узрастае дробная буржуазія; дробныя гандляры, дробныя прадпрыемцы і інш. Экономічную моц адчувае і так званы латыскі шэры барон, які даволі моцна сядзіць на сваёй гаспадарцы. Незаможная вёска выкідвае ўсё новыя і новыя кадры сялянства, якія павінны ісьці батракамі да буйнага зямляўласьніка ці павялічваць беспрацоўе ў горадзе.

Разам з гэтым адбылося адмежаваньне дробнай буржуазіі ад пролетарыята. Пролетарская Латвія стала краінай дробнай буржуазіі. Гэтая буржуазія пасьля перамогі над немцамі ўтварыла сваю „дэмократычную“ рэспубліку. Перад ёй адчыніліся пэрспэктывы службы і нажывы.

Літаратура стала служкаю пануючай клясы. Некалі рэвалюцыйныя пісьменьнікі-дэмократы 90 і 900-х гадоў зараз сталі ідэолёгамі шэрага баронства і самаздаволеннага мяшчанства, чым і паказалі поўнае банкроцтва дробна-буржуазнай рэвалюцыйнасьці. А на руінах гэтага банкроцтва вырастае новая латыская літаратура, якая абапіраецца на сучасныя пролетарскія масы і становіцца ў опозыцыю да буржуазнай рэакцыі. Адным з выдатнейшых правадыроў гэтай літаратуры зьяўляецца Лінард Лайцан, найбольш таленавіты нэаромантык-рэвалюцыянэр. Да яго далучыўся спачатку Лявон Паэгле, пасьля Кароль Дээлзіт, Андрэй Курцы і некаторыя іншыя. Лайцан утварае новы літаратурны кірунак, які называе актывізмам. Позыцыю гэтага кірунку ў сваіх „Прынцыпах поэзіі“ Лайцан азначае наступным чынам:

„Калі сучаснасьць ёсьць эпоха змаганьня двух сьветапоглядаў, то новы сьветапогляд і новае сьветаадчуваньне і ўспрыманьне зьяўляюцца ваяўнічымі. Новы мастак, новы поэта знаходзіцца на баявых позыцыях. Але змаганьне павінна быць даведзена да канца. Паступовы змагар ідзе да канца. Хто хоча кіраваць, даць напрамак, той—актыўны. У сваіх імкненьнях новая літаратура павінна быць сьмелай, безбаязнай. Новы поэта павінен ня толькі змагацца супроць старога, але ён павінен арыентавацца і на будучае. Так як новы поэта ёсьць новы чалавек, так і яго поэзія павінна быць новай поэзіяй. Такім чынам асноўны прынцып сучаснай поэзіі той, што яна ёсьць—поэзія змаганьня. Поэзія змаганьня па форме, па ідэалёгіі, па сваёй мэце“.

Далей, даючы сваё разуменьне поэзіі змаганьня, Лінард Лайцан кажа:

„Калі кажам: поэзія змаганьня, то гэта зусім ня значыць, што сучасная поэзія павінна заключаць у сябе толькі заклік да змаганьня за соцыялізм, ці нешта таму падобнае. Гэта толькі пытаньне тэмы. Самае грунтоўнае, гэта бачыць рэчы ў барацьбе, актывістычнае ўспрыманьне, новы падыход да прадметаў, новае разуменьне. Прырода, каханьне і іншыя тэмы могуць быць успрыняты па-пролетарску, па-рабочаму, па-сацыялістычнаму—ня вонкава, а ўсёй глыбінёй мастацкай інтуіцыі. Такім чынам выбар матар'ялу для актыўнай поэзіі павінен быць самы разнастайны. Усе жыцьцёвае і чалавецкае ёсьць поэтычнае“.

Характэрным для гэтага кірунку зьяўляецца зборнік апавяданьняў Лайцана „Апраўданыя“ (1917—1920). Зборнік складаецца з апавяданьняў батрака, ваеннапалоннага, прастытуткі, злодзея, павешанага і пісьменьніка.

Усе яны ў умовах капіталістычнага ладу робяць „злачынства“ і падлягаюць буржуазнаму суду, але зьяўляюцца апраўданымі з пункту гледжаньня анцібуржуазнага права. Героі апавяданьняў не сьвядомыя сябры тэй ці іншай клясавай групы, а дэклясаваны элемэнт, які сваімі анарха-індывідуалістычнымі імкненьнямі заяўляе протэст супроць капіталістычнага ладу і буржуазнай моралі. Такім чынам, Лайцанаўскі актывізм яшчэ пакуль што выяўляецца ў індывідуальным протэсьце супроць соцыяльнага зла. У такім-жа дусе напісаны і іншыя апавяданьні гэтага пэрыяду, якія зьмешчаны ў зборніку „Мэблявая Рыга і дадаткі“. Лайцан належыць да тых пісьменьнікаў-інтэлігентаў, якія прышлі да рэволюцыі і зараз знаходзяцца ў авангардзе рабочага руху. Процэс росту інтэлігенцкай сьвядомасьці ў бок пролетарскай ідэолёгіі найбольш глыбока і праўдзіва паказаў пісьменьнік у сваіх романах „Эмігрант“ і „Крычаць Корпусы“. Зразумела, што пройдзены шлях гэтай інтэлігенцыі, а таксама і Лайцанаў шлях пісьменьніка мае ўхілы і хістаньні. Творчасьць Лайцана ў час рэакцыі не пазбаўлена ўплыву сымболізму і дэкадэнства, уплыву дробна-буржуазнай стыхіі. Але разам з вялікімі надзеямі 1917 году пісьменьнік перажывае глыбокі ідэолёгічны крызіс, пасьля якога ўжо пэўна стаіць на шляху пролетарскай рэволюцыі.

Лайцан выдатнейшы з сучасных поэтаў Латвіі. Яго зборнікі вершаў „Бэрлін“, „Сэмафор“, „Будуем сьвет“ дасягаюць вялікай мастацкай выразнасьці, вялікай грамадзкай значымасьці і агітацыйнай сілы.

Лайцан ня толькі пісьменьнік, але ён і выдатны грамадзкі дзеяч. Прымае актыўны ўдзел у працы латыскіх „левых профсаюзаў“, супрацоўнічае ў газэце гэтых саюзаў „Дарбегун Майзе“ („Праца і хлеб“). Зараз член сойму Латыскай рэспублікі, куды прайшоў па сьпісу „левых рабочых і сялян“. Ён-жа стаіць на чале літаратурнага часопісу „Крэйса Фронтэ“ (Левы фронт), які зьяўляецца органам пісьменьніцкага пролетарскага маладняка Латвіі. За сваю рэвалюцыйную дзейнасьць Лайцан не аднойчы сядзеў у турме. Трэба сказаць, што ў „дэмократычнай“ Латвіі вельмі ахвотна пасылаюць усіх „вольна-мысьлячых“ у „вольную акадэмію бяз волі“—так завуць зьняволеныя Рыскую цэнтральную турму, праз якую праходзіць амаль кожны латыскі пісьменьнік-рэволюцыянэр.

Чым-жа зьяўляецца латыскі актывізм, гэты новы літаратурны кірунак сёнешняга дню?

В. Кнорын у сьціслай форме дае наступны адказ на гэтае пытаньне:

„Актывізм—гэта тое новае слова, якое сказала латыская літаратура пасьля рэволюцыі. Гэта сьмелая спроба адрадзіць рэволюцыйна-дэмократычны характар латыскай літаратуры. Гэта — змаганьне супроць

паліцэйска-нацыянальнай, кулацка-пастарскай культуры за свабоду мастацкага ўспрыманьня і адчуваньня. Гэта—змаганьне супроць рэакцыйнай паліцэйскай літаратуры, літаратурнай пахабшчыны, мяшчанска-філістэрскага самаздавальненьня. Гэта не пролетарская літаратура, але тая, на якую латыскі пролетарыят будзе абапірацца ў змаганьмі за сваю літаратуру і мастацтва"[1]).

Да пісьменьнікаў левага лагеру належыць Андрэй Упіт—самы буйны талент сярод сучасных латыскіх рэалістых.

Сваю творчасьць Упіт пачынае напярэдадні рэволюцыі 1905 году як дробна-буржуазны бытапісьменьнік, але пераходзіць на бок працоўных мас, бічуе нацыянальны консэрватызм, абураецца супроць нікчэмных імкненьняў латыскай буржуазіі і самаздаволенага мяшчанскага філістэрства. З вялікай мастацкасьцю напісаны яго „Малыя комэдыі", дзе ён гіронічна разбурае ілюзіі мяшчанскага шчасьця.

Самай выдатнай працай Упіта ёсьць трылёгія романаў „Робежнекі", дзе ён па ўзору Золя імкнецца паказаць эпоху соцыяльных зрухаў, барацьбу новага пакаленьня са старым, зьмену грамадзкіх формацый у жыцьці свайго краю. У першай часцы трылёгіі „Новыя крыніцы" (1909), аўтар не шкадуе фарб на негатыўную замалёўку патрыярхальнага жыцьця латыскай вёскі, дзе на словах яшчэ захоўваецца хрысьціянская мораль, а на самай справе ўжо ідзе разлажэньне старога жыцьця пад уплывам капіталізацыі.

У другой часцы „У шоўкавай сетцы" (1912)—другі этап клясавай дыфэрэнцыяцыі, дзе замест распаду сялянскага быту малюецца фармаваньне латыскай буржуазіі і пролетарыяту, вызначаюцца іх клясавыя позыцыі, клясавая псыхоідэолёгія. Але гэтая частка значна слабейшая ад першай.

У 1923 годзе вышла трэцяя частка „Паўночны вецер"—лепшы роман у латыскай літаратуры пэрыяду барацьбы з рэакцыяй пасьля 1905 г. Хуткі тэмп разьвіцьця капіталізму высоваў на гістарычную арэну латыскую буржуазію з яе някультурнасьцю і грубымі імкненьнямі да нажывы. У сваіх творах „Золата", „Апошні латыш" і інш., Упіт у рэальна-натуралістычных танох падае ўсе адмоўныя бакі жыцьця гэтай новай для таго часу соцыяльнай катэгорыі. Але трэба сказаць, што аўтар не заўсёды вытрымлівае мастацкую меру. Часам яго соцыяльная сатыра набывае выгляд шаржу ці перагружаецца момантамі грубага натуралізму.

Андрэй Упіт самы выдатны левы крытык-публіцысты. Больш значнымі зьяўляюцца наступныя яго працы: „Гісторыя найноўшай латыскай літаратуры", „Я. Райніс і яго поэзія", „Пролетарскае мастацтва"; склаў два літаратурна-крытычныя зборнікі „Слова".

---

[1]) „Молодая латышская литература". Альманах. Выд. „Прыбой", Ленінград, 1926, бал. 13.

Творчасьць Упіта апошняга часу гэта—далейшае разьвіцьцё буйнага пісьменьніка-рэаліста, які яшчэ да рэволюцыі стварыў сваю школу, свой стыль, і праз часовыя хістаньні прыйшоў да рэволюцыйнай дэмократыі. Але творчасьць Упіта сёнешняга дню ўжо ня мае тэй актуальнасьці, якую яна мела некалькі гадоў таму назад. Больш актуальным, больш рэволюцыйным пісьменьнікам сучаснай Латвіі ўсё-ж такі зьяўляецца Лінард Лайцан, творы якога вызначаюцца сваёй рэволюцыйнасьцю, грамадзка-ідэолёгічнай дынамічнасьцю, вастратой тэмы, хаця багаж яго літаратурнай продукцыі колькасна значна меншы, чым у Упіта.

У сучасны момант у справе консолідацыі пролетарскага маладняка вялікую ролю адыгрывае часопіс „Крэйса Фронтэ“, наўкол якога групуюцца найбольш рэволюцыйныя элемэнты краю. Каб даць некаторае ўяўленьне гэтага часопісу і таксама левай культурнай працы ў Латвіі, падамо наступную інформацыю Лінарда Лайцана: „Левая рэволюцыйна-культурная праца ў Латвіі мае цесную сувязь з левым рабочым рухам. Баявы фронт узмацняецца з 1923-24 году (з 1923-24 г. выразна азначаецца фронт баявы): вершы, інсцэніроўкі, апавяданьні, журналістыка азначаецца палітычнай неабходнасьцю. Культурная праца сьвядома пратвараецца ў зброю клясавага змаганьня, можна сказаць, вострую зброю.

Рэалістычна-конструктыўныя п'есы-агіткі, умоўнасьць пастаноўкі на сцэне, колектыўнасьць і масавасьць—гэта самае галоўнае. Левая проза—апавяданьне, роман—кепска разьвіваліся, моладзь давала амаль што толькі вершы, экспрэсыўныя, конструктыўныя, успрыманьні на тэму дня. Вершы дэклямаваліся; чыталіся на мітынгах. Аўтары амаль усе рабочыя-юнакі з прадпрыемстваў. Ідэолёгія—соцыялістычная, комуністычная. Спачатку гэта выклікала некаторае непаразуменьне ў масах, стварыла опозыцыю да новай формы, якая была выразным контрастам прывычнай-клясычнай. Друкаваліся рэдка ў профэсыйным часопісу. Была некаторая культурная коаліцыя з эсдэкамі, з 1926 году аканчальна парвалі. З таго часу рэволюцыйна-пролетарска-культурны фронт аканчальна замацаваўся і паўстаў супроць эсдэкаўскай культуры, якая характэрна ўспрыманьнем буржуазных псэўдакаштоўнасьцяй.

Цяжкае матар'яльнае становішча і палітычны ўціск доўга не дазвалялі заснаваць свой левы часопіс. Толькі ў 1928 годзе ўдалося выпусьціць першы нумар „Крэйса Фронтэ“ (Левы фронт). У прошлым годзе вышла ўсяго 6 нумароў. Розьніца латыскага „Левага фронту“ ад расійскіх часопісаў вызначаецца асаблівымі палітычна-экономічнымі ўмовамі і ўзроўнем латыскіх рабочых, асабліва рабочай моладзі. Орыентацыя часопісу— на масавага чытача, галоўным чынам на рабочую моладзь. У часопісу друкуюцца апавяданьні, вершы, фэльетоны, тэорэтычныя артыкулы, інформацыйна-апісаўчыя пра ўсе праявы рабочага культурнага жыцьця: вядзецца барацьба супроць мяшчанскай эсдэкаўшчыны, супроць буржуазнай нікчэмнасьці. Падаецца інформацыя пра ўсе дасягненьні пролетарскай культуры ў усіх дзяржавах.

Часопіс шмат увагі зьвяртае на культурнае будаўніцтва ў Савецкім Саюзе.

Установка на рэальнасьць, на фактычнасьць, на экономію сродкаў выяўленьня. Адмежаваньне ад „боскага мастацтва". Зьмяшчаюцца фотоздымкі з мэтай культываваць інтарэс да факта. Тыраж часопісу 1.400 паасобнікаў; пры $1^1/_2$ мільён. латыскага насельніцтва Латвіі—гэта ня мала" [1]).

У сучасны момант латыская буржуазія ня можа выявіць новых буйных талентаў—яна ў заняпадзе, дні яе зьлічаны. Але яна зьяўляецца вялікім тормазам у справе разьвіцьця пролетарскай культуры, пролетарскай літаратуры.

Фашыстская рэакцыя пільна сочыць за кожным выяўленьнем вольнай думкі. Кожны, хто мае сьмеласьць крытычна адносіцца да дзяржаўнага ладу сучаснай Латвіі, мае небясьпеку апынуцца ў турме, або быць высланы ў Савецкі Саюз.

Перад сучасным латыскім пісьменьнікам-рэволюцыянэрам стаіць ня толькі задача абуджэньня рэволюцыйна-клясавай сьвядомасьці працоўных мас, але і разбурэньне здрадніцкіх соцыял-дэмократычных ілюзій. Соцыял-дэмократыя Латвіі розных нацыянальных колераў (ад беларусаў яна прадстаўлена членам Сойму В. Пігулеўскім) з Соймавай трыбуны шчыра абараняе „дэмократычную" дзяржаўнасьць і ў той-жа час імкнецца захапіць кіраўніцтва рабочым рухам, каб надаць яму кірунак узгадненьня клясавых супярэчнасьцяй.

На вёсцы ўваскрашаецца сталыпінская сыстэма хутарызацыі, мэта якой—замацаваць дробнага сялянскага ўласьніка з яго індывідуалістычнай псыхікай, з яго антыколектывістычнымі імкненьнямі. Але ўсё гэта ня можа спыніць нямінуючага процэсу клясавай дыфэрэнцыяцыі, разлажэньня сыстэмы буржуазнай гаспадаркі, якое прыводзіць краіну да катастрофічных крызісаў. Гэта толькі спрые росту пролетарскіх мас, росту пролетарскай сьвядомасьці. У сучасных левых выданьнях зьяўляюцца ўсе новыя і новыя імёны поэтаў-рабочых, якія ўжо і ёсьць піонэры новай латыскай пролетарскай літаратуры. Толькі ім і належыць будучыня!

[1]) „Новый Леф" № 12, 1928 г. бал. 37-38.

# НА ВЯРБЕ ІГРУШЫ РАСТУЦЬ

А. Паўлюкевіч

## I

Кастрычнікавая рэвалюцыя, паклаўшая пачатак карэннай перабудове самадзяржаўнай капіталістычнай Расіі ў соцыялістычную дзяржаву, зьявілася выйсьцёвым пунктам адраджэньня на соцыялістычных асновах адсталых поўколёніяльных яе ўскраін. Калі нашы прыяцелі зусім слушна захапляюцца вялізарнымі посьпехамі соцыялістычнага будаўніцтва Савецкага Саюзу ў цэлым, а нашы ворагі глядзяць на яго з зьвярынай ненавісьцю і жывёлiным страхам, то ня меншае ўражаньне робіць і будаўніцтва паасобных нацыянальных рэспублік і вобласьцяй.

Між тым соцыялістычнае будаўніцтва гэтых нацыянальных рэспублік і вобласьцяй не атрымоўвае выстарчальнага асьвятленьня ў шырокім цэнтральным друку і для вялізарнай часткі савецкіх чытачоў амаль невядома.

Вось чаму мы з вялікай зацікаўленасьцю знаёмімся з такімі матэрыяламі аб нацыянальных рэспубліках, якія час-ад-часу зьяўляюцца ў цэнтральным друку. Вось чаму мы прад'яўляем да гэтых матэрыялаў асабліва строгія патрабаваньні ў адносінах праўдзівасьці і вернасьці іх. Нажаль, нярэдкія выпадкі, калі паасобныя аўтары падаюць сваім чытачом такі матэрыял, якому цяжка падабраць назву. Вельмі часта бывае нельга сказаць, што больш: невуцтва аўтара ці яго нахабства, прыходзіцца зьдзіўляцца даверлівасьці выдавецтваў, якія ня лічаць патрэбным спраўджваць прапануемыя ім матэрыялы, хоць-бы па агульна-даступных справачніках. З недапушчальнай разьвязанасьцю такога гатунку аўтары дазваляюць сабе трактаваць у зусім няверным, скажоным выглядзе як мінулае, так і сучаснае тэй ці іншай нацыянальнай рэспублікі; робяць шэраг няверных установак і вывадаў. Зусім зразумела, што, апрача законнага абурэньня і пагарды з боку асьвядомленага чытача, нічога іншага такія „творы“ спаткаць ня могуць.

## II. Летапісец БССР

Да такога гатунку „літаратуры“ адносіцца артыкул Як. Окунева, зьмешчаны ў 3 нумары часопісі „Просвещение Национальностей“ за 1930 г. пад назвай: „Белоруссия“. Ня гледзячы на тое, што мінула каля

4-х месяцаў пасьля надрукаваньня артыкулу, ён не атрымаў да гэтага часу сапраўднага адпору. Апошняя акалічнасьць дала аўтару сьмеласьць прапанаваць свой артыкул Дзяржвыдату РСФСР у выглядзе асобнай брошуры пад назвай „Белорусская ССР“. На шчасьце, Дзяржвыдат РСФСР быў не такім даверлівым, як выдавецтва „Работник просвещения“ і вырашыў праверыць пісаньне Окунева.

Разгляду Окунеўскай творчасьці і прысьвячаецца наш артыкул. Мы будзем казаць, як аб надрукаваным артыкуле ў „Просвещение Национальностей“, так і аб матэрыялах, прапанаваных Дзяржвыдату РСФСР. Ня лішне адзначыць, што „Белорусская ССР“ прапанаваная Дзяржвыдату, адрозьніваецца ад „Белоруссии“ „Просвещения национальностей“ толькі некаторымі ўстаноўкамі, устаўкамі і невялікімі зьменамі, якія не даюць артыкулу ніякага якаснага палепшаньня. Новы разьдзел у „Белорусскай ССР“, прысьвечаны колектывізацыі, па сваёй якасьці зусім гармонічны таму, што ёсьць у „Белоруссии“.

Аўтар падае свой матэрыял чытачу ў выглядзе нататак і назіраньняў. Мы загадзя сьцьвярджаем, што аўтар бачыў Беларусь толькі з вакна вагону, што ён ня быў ні ў адным з гарадоў БССР, у тым ліку і сталіцы Беларусі—горадзе Менску, што ён ня чытаў ніводнай кніжкі аб Савецкай Беларусі і карыстаўся выключна абывательскімі плёткамі, якія ходзяць у мяшчанскіх колах аб Беларусі і беларусох, і высасваў свае матэрыялы з уласных пальцаў.

Як. Окунеў падае чытачу нешта цэлае і закончанае. Ён дае агульнае географічнае, гістарычнае, этнографічнае, экономічнае ўяўленьні; не забываецца пра соцыялістычнае будаўніцтва, пяцігадовы плян, колектывізацыю, падрыхтоўку кадраў, не прамаргаў такіх вялізарных фактаў у БССР, як мэліорацыйныя работы, як Асінбуд. З вонкавага боку ўсё ў парадку. Досыць праліта сьлёз над цяжкім мінулым Беларусі, не забыта, што Беларусь успамінаецца ў „Слове аб палку Ігаравым“, не забыта героічная барацьба, якую рабочыя і сяляне Беларусі вынесьлі ў гады грамадзянскай вайны. Словам, усё ў парадку рэчаў. Застаецца атрымаць удзячнасьць ад ашчасьліваных беларусаў, чытачоў і гонорар ад ашуканага выдавецтва. Але пад гэтай спрыяючай вонкавасьцю захаваны сапраўдны зьдзек над чытачом, пагарда да Беларусі і літаратурная халтура. Мы лічым сваім абавязкам прайсьці крок за крокам за аўтарам і тыкаць яго носам у тыя грубейшыя пошласьці, якія ён падае чытачу.

## III. БССР з птушынага палёту

Сваю працу Окунеў пачынае агульнай характарыстыкай Беларусі з вышыні птушынага палёту:

„Лясы, балоты, шэрыя драўляныя вёскі прытуліліся да сьцяны драмучага бору... амаль тры чвэрці Беларусі пакрыты лесам і балотамі... Лясныя распрацоўкі толькі пачынаюць разгортвацца“.

Такая па Як. Окуневу Беларусь. Тут што ні слова, то няпраўда. Паводле даведніка ЦСУ Саюзу за 1927 г., толькі каля $^1/_3$ тэрыторыі Беларусі занята лясамі і хмызьнякамі, каля 10 проц. няпрыдатных зямель, г. зн. лясоў, хмызьнякоў і няпрыдатных зямель у БССР каля 43 проц. У лік няпрыдатных зямель уваходзяць досыць значныя масывы пяскоў. Аб ніякіх $^3/_4$ тэрыторыі Беларусі пад балотамі і лясамі ня можа быць і гутаркі. Окунеў дапусьціў тут яўнае перавялічаньне, недапушчальнае нават для хлёсткага журналістага. Няправільна, таксама, што лясныя распрацоўкі толькі пачынаюць разьвівацца. Лясы Беларусі ўжо значна высілены, і ўрад БССР лічыць немагчымым далейшае пашырэньне рубкі; наколькі інтэнсыўна эксплёатуюцца лясы Беларусі відна з таго, што лясны прыбытак БССР складае ў 1929-30 г. 11 проц. ад ляснога прыбытку па Саюзу, тады, як бюджэт БССР у цэлым адпавядае толькі каля 1,3 проц. саюзнага бюджэту. Характарыстыка аўтара спазьнілася, прынамсі, на 50 год.

З птушынага палёту аўтар пералічвае і беларускія акругі. Прычым, ён не патурбаваўся паглядзець, як гэтыя акругі разьмешчаны на мапе. За Магілеўшчынай у яго ідзе Віцебшчына, за Віцебшчынай—Меншчына, па якой праходзяць „дзьве магутныя ракі—Бярэзіна і Прыпяць". Відавочна, сваю спраўку аўтар ўзяў з мапы царскай Эўропэйскай Расіі, дзе, сапраўды, Магілеўская губэрня мяжуе з Віцебскай, а апошняя—з Менскай. На тэрыторыі былой Менскай губэрні сапраўды працякаюць Бярэзіна і Прыпяць. Але ў сучасны момант тэрыторыя БССР мае зусім іншы адміністрацыйны падзел і ад Меншчыны да Прыпяці трэба ехаць каля сутак па чыгунцы, а Бярэзіна прарэзвае Барысаўшчыну і Бабруйшчыну і ніякага ўплыву на характар Меншчыны ня мае.

„У Віцебшчыне, лясы і балоты мяжуюцца з шырокімі вазёрамі, асабліва за г. Нэвелем... Другое-ж такое возера абкружае з трох бакоў г. Себеж. Себеж—граніца Беларусі з Латвіяй". Усе малыя дзеці, якія навучаюцца ў школе першай ступені, ведаюць, што гарады Нэвель і Себеж знаходзяцца ў РСФСР. Можна даравацъ Окуневу, што ён ня ведае, дзе працякаюць Бярэзіна і Прыпяць, але граніцы паміж саюзнымі савецкімі рэспублікамі савецкі публіцысты абавязан ведаць.

## IV. У пылі вякоў

Пакончыўшы з географіяй Беларусі аўтар кідаецца ў глыбіню гістарычных досьледаў і, „пыл вякоў ад харцій атрахнуўшы", пачынае гісторыю Беларусі ад „слова о полку Ігорове".

„Недалёка ад Віцебска ў старажытным Полацку, асьпяваным у „Слове о полку Ігорове"... там, дзе некалі „чэрвленыя шчыты Ігара перагараджвалі дарогу полаўцаў на Пуціўль, растуць корпусы заводаў".

І зноў няверна. Прыходзіцца паўтараць азы. Полаўцы, як вядома, вандравалі ў чорнаморскіх стэпах і рабілі свае набегі на поўнач уздоўжкі

рэчак Дона і Дняпра. Пуціўль знаходзіцца на рацэ Сэйме, прытоку Дона, а Полацак на сярэдзіне Заходняй Дзьвіны. Якім-жа чынам „чэрвленыя шчыты князя Ігара“ маглі перагарадзіць у Полацку дарогу на Пуціўль? Няўжо аўтар думае, што полаўцы паходзяць з Полацку, ці Полацак атрымаў сваю назву ад полаўцаў? На аднэй „пасьпяховай“ спраўцы з гісторыі Беларусі аўтар заспакоіцца ня можа. Трэба сказаць пару слоў і пра гісторыю нашых дзён, аб грамадзянскай вайне. Тут вялікіх гістарычных досьледаў ня трэба. Мільёны працоўных зьяўляюцца жывымі сьведкамі грамадзянскай вайны 1920 г. Але якая справа аўтару да ўсяго гэтага? Ён сам тварэц гісторыі. Толькі ўласна, як гогалеўскі Ноздраў. Як. Окунеў піша:

„Але хутка ўлетку 1920 г. капіталістычныя дзяржавы Францыя і Англія нацкавалі Польшчу на СССР. Пачалася вайна паміж СССР і буржуазнай Польшчай. Польскае войска захапіла сталіцу Беларусі г. Менск“.

У адным сказе дзьве гістарычныя памылкі. Першая—польскае войска захапіла г. Менск у жніўні 1919 г., а ў ліпені 1920 г. пад націскам Чырвонай арміі яно вызваліла г. Менск і ўсю тэрыторыю сучаснай БССР. Памылка, праўда, толькі на адзін год, але Окунеў забывае, што, адзін год грамадзянскай вайны варты дзесяцігодзьдзяў і тут памыляцца нельга. Другая памылка—Саюз савецкіх соцыялістычных рэспублік утварыўся 31 сьнежня 1922 года, калі быў падпісаны дагавор прадстаўнікамі ўсіх Савецкіх Рэспублік. У 1920 г. у часе вайны з Польшчай існавалі РСФСР, УССР і БССР, як паасобныя рэспублікі.

Ня ў лепшым стане ў Окунева з гістарычнымі спраўкамі ў галіне экономікі.

„Да рэволюцыі ў тарфяной прамысловасьці Беларусі працавала 7 электрычных машын“.

Але, скажэце, калі ласка, Як. Окунеў, дзе якія „электрычныя машыны“ працавалі ў тарфяной прамысловасьці да рэволюцыі? Нідзе і ніякія. Ніякіх тарфяных распрацовак у Беларусі да рэволюцыі наогул ня было.

Зрабіўшы такі гістарычны і географічны досьлед БССР, Як. Окунеў дае падрабязную характарыстыку насельніцтву Беларусі.

### V. Окунеў пра „пінчукоў“

„Вы ведаеце, што такое пінчук?—пытае Як. Окунеў і адказвае.— Хілы, зьнясілены мужычок у белых лапцёх, у белай сьвітцы, з вялізнай галавой на белым тулаве, напамінае тонканогі грыб з вялікай трухлявай шляпкай. Валасы—брудны войлак, зьляпіліся на галаве ў суцэльны ком, іх не разьняць, не астрыгчы,—гэта асаблівая мясцовая хвароба—каўтун. Ёю хварэюць пінчукі, жыхары бязьмерных пінскіх балот“.

Папершае, „пінчук“ слова пагардлівае, лаянка. Такога племя ў Беларусі і наогул на зямной кулі няма. Яно кажа аб вялікадзяржаўным шовінізьме, аб пагардлівых адносінах да працоўнага насельніцтва БССР.

Тут Окунеў упадобіўся таму царскаму чыноўніку, які, па яго, Окунева, словах, называў беларусоў „лапацанамі". Падругое, вялізная частка „бязьмерных пінскіх балот" з самім г. Пінскам знаходзіцца па-за межамі БССР, у белай Польшчы. Патрэцяе, у сучасны момант ад каўтуна засталіся адны ўспаміны; ні ў якой меры каўтун не зьяўляецца характэрным для насельніцтва Беларусі. Толькі „літаратары", тыпу Як. Окунева, нічога іншага пра беларусоў ня ведалі і ня ведаюць, апрача каўтуна. Толькі яны лічаць магчымым культаваць слоўцы накшталт „пінчук," „лапацан" і г. д.

Яшчэ ў горшым стане ў Як. Окунева з соцыяльнай характарыстыкай насельніцтва БССР.

„Гарадзкое і местачковае насельніцтва—яўрэі і палякі. Вёска—беларусы, на захадзе—латышы, літоўцы".

Перш за ўсё лічбы. Паводле перапісу 1926 г. гарадзкое насельніцтва Беларусі падзяляецца: беларусоў — 332.860, яўрэяў — 340.162, рускіх—132.203, палякаў—19.665 і інш. 22.940. Дзе-ж тут адны яўрэі і палякі? Беларусоў у гарадох столькі-ж, колькі яўрэяў, больш чым усіх астатніх разам узятых і ў дваццаць раз больш як палякоў. Няверна таксама, што ў вёсках жывуць толькі беларусы. Перапіс дае: беларусоў—3.684.441, рускіх — 251.603, палякаў — 77.832, яўрэяў — 66.897 і інш.—54.637. Такім чынам відаць, што беларускае насельніцтва ў гарадох складае каля 40 проц. і што ў вёсках ёсьць значная колькасьць іншых нацыянальнасьцяй, у тым ліку яўрэяў.

Яшчэ больш адносная вага беларусоў у профэсыянальных саюзах: на 1 красавіка 1927 г. нацыянальны склад профэсыянальных саюзаў характарызуецца наступнымі данымі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| беларусоў | 57,7% | палякаў | 3,2% |
| яўрэяў | 25,6% | іншых | 3,2% |
| рускіх | 10,3% | | |

Па асобных вытворчых саюзах беларусы складаюць: у тэкстыльшчыкаў—55 проц., будаўнікоў—51 проц., дрэваапрацовачнікаў—46,8 проц., мэталістых—41,9%, харчаўнікоў—41,2%, папернікаў—32,6 %, і г. д.

Навошта-ж у такім выпадку было патрэбна Окуневу такое скажэньне нацыянальнага складу насельніцтва БССР? Навошта адмаўляць наяўнасьць беларускага гарадзкога фабрычна-заводзкага пролетарыяту? Няўжо для таго, каб падтрымаць беларускую буржуазію і кулацтва, беларускіх нац.-дэмократаў, якія сьцьвярджаюць, што „беларускі народ складаецца толькі з працоўнага сялянства", ня мае кляс і ня ведае клясавай барацьбы. Гэта-ж скажэньне сапраўднасьці—сьвядомае і злоснае. Беларускі „народ", як і ўсякі іншы народ, падзелены на клясы. Беларуская буржуазія, кулацтва, буржуазная інтэлігенцыя варожай сілай стаяць супроць беларускага рабочага і асноўнай масы працоўнага селяніна, беларуская буржуазія глядзіць на капіталістычны Захад, беларускі пролетарыят і асноўная маса працоўнага сялянства на пролетарскі Ўсход. Беларускі пролетарыят

разам з пролетарыятам іншых нацыянальнасьцяй Беларусі, разам з пролетарыятам усяго Саюзу, у цясьнейшым Саюзе з асноўнай масай працоўнага беларускага яўрэйскага і польскага сялянства змагаўся ў 1917—1920 г. г. з беларускай, расійскай, яўрэйскай, польскай і ўсякай іншай буржуазіяй. Беларускі пролетарыят разам з пролетарыятам іншых нацыянальнасьцяй Беларусі, у саюзе з бедняком і серадняком беларускім і іншых нацыянальнасьцяй, будуе зараз пры братэрскай дапамозе СССР соцыялістычную гаспадарку.

Сваю характарыстыку беларускага насельніцтва Як. Окунеў заканчвае наступным чынам:

„Беларусь—краіна адсталая, з няпісьменным, забітым насельніцтвам".

Малюнак, як бачыць чытач, зусім сумны. Міжвольна, само сабой узьнікае думка, якім-жа чынам гэтыя „трухлявыя грыбы", забітыя і няпісьменныя „паляшукі", маглі зьвергнуць капіталізм, даць адпор міжнароднай буржуазіі і пасьпяхова зараз будаваць соцыялізм? А між тым у пасьпяховасьць соцыялістычнага будаўніцтва, відавочна, верыць і сам Окунеў.

Няскладна вышла ў Як. Окунева з „пінчукамі". Няверна і шкодна.

## VI. Смалакураная індустрыялізацыя БССР

Пяройдзем да характарыстыкі соцыялістычнага будаўніцтва БССР, якую дае грамадзянін Окунеў у сваіх пісаньнях. Зразумела, Окунеў пачынае, як і належыць, з энэргетычнай базы БССР і досыць зьвяртае ўвагі галоўнаму ў даны момант энэргетычнаму цэнтру БССР—раённай электрычнай станцыі імя т. Сталіна—Асінбуду. Ці бачыў Як. Окунеў Асінбуд, ня гледзячы на тое, што сваё апавяданьне ён дае ў выглядзе гутаркі з інжынэрам на месцы пабудовы? Можна сумнявацца.

Ён дае зусім няверную спраўку аб далейшым разьвіцьці Асінбуду.

„У першым годзе яна (станцыя) дасьць 20.000 кілёват электрычнай энэргіі, але праз год магутнасьць яе будзе 80.000 кілёват". Гэта па Окуневу. А на самой справе?

Да будаўніцтва другой чаргі Асінбуду толькі прыступлена, толькі зараз устаноўлены для яе тыпы машын, гатова яна будзе праз паўтара-два гады і дасьць дадаткова ня больш 24 тыс. кілёват. К канцу пяцігодкі з поўным разгортваньнем Асінбуду, з пускам трэцяй чаргі, ён дасьць каля 80 тысяч кілёват. У сучасны момант колькі-небудзь сур'ёзнай падрыхтоўкі да трэцяй чаргі няма.

Закранаючы разьвіцьцё электрыфікацыі БССР па пяцігадоваму пляну, Як. Окунеў піша:

„У пяцігадовым пляне вызначана пабудова электрастанцыі, якая будзе абсталявана поўнасьцю к канцу пяцігодкі".

Якая станцыя, дзе яна запроектавана, якая яе магутнасьць? Окунеў гэтага ня ведае. Ён таксама ня ведае, што ў бягучым годзе ўрад БССР

вядзе падрыхтоўчую працу да пабудовы другой раённай электрычнай станцыі ў г. Гомелі, а на 1930-31 г. запроектавана станцыя ў Прапойску, гідростанцыя на Дняпры ў раёне Оршы і ў Менску—цёплацэнтраль.

Якія-ж галіны народнае гаспадаркі заклікана, па думцы Я. Окунева, абслужыць Асінаўская станцыя? Ён піша:

„Запалковыя фабрыкі, смалакураныя заводы гэтых акруг у шмат раз павялічаць сваю продукцыйнасьць, дзякуючы таннай энэргіі Асінбуду. Лясныя распрацоўкі толькі пачынаюць разьвівацца. Будучыя лесазаводы, дрэваапрацоўчая прамысловасьць—зьвязаны з Асінбудам".

Такім чынам Я. Окунеў зьвязвае працу Асінбуда, галоўным чынам, з дрэваапрацоўчай прамысловасьцю. Гэтая ўвязка зусім не адпавядае сапраўднасьці.

Ніякіх запалкавых фабрык у раёне Асінаўкі няма, ніводнага шкіпінарнага, ці смалакурнага заводу Асінбуд абслугоўваць ня будзе.

Смалакурныя і шкіпінарныя заводы зьяўляюцца, як правіла, прымітыўнымі саматужнымі і напоўсаматужнымі прадпрыемствамі, раскіданымі па глухіх лясных завулках і трушчобах і ў плян забесьпячэньня энэргіяй Асінбуду зусім не ўваходзяць. Каго-ж на самой справе будзе абслугоўваць Асінбуд?

Асінбуд знаходзіцца амаль у цэнтры ільнаводзтва БССР і ў асноўным будзе абслугоўваць тэкстыльную прамысловасьць. Зараз ёсьць дзьве прадзільных фабрыкі ў Віцебску і дзьве ткацкіх фабрыкі ў Аршаншчыне. Будуецца дзьве буйнейшых фабрыкі—штучнага валакна ў Магілеве і часальна-прадзільна-ткацкі комбінат у Оршы.

Далей ідуць швэйныя і трыкатажныя фабрыкі, заводы сельска-гаспадарчага машына-будаўніцтва, харчовая прамысловасьць і на апошнім месцы трэба паставіць дрэваапрацоўчыя прадпрыемствы, бо раён Асінбуду ў агульным трэба лічыць бязьлесным.

Зразумела, што прыведзенымі прадпрыемствамі прамысловасьць, што абслугоўваецца Асінбудам, ня вычэрпваецца поўнасьцю. Ёсьць гарбарні і фабрыкі абутку, ёсьць шэраг іншых невялікіх прадпрыемстваў.

Наогул характэрна для Окунева тое, што ён увесь час тыкае пальцам ня туды, куды трэба. Уявіў, што шкіпідарныя, смалакураныя заводы характарызуюць сабою прамысловасьць БССР і садзіць іх куды папала. Бачыць чамусьці прадпрыемствы, якія часта нават пяцігодкай не прадугледжаны, або зусім няпрыметны па сваёй нязначнасьці, і ня бачыць таго, чым сапраўды можа ганарыцца пролетарыят Беларусі. Мы далей пакажам, што „бачыў" і чаго ня бачыў у буйнейшых гарадох БССР Окунеў. Але перад гэтым зробім самую невялікую сводку аб агульным росьце прамысловасьці БССР, каб чытач мог бачыць, што Беларусь зусім не патрабуе выдумак і прыхарошваньняў. Нам ня трэба няіснуючых гігантаў, калі мы маем рэальныя, жывыя.

БССР атрымала ў спадчыну ад царскай Расіі рамесьніцкую і напоўрамесьніцкую, зусім зруйнаваную прамысловасьць. Колькі-небудзь

прыкметныя, хоць і надзвычайна невялікія прадпрыемствы, можна пералічыць па пальцах.

Каб чытач мог меркаваць аб даваеннай прамысловасьці Беларусі, аб яе працы пры савецкай уладзе, прывядзем некаторыя даныя.

Агуловая продукцыя ўсёй цэнзавай прамысловасьці складала ў 1913 г. каля 40 млн. руб.; рабочых у ёй было каля 20.000 чалавек. У 1923—1924 годзе, г. зн. у пачатку аднаўленчага пэрыоду, рабочых было 11.890 чалавек, а агуловая продукцыя—18,4 млн. рублёў, г. зн. каля паловы даваеннай велічыні. Што-ж мы маем зараз?

Агуловая продукцыя 1929-30 г. складае 311 млн. руб., г. зн. у 7,7 раза больш даваеннай. Рабочых у прамысловасьці ВСНГ у 1929-30 годзе—43.000 чалавек, г. зн. у 2 з лішнім разы больш, як у даваенны час.

Наколькі шпарка растуць асноўныя фонды прамысловасьці ВСНГ відна з таго, што ўкладаньні за апошнія тры гады складаюць:

| | | |
|---|---|---|
| у 1927-28 г. | . . . | 16,2 млн. руб. |
| „ 1928-29 г. | . . . | 24,8 „ „ |
| „ 1929-30 г. | . . . | 52,4 „ „ |

У 1930-31 г.—дасьць далейшы рост асноўных фондаў дзяржаўнай прамысловасьці больш чым на 100 млн. руб.

Гэты бурны рост будаўніцтва зусім зьмяняе характар прамысловасьці. Дробна-рамесьніцкая і напоўрамесьніцкая прамысловасьць ператвараецца ў буйную індустрыю. Мы ўжо маем дзесяткі прадпрыемстваў; некаторыя з іх зьяўляюцца лепшымі ў Саюзе па данай галіне.

Вось чаму Окуневу ня трэба выпукляць саматужныя, смалакураныя заводы, якія дасьціпна хаваюцца ў глыбіні лясоў. Яму трэба было-б назваць буйнейшыя прадпрыемствы, якія ці ўжо працуюць, ці прынамсі, заканчваюць іх пабудову. Гэтым ён паказаў-бы сапраўднае становішча рэчаў і ня шукаў-бы ігруш на вярбе.

Але пойдзем за Окуневым і паглядзім, як гэта ён робіць.

„Вось Гомельшчына. Недалёка станцыі дымяцца коміны смалакураных і лесапільных заводаў. Тут і буйны мэханізаваны шкляны завод і фабрыкі гнутай мэблі з каштоўнага беларускага бука“.

Гомельшчына адзін з найбольш прамысловых раёнаў БССР. У самым Гомелі згрупаваны мэталяапрацоўчыя заводы, харчова-смакавыя прадпрыемствы і шэраг іншых менш важных фабрык і заводаў. У Рэчыцы і Нова-Беліцы ёсьць буйныя запалкавыя фабрыкі, лесапільныя і фанэрныя заводы; у Добрушы—буйная папяровая фабрыка. Але ніякіх, зразумела, смалакураных заводаў недалёка станцыі няма і ніякіх комінаў гэтых заводаў Окунеў ня бачыў. Смалакураныя заводы і комінаў зусім ня маюць. Ня бачыў ён таксама і „буйнае мэханізаванае гуты“, бо пабудова гэтае гуты толькі ў бягучым годзе пачата. У поўнай меры выдумкай Окунева зьяўляецца і фабрыка гнутай мэблі з „каштоўнага беларускага буку“. Ёсьць, праўда, у Гомелі адна невялікая фабрыка мэблі, але

толькі адна, а „каштоўнага буку“ ва ўсёй Беларусі днём з агнём ня знойдзеш. З няіснуючага буку гнуць мэблю можа толькі адзін Окунеў

„За Гомельшчынай ідзе Магілеўшчына.

І зноў коміны, і істужкі дыму і грукат машын. Гэта тэкстыльныя фабрыкі і гарбарні“.

Так апісвае Окунеў Магілеўшчыну ў часопісі „Просвещение национальностей“. У „Белорусскую ССР“ ён уносіць вынікі далейшых сваіх дасьледваньняў:

„У станцыі зноў заводзкія коміны і зноў заводы—смалакураныя і гарбарні“.

Зусім ня так у Магілеўшчыне. Магілеўшчына вельмі бедная прамысловасьцю. Ніякіх там „... ізноў коміны і коміны, і зноў заводы“,—няма. Прамысловасьць Магілеўшчыны толькі будуецца. З старых прадпрыемстваў можна адзначыць: адну фабрыку паперы і адну гуту. Зараз будуецца фабрыка штучнага валакна і цэмантны завод; у палове гэтага году пушчана ў ход гарбарня. Скольки-небудзь прыкметных іншых прадпрыемстваў на Магілеўшчыне няма і ва ўсякім выпадку ніякіх смалакураных заводаў недалёка станцыі. Магілеўшчына — сельска-гаспадарчая акруга з вельмі дробнай адсталай гаспадаркай. Толькі ў гэтым годзе Магілеўшчына пачала знаходзіць выйсьце з сваёй адсталасьці ў параўнальна шпаркіх тэмпах колектывізацыі.

Але перайдзем да Віцебшчыны.

„Цэнтр Віцебшчыны — Віцебск. Тут на беразе Дзьвіны захаваліся рэшткі падзямельляў сярэдня-вяковага іезуіцкага кляштару“.

Ніякага сярэдня-вяковага іезуіцкага кляштару ў Віцебску ня было і рэшткаў таксама няма. Толькі ў канцы XV сталецьця ў Віцебску пачаў засноўвацца каталіцкі касьцёл. Але, наколькі ён быў слабы, відаць з таго, што ў 1623 г. за спробу ўступіць у унію з каталіцкай царквой віцебскі біскуп Іасафат Кунцэвіч быў забіты і кінуты ў рэчку расьсвірапеўшымі віцеблянамі.

Уся бязглузьдзіца, якую нясе Окунеў аб сярэдня-вяковым Віцебску на сёнешні дзень нікому, зразумела, ні карысьці ні шкоды прынесьці ня можа і абвяргаць яе ня варта было-б, калі-б гэта быў у яго толькі адзіны факт.

„Віцебск—цэнтр гарбарнай і шчаціннай прамысловасьці! Ёсьць у ім дрэваапрацоўчыя фабрыкі і тытунёвыя, а ў яго прадмесьці высяцца карпусы вялікай махорачнай фабрыкі“.

Віцебск—сапраўды адзін з буйнейшых цэнтраў прамысловасьці БССР. Ён ляжыць у цэнтры ільнаводзтва. Асновай яго прамысловасьцю зьяўляюцца ільно-прадзільныя і іншыя тэкстыльныя фабрыкі, швэйныя і панчошныя фабрыкі. Далей ідуць заводы сельска-гаспадарчага машына-будаўніцтва, фабрыка акуляраў і фабрыка іголак. Шэраг харчовых прадпрыемстваў і адна толькі на ўсю БССР невялікая махорачная фабрыка. Ніякік „карпусоў буйнай махорачнай фабрыкі ў прадмесьці Віцебску“,

зразумела, няма. Шчацінная прамысловасьць як у Віцебску, так і ва ўсёй БССР, займае вельмі нязначнае месца, каб яна адразу кінулася ў вочы, тым больш, што будучае яе без асаблівых пэрспэктыў. Добрая бясшэрстная сьвіньня выціскае дробную доўгашэрстную, на якой выяжджае шчацінная прамысловасьць.

Але горш за ўсё ў Як. Окунева з Меншчынай.

Што-ж бачыў Окунеў у Меншчыне?

„Цягнік спыняючы паволі свой ход упаўзае пад навес над пэронам. Менск—сталіца Беларусі. Гэта вялікі эўропэйскі горад з насельніцтвам у чвэрць з лішкам мільёна. Простыя асфальтавыя вуліцы залiты сьвятлом. Тут усё новенькае—трамвай, белыя будынкі беларускай акадэміі“...

У гэтай тырадзе Окунева ўсяго толькі ёсьць праўды, што „Менск—сталіца Беларусі“ і „новенькі трамвай“. Рэшта—фантазія аўтара, мякка кажучы. Ніякага навесу над пэронам у Менску ніколі ня было і няма нават і ў пяцігодцы. Абодвы вакзалы ў Менску спалены палякамі ў 1920 годзе. Адзін намі адноўлен, а на месцы другога стаіць драўляны барак, пабудаваны ў 1920-21 г. Ніводнай вуліцы, забрукованай асфальтам, у Менску няма. Забрукованы вуліцы дрэнна, ускраіны зусім не забрукаваны. Вузкія вуліцы пакуль тонуць у поўцемры, бо ў Менску няма выстарчальна магутнай электрастанцыі.

Белыя будынкі Беларускай Акадэміі зараз закладаюцца. Любавацца імі Окунеў мог толькі на паперы. Насельніцтва ў Менску 150 тыс. чалавек, а ня „250 тыс. з лішкам“.

Яшчэ гусьцей дым,—піша далей Окунеў,—„Над стальлю Бярэзіны згурбіліся дамішкі гарадку Барысаву. Сярод убогага натоўпу халуп узьнімаецца вялікан—папярова-цэлюлёзны завод, нядаўна пушчаны ў ход, адзін з найвялікшых і лепшых па абсталяваньню ў СССР“.

Дзе гэта ў Барысаве „ўзьнімаецца вялікан — папярова-цэлюлёзны завод?“ Папяровым ён называецца толькі таму, што існуе на паперы ў артыкуле Окунева. У Барысаве ёсьць дзьве запалковыя фабрыкі, гута, шэраг менш прыкметных прадпрыемстваў. У бягучым годзе пачата пабудова буйнага дрэваапрацоўчага комбінату.

Такая смалакураная індустрыялізацыя Беларусі паводле Окунева.

## VII. Окунеў у Горках

Для сваіх досьледаў у галіне культуры, Як. Окунеў абраў беларускую сельска-гаспадарчую Акадэмію ў Горках. Паводле слоў аўтара ён там быў, усё бачыў, выглядзеў. Чытаем:

„Горы-Горкі знаходзяцца ў глыбіні лясоў і сярод узгоркаў... Гэта горад—Акадэмія... Белыя будынкі ў дзікім абкружэньні чорнага бору“.

Такі агульны выгляд Горак па Як. Окуневу. А на самой справе?

Ваколіцы Горак хутчэй бязьлесная мясцовасьць з нізкай балоцістай глебай. Ніякага чорнага бору няма і ў спаміне. Горад рэзка падзяляецца

на дзьве часткі: самы горад—тыповы захудалы павятовы гарадзішка, хутчэй мястэчка і больш чым скромна разьмешчаную за горадам акадэмію, зусім бяз белых будынкаў.

Слухайце далей:

„У чыстых прасторных аўдыторыях пчалінае гудзеньне галасоў. Сярод студэнтаў белыя сьвіткі, ня рэдка лапці“.

Чытач памятае, што „паляшука“ Як. Окунеў таксама паказаў у белай сьвітцы і ў лапцёх, таму для яго трэба, каб гэты паляшук, нават у вышэйшай навучальнай установе не разьвітаўся з лапцямі і белай сьвіткай. Нічога, зразумела, падобнага Окунеў ня бачыў. Горацкія студэнты ходзяць, праўда, у досыць паношаных, але фабрычных бацінках і касьцюмах.

Калі Окунеў пісаў сваю „Беларускую ССР“, ён забыў заглянуць у „Просвещение Национальностей“, таму у далейшым у яго вышаў рознабой. У „Просвещении Национальностей“.

„Вось гэтакі лапатны студэнт стаіць у лябараторыі з прабіркаю ў руках. Студэнт вызначае процант лятучых маслаў у торфе“.

У „Беларускай ССР“:

„У лябараторыі студэнты у белых халатах рабілі досьлед шкіпідараў, які пераганяюць з смалы беларускіх сосен. Досьлед праводзіцца па заданьню комбінату смалакурана-шкіпідарных прадпрыемстваў“.

Па поваду ўсяго гэтага мы зробім толькі адну заўвагу і паставім Окуневу адно пытаньне:

Ніякага, „комбінату смалакурана-шпідарных прадпрыемстваў“ у БССР няма. Падругое, ва што-б былі ўбраны студэнты, у белыя сьвіткі ці белыя халаты?

## VIII. Мэліорацыя па Окуневу

Мэліорацыйныя работы праводзяцца савецкай уладай на працягу 5-6 год. Ёсьць ужо значныя вынікі. Ясна таму, што Окунеў ня мог прайсьці міма такога вялізарнага для БССР гаспадарчага мерапрыемства. Але і тут ён не палічыў патрэбным хоць што-ні-што праглядзець, каб даць больш ці менш праўдзівы малюнак.

Окунеў нават ня ведае важнейшых мэліорацыйных работ і вынікаў, што дасягнуты. Ён робіць стаўку на мэліорацыйнае таварыства і іх дробныя мэліорацыйныя работы, у той час, калі зараз цэнтр цяжару перанесены на асушэньне вялізарных масываў палескіх балот і арганізацыі на іх буйных саўгасаў і колгасаў, з прыставаньнем найноўшых сельска-гаспадарчых машын. На Мар'інскіх балотах у Бабруйшчыне ўжо працуе звыш 40 трактароў. Вялізарныя плошчы засяваюцца канаплёй, караньплодамі і кармавымі травамі. Кірунак гаспадаркі—канапляводзтва і жывёлагадоўля. Работы на Мар'іне добра апісаны ў мінулым годзе т. Затонскім у „Правде“ і Окуневу трэба было-б туды заглянуць.

Окунеў лічыць, што слова „мэліорацыя“ шмат каму з чытачоў незразумелае і дае яму тлумачэньне:

„Мэліорацыя—работы па паляпшэньню земляробства, асушка глебы і інш.“.

Зусім ясна, што гэтае растлумачэньне ня вернае. Мэліорацыя сама па сабе толькі пашырае плошчы, прыдатныя да земляробства, шляхам асушкі балот і забалочаных месц. Паляпшэньне земляробства магчыма толькі шляхам ужываньня больш высокай тэхнікі, штучных угнаеньняў, гатунковага насеньня, правільнага севазвароту і г. д. На мэліораваных землях можна весьці самую прымітыўную гаспадарку, як гэта робяць у вялізарнай большасьці сяляне. Але можна весьці гаспадарку і самым найноўшым спосабам з ужываньнем трактараў і інш. складаных сельскагаспадарчых прылад, як гэта робіцца на Мар'інскіх балотах. Апошні спосаб, зразумела, азначае ня толькі паляпшэньне гаспадаркі, але і поўную яе рэорганізацыю.

Як адбываюцца мэліорацыйныя работы па Окуневу?

„Праз глухую бяскрайнюю пушчу рубяць прасекі. Гэта прарэджваюць лясы, агаляючы балота. Землякопы б'юць ломамі і лапатамі па мёрзлым закрайнам балота“.

Дзе гэта такія балоты знайшоў Як. Окунеў, на якіх расьце „глухая бязьмежная пушча“. У тым-жа і справа, што на неасушаным балоце нішто не расьце, апрача хмызьнякоў і рэдкай жорсткай травы ды імхоў. Каб на балотах мог расьці лес, гэта было-б ня дрэнна і, магчыма, ня трэба было-б яго асушваць, каб ня губіць каштоўных сасновых лясоў.

Палескія балоты вельмі часта перасякаюцца пяшчанымі ўзвышынамі, пакрытымі сасновымі лясамі. Але гэта ня значыць, што пры мэліорацыі гэтыя лясы вырубаюць, каб агаліць балота.

Відавочна, работы, якія бачыў Окунеў, вядуцца шкоднікамі, звычайна каналы і канавы рыюцца па натуральнаму схілу рэльефа. Як правіла, канавы ідуць уздоўжкі рэчак і рачушак, то перасякаючы, то супадаючы з імі. Окунеўскія-ж мэліоратары вядуць канал „праз бязьмежную пушчу, пакрываючую пясчаныя выспы на балотах“. Вельмі дорага будзе каштаваць усё гэта, а вада магчыма і не пацячэ.

Хто гэта займаецца асушэньнем балот зімой, калі іх трэба біць ламамі? Толькі шкоднікі, ці дурні.

Але гэта ня ўсё. Окунеў знайшоў новы спосаб асушкі балот. Мы раім яму зрабіць у Камітэт па справах вынаходніцтваў заяўку на патэнт.

„З балотам прыходзіцца змагацца ня толькі на паверхні глебы, але і ў глыбіні, высасваючы яго з-пад глебы“.

Бязглузьдзіца настолькі яўная, што ў яе трэба толькі ткнуць пальцам, каб усе яе заўважылі.

Пра маштабы гэтай недарэчнай Окунеўскай мэліорацыі трэба меркаваць па далейшаму расказу аўтара:

„Бой з балотам у Беларусі адбываецца на вялізнай прасторы; на працягу фронта 70 тыс. сялянскіх таварыстваў па мэліорацыі аб'яднаюць сялян, большаю часткай уступіўшых у колгасы".

Дапусьцім, што гэтыя таварыствы вельмі невялікія, што ў кожнае з іх уваходзіць толькі 30 двароў (а гэта-ж карлікавае таварыства); у такім выпадку мэліорацыйнымі таварыствамі ахоплена ў БССР 2,1 млн. сялянскіх двароў. Большасьць гэтых двароў, па словах Окунева, уступілі ў колгасы. Дапусьцім, што ў колгасы ўступіла 60%, г. зн. 1.260 тысяч гаспадарак. Калі-б гэта было так, гэта азначала-бы, што ў БССР мэліорацыйнымі таварыствамі ахоплена каля 300% усіх гаспадарак, а колгасамі каля 200%. Ці гэта не напамінае чытачу 36 тыс. хлестакоўскіх кур'ераў з „Рэвізора" Гогаля? А вось яшчэ другія „36 тысяч кур'ераў".

„Сяляне паказвалі мне поле на балоце, асушанае колектывам. Гэтае поле дало 60 цэнтнэраў аўса з гектараў" (г. зн. звыш 360 пудоў).

Другое Окунеўскае поле дало 61,5 цэнтнэраў проса. Дзіўная мэліорацыя! Дзіўныя ўраджаі!

Можна хлусьціць, але-ж і меру трэба ведаць.

## IX. Окунеў будуе колгасы

Окунеўская „Белоруссия", надрукаваная ў „Просвещении Национальностей" прыблізна ў сакавіку месяцы, а перароблена яна ў „Беларускую ССР" у красавіку ці маі. Такім чынам паміж напісаньнем гэтых дзьвюх работ ляжыць 2-3 месяцы. Гэта якраз тыя месяцы, калі ў цэнтры ўвагі нашай работы стаяла барацьба з перагібамі па асобных раёнах у колектывізацыі і выпраставаньне ў гэтых раёнах партыйнай лініі. Зусім зразумела, што ў Окунева зьявілася законнае жаданьне папоўніць сваю „працу" разьдзелам аб колектывізацыі.

Перш за ўсё Окунеў устанаўляе сувязь паміж мэліорацыйным таварыствам і колгасам, прычым лічыць, што мэліорацыйнае таварыства служыць асновай колгасу.

„Што раней пачалося ў вас? запытаў я: мэліорацыйнае таварыства ці колгасы? Старык з недаўменьнем глянуў на мяне: гэта ўсё-ж адно— заўважыў ён. Разам асушаем, разам і гаспадарым; адно бяз другога ня можа быць".

З гэтаю ўстаноўкаю „старыка" мы ня згодны і адказнасьць за яе ускладаем на Окунева.

Папершае, колгас старэй за мэліорацыйнае таварыства. Колгасы пачалі організоўвацца ў 1917—18 гадох, а мэліорацыйныя таварыствы ў 1923—24 гг.

Падругое, ня вельмі малая частка мэліорацыйных таварystваў была ці кулацкай, ці ў руках кулака і ніколі такія таварыствы ня будуць „разам гаспадарыць", як заяўляе Окунеў. Мы сьцьвярджаем, што ў БССР няма ніводнага колгасу, узьнікшага з мэліорацыйнага таварыства.

Не мэліорацыйнае таварыства служыць асновай колгасу; яго асновай зьяўляецца політыка комуністычнай партыі ў цэлым: зьвяржэньне буржуазіі і ўстанаўленьне савецкае ўлады, нацыяналізацыя зямлі і прамысловасьці, забесьпячэньне сельскае гаспадаркі трактарам, комбайнам і іншымі складанымі машынамі, разьвіцьцё ў вёсцы вытворчай сельска-гаспадарчай коопэрацыі і г. д. Як адзін з відаў сельска-гаспадарчай коопэрацыі мэліорацыйнае таварыства можа падрыхтоўваць, да некаторай ступені, стварэньне колгасу, але і толькі. Непасрэднай сувязі тут няма.

Окунеў ня бачыць, што колгасны рух адбываецца ва ўмовах вострай клясавай барацьбы. Вёска падзяляецца на два варожых лягеры: батрак, бядняк і вялізная частка серадняцтва за колгас, кулак з падкулачнікам і падгалоскамі—супроць колгасу. А па Окуневу?

Далёка ня ўсюды ішло так лёгка, як у вёсцы Бярозавая Кладка. Беларускія вёскі, раскіданыя ў лясных „чашчобах“ знаходзяцца яшчэ ў учэпістых лапах забабонаў, звычаяў, перажыткаў старажытнасьці... Але нават такія вёскі расколаты на два лягеры.

„Моладзь—хлапцы і дзяўчаты—цягнуцца да вучобы... Комсамольскія ячэйкі ўцягваюць у сябе лепшую частку вясковага маладняка. Дзеці—піонэры, выступаюць супроць бацькоў, якія трымаюцца старога... У кожнай хаце ідзе бойка паміж новым і старым“.

Такім чынам, па Окуневу выходзіць, што прычынай цяжкасьцяй колектывізацыі ў вёсцы зьяўляюцца „забабоны, перажыткі і звычаі старажытнасьці“. Толькі-б усё гэта зжыць шляхам пасылкі „на агрономічныя курсы, у школы сялянскай моладзі“ і ўсё было-бы добра.

„А з кулакамі як, грамадзянін Окунеў? Бо ён ня так ужо, поўны забабонаў і перажыткаў і звычаяў старажытнасьці?“ Вельмі часта нават зусім ня поўны. Сярод кулакоў ня рэдкія выпадкі, калі ў іх вы знаходзіце „Правду“, „Известия“, журналы і кнігі па агрономіі. І такога гатунку кулакі найбольш небясьпечныя. Яны лепш беднякоў ведаюць нашы законы і парадкі, умеюць скарыстаць іх нам на шкоду. Яны саджаюць актывістых і нават партыйцаў у галёшу і зьдзекваюцца над імі на сходах; яны ўмеюць знайсьці дарогу ва ўсе нашы ўстановы і аперцісяе там на шкодніка, бюрократа, ці дурня. І ўсё такі яны супроць колектывізацыі. А бядняк і батрак? загнаны работай і нэндзай, заняволены кулаком, часта няпісьменны і цёмны, ён у масе за колгас. Ці ня так?

Далей. Што гэта за „лепшая частка вясковага маладняка“, якую ўцягнуў у сябе комсамол? У якіх адносінах лепшую? Па якіх прызнаках лепшая? Ці так формулюе партыя? Бо трэба сказаць: „лепшая частка батрацкай, бядняцкай і серадняцкай моладзі“. Што гэта за распластаваньне вёскі на піонэраў і бацькоў, якія вядуць паміж сабой барацьбу? Ці па гэтай лініі адбываецца барацьба ў вёсцы наўкола колектывізацыі, і што гэта за „бойка ў кожнай хаце паміж старым і новым“?

Бойка ідзе ня ў кожнай хаце, а паміж групамі хат: бядняцкія і серадняцкія хаты змагаюцца з кулакамі; старыя і малыя жыхары кулацкіх хат

выступаюць супроць старых і малых жыхароў бядняцкіх і серадняцкіх хат.

Уся складанасьць нашай работы па колектывізацыі вёскі ў Окунева вылілася ў вельмі прымітыўную схэму. Сьпярша ўсе ішлі ў колгасы, затым мы нарабілі памылак і ўсе не пайшлі ў колгасы. Нарэшце, мы выпрамілі памылкі, і ўсе зноў пайшлі ў колгасы.

„На сходзе ў школе ставілася пытаньне аб організацыі новага колгасу: Блізьнюк-унук чытаў зварот Райвыканкому і райкому партыі аб колектывізацыі. Блізьнюк-дзед, пасьля кожнага пункту крычаў: „стой, Пеця, трэба абгаварыць гэты пункт“, і зараз-жа браў слова і абгавараў пункт“.

Больш ніхто не гаварыў. Агульным гулам адказвалі: „Усё ясна. Чытай аб справе“.

Блізьнюк-дзед заключаў: „А ў колгас бойцеся ці не бойцяся, усё роўна пойдзеце. Зямля вас сама панясе“.

Такія мотывы канчаткова пераканалі сялян. І тады ўсе адразу нечакана вырашылі: ясна. Давай дагавор зачытваць.

Так-бы і колектывізаваў Окунеў усю БССР, каб яго не падвялі комсамольцы.

„Комсамольцы хадзілі, перапісвалі ўсё пад чыстую. Пярыны ў каго, так і тыя ў опіс“.

„Ня маеш права, казалі, ад колгасу адмаўляцца. Хто адмовіцца— у кулакі запішам і на высылку. Такая пастанова Саўнаркому народных камісараў, казалі.

Ну, і ну. Запісаліся. Кароў зьвялі ў колгас, свае хлявы разабралі. Пасьля ўпаўнаважаны казаў: „Індывідуальную гаспадарку трэба на злом, як дэкрэт Саўнаркому народных камісараў патрабуе“.

Ну?

„Ну і зламалі. Цялята ўсе і памерлі“.

„Гэтыя памылкі былі хутка выпраўлены і сярод сялян зноў пачаўся ўздым. Злучаліся вёскі з вёскамі, сёлы, цэлыя раёны зьліваліся ў колгасы“.

„Спачатку было папёр народ з колгасу, а цяпер назад ідзе. Што ты зробіш? „формулюе Окунеў заключную думку словамі „селяніна“.

Гэтае спрошчанае ўяўленьне аб ходзе колектывізацыі паказвае, што Окунеў усё пытаньне аб колектывізацыі ставіць памяшчанску, а не памарксыцку.

Вельмі характэрным для Окунева зьяўляецца, што партыйная ячэйка ў яго адсутнічае, што на яго сходах і комуністых і комсамольцаў зусім няма.

Па Окуневу выходзіць, што комсамол толькі шкодзіў колектывізацыі, а райком партыі абмяжоўваўся пісьмовым зваротам.

А хто будаваў колгасы?

Блізьнюк-дзед і Блізьнюк-унук. Гэта, папершае, агроном і інжынэр—падругое.

Паслухайце.

„Ён (аграном) стаяў за простым сталом і казаў, махаючы перад сабой кулаком. Памяшканьне сельсавету, у якім сабраліся колгасьнікі, было поўнае.

А ў другім месцы: „Я інжынэр-мэханік. Быў у Амэрыцы і Англіі. Цяпер еду ў колгас „Гігант“. Чулі?“

Няўжо так проста „з Амэрыкі і Англіі ў колгас „Гігант“?“ Зразумела, частка агрономаў дапамагае нам у колгасным будаўніцтве, але другая частка, магчыма, нават, большая, у колгаснай справе ці нічога не разумела, ці баялася яе; частка-ж спаткала колгас разам з кулаком у штыхі. Усю працу па колектывізацыі нясе на сабе партыя, апіраючыся ў горадзе на рабочага, у вёсцы—на батрака, бедняка і серадняка. Окунеў гэтага чамусьці не заўважыў. Паглядзеце ў заключэньне, якія колгасы будуе Окунеў разам з сваім інжынэрам.

„Там будзе ўведзена электрыфікацыя,—кажа інжынэр.—Колгасы ператвараюцца ў збожжавыя фабрыкі“.

Дарэмна такога інжынэра Окунеў пасылае ў колгас, калі ён думае ператвараць беларускія колгасы ў збожжавыя фабрыкі, бо беларускія колгасы будуць у асноўным фабрыкамі малака, мяса, ільна, бульбы і г. д.

* * *

Давайце падсумуем вынікі, чытач.

„Работа“ Окунева варта сцэны Маскоўскага тэатру „Обозрение“, яна з посьпехам складзе новы акт „Літаратурнай халтуры“.

Сам Окунеў пажадаў сыграць у гэтай п'есе ролю Хлестакова.

Азнаёміўшыся з пісаньнем Окунева, рабочыя і сяляне Беларусі горка ўсьміхнуцца і скажуць: „Бедны Окунеў“. Бо яшчэ толькі „мінулай вясной там праваліліся два журналістыя і партной (кравец)“.

20/VIII-30 г.

## КНІГАПІС

**„Маладняк“ — літаратурна - мастацкая і грамадзка-політычная часопісь—орган Беларускай Асацыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў пад рэдакцыяй Іл. Барашкі, П. Галавача, А Звонака, В. Каваля, Я. Лімаңоўскага, А. Моркаўкі, А. Сянькевіча.** *Год выданьня 8-мы. Выдавецтва „Чырвоная Зъмена“. Менск, 1930 г. Кніжка чацьвертая (№ 4)—Красавік, балонак 136; кніжка пятая (№ 5)—Май, балонак 109. Цана асобнага нумару 40 к.* Перадавая на „Новым уздыме“ (№ 4), адзначаючы ў выніку шпаркага росту соцыялістычнага будаўніцтва абвастрэньне клясавай барацьбы і на культурным фронце, застанаўліваецца на конкрэтных вылазках беларускага нацыянал-дэмократызму ў літаратуры.

Перадавая адзначае творчы рост БелАПП'у, вялікія заслугі гэтае арганізацыі ў барацьбе з нацыянал-дэмократычнымі кулацкімі ўхіламі на літаратурным фронце, у барацьбе за чуткасьць клясавае лініі пролетарскай літаратуры, што высунула організацыю на перадвыя лініі баёў за пролетарскую літаратуру. Перадавая вызначае барацьбу на два фронты, як супроць галоўнай небясьпекі і на літаратурным фронце—права-опортуністычных ухілаў, гэтак і супроць „левых“ заскокаў. Перадавая вызначае задачы БелАПП'у і ўсёй беларускай пролетарскай літаратуры і на іншых франтох беларускай культуры, як тэатр, кіно, радыё і інш. Чацьверты нумар рэцэнзуемай часопісі мае багаты матэрыял, прысьвечаны памяці поэты Ўладзімера Маякоўскага.

Пачынаецца гэты разьдзел артыкулам „Памёр вялікі рэволюцыйны поэта Ўладзімер Маякоўскі“, які падае асноўныя біографічныя весткі з жыцьця і літаратурнай дзейнасьці поэты. Затым ідзе артыкул Е. Гальперынай—„Уладзімер Маякоўскі“, які дае разуменьне творчага шляху поэты. Верш, прысьвечаны Ул. Маякоўскаму, зьмяшчае Ю. Таўбін—„Жывому Маякоўскаму“.

Зьмешчаны і пераклады з расійскае мовы на беларускую вершаў поэты Ўл. Маякоўскага „Левы Марш“ у перакладзе М. Хведаровіча і „Марш ударных брыгад“ у перакладзе Юл. Таўбіна.

Орыгінальная поэтычная творчасьць у чацьвертым нумары гэтай часопісі прадстаўлена творамі,—поэмай Сьцяпана Ліхадзіеўскага—„Крывавыя зьнічкі на сьнезе“, урыўкамі „Ідзе вясна“ з поэмы „Савецкая вясна“ Пятруся Броўкі, вершам А. Куляшова—„Бацькі“, і перакладам з украінскай мовы А. Звонакам вершу Савы Галаваніўскага—„Сябру“.

Поэма Сьцяпана Ліхадзіеўскага, „Крывавыя зьнічкі на сьнезе“ вызначаецца сваёю конкрэтнасьцю. Поэма „Крывавыя зьнічкі на сьнезе“ С. Ліхадзіеўскага ёсьць спроба распрацоўкі ў шырокім поэтычна-эпічным жанры конкрэтнага-тыпова-об'ектывізаванага паказу колгаснага будаўніцтва ў яго супярэчнасьцях, цяжкасьцях і перамогах.

Поэма „Крывавыя зьнічкі на сьнезе“ напісана простай, жывой моваю,

без усялякіх штучных выкрутасаў. Чытач разам з усімі колгасьнікамі—пэрсонажам поэмы—адчувае значнасьць страты свайго лепшага сябра—барацьбіта за агульную справу будаўніцтва соцыялізму, чытач разам з аўтарам шчыра верыць, што калі:

„Сёньня адзін ён вырван“—
Устане бязьмежнасьць колён“.

Наогул, поэма насычана сьветаўспрыйманьнем будаўніка новага сонечна-радаснага, якога ня страшаць перашкоды:

“Сэрца ў трывозе...
шуміць
грамада...
Літасьці ў сэрцах
ня можа
быць.
Кроку бяв бою ня здаць.
Сьмела ў агонь барацьбы“,

бо барацьба ідзе на жыцьцё і сьмерць, якая пакідае пасьля сябе шмат ахвяр. Але поэта праз страты і ахвяры глядзіць бадзёра і пераможна ўперад:

А наперадзе—ясноты і агні...
А наперадзе—асьветлены маяк...
Гмахамі кубічных камяніц
Углядаецца краіна ўвысь мая.
Мы вянкамі пацерак з крыві
Упрыгожым ворнасьць ідэалаў.
Нам шляхоў сваіх не пакрывіць—
Ружы яркія красуюць у аддалях.
Пройдзем віхры ўпартай барацьбы,
Перамога—ведаю, за намі,
Толькі зьнічак тых нам не забыць,
Што на сьнег упалі перад раньнем!..

Верш Пятруся Броўкі „Ідзе Вясна“, паводле яго ранейшае творчасьці, мае значныя элемэнты творчага росту поэты. Гэты верш вызначаецца асабліва сваёй першай часткаю, якая мае значную эмоцыянальную зарадку, другая частка вершу, у якой прыход вясны ўспрыймаецца праз прызму нашае творчае рэчаіснасьці слабейшая за першую. Але наогулжа верш сьведчыць аб некаторых дасягненьнях аўтара.

Верш Аркадзя Куляшова „Бацькі“ па свайму асноўнаму мотыву, у значнай меры паўтарае верш „Сібір“ („Полымя“ № 1—1930 г.), хоць з ідэолёгічнага і неразрыўна з гэтым формальна-мастацкага боку стаіць на вышыні.

Пяты нумар рэцэнзуемай часопісі зьяўляецца надзвычай бедным і слабым, што асабліва адчуваецца на прозе, хоць ня вельмі што далёка ад гэтага стаіць і поэзія. Праўда, тут хоць выручае поэма „Ноч на станцыі Негарэлае“ Зьмітрака Астапенкі. Поэма перш за ўсё вызначаецца сваім замыслам. Поэта на цягніку ад'яжджае з Менску ў напрамку на станцыю Негарэлае. Даецца мастацка-вобразны паказ настрояў поэты, яго імкненьне шуканьня нечага, романтычнага. І вось ён прыяжджае на станцыю Негарэлае.

„Што ўвесь сьвет падзяляе на наш і чужы
На прымежным краі беларускага поля“.

І тут поэта дае супроцьпастаўленьне нашага творчага радаснага таму, што знаходзіцца па той бок мяжы, дзе „вісьне чорная ночка ў колеры сажы“ і „ў Эўропе начная трывожная жуць прарываецца крыкам і стогнам“.

Поэту не асьляпляе чад нацыяналізму, за якім-бы ён ня бачыў па той бок мяжы нічога, акрамя пакут беларусоў, не, ён, кажа, што:

...Ня ў гэтым-жа справа, што ёсьць Беларусь
На Ўсходзе і на Заходзе...
Справа ня ў гэтым.
Гэта станцыя ставіць глухую мяжу
Для ўсяго нявыказна-вялікага сьвету...

Поэта хварэе за лёс мільёнаў працоўных, заціснутых у кіпцюрах фашысцкага разгулу, калі кажа запаляючыя інтэрнацыянальнай солідарнасьцю словы:

„Мне шкада не аднэй Беларусі маёй,
А падзелены сьвет неабсяжны.

І далей, поэта бачыць, як „урываюцца цераз кардоны савецкія начныя ветры“, якія лятуць на Захад „чужым штандарам расказаць пра гордасьць нашую і славу“, якія лятуць, „каб даць натхненьне і запал асуджаных глухіх Лукішак“, якія і „ў палац міністрам прынясуць нач-

ную хісткую трывогу“, аб тым, што полымя рэволюцыйнага агню запаляе „фабрычныя гарады“ і што „на Крэсах“ неспакойна, якія (савецкія ветры):

„Праймчаць у ночнай сіняве
Над Мусоліні, рымскім папай,
І зноў напомняць, што сусьвет
Падзелены мяжою напал“.

І поэту „прысьніўся чорны сон“, які паімчаўся „за даліны за кардон“... І тут прад ім праходзяць жудкі вобраз профэсара, які на карысьць фашыстаўскай, драпежніцкай, імпэрыялістычнай політыкі, „Атруту новую знайшоў“, прад якой—„нішто і льюізіт“ аб якой „складзецца жудкі міт для эр наступных і стагодзьдзяў“, і якую ён рыхтуе прадаць фашыстоўскаму вайсковаму міністэрству. І прад поэтам праносіцца вобраз сьмяротнае, дзейнасьці гэтай атруты, што ўсё зьнішчажае. Далей расплываецца гэты вобраз і выступае вобраз Савецкага Паўпрэдзтва, куды паўпрэду

„... весткі дыпкур'ер прынёс
З свае далёкае краіны,
Што ў краі сосен і бяроз
Штогчас гучней гудуць машыны“.

У сьне поэта бачыць, як „сьпяць на захадзе агні Парыжу, і Варшавы сьцены паляглі“. І поэта з узьнятапоэтычным гневам і прагаю помсты, кідае:

„Сьпі, Парыж. Сьпі, чорная Варшава.
Край начэй і чорных турмаў, сьпі...
Гонар ваш і змрок агідпай славы
Адгараць у сурмах барацьбы“...

Ён прадбачыць вялікую соцыяльную рэволюцыю на Захадзе,

„І тады зламаная імпэтам
І віхром разьбітыя нашчэнт,
Вы адказ дасьце ўсяму сусьвету
За жуду бяскроўную начэй“.

Мінае разам з снамі ноч, „загараецца раніцою край“ і поэта зноў на цягніку варочаецца да нашага творчага сёньня і вітае нашу радасную „машынную краіну“ і заканчвае поэму радасным, сонечным воклічам:

„З добрым раньнем, вольная айчына,
Аванпост СССР“.

Як з ідэёвага, так неразрыўна з гэтым і формальна-мастацкага боку поэта Зьмітрок Астапенка гэтай поэмай паказаў значныя посьпехі. Бяспрэчны творчы рост Астапенкі газорыць за тое, што пры ўмове бяз упыннай, сталай і ўпартай працы над сабою, у асобе гэтага поэты беларуская пролетарская літаратура мае значную творчую індывідуальнасьць.

Вершы на плённых скібах, „Перад вянком трывога“, „З абвесьненай нарады“ і „На ўспыленых дарогах“, аб'яднаныя ў агульны цыкль пад назвай „На ўзьбярэжжы дзён“ Уладзімера Хадыкі сьведчаць аб спробах аўтара, хоць і праз хістаньні, вызваліцца ад цяжару, якім давіць на поэту старая, адыходзячая вёска, „прыжмураную хату“ якой, „хату з зялёнай цьвільлю лебяды ў памяці нёс“ поэта. Але відаць, яна яго яшчэ і цяпер надзвычайна моцна трымае ў сваім палоне, што поэта пры спробе вызваліцца ад яго кажа:

„Ні дам сабе ніякай рады,
Не акапаюся ад дум“.

А „даць сабе рады“, „акапацца ад дум“ гэтых назойлівых, скінуць з сабе цяжар дробна-буржуазнай вясковай сялянскай стыхіі поэту неабходна, каб стаць у шэрагі хоць-бы больш-менш блізкія да пролетарскай літаратуры.

Верш „1 : 2 = 2“—Алеся Звонака, падае вобраз чалавека, які адным бокам сваёй псыхо-ідэолёгіі зьяўляецца адданым барацьбітом за соцыялізм, а з другога боку гэтая псыхо-ідэолёгія хавае ў сабе шмат рэштак старога дробна-буржуазнага мяшчанскага ўкладу, калі над чалавекам пануюць рэчы, а не наадварот. Менавіта ў гэтых двух абліччах, гэты адзін чалавек фактычна зьяўляецца дваістым і ў канешнім вынятку дае двух чалавек, інакш, прадстаўляе ў дыялектычна-матэрыялістычным адзінстве два зачаткі—новага сьвету і старога.

Можна было-б разьвіць гэтую складаную сытуацыю далей і паказаць барацьбу гэтых двух пачаткаў—

абліччаў чалавека—і праз перамаганьне супярэчнасьцяй, закладзеных у старым, перамогу новага. А. Звонак-жа гэтага не зрабіў, а проста ўклаў у вусны героя словы, якія заклікаюць „заключыць саюз утрох“, каб разам „адштурмаваць канарэечны быт“ і „тады рэволюцыі ўспыхне агонь у кожнай молекуле нашага быту“. Такім чынам, А. Звонак, даўшы толькі агульную наметку дваістасьці псыхо-ідэолёгіі „кожнага з нас“, у разьвязваньні гэтае супярэчнасьці пашоў па шляху найменшага супраціўленьня, не паказаўшы барацьбы двух гэтых пачаткаў і перамогу новага, што магло-б надаць гэтаму твору сапраўды значную вартасьць.

Вызначаецца сьвежасьцю, орыгінальнасьцю і бадзёрасьцю верш „Грузчык“ пачынаючага маладога поэты Алеся Зарыцкага. Рэдакцыя робіць вялікую карысную справу для беларускай літаратуры тым, што ўдзяляе хоць крыху ўвагі выхаваньню кадраў друкаваньнем вершаў пачынаючых, накшталт вышэйпаданага вершу. Толькі неабходна, каб гэта справа не застыла на гэткім узроўні, а разьвілася значна шырэй. Рэдакцыі неабходна паклапаціцца адвесьці для гэтай справы спэцыяльны, сталы, цэлы разьдзел, праз які цэлы шэраг твораў пачынаючых поэтаў і пісьменьнікаў пабачылі-б сьвету, бо пара ўжо справу выхаваньня новых кадраў паставіць, як належыць.

Проза ў рэцэнзуемых нумарох гэтай часопісі, паводле сваіх ранейшых нумароў, зусім бедная.

Тут мы маем, яшчэ няскончаную ў гэтых нумарох, бяздарную аповесьць Н. Беліна-Падгаецкага—„Забастоўка“, якая займае каля $^{2}/_{3}$ усяго месца, што займае проза абодвух нумароў часопісі. І да гэтае „аповесьці“ невялікае апавяданьне „Гайда туды“—К. Губарэвіча, ды перакладзеная з латыскае мовы Алесем Вайноўскім кароценькае апавяданьня „Каля муроў Каб-эль Джэдзіда“—Лінарда Лайцэна дапаўняюць прозу чацьвертага нумару, а апавяданьне „Цагельня“ Барыса Мікуліча, ды апавяданьне „Па ручаінах“ Ян. Скрыгана дапаўняюць прозу пятага нумару часопісі.

У аповесьці „Забастоўка“ Н. Беліна-Падгаецкі мае на мэце паказаць жыцьцё, працу, змаганьне французскага пролетарыяту, палітычных эмігрантаў, якія вымушаны хавацца ад фашысцкіх урадаў сваіх краін у Францыі, потым жыцьцё белых афіцэраў расійскай царскай арміі, якія эміграваді пасьля няўдач інтэрвэнцыі ў Савецкай Расіі. Але ў аповесьці сапраўднага, мастацкага вобразнага паказу і знаку няма. Адсутнасьць найменшых элемэнтаў мастацка-вобразнага паказу, надуманасьць, нацягнутасьць, штучнасьць, адсутнасьць жывых героў, псыхолёгічнага аналізу, схэматычнасьць у разгортваньні падзей, абсолютная адсутнасьць удалага вобразу, мэтафары, параўнаньня, эпітэты адразу б'юць у вочы.

Адсутнасьць індывідуалізацыі мовы герояў—дыялёгаў, сухасьць, шэрасьць і беднасьць слоўніку і мовы, якая наогул носіць характар звычайна канцэлярска-протокольнай, адзервянелай, атрафіраванай для ўсялякага жыцьця і разьвіцьця мовы.

Гэтакай мёртвай мовай гавораць усе, як адзін, „героі творчасьці“ Н. Беліна-Падгаецкага.

Прачытаць гэту аповесьць надзвычайна цяжка,—для гэтага неабходна марна губіць шмат энэргіі і часу. І дзіву даешся, як гэта рэдакцыя „Маладняк“ друкуе гэткую „отсебятину“, якая нікому нічога не дае. Рэдакцыі „Маладняк“, на мой погляд, неабходна спыніць у далейшым друкаваць літаратурную халтуру Н. Беліна-Падгаецкага.

Апавяданьне „Гайда туды“ К. Губарэвіча падае цікавыя малюнкі побыту вясковае моладзі на фоне колектывізацыі, моманты барацьбы гэ-

тае моладзі з рознымі кулацкімі махінацыямі, барацьбы, якая часамі прыймае з боку некаторых адзінак, у выніку неорганізаванасьці яе, бунтарска-індывідуалістычны, стыхійнасялянскі адценак. Апавяданьне пададзена ў лёгкіх, з налётам здаровае гумарыстыкі, танох і, дзякуючы значным элемэнтам жывасьці, сакавітасьці чытаецца з цікавасьцю. Апавяданьне „Каля муроў Баб-эль-Джэдзіда“—Лінарда Лайцэна падае сумны малюнак гаспадарнічаньня Эўропэйскіх імпэрыялістых у колёніях, дзе гэтыя „белые добродетели“ пазасейвалі колёніяльныя гарады публічнымі дамамі, у якія распрадаецца цела негрыцянскае, колёніяльнае жанчыны. У апавяданьні пададзены момант, калі негрыцянскі салдат, зайшошы ў адзін з гэтых дамоў, сустракае сваю жонку, якую белыя зрабілі простытуткай. Значнае па памеру апавяданьне „Цагельня“ Барыса Мікуліча носіць характар шэрагу імпрэсыялістычных замалёвак грамадзка-бытавога жыцьця вёскі вакол пабудовы ў ёй цагельні. Менавіта з цэлай нізкі ўражаньняў—імпрэсіі, вакол пабудовы, гэтае цагельні, а не непасрэднага паказу гэтае пабудовы, складаецца апавяданьне. У апавяданьні „Цагельня“ Барыс Мікуліч зрабіў значны творчы крок уперад, хоць паранейшаму ягонае творчасьці пасуе слабаватая, ня зусім чоткая акрэсьленасьць клясавага твару герояў, на што аўтару неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу.

Апавяданьне „Па ручаінах“ Ян. Скрыгана закранае надзвычайна актуальную для сёнешняга дню тэму—жыцьцё колгасу, ценявыя і сьветавыя бакі ў ім, рост колгасу за лік прыходу ў яго новых сем'яў акаляючых вёсак. У апавяданьні „Па ручаінах“ яскрава праводзіцца думка ці ідэя, што колгас у вёсцы зьяўляецца цэнтрам, асяродкам прыцягваньня да сябе ўсяго лепшага працоўнага сялянства наваполья. Апавяданьню шкодзіць толькі некаторая цяжкаватасьць і непаваротлівасьць мовы, што сьведчыць аб тым, што апавяданьне слаба апрацавана.

Крытычны і публцыстычны разьдзелы ў рэцэнзуемых нумарох часопісі ў параўнаньні з ранейшымі нумарамі прадстаўлены гэтак сама ня вельмі што багата, хоць у гэтых адносінах чацьверты нумар часопісі мае некаторую перавагу над пятым. Тут у разьдзеле „Блёкнот пісьменьніка“ маецца каштоўны артыкул „Крок уперад, два назад“—В. Н., які ўскрывае ў новай дэклярацыі літаратурнага аб'яднаньня „Узвышша“ („Узвышша“ № 1—1930 г.) шэраг памылак, якія перашкаджаюць стаць „Узвышшу“ на сапраўдны пролетарскі шлях.

Рэцэнзіі Н. Кабакова на часопісь „Узвышша“ № 9—10—1929 г. лепш было-б зьмясьціць у разьдзеле „Бібліографія“, а не зьмяшчаць штучна пад выглядам асобнага артыкулу.

Пад агульнай назвай „Тэатр“ зьмяшчаюцца артыкулы проф. А. Н. Вазьнясенскага—„Пэрспэктывы сучаснага беларускага тэатру“, Ул. Стэльмаха—„Аб тэатрах“, абгаварваючых артыкул А. Некрашэвіча „Далейшае разьвіцьцё тэатральнай справы на Беларусі“ („Маладняк“ № 1, 1930 г.) і адказ на закранутыя аўтарамі гэтых артыкулаў пытаньні пастаноўкі разьвіцьця тэатральнае справы на Беларусі Ал. Некрашэвіча — „Пра „нявысокую“ культуру для высокіх патрэб“.

У артыкуле Л. Бэнды „Старое пытаньне на новым этапе“ закранаецца політыка Савецкай улады і яе кіраўніка—Комуністычнае партыі — політыка ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі, соцыяльную законамернасьць гэтае політыкі, вызначаюцца адносіны пролетарскай культуры да буржуазнай, пролетарыяту да буржуазнай інтэлігенцыі, закранаецца гістарычная роля пролетарыяту, як будаўніка новае грамады і ўскрываюцца корані шэрагу антыпролетарскіх буржуазных тэорый. Тут-жа зьмяшчаецца перакладзеная на беларускую мову рэзо-

люцыя прэзыдыуму комуністычнай акадэміі — „пра літаратуразнаўчую концэпцыю В. Ф. Пераверзева“. У разьдзеле „Бібліографія“ зьмешчаны рэцэнзіі на „Полымя“ № 2 і „Андрэй Лятун“ — М. Лынькова— Уладзімера Сядуры.

Пяты нумар мае каштоўны, як разьбіваючы нашчэнт нацыянал-дэмократычныя тэорыі орыентацыі беларускае культуры на Захад—артыкул Я. Ліманоўскага „Аб культурнай орыентацыі“.

Маецца і нататка Зьм. Сьнежкі пра творы бельгійскага пролетарскага пісьменьніка Жан Гус'эля і рэцэнзіі пра „Крыніцу“ Васіля Каваля— Б. Мікуліча і „Шляхамі навальніц“ Сымона Хурсіка—Хв. Шынклера.

Заканчваючы наш агляд, неабходна зазначыць на страшэнную неахайнасьць рэдакцыі да выпраўленьня памылак карэктуры, у выніку чаго тэкст перасыпан безьліччу памылак.

**Уладзімер Сядура.**

**Ян Цанкар—„Праўда батрака“.** З прадмовай выдавецтва. Сэрыя „Мастацкае слова масам“. Пераклад з расійскае мовы *Б Д В. Менск— 1930 г., стар. 50, цана 15 кап.*

У прадмове сказана, што кніжачка „напісана аднабакова і можа чытача ўвесьці ў памылку“. І далей „прадмовіст“ робіць вывад: „У аўтара выходзіць, што організованага клясавага змаганьня (гэта значыць у капіталістычнай краіне—*С. К.*) зусім няма, што тут зусім пустое месца“.

Рабіць такія вывады, што аўтар, нібы, загладжвае клясавую барацьбу ў капіталістычнай краіне, што значыць выявіць сваё неразуменьне ў спэцыфікуме мастацкай творчасьці, як пэўнай социяльна-клясавай продукцыі, а таксама выявіць недастатковае разуменьне дыялектычнага процэсу клясавай барацьбы.

У чым жа існасьць гэтага твору? Якая социяльная проблема ўсплывае перад намі, калі мы чытаем „Праўду батрака“. Адкажам зараз. Існасьць твору „Праўда батрака“—паказаць перад працоўнымі ўсяго сьвету ўзаемаадносіны паміж эксплёатарамі і батрачаствам у сучасных капіталістычных краінах. Паказаць абсолютнае бяспраўе батрака ў капіталістычным ладзе. Паказаць абвостранасьць клясавых узаемаадносін, напружанасьць становішча, якое ні сёньня, дык заўтра выльлецца ў конкрэтны бой паміж працоўнымі і эксплёататарамі, якое выбухне полымем пролетарскае рэволюцыі.

Як-жа аўтар нам гэта паказвае?

Ён нам малюе вобраз старэнькага батрака Эрні, які сорак год шалёна эксплёатуецца, з якога эксплёататар выпівае апошнюю кроў і сухой трэскай выкідае за дзьверы свайго дому. „Тваё панаваньне ў гэтай хаце скончылася. Разумееш?—кажа эксплёататар—скончылася! Вынось свае старыя косьці куды хочаш!“

Эрні пускаецца ў сьвет шукаць праўды. „Эрні наважыў ісьці да старшыні“. Старшыня сустракае холадна. Ня хоча зусім і слухаць трагічнага становішча батрака Эрні. „Старшыня адкінуўся сваім цяжкім целам на сьпінку лаўкі і, здавалася, зусім ня чуў, што гаворыць Эрні“. Такая пастацьць старшыні выклікае ў Эрні шэраг пытаньняў: „Значыць, такая праўда? такі закон?... Значыць, для батрака няма ні закону, ні праўды, так?.. і гэта справядліва?

На такія вострыя пытаньні старшыня адказвае: „Ну, досыць. У мяне няма часу спрачацца з батраком, ды я і не хачу. Бяры сваю торбу і выходзь вон адгэтуль!“

І далей мы бачым, што батрак Эрні адказам старшыні не абмяжоўваецца, ён ідзе шукаць праўды далей, ён хоча прамацаць увесь буржуазны лад дзяржавы.

Эрні ад старшыні накіроўваецца да судзьдзі. У судзьдзі Эрні сустракаецца з такім-жа становішчам. Судзьдзя з ім таксама ня хоча гаварыць, а загадвае чыноўніку вывесьці Эрні за дзьверы. „Чыноўнік узяў

Эрні за руку, як яму было загадана, і павёў яго за дзьвярэй“. Эрні з абурэньнем на такі ўчынак кажа: „Цяпер я разумею, чаму чалавек называў вас ашуканцамі і разбойнікамі. Ён убачыў праўду... Тут ня дом справядлівасьці, а дом ашуканства!..“

Нарэшце Эрні парашыў зьвярнуцца проста да цара. Ён яшчэ думае, што цар павінен абараняць інтарэсы бедных. „Я не магу дабіцца праўды ад судзьдзяў і цяпер іду да імпэратара, галоўнага абаронцу бедных“. У цара Эрні таксама ніякай праўды не знаходзіць. І „ў яго сэрцы патухла апошняя іскра веры і надзеі“.

Эрні нарэшце ўбачыў, што правоў беднага народу буржуазная дзяржава не абараняе. Што ўсе, усе ўстановы буржуазнай дзяржавы, пачынаючы ад старшыні і канчаючы царом, служаць на карысьць буржуазіі.

І такіх Эрні ў капіталістычных дзяржавах тысячы. І ўсе яны бачаць ашуканства, несправядлівасьць буржуазнага дзяржаўнага апарату і ўсе яны знаходзяцца на пэўнай ступені клясавай барацьбы.

Трэба сказаць, што вобраз Эрні аўтарам паказан вельмі характэрным для капіталістычнай дзяржавы. На чытача гэты вобраз робіць вялікі ўплыў. Ён чытача запальвае энтузыязмам, клясавым пачуцьцём да безьдапаможнага батрака Эрні. І зусім дарэмна ў прадмове сказана, што кніжачка можа заблытаць чытача.

Твор чытаецца з вялікім захапленьнем з пачатку да канца.

Такіх твораў трэба выдаваць пабольш у масавай бібліотэцы.

Іх пабольш трэба прасоўваць у працоўныя гушчы.

Пераклад зроблен вельмі ўдала.

**С. Куніцкі.**

**Іл. Барашка. Рыгор Галота.** *БДВ. Менск 1929 г. Сэрыя „Мастацкае слова—масам“. Стар. 61. Цана 20 кап.*

Рыгор Галота—твор, у якім аўтар кранае партызанскі рух у 1920 г. у час польскай окупацыі.

У Целяшоўцы, якая знаходзіцца ў тылу польскае арміі, спынілася белапольская вайсковая частка—абоз, і жаўнеры, як заўсёды, „наладзілі вечарынку“. Дванаццаці партызанам, якія хаваюцца ў лесе, трэба, па загаду паўстанцкага камітэту, злучыцца з аддзелам Рыгора Галоты. Партызан Мікіта зьнімае вартавога жаўнера на мосьце і ўвесь атрад накіроўваецца да млыну, дзе яны забіраюць падрыхтаваную зброю.

З прычыны таго, што на мосьце зьнікла варта, у польскім атрадзе ўзьнімаецца трывога. Раптам кідаюць гульні і рыхтуюцца ў дарогу. Але партызаны пасьпяваюць злучыцца і раніцой зруйноўваюць польскі абоз, ад якога застаецца жывым толькі адзін сэржант, пан Дабравольскі—„пшэвудца обозу збройнэго“. Апошні знаходзіць сумку Рыгора з трохвёрсткай, на якой чорным колцам адзначана „логава“ партызанаў. Пасьля доўгіх блуканьняў у лесе сэржант Дабравольскі трапляе ў Грушава, дзе знаходзіцца польская застава. Перадае па тэлефону аб усім, што здарылася ў штаб дывізіі ў Вільню. Але... Рыгор ня сьпіць. Дзякуючы сваёй прадпрыімнасьці і кемнасьці, ён даведваецца аб тым, што сэржант застаўся жывым і знайшоў Рыгораву мапу-трохвёрстку. Ён папярэджвае Целяшоўцаў, што прыедзе карны атрад, каб яны былі напагатове. Целяшоўцы, захопленыя рэволюцыйным уздымам, даюць яму 25 лепшых коняй і ўсе маладыя хлопцы ідуць партызанамі да Галоты. Апошні, частку адпраўляе ў Новае Сяло з старым Мікітам, а сам уночы з лепшымі хлапцамі зруйноўвае заставу ў Грушаве.

На другі дзень, у той час, калі карны атрад уціхамірваў Целяшоўку, а другі атрад лавіў партызанаў у лесе, галотаўцы разам з навасельцамі ствараюць савецкую ўладу ў мястэчку Новае Сяло; у той-жа дзень забіраюць у палон два польскіх аўтомобілі і камандзіра дывізіі Стромбжынскага з чатырма афіцэрамі. Але

настаўнік школы, які быў арыштаваны па падазронасьці ў сувязі з польскай дэфэнзываю, дапамагае яму ўцячы. Два дні і ноч трымалі партызаны ўладу ў Новым Сяле, дзе перашкаджалі тылавому перасоўваньню польскіх войск. І калі полк легіянэраў уварваўся ў Новае Сяло, ён застаў там Рыгора Галоту мёртвым, які ўсё „сьціскаў у халодных руках стрэльбу пры ўваходзе ў памяшканьне рэволюцыйнага камітэту“.

Сюжэт і композыцыя распрацаваны аўтарам вельмі ўдала, што дае магчымасьць твору трымаць чытача ўвесь час зацікаўленым. Чытач, у асаблівасьці той, які сам перанёс на сваіх плячах цяжары польскае окупацыі ў 1920 г. усхвалюецца поўнымі жыцьця малюнкамі аўтара і дэталёва ўспомніць яшчэ раз шматвобразныя хвіліны нядаўнага мінулага.

Апавяданьне захапляе моцнымі, дынамічнымі вобразамі, якія сакавіта і яскрава адбіваюць жыцьцё і, відаць, добра знаёмы аўтару: апавяданьне організуе волю чытача для ўпартае творчае працы. Аўтар дасканала разумее рэволюцыйную барацьбу, бо яскрава паказвае ў сваім апавяданьні, што „пры перамогах патрэбны і страты“. Падзеі ў аўтара разгортваюцца ў асадках рэчаіснасьці, дзе чытач бачыць жыцьцё, як яно ёсьць. Рыгор Галота — галоўны герой апавяданьня—партызан такі, якім павінен быць сапраўдны партызан і якія і былі на самай справе. Рыгор не забывае на барацьбу ў хвіліны перамогі, а таксама ня траціць веры ў перамогу і тады, калі яго абураюць невясёлыя думкі, як, напрыклад, аб тым, што палякі могуць застацца яшчэ на адну зіму ў Беларусі. Калі аднойчы такія думкі надышлі ў галаву Рыгора, „...у вачох яго пачалі мітусіцца крывавыя плямы — кроў сваіх таварышоў... крывавыя плямы ў глыбіні ямы, вырытай імі-ж самымі... Але што гэта... крывавыя плямы сышліся ў адну вялікую пляму... Чырвоная пляма... яна з крывяной... з цёмна-чырвонай робіцца чырвона-ружовай, пасоўваецца наперад... захапляе ўсе мясціны на карце раёну дзейнічаньня яго атраду... і чыясьці рука выводзіць на ёй літары: савецкая... Рыгор усьміхнуўся, радасьць зьявілася на яго твары... Вось якімі малюнкамі жыве істота героя апавяданьня; толькі адно слова: „савецкая“ ўжо можа надаць яму столькі сілы, што ён можа біцца да сьмертнай гадзіны так, што і пасьля яе ня кідае „сьціскаць у халодных руках стрэльбу“. І калі чытаеш гэты твор, дык моцна адчуваеш, як і чаму адно гэтае слова „савецкая“ прымушала мільёны людзей аддаваць сваё жыцьцё.

Твор бязумоўна патрэбны для шырокіх колаў працоўных. Недахопаў амаль што няма, калі ня лічыць некаторыя няўдалыя сказы, як, напрыклад: „сэкундальны наскок“, „Выкаціла проста на лоб перапалоханыя вочы“.

Уладзімер Кавалёў.

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Вышлі з друку кніжкі Андр. Александровіча „Поэма імя вызваленьня“, „Установка“, „Гудкі“.

* Вышла з друку поэма Пятруся Броўкі „Прамова фактамі“.

* Вышла з друку асобнай кніжкай поэма Максіма Лужаніна „Неаплочаны рахунак“.

* Гэтага-ж аўтара вышла з друку новая кніжка поэзіі пад назваю „Новая ростань“.

* Вышла з друку асобнай кніжкай поэма Алеся Звонака „Каршун“.

* Сьцяпан Ліхадзіеўскі здаў у Белдзяржвыдавецтва кніжку вершаў для дзяцей „Маладая рунь“.

* Вышла з друку аповесьць Платона Галавача „Вінаваты“.

* Полацкай філіяй БелАПП організаваны на акрузе і ў горадзе шэраг літаратурных гурткоў, над якімі вядзе сталае кіраўніцтва.

* Да гадавіны Кастрычнікавае рэволюцыі Полацкай філіяй БелАПП выдаецца альманах „Рыштаваньні“.

* Белдзяржвыдавецтва і НКА БССР абвясьцілі конкурс на лепшую дзіцячую кніжку і лепшую дзіцячую п'есу.

* На першай Усесаюзнай Алімпіядзе 1-шы Беларускі Дзяржаўны Тэатр выступіў з п'есамі „Гута“ Р. Кобеца і „Міжбур'е“ Д. Кудрына. Такі выбар рэпэртуару і яго сцэнічнае ўвасабленьне стварылі тэатру пэўны ідэолёгічны твар.

Азначыўшы высокую мастацкую культуру тэатру і зьвярнуўшы ўвагу на яго астаючыя вучасткі, журы констатуе ў цэлым, што 1-шы Беларускі Дзяржаўны Тэатр зьяўляецца доказам бурнага росту беларускай нацыянальнай культуры, здолеўшай толькі пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі атрымаць магчымасьць разьвіцьця. Вострая актуальнасьць тэматыкі, разьвязаная згодна нацыянальных умоў, набліжае тэатр да рабочае клясы.

* Адзначаючы работу і дасягненьні Беларускага Дзяржаўнага Яўрэйскага Тэатру, журы кажа, што ён зьяўляецца бліскучай ілюстрацыяй росту і ўзмацненьня нацыянальных культур ва ўмовах Савецкай Беларусі. Наліччa тэатру накшталт дзярж. яўр. тэатру БССР зьяўляецца фактам вялізнага культурнага і політычнага значэньня ня толькі для Савецкага Саюзу, але і для замежных краін.

* 15 верасьня г. г. Першы Белдзяржтэатр пачынае свае гастролі ў Віцебску. Першай пастаноўкай мяркуецца „Мост“.

* 1-га жніўня г. г. у Менск прыехала опэрацыйная група маскоўскага дзяржаўнага тэатру „Сіняя Блюза“. За 6 год існаваньня „Сіняя Блюза“ ператварылася ў вялікую асацыяцыю малых форм мастацтва, якою кіруе эстрадны аддзел кіраўніцтва дзяржцыркамі. Мастацкая ўстаноўка тэатру—стварэньне **новых** форм савецкай эстрады, політычная і грамадзкі-карысная насычанасьць рэпэртуару. У асацыяцыю ўваходзяць 12 груп тэатру, ударныя брыгады аўтараў, композытараў і рэжысэраў. Ад 16 жніўня да 1 верасьня тэатр дасьць шэраг спэкталяў на ўсебеларускай выстаўцы.

* Зьвярнуўся пасьля летнага падарожжа тэатр „Сіняя Блюза" беларускага камітэту с.-г. рабочых, які абслужыў колгасы і саўгасы Магілеўшчыны, Аршанчыны і Віцебшчыны.

За час падарожжа (3 месяцы) „Сіняя Блюза" дала 73 паказы і абслужыла 20 саўгасаў і 19 колгасаў (17.000 гледачоў).

Тэатр наведаў самыя далёкія і глухія куткі акруг, дзе яшчэ дагэтуль ня бачылі тэатру. Рэпэртуар тэатру складаўся са сцэнак, частушак на палітычныя тэмы, скокаў, сьпеваў і музыкі.

* Белдзяржкіно прыняла да пастаноўкі сцэнары Л. Кацовіча „Сталіца БССР—Менск".

* 26 ліпеня зачынілася Ўсебеларуская фото-выстаўка рабочых гурткоў і асобных фото-аматараў. На зачыненьні прысутнічалі прадстаўнікі культаддзелу ЦСПСБ, рабочыя некаторых прадпрыемстваў і члены Менскага фото-таварыства.

Выстаўка паказала значны рост гурткоў фото-аматараў, паляпшэньне тэм здымкаў, набліжэньне іх да вытворчасьці. Разам з тым значна палепшылася і мастацкае выкананьне здымкаў.

* Музэй рэволюцыі БССР да дня вызваленьня БССР ад белапалякаў—11 ліпеня адкрывае спэцыяльную выстаўку з аддзеламі: Кастрычнікавая рэволюцыя і грамадзянская вайна на Беларусі, Чырвоная армія ў вызваленьні БССР і партызанскі рух і Асобая Чырвона-сьцягавая Далёка-Ўсходняя.

* Адбыўся пленум галоўнага выставачнага камітэту аб праведзенай рабоце па падрыхтоўцы да адкрыцьця выстаўкі. Пленум вызначаў адкрыцьце ўсебеларускай выстаўкі на 10 жніўня. Мастацкае афармленьне павільёнаў і ўстаноўку экспонатаў прапанована скончыць не пазьней 1 жніўня.

* Група рэжысэра Вайншток, які здымае карціну „Рубікон" па сцэнарыю А. Менскага, скончыла здымкі на Бабруйскім дрэваапрацоўчым Комбінаце. Побач з гэтым эспэдыцыяй засьняты культурфільм, які адлюстроўвае працу на бабруйскім комбінаце.

* Група Рэжысэра Корша, які здымае карціну „Сонечны паход" на сцэнарыю Анатолія Вольнага, закончвае здымкі на Мазыршчыне на ст. Халоднікі. Гэтая-ж група засьняла 1 Усебеларускую выстаўку с.-г. і прамысловасьці.

# УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* На Харкаўскім заводзе „Державний Электричний завод“ комсомольцы організавалі тэатральны колектыў „Театр білого дня“, які абслугоўвае рабочых у час перапынку на вытворчасьці. Тэатр карыстаецца ў рабочых значным посьпехам.

* Яшчэ з восені 1929 году організавалася трэцяя перасоўная опэра пад кіраўніцтвам дырэктара Пацi-Афанасопуло, галоўнага рэжысэра Райскага, дырэжэра Ерафеева, і балетмэйстра Піно. Опэра, распачаўшы працу ў Віньніцы, за кароткі час дала восем пастановак: сем опэр і адзін балет.

З мастацкага боку опэра на належнай вышыні. Пастаноўкі карыстаюцца посьпехам.

* Пры клюбе ім. Арцёма капальні Комінтэрна організаваны літаратурны гурток пад кіраўніцтвам Дняпрапятроўскага-Пятліцы. На першым паседжаньні літгуртка кіраўнік зачытаў даклад на тэму: „Завдання літгуртка та що повінен відбивати письменник у своіх художніх формах у добу реконструціі“. Паседжаньні гуртка адбываюцца ў тэатры і прыцягваюць шмат слухачоў.

* В-ва „Книгоспілка“ агаласіла конкурс на масавую популярную кніжку па асноўных пытаньнях політыкі партыі ў вёсцы і рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Вымаганьні: зразумелая простая мова, кароткі сьціслы стыль, матэрыял павінен быць пабудован на практыцы з сялянскага жыцьця— клясавай барацьбы на вёсцы, у коопэрацыйнай рабоце, колетывізацыі і інш.: кожная думка павінна быць абумоўлена асноўнымі палажэньнямі генэральнай лініі партыі.

* В-ва „Рух“ мае наступныя кніжныя навіны: Горбань М. „Слово і діло государево“. Зборнік гістарычных апавяданьняў, Кобрынская Н.— Поўны збор твораў. Апавяданьні Нечай П.—„Голас у провінціі“. Збор апавяданьняў; Чэрняўскі М.— Твор. Т. 9-ы. Поэзіі; Чэхаў А.—„Мужыкі“ і інш. апавяданьні. Перакл. Паддубнага, Яноўскага Л.—Творы. Т. І. Апавяданьні.

* Новыя кнігі ДВУ: Шпілевіч Вера. Бібліографія украінскай літаратуры і літаратурназнаўства за 1928 г; Первомайскі Л. — „Земля бітована“, Мікітэнка Ів.—„Голуби миру“ (падарожжа за кардон); Досьвітны О. „Нас було трое“; Ірчан М.—„Трагедия першого травня“ (успаміны з грамадзянскай вайны на Украіне); Чапая В.—„Сонет в украінскій поэзіі“ (гістарычна-тэорэтычны нарыс. Да соцыялёгіі украін. вершу); „Західня Украіна“. Літаратурна-грамадзкі альманах. Зборнік другі. Пад рэдакцыяю В. Атаманюка. Д. Загула. Д. Рудыка.

* Археолёгічная экспэдыцыя Укрнавукі пад кіраўніцтвам профэсара Федароўскага раскапала каля с. Карачоўкі (недалёка ад Харкава) старажытнае славянскае Данецкае гарадзішча. Побач з гарадзішчам было славянскае селішча XI—XII стагодзьдзя. Ёсьць думкі, што ў раёне Данецкага гарадзішча быў славянскі горад Данец, пра які кажуць летапісі і „Слово о полку Ігара“. Гэта

той самы горад, куды вярнуўся князь Ігар, уцёкшы з палону, у які трапіў пасьля няўдалага паходу 1185 году.

* Добра зьберагліся яшчэ рэшткі земляных спарушэньняў і ваенных селішч, якія будаваліся для абароны Украіны ад нападу татар—ад Дняпра да Дону. Пасьля экспэдыцыі ад Усеукраінскага Камітэту Аховы помнікаў культуры ўздоўж усяе гэтае лініі, складзена дакладная карта ўсіх дакладных спаружэньняў і цытадэляў і вывучаны тыпы іх. Цікава, што мэтоды земляных работ, якімі карысталіся славяне, не застарэлі і да нашых дзён. Укркамітэт аховы помнікаў культуры абвясьціў „Українську укріплену лінію“ дзяржаўнай.

* В-ва „Маса“ падрыхтавала і здало ў друк „Антологію українськай поэзії“, што ахапляе украінскую поэзію з часоў Ів. Котляроўскага да нашых дзён.

* Аўтар — опэратар М. Кауфман хутка ставіць фільм „Село майбутнього“ — па пытаньні рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і новага быту.

* Рэжысэр Лопацінскі распрацоўвае да пастаноўкі гістарычны сцэнары С. Уэйцінга „Кармаль“ пра разбойніка Кармелюка.

* Рэжысэр П. Доліна ставіць мастацкі фільм „Секрет Рапіла“ па сцэнарыю Майскага. Тэма фільму: змаганьне з прагуламі на вытворчасьці і роля чырвонага дырэктара-вылучэнца.

* Сцэнарысты М. Зац рыхтуе для колектыву рэжысэра Вінакурава сцэнары „Лабрадор“ па матэрыялу вядомага украінскага драматурга Мамонта „Иого власність“. Сюжэт фільму: шкодніцтва інжынэра.

* Наступная работа сцэнарнай майстэрні Адэскай кіно-фабрыкі: сцэнарысты К. Полоньнік заканчвае сцэнары „Князь Ігорь“ пра шкодніцтва агронома, Колішняга белага эмігранта; В. і Н. Біязі падрхытавалі сцэнары для наступнай пастаноўкі рэжысэра Д. Эромана пад назваю „Ордер до Фоміна“. Тэма—сакрэтніцтва і вытворчасьць. Асыстэнт сцэнарнай майстэрні С. Ганчароў рыхтуе лібрэта да антырэлігійнага сцэнарыя „Розбитий дзвін“.

* Сэкцыя Нарасьветы Харкаўскага акруговага выканаўчага камітэту прызнала патрэбным пабудаваць у Харкаве полеонтолёгічны сад-музэй. Сад будзе выдатным культурным месцам сталіцы Украіны. Сэкцыя зьвярнулася ў гарсавет і ў Народны Камісарыят Асьветы з просьбай адпусьціць сродкі на організацыю саду-музэю. Пры гарсавеце ўхвалена ўтварыць спэцыяльны камітэт па гэтай справе.

* Склярэнка Сымон здаў у ДВУ новую аповесьць—„Матрос-Ісай“, а ў В-ва „Кнігоспілка“—зборнік апаваданьняў „Вітер з гір“.

* Тась Дзьмітро здаў у В-ва „Маса“ другую кніжку сваіх апавяданьяў „Сад“; падрыхтаваў да друку кніжку поэзій „Чорный парус“, якая ахапляе яго творчасьць з 1917 да 1930 году.

* Ле Іван напісаў „Роздил другий“—аповесьць пра соцыялістычнае змаганьне і нашы сучасныя тэмпы будаўніцтва. Аповесьць друкуецца ў часопісу „Забой“.

* Шэрмэт М. рыхтуе да друку другі зборнік вершаў „Бадьорість“ Выдае ДВУ.

* Майскі М. пераважна працуе над сцэнарыямі; цяпер канчае сцэнарый—„Сталь“, які малюе вытворчасьць у часы грамадзянскае вайны.

* Адначасна піша вялікую аповесьць, галоўны герой якой ідэальны гаспадар ва ўмовах нашай вытворчасьці.

* Петнікаў Гр. падрыхтаваў да друку новую кнігу поэзій „Молодість мира“ Разам з Майкам Иогансэнам уклаў „Антологію новай немецькой поэзії“.

* Працуе пад бібліографічным паказьнікам нямецкай поэзіі XX стагодзьдзя.

Для літаратурнага альманаху украінскай літаратуры ўкладае біобібліографічны паказьнік сучаснай украін-

скай літаратуры. Для гэтага-ж альманаху пераклаў вершы М. Бажана. М. Рыльскага. О. Блізька.

Выданьнем Выдавецтва „Academia" выдаў кнігу поэзій „Ночные молнии".

* Саўнарком Украіны ўхваліў проект Наркамасьветы УССР аб выданьні украінскай савецкай энцыклёпэдыі. Для выданьня энцыклёпэдыі ствараецца акцыянэрнае таварыства, якое організоўваюць Наркамасьветы і Дзяржвыдат Украіны, Усеукраінская Акадэмія Навук і інш.

Усім наркаматам і цэнтральным установам УССР запрапанавана прыняць удзел у стварэньні акцыянэрнага капіталу, які мяркуецца давесьці да 300.000 рублёў.

# КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

* Улічваючы заслугі нябожчыка поэты Ў. І. Маякоўскага, Саўнарком прызнаў неабходным увечніць памяць поэты і забясьпечыць яго сям'ю.

Саўнарком даручыў Дзяржаўнаму выдавецтву РСФСР выдаць поўны акадэмічны збор твораў Ў. І. Маякоўскага. Нагляд за выданьнем даручана Л. Ю. Брык. Перад саюзным урадам узьнята пытаньне аб арганізацыі ў Комуністычнай акадэміі габінэту Ў. У. Маякоўскага.

Сям'і поэты прызначана пэрсональная пэнсія ў разьмеры 300 рублёў у месяц. Разам з гэтым за ёю замацоўваецца на ўвесь час жыцьця кватэра, якую яна займае зараз.

Узьнята просьба перад Прэзыдыумам УЦВК—аб перадачы аўтарскага права на творы Маякоўскага сям'і нябожчыка поэта.

* Цэнтрам, які паставіць вывучэньне гісторыі юнацкага руху, абагуліць багацейшы вопыт удзелу моладзі ў соцыялістычным будаўніцтве і г. д.—зьявіца проэктаваны Массаветам да пабудовы „Дворец рабочей молодежи". Унутраная работа „дворца" будзе пабудавана такім чынам, каб кожны яго сэктар і разьдзел рыхтаваў кадры для работы на фабрыках, заводах і ў раёнах.

Будаўніцтва „Дворца рабочай молодежи" пачнецца ў 1930-31 годзе.

* У другім групкоме працаўнікоў друку 25 ліпеня падпісаны першы дагавор на соцыялістычнае спаборніцтва паміж нарысьнікамі і фэльетоністымі.

Дагавор заключан на тэрмін з 1 жніўня 1930 г. да 1-га лютага 1931 г. і прадуглеждвае соцспаборніцтва па двух асноўных разьдзелах: грамадзкай працы і падвышэньні палітычнай і вытворчай кваліфікацыі спаборнікаў.

Тэкст першага дагавору і факт яго заключэньня ясна гаворыць: соцыялістычнае спаборніцтва можа быць выканана ня толькі сярод мэталістых і тэкстыльшчыкаў, але і сярод газэтнікаў, журналістых, пісьменьнікаў.

* Па пастанове сэкратарыяту ФОСП у Ленінград выяжджала спэцыяльная камісія для азнаямленьня з работай Ленінградзкага аддзяленьня Фэдэрацыі Аб'яднаньняў Савецкіх Пісьменьнікаў.

Камісія пад старшынствам оргсэкратара ФОСП т. Г. П. Корэнева азнаёмілася з дзейнасьцю Ленаддзяленьня ФОСП і літорганізацый, якія ў яго ўваходзяць.

Пасьля дакладу т. Корэнева аб чарговых задачах, якія стаяць прад ФОСП, на пашыраным паседжаньні Выканбюро Ленаддзяленьня ФОСП, Выканбюро Ленаддзяленьня цалкам і поўнасьцю далучылася да рэзолюцыі Савету ФОСП РСФСР.

Агульныя вывады камісіі, якія даюць ацэнку ранейшай працы і намячаюць пэрспэктывы далейшай дзейнасьці Ленаддзяленьня ФОСП будуць апублікаваны ў друку.

* Тэатр Чырвонай арміі прыняў да пастаноўкі ў гэтым сэзоне п'есу Г. Корэнева „Мобілізацыя". Асноўная тэма яе—паказаць рашучасьць краіны да абароны СССР. Сюжэт п'есы пабудаваны на тым, што паявятовы ваенком, які ўсвоіў у грамадзянскую вайну ўсе навыкі парты-

занішчыны, абвяшчае, пад уплывам падзей на КУЧ, „пробную“ мобілізацыю, карыстаючыся тым, што партыйна-савецкае кіраўніцтва знаходзіцца на хлебанарыхтоўках. Карціна правядзеньня „Мобілізацыі“ дае магчымасьць аўтару паказаць шэраг сцэнічных палажэньняў, якія малююць адносіны асобных пластоў насельніцтва да самога факту мобілізацыі. П‘еса напісана ў пляне комэдыі.

* Аўгень Яноўскі, аўтар „Ярости“, разам з драматургам А. Усьпенскім, скончыў новую вялікую п‘есу „Огонь“. Тэма п‘есы — абарона краіны. У зімнім сэзоне яна будзе паказана ў адным з цэнтральных маскоўскіх тэатраў. П‘еса ўключана таксама ў рэпэртуар б. Александрынскага тэатру ў Ленінградзе.

* П. Арскі і І. Горэў закончылі драму пад назваю „Красный Фронт“ на тэму пра міжнароды рабочы рух. Дзея адбываецца ў Бэрліне ў час забастоўкі на вялікім машынабудаўнічым заводзе. Аўтары малююць героічную барацьбу нямецкага камсамолу і рэволюцыйных рабочых з фашызмам і соцыял-здраднікамі. Гэта барацьба ўзьнімае дух эксплёатуемых рабочых, кліча масы да ўзмацненьня і разгортваньня клясавых боек, да заваёвы дыктатуры пролетарыяту.

* Ганна Караваева працуе над цыклем апавяданьняў з комсамольскага жыцьця, а таксама над аповесьцю „Моллюск“. Тэма аповесьці — проблема тэхнічнай інтэлігенцыі ў рэконструкцыйны пэрыод. Кнігі выйдуць у выдавецтве „Маскоўскі рабочы“.

* А. Сьвірскі працуе над другой часткай „Истории моей жизни“ і над романам „Размах“, прысьвечаным заводу „Красный Путиловец“. Кнігі выйдуць у выдавецтве „ЗИФ“.

* Я. Окунеў закончыў аповесьць „Зея и Драга“.

* А. Долгіх выпускае ў В-ве „Федерация“ роман „Кривая“, які друкаваўся ў першых двух кніжак „Красной нови“ за бягучы год.

* Ст. Шчыпакоў скончыў „Поэму о дружбе“. Яна будзе надрукавана ў часопісі „Красная новь“.

* В. Ардаў выпускае кнігу гуморыстычных апавяданьняў „Сливки общества“ у выдавецтве „Федерация“.

* Арцём Вясёлы працуе над кнігай апавяданьняў „На Волге“.

# ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

## Англія

З жанчын-пісьменьніц у літаратурным жыцьці Англіі, тонкасьцю майстэрства, глыбінёю сюжэту, шырынёю поглядаў—можна назваць:

Розу Маколей з яе сьмелымі бліскучымі апавяданьнямі з жыцьця сярэдняй клясы Англіі; Штэрн, роман якой „Tents Vsracl“ называюць яўрэйскаю „Forsite-lage“. Маргарэт Кеннэдзі, посьпех раманаў якой „Constant nymph“ меў водгукі ва ўсіх краінах Эўропы і Амэрыкі.

У апошні час высунуліся яшчэ дзьве зусім маладыя пісьменьніцы Розамонда Леман і Лорна Ры. „Dusty Answer“ Розамонды Леман—дзяцінства і маладасьць дзяўчыны, напісаны ад асобы гэтай дзяўчыны. Поэма досыць банальная, ня рэдкая ў Нямеччыне, але Леман пашчасьціла дадаць ёй новую і сьвежую форму. Зусім у іншым дусе, хоць таксама орыгінальна пабудованы, роман Лорны Ры—„6 Mrs Grelhes“—портрэты 6 жанчын аднэй сям'і трох розных генэрацый.

Усе гэтыя романы малююць пераважна жыцьцё буржуазных колаў. З пролетарскіх романаў ёсьць твор „Jipping street“ Катлін Вудворт, карціны дзіцячых і маладых гадоў пролетарскай дзяўчыны ў Лёндане, пададзены без сантымэнтальнасьці, без патосу, але захапляюць сваёю рэальнасьцю.

Але з усіх пісьменьніц Англіі найздатнейшаю і найвыдатнейшаю зьяўляецца Віргінія Вульф, хоць апошні яе роман „Orlando“, не зважаючы на бліскучы стыль, менш выдатны, чым папярэднія яе творы.

* Пад уплывам нямецкай ваеннай літаратуры ў Англіі заўважваецца рост „ваенных романаў“. Аднак большасьць з іх ня ідуць далей сярэдняга ўзроўню. З іх: „The Secret Battle“ Герберта, „The Spenish Tarm Trilogy“ Мотрама і інш.

З кніг, што выйшлі нядаўна, толькі дзьве заслугоўваюць некаторай увагі: „Undertons of War“ Эдмунда Блундэна і „The path of Glory“ Георга Бляйка. Першая—нататкі з дзеньніка афіцэра, пададзеная часткова ў форме лірычных поэзій і часткова ў форме прозаічных урыўкаў,—адбіткі настрояў, адчуваньняў.

Другая — зусім процілежная. Гэта апавяданьні пра селяніна, шотляндца, які стаў салдатам зусім выпадкова. Сіла роману ў яго нават жорсткай об'ектыўнасьці і рэалізьме.

З Ірляндзкіх пісьменьнікаў найвыдатным лічыцца Джэмс Стэфэнс, майстра кароткіх новэль, тыпічны ірляндэц сваім пераплятаньнем містыкі з грубым рэалізмам. Побач з ім трэба назваць Джэмса Джойса, з яго романам „The Work in Progress“. З маладых пісьменьнікаў можна адзначыць О' Флягэрці, гэта пісьменьнік пролетарыяту і рэволюцыі.

## Данія

* У Копенгагене ў сакавіку (г. г.) адчынілася выстаўка савецкага мастацтва.

Украіна на выстаўцы мела свой аддзел, які быў організаваны Ўсеукраінскім т-вам культсувязі з закардонам.

### Латвія

* К. Пэлекайс, выдатны пролетарскі пісьменьнік, выдаў трэцюю кніжку поэзій „Людзі будняў".

* Левабуржуазны пісьменьнік П. Розіт працуе над романам „Газэта".

### Нямеччына

* Георг Грос вядомы карыкатурысты Нямеччыны выдаў новы зборнік карыкатур пад назваю „Новае аблічча пануючай клясы". Грос быў спачатку вядомы сваімі незраўнанымі замалёўкамі аблічча Вільгельмаўскіх афіцэраў. Пасьля вайны Грос зьмяніў об'ект сваіх карыкатур. Ваенныя і шляхта адышлі на задні плян, а на пярэдні сталі прадстаўнікі буржуазіі, банкіры, прамыслоўцы, комэрсанты. Гэта кніга якраз і падае малюнкі з іх прыватнага і грамадзкага жыцьця.

### Францыя

* Дваццаць гадоў назад памёр вялікі францускі пісьменьнік з народу—Шарл-Луі-Філіп. Яго творы: „Чатыры гісторыі беднага каханьня", „Добрая Магдалена і бедная Марыя", „Маці і дзіця", „Бібі з Монкарнаса", „Бацька Пэрдры", „Шарль Бляншар". Але chef d'aeuvre Філіпа гэта яго „Казкі ранку" і „У маленькім горадзе".

Некаторыя творы Шарля-Луі-Філіпа перакладзены на іншыя мовы.

*Рэдакцыйная колёгія* { **А. Менскі, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот.**

*Выдавец* { **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

# ЗЬМЕСТ